АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА



МІНСК
Выдавецтва «Навука і тэхніка»
1977

Рэдактары:
А. А. КРЫВІЦКІ, Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
З. Ф. КРАЎЧАНКА, І. Я. ЯШКІН

Н30 **Народная лексіка.** Рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. Мн., «Навука і тэхніка», 1977.

288 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа). У перапл.

У кнізе змешчаны 23 слоўнічкі і тэматычныя падборкі рэгіянальнай лексікі. Яны паказваюць, якімі асаблівымі словамі характарызуюцца гаворкі ў розных месцах нашай рэспублікі, а таксама якая спецыяльная лексіка ўласціва мове беларускіх плытагонаў і земляробаў, пры дапамозе якіх слоў надаюць у народзе экспрэсіўнасць выказванням, перадаюць гукі жывой і нежывой прыроды, падклікаюць або адганяюць свойскіх жывёл і інш.

Разлічана на шырокія колы лінгвістаў.— Бібліягр. у падрадковых заўвагах.

Н $\frac{70105—046}{М316—77}$ 50—77 4С(Бел)

# ПРАДМОВА

Гэта трэцяя кніга невялікіх слоўнікаў традыцыйнай рэгіянальнай лексікі з розных месцаў Беларусі па сваёй агульнай будове і па прынцыпах упарадкавання і апрацоўкі лексічных матэрыялаў падобная да двух папярэдніх зборнікаў дыялектнай лексікі — «З народнага слоўніка» (1975) і «Народнае слова» (1976). Яна мае таксама дзве асноўныя часткі. У першай частцы аб'яднаны артыкулы, у якіх падаюцца падборкі асаблівай лексікі, што характарызуе ў цэлым слоўнікавы састаў пэўнай гаворкі, а ў другой частцы згрупаваны тэматычныя лексікаграфічныя артыкулы, у прыватнасці артыкулы аб лексіцы земляробства і плытніцтва, аб экспрэсіўнай лексіцы, а таксама і аб іншых групах моўных сродкаў (анаматапея, выклічнікі і інш.). Пры некаторых артыкулах ёсць уступы, у якіх аўтары паведамляюць пра найбольш цікавыя асаблівасці мясцовых гаворак, дзе рэгістравалася лексіка (некаторыя з адзначаных асаблівасцей выяўлены ў нашых гаворках упершыню), а таксама пра заняткі і звычаі вясковага насельніцтва ў мінулым. Шмат цікавых звестак пра элементы традыцыйнай мясцовай матэрыяльнай і духоўнай культуры можна атрымаць таксама і з артыкулаў пра словы, з ілюстрацый.

Усе рэгіянальныя словы, якія разглядаюцца і характарызуюцца ў артыкулах або ўпамінаюцца ў іх, зведзены, як і ў папярэдніх зборніках, у агульны алфавітны індэкс. Ён змешчан у канцы кнігі. Пры кожным слове ў індэксе адзначана старонка (старонкі), дзе яно разглядаецца ў зборніку. Але індэкс у гэтай кнізе істотна адрозніваецца ад індэкса слоў у папярэдніх зборніках. Словы пададзены ў ім не ў зарэгістраваным гукавым выглядзе (або выглядах) сродкамі прынятай транскрыпцыі, а ва уніфікаваным фанетычным абліччы, характэр-

ным для падобных слоў у літаратурнай мове, і сродкамі яе арфаграфіі. Зроблена гэта для таго, каб было больш зручна карыстацца зборнікам як даведнікам, і для спрашчэння індэкса. За некаторымі з прынятых графічных «уніформаў» слоў, або ўмоўных інварыянтаў, стаіць не адзін, а некалькі іх гукавых варыянтаў, у выглядзе якіх яны былі зарэгістраваны ў гаворках і ўключаны ў розныя артыкулы зборніка.

## Прынятыя скарачэнні

*абразл.*— абразлівае
*адз.*— адзіночны лік
*анат.*— анатамічнае
*асудж.*— асуджальнае
*бат.*— батанічнае
*безас.*— безасабовае
*выкл.*— выклічнік
*груб.*— грубае
*грэбл.*— грэблівае
*гумар.*— гумарыстычнае
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дзіц.*— дзіцячае
*ж.*— назоўнік жаночага роду
*жарт.*— жартоўнае
*займ.*— займеннік
*зак.*— дзеяслоў закончанага трывання
*зборн.*— зборны назоўнік
*злучн.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальнае
*зніж.*— зніжанае
*іран.*— іранічнае
*кніжн.*— кніжнае
*ласк.*— ласкальнае
*ліч.*— лічэбнік
*м.*— назоўнік мужчынскага роду
*м. і ж.* — назоўнік агульнага роду
*метаф.*— метафарычнае
*мн.*— множны лік
*н.*— назоўнік ніякага роду
*неадабр.*— неадабральнае
*незак.*— дзеяслоў незакончанага трывання
*непаш.*— з непашанай
*павеліч.*— павелічальнае
*пагардл.*— пагардлівае
*памянш.*— памяншальнае
*пахв.*— пахвальнае
*перан.*— пераноснае значэнне
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*пыт.*— пытальнае
*Р.*— родны склон
*радз.*— радзей
*рэдк.*— рэдкаўжывальнае
*спагадл.*— спагадлівае
*спрошч.*— спрошчанае
*тлум. інфарм.*— тлумачэнне інфарматара
*узмацн.*— узмацняльнае
*у знач.*— у значэнні
*уніж.*— уніжальнае
*часц.*— часціца
*экспр.*— экспрэсіўнае
*эўф.*— эўфемізм

# З ЛЕКСІКІ РОЗНЫХ ГАВОРАК

*У М. Свяжынскі*

## ЛЕКСІЧНЫЯ РЭГІЯНАЛІЗМЫ ГАВОРКІ ВЁСКІ ТУРАСПОЛЛЕ УШАЦКАГА РАЁНА

Гаворка вёскі Турасполле з'яўляецца тыповай для Ушацкага і суседніх з ім раёнаў Віцебскай вобласці. Таму публікацыі лексічнага матэрыялу з гаворак гэтай тэрыторыі, зробленыя сучаснымі і папярэднімі даследчыкамі, змяшчаюць у пераважнай большасці тыя ж мясцовыя словы, якія характэрны і для гаворкі адзначанай вёскі. Мясцовая лексіка Ушаччыны пададзена ў дысертацыі К. Панюціч «З лексікі Ушаччыны (назвы роднасці і сваяцтва)». Шмат дыялектных слоў гэтага рэгіёна прыведзена ў артыкулах А. Баханькова і М. Крыўко[1]. Аднак пералічаныя публікацыі маюць тэматычны характар.

Калі дыялектная лексіка некаторых іншых зон і рэгіёнаў Беларусі ўжо стала здабыткам мовазнаўчай навукі дзякуючы выданню ў апошні час рэгіянальных слоўнікаў дыялектнай лексікі і матэрыялаў для складання такіх слоўнікаў, то лексіка гаворак Ушацкага раёна, як і Віцебшчыны наогул, поўнасцю яшчэ не вывучана. З мэтай папоўніць звесткі аб лексічным складзе гаворак Ушацкага раёна і робіцца гэта публікацыя. У ёй прыводзяцца словы, не зафіксаваныя ні ў адной з адзначаных публікацый дыялектнага лексічнага матэрыялу, а таксама ў «Віцебскім краёвым слоўніку» М. І. Каспяровіча. Прыводзімыя словы не належаць да якой-небудзь пэўнай тэматычнай групы, яны разнастайныя як у семантычных, так і ў лексіка-граматычных адносінах.

АГУЛЮ́ТНЪЙ *прым.* Абсалютны. *А булён — въда́ агулю́тнъя.*

---

[1] Гл.: З народнага слоўніка. Мінск, 1975.

АЧУВІ'ДЗІЦ *н. м. і ж.* Сведка. *Вун Ма́нька ачуві-дзіц, ні дась мне амману́ць.*

БА'ГЪН *м.* Багун. *Ад ба́гъну гълъва́ баліць.*

БА'ЛМЪЧЧУ *прысл.* Па-махлярску. *Ён ба́лмъччу събе́ пе́нсію дайшо́ў.*

БЕ'СТЪВЪЦЬ *незак.* Не пасвіцца, бегаць (аб жывёле). *Каро́вы сяго́ньні цэ́лъй дзень бе́стъвъюць.*

БЪДЗЯ'ЎКА *м. і ж.* Бадзяга. *Ён жа бъдзя́ўка, бъдзя́іцца пъ чужы́х жо́нкъх.*

БЪЛЪЦЯВІ'НА *ж.* Маленькае балотца. *Ту́ю бълъ-цявіну мо́жна апкасі́ць.*

БУЗУВА'ЦЬ *незак.* Псаваць, травіць (пасевы). *Згані аве́чък; ніха́й бу́льбу ні бузу́юць.*

БУЛО'НКА *ж.* Шыба. *Ка́мнім було́нку вы́біў.*

БЯНЦЕ'ЖЪЦЬ *незак.* Сароміць, бянтэжыць. *Я тъбе́ ў бацькі́ гаджу́ся, а ты міне́ бянце́жъш.*

ВЕХ *м.* Цыкута. *Ні пуска́й туды́ каро́ў, там вех расьце́ць.*

ВІГУ'ШКА *ж.* Дзікая віка. *Вігу́шку до́бра трусы́ яду́ць.*

ВІРІША'ЛЬЛЯ *н. зборн.* Вершаліны (дрэў). *Ге́та вірша́льля на́да пупалі́ць.*

ВО'ЛІК *м. зневаж.* Вялікі, сыты кот. *Во, во́лік, вы́глъдзіўся, а мъшэ́й ня ло́віць.*

ВО'СІЦЬ *ж.* Асець. *Дайне́й снапы́ ў во́сіць звазілі і там абіва́лі.*

ВЫ'КЪЗІЛІЦЦА *зак.* Агрызнуцца. *Што зъ рабёнък: ска́жъш сло́ва, дък атра́зу вы́възіліцца.*

ВЫ'СТЪР *м. і ж.* Дарослы чалавек; дзяўчына, якая своечасова не выйшла замуж. *І гена выстър, а ўсё йішчэ йз ръбятъмі гуляіць.*

ВЫ'ЦІРЪК *ж.* Распусная дзяўчына. *Вы́цірък, і стра́му німа́, ціга́іцца абы дзе йз ге́нъм къбялём.*

ВЫ'ЧХЪЦЦА *зак.* Выдыхнуцца (аб гарэлцы). *Заткні буты́лку, а то гарэ́лка вы́чхъіцца.*

ГУ'ТКЪЦЦА *незак.* Гушкацца. *Вяро́ўку пръвя́жъм зъ ба́льку і гу́ткъімся.*

ДРЪГБА' *ж.* Дрыгва. *Тут машы́на ні пра́едзіць — дръгба́.*

ЗАЕ'ДНА *прысл.* У згодзе. *Яны́ так жъву́ць зае́дна.*

ЗАЛО'М *м.* Залом. *Во, не́хта мне пътчурува́й — зало́м знашо́ў у йі́чмяні.*

ЗАХЛУ'ДЖЪНЪЙ *прым.* Завалены хворастам (хлу-

дам). *Там у лядзі, усё чыста захлуджъна, прайці неік.*

ЗІЛЯНЁК *м.* Зялёная травінка. *Нада геты зіляныкі първаць, а то пърърастуць праз мост.*

ЗЪВІНУ'ЦЦА *зак.* Захапіцца якім-н. заняткам. *Вот січас лямпу ръзаб'еш, зъвінуўся!*

ЗЪКАВЕ'НІЦЬ *зак.* Многа зачарпнуць. *Во, скольқі зъкавеніў, глядзі, ръзьліеш!*

ЗЪХЛУДЗІ'ЦЬ *зак.* Засмеціць галлём. *Турушані Сарокъвішча як зъхлудзілі — прайці неік.*

ІГРУШШО' *н. зборн.* Сухое грушавае галлё. *А там ігрушшо, дък я калючку ў нагу зъгнала.*

ҚАЗЛЫ' *мн.* Грубая балотная асака, не прыгодная на корм жывёле. *Там нечъга касіць, адны казлы.*

ҚІСЬЛІНЯ' *ж.* Қіслы смак. *Пъспътай капусту, ці досъць кісьліні.*

ҚО'СТЪЧҚА *ж.* Сухая яловая галіна без кары, якая па знешняму выгляду нагадвае косць. *Костъчък нъзьбірала печ тапіць.*

ҚЪЛАТЫ'РЪЦЦА *незак.* Бескарысна важдацца з чым-н. *Тут будзіш да вечъра бяс толку кълатыръцца.*

ҚЪНЯ'ТНІҚ *м.* Вялікі воўк, які нападае на коней. *Сьляды як быццъм кънятніка.*

ҚЪЦЯ'ТНІЦА *ж.* Дзяўчынка, якая любіць гуляць з катом. *Во, къцятніца, къта з рук дзянёк ні вупускаіць.*

ҚЫШПАЛО'ЦЬ *ж.* Перапёлка. *Кышпалоць пірът даждж ом крьчыць.*

МАЧУ'ЛІШЧА *н.* Месца, дзе замочвалі лён. *Я ішоў па льду нъ мачулішча.*

МІ'ЖДЫ *прыназ.* Паміж. *Пчъла ўкусіла міжды лъпатък.*

МУТУ'ЗІЦЬ *незак.* Цягаць, валтузіць, непакоіць, ганяць. *Нечъга міне мутузіць.*

МЪРҚАЦІ'НЬНЯ *н. зборн. пагардл.* Козы. *Нада ш іці гена мъркаціньня нъкарміць.*

МЪШАРНІ'Қ *м.* Грыб махавік. *Там, у балоці, мъшърнікоў многа.*

МЯҚУ'ХА *ж.* Мяккая трава, якая нагадвае атаву. *Добръя сена будзіць — анна мякуха.*

НАСЬМІ'ШҚА *ж.* Злы жарт. *Сам аннъго клевіру нъкасіў, дък ён ціпер разумін насьмішку строіць з другіх.*

НЪБУДУВА'ЦЬ *зак.* Набраць, накласці поўную пасудзіну. *Мех ахрап'я нъбудувала.*

НЪВУРЫ'ЦЦА *зак. узмацн.* З ахвотай пад'есці. *Агуркоў із бульбъй нъвурылъся.*

НЪДЪ'ЯДЛЪЙ *прым.* Надакучлівы. *Во нъдъядлъя скаціна: бляець і бляець.*

НЪРАЗЬМІ'Н *прысл.* Туды-сюды, адзін другому насустрач. *Як сваё сена, дък хвъталі нъразьмін, а саўхознъя ня хочуць.*

НЪХАПО'К *прысл.* Спяшаючыся, у спешцы. *Усё нъхапок, німа калі падъесьці толкъм.*

ПАДГО'Р'Я *н.* Схіл узгорка. *Там пу падгор'ю грьбоў многа.*

ПАДЗО'РНІК *м.* Доўгая вузкая палоска белай тканіны з карункамі з аднаго краю, якая служыць для ўпрыгожвання ложка. *Нада нъ сьвята падзорнік павесіць.*

ПАРО'ШКІ *мн.* Засохлая слізь пад вачыма ў кароў і авечак. *Гета авечка котна, вун парошкі пъд вачмі.*

ПАЎДУ'ЛЬКА *ж.* Дзікая груша з буйнымі пладамі. *У нашъм лядзі паўдулька расьцець.*

ПЕ'РЪК *прысл.* Упоперак, насуперак. *А гетъй сноп лажы перък. Што ні скажъш, а ён усё перък.*

ПІРЪДУВА'ЦЬ *незак.* Мітусіцца, перашкаджаючы ісці іншым. *Ідзі, ідзі, ні пірадуй!*

ПО'ДБІЛКА *ж.* Падкладка ў паліто, пінжаку. *У пінджаку ўжо подбілка първалъся.*

ПО'ЎНІЦА *ж.* У выразе: на поўніцу — на поўны рот. *Дъла карові бацьвіньня, дък — на поўніцу!*

ПРАВЭ'НДА *м. і ж.* Бурклівы, надакучлівы чалавек. *Маўчы, правэнда!*

ПРА'ТЪЦЬ *незак.* 1. Біць пранікам бялізну пры мыцці. *Матка лойны пратъіць нъ рацэ.* 2. *перан.* Лупцаваць. *Я яму бакі часта пратъю.*

ПРЪБА'НЬНІК *м.* Прылазнік. *Венік ляжыць у пръбаньніку.*

ПРЪРО'ДА *ж.* Нораў, характар чалавека. *Гета прърода тъкая: хочъць къп пъ ягонъму бъло.*

ПСІНЬ *ж.* Непрыемны пах, уласцівы сабакам. *Ні глаць събаку, а то рукі будуць псіньню сьмярдзець.*

ПУ'ХНУЦЬ *незак. груб.* Спаць. *Абы пръсела дзе, так ужо і пухніць!*

ПУ'ЦІК *м.* Лядзяш. *С пуцікъў капъіць: цёпла.*

ПЪДЗАЗЁМНЪЯ *субст. прым.* Месца на гарышчы пад мурлатай. *Каты лазіюць пу пъдзазёмнъй.*

ПЪДЗЪКНУ'ЦЬ *зак.* Кінуцца бегчы. *Каровы калі пъдзъкнуць — і ў авёс!*

ПЪДЛЯЧЧО' *н. зборн. груб.* Хатняя жывёла. *Нáда ж гéнъга пъдліччa нъкарміць.*

ПЪЛЪНЬНЯ' *ж.* Палонка. *Ня йдзі нъ Сіляўнъй Рох — там пълъньня́.*

ПЪЦУРЫ'ЦЬ *зак.* Паразбіваць на дробныя асколкі. *Тарэ́лъчкі ўсé пъцурыў.*

ПЪЦЯГУ'ШКІ *мн.* Пацягванні. *Нáда ўжó спаць іці, а то пъцягýшкі.*

ПЪШЭ'ЦЬ *незак.* Пашчыпваць (у роце). *Ат мятнъх канхвéт у рóці пъшыць.*

ПЫ'ХЪЎКА *ж.* Пыса. *Пчъла́ карóву за пыхъўку ўкусіла.*

ПЯЮ'ЛЬЛЯ *ж.* Пяюха. *Во пяюльля: так красіва пяéць!*

РАВУ'ЛА *м. і ж.* Румза. *Равýла, ні днём ні нóччы тъбé спакóю німá.*

РО'ЎНІЦА *м. і ж.* Раўня, равеснік. *Гéтъй бъра́нька той авéчъццы рóўніца.*

РУ'ДЪЧКА *ж.* Сухая галінка сасны або елкі з рудой хвояй. *Агонь лýччы рýдъчкъмі ръспáлівъць.*

РУКА'ТЪЙ *прым.* Майстар, умелец. *Ён жа рукатъй што хочъш зьдзелъіць.*

РЪЗДРАГБЕ'ЦЬ *зак.* Ператварыцца ў дрыгву. *Нъ лугý ръздрагбéла — прайці нéік.*

РЪЗЬЗЯПЕ'НІЦЬ *зак. груб.* Шырока расчыніць (дзверы). *Во ръзьзяпéніў хáту — хóлъду напýсьціш!*

РЪСТРУХА'ЙЛА *м. і ж.* Разявака, расцяпа. *Гéта ш гéнъй ръструхáйла ціръсьсядзéльнік мой ссóръў.*

РЭ'ХВІНА *ж.* Рэхва. *Рэ́хвіна зваліласся, кóла злóміцца.*

СВО'ЙСКЛІВЪЙ *прым.* Свойскі. *Авéчкі свóйсклівъі: пъзавéш — і ідýць к рукáм.*

СІГАЛЕ'ТКА *м. і ж.* Цяля або ягня, якое нарадзілася ў гэтым годзе. *Гета цялýшъчка сігалéтка.*

СІ'ДЛІР *м. пагардл.* Тоўсты, лянівы кот. *Ідзі, сідлір, мъшэ́й лавіць!*

СІЎКА-ВАРО'НКА *ж.* Сіваваронка. *Сíўка-варóнка — красівъя птýшка!*

СКАСЬЦІ'ЦЬ *зак.* Спляжыць, падмяць пад сябе, змяць знялёту. *Мікóлъва карóва скасьціла нáшу атрáзу.*

СКЪПЪЦІ'ЦЬ *зак.* Стаптаць капытамі. *Каро́вы ўсё жы́та скъпъцілі.*

СМЫ'ЛІНЬ *ж.* Пах смаленага. *Не́шта смы́ліньню сьмярдзіць, мо́жа ва́лінкі гъра́ць?*

СМЫ'ЧКА *ж.* Невялічкае паселішча паміж дзвюма вёскамі. *Га́нна Міха́лкъва на смы́чцы жъве́ць.*

СО'СЬНІК *м.* Сасоннік. *Там, у со́сьніку, гръбо́ў мно́га.*

СЬПЕ'РЦІСІ *зак.* Не прызнаць сябе вінаватым. *Сьпёрся, што ня ён укра́ў.*

СПРЪКВІЛІ'ЦЬ *зак.* Вывіхнуць. *Спръквілі́ла нагу́.*

СПЫ'ТЪВЪЦЬ *незак.* Каштаваць. *Спы́тъвъй капу́сту, ці хва́ціць со́лі.*

СТРА'МНІК *м.* Бессаромнік. *Стра́мнік, ці сты́нна тъбе́ нъ ма́тку так бръхаць?*

СУРАВЫ'Й *прым.* У выразе «суравыі ніткі» — грубыя, ільняныя ніткі. *Куфа́йку мо́жна зашы́ць і суравы́мі ніткъмі.*

СУХЛЕ'Ц *м.* Худы, танклявы чалавек. *Ён ішчэ́ біцца ле́зіць, ге́нъй сухле́ц: яму раз дау́ — і до́сіць бу́дзіць!*

СЬЦЕ'НЬ *м.* Цень. *Вы́съх уве́сь, стау́ як сьце́нь.*

СЪПАРНУ'ЦЬ *зак.* Парнуць. *Ні пътхадзі́, а то як съпарну́ вілкъмі!*

СЬВІННУ'ХА *ж.* Сівец (трава). *Сьвінну́ху так ця́шка касіць!*

СЯНЬНІ'К *м. метаф.* Пражэрлівы конь. *Но, сяньні́к, нія́к ні нъжарэ́сься!*

СЯРТО'ЛІЦЦА *незак.* Выконваць доўгую і цяжкую работу. *Дъ цімна сярто́ліўся, чуць заго́н ко́нчъў.*

ТУ'ТКА *прысл.* Тут. *Ту́тка травы́ німа́.*

УБО'ІНЫ *мн.* Пачастунак з выпадку зарэзу свінні. *Нінка на ўбо́іны гарэ́лкі нъбра́ла.*

УЛІНЦУВА'ЦЬ *зак.* Сцебануць. *Січа́с пу́гъй як улінцу́ю, дък пайдзёш!*

УРУ'НЬНЯ *н.* Рунь. *Вун курупа́ткі на ўру́ньні сідзя́ць, аш шэ́ра.*

УСУТО'ЛІЦЬ *зак.* Навязаць. *Усуто́лілі мне ге́тъх каро́ў, ціпе́р бясі́ся із імі.*

УШЧЪЦІ'ЦЬ *зак.* Укрыць. *Капу́сту късжуха́мі ўшчъцілі, къп ня зьмёрзла.*

ХЪЛІРЪВА'ЦЬ *незак.* Злавацца, нервавацца. *Чаго́ ты хълярў́іш? Ня с тэй нагі ўстаў?*

ЦІЛІЗНА′ *ж.* Агрэх. *Якóя гéта арáньня — анны́ цялёзны?*

ШАПО′РТЪЦЦА *незак.* Варушыцца, шастаць. *Тут нéхта шапóртъіцца, мýсіць, мышы ёсь.*

ШПУ′КЪЦЬ *незак.* Гулка падаць з дрэва (аб садавіне). *Ноч ціхъя, аш чутка, як яблъкі шпукъюць.*

ШЧАВУ′ЛЬНІК *м.* Конскае шчаўе. *Якóя там сéна — адзін шчавýльнік.*

ШЪБІ′НА *м. і ж.* Чалавек высокага росту. *Во, шъбіна, вы́ргъс аш пат стóль!*

ШЪЛАБО′ЎКА *м. і ж.* Бесталковы чалавек. *З гéнъй шълабóўкі там ніякъга тóлку нет.*

ЯГО′ДНІК *м.* Ягаднік. *Стóлькі ягóдніку, а я́гът нéг.*

*П. В. Садоўскі*

# ГАВОРЫЦЬ МАЯ БУЦЬКАЎШЧЫНА

Родная матчына мова... Чым далей я адыходжу ад яе, тым больш выразна чуецца яна мне, тым больш настойліва вабіць да сябе. Нават адведаўшы крыху лінгвістычнай мудрасці і прыслухаўшыся да арганнага хараства, якім гучаць іншыя мовы, я ўвесь час адчуваю, што адзінай мовай, аднолькава блізкай майму розуму і сэрцу, засталася тая, на якой гаворыць мая Буцькаўшчына, маленькая вёсачка на Полаччыне.

Цяпер я пачынаю разумець, што мова, на якой маці спявала мне калыханку, размаўляла з каровай, плакала па загінуўшаму бацьку і па пабітаму градам жыту, была для яе не толькі сродкам, «пры дапамозе якога людзі ўступаюць у кантакт і дасягаюць узаемаразумення». У вуснах маёй маці, як і ўсіх маіх аднавяскоўцаў, яна была цэлым светам: і радасцю, і горам, і тэатрам, і паэмай, і пантамімай, і скарбніцай жыццёвай мудрасці — усіх тых каштоўнасцей, якія так цяжка зразумець у нараўлівай плыні жыцця. Гэтую мову мне не заменіць ніякая іншая, якая б магутная і вялікая яна ні была. Ніщто не сагрэе мяне так, як прывітанне маёй былой суседкі, старой Мікіціхі: «Што, *масіяш,* прыехаў? Анягош, яно ж так, што чалавек, што скаціна: як ні жыві, дзе ня будзь — усё дамоў карціць».

Гадоў да адзінаццаці мы з сярэднім братам вельмі любілі гуляць у цацкі. *Куплёных,* або *крамных,* цацак у нас, вядома, не было. Таму мы выразалі з паперы фігуркі жывёл, людзей, рэчаў і гулялі. Больш за ўсё нам падабалася гульня *ў людзéй.* На кавалачках паперы пісалі словы, якія трапна перадавалі знешні выгляд чалавека. Напрыклад, *жарлó,* або *труб*л*ó,* 'той, хто многа есць', *салапя́ка* 'таўстаморды слімак', *містрыпі́чка* 'рухавая гаварлівая асоба з тоненькім галаском' і г. д. Гэтыя паперкі скручвалі ў трубачкі і клалі ў шапку.

Цягнулі па чарзе па 3—5 трубачак. Перад гэтым *шчыталіся*, каму першаму пачынаць. *Шчыталіся,* як у *хаванкі*, нешта накшталт: *«Э'ны, бэ́ны, тры кафо́ры, са́хар, ма́хар, памідо́ры, эс, бэс, кіслый квас, каму́ на́да фунт кілба́с»*. Той, на каго выпадала апошняе слова лічылкі, пачынаў. Ён павінен быў *паказаць людзёнка,* г. зн. знешнімі сродкамі стварыць вобраз адпаведнага чалавека. Так, калі на паперцы значылася *салапя́ка,* той, хто загадваў, звычайна схіляў галаву неяк уперад набок на грудзі, *высала́пліваў* 'высоўваў' язык, пускаў *сліньк*і паміж языком і *лупа́мі* 'губамі' і пераступаў нагамі, гэтак *шлым-шлым* 'зацягваючы крок'. Здавалася, што ён падобны да быка, які *апундзы́рыўся* 'абапіўся' памыяў. Другі павінен быў адгадаць і крыкнуць: *«Салапя́ка»*. Хто адгадваў, атрымліваў тое, на што *закладаліся:* прыгожы каменьчык, кавалак *лапуна́* 'праснака', або даваў саперніку ў лоб *стры́чака* 'пстрычку'. *Салапя́ку* было лёгка пераблытаць з *мармы́ркам,* які адрозніваўся тым, што стаяў нерухома і не пускаў *сліньк*і, а *лы́паў* вачыма або *казе́лíў* іх 'вытарашчваў'.

Сёння я не перастаю здзіўляцца, з якой лёгкасцю мы ўтваралі новыя словы і напаўнялі ўжо вядомыя новым сэнсам, як сінтэтычна ўспрымалі змест слова. З родным словам літаральна зліваліся ў адно і гукі, і жэсты, і міміка, і рытм. Родная мова была і першай школай жыцця, школай разумення не толькі рэчаў, але і ідэальнага ў яго нейкім канкрэтным увасабленні. Слова не толькі называла, але і выхоўвала.

Калі я зараз назіраю за мовай майго вернага сябра, маёй юнай дачкі, я бачу нешта зусім іншае. На жаль, спатканні з прыродай, з яе нямой мовай, з жывой мовай народа застаюцца для яе толькі святочнымі эпізодамі дзяцінства. Амаль усё ёй замяняюць кніжкі. Пад вокладкамі жывуць людзі, звяры, расліны. Гравюры і малюнкі — плоць, тэкст — душа і непаўторная сутнасць гэтых істот. Яна ідзе ад ведаў к прадмету, ад слоў к рэчам. Словы ж гэтыя — стэрылізаваныя і прылізаныя, а свет і рэчы — класіфікаваныя і асэнсаваныя, але тым не менш не заўсёды зразумелыя. Хаатычнасць яе кніжнага вопыту блытаецца з рэальнымі падзеямі.

Для нас жа, тых, хто рос у Забораўнах, Падазер'ях, Глыбачках, свет адчыняўся праз рэчы, і здаровае ўяўленне аб іх было ўжо замацавана ў родным слове, якое

на ўсё жыццё дало нам добры запас цвярозасці і аптымізму. І нават нечаканыя віры рэальных падзей успрымаліся намі заўсёды як нешта звычайнае.

Родныя Буцькаўшчыны сталі для нас на ўсё жыццё добрымі, хоць часам і суровымі бацькаўшчынамі.

А цяпер паспрабуем паказаць абразкі таго бясконцага і цудоўнага свету роднай мовы яе ж сродкамі — родным словам.

## Чалавек — які ён?

Наша Буцькаўшчына была невялічкай вёсачкай, хат на дваццаць пяць, як гэта звычайна на Полаччыне, але даволі люднай. На гліне і падзолку раслі *нікарысныя* бульба і жыта, а вось на дзетак быў заўсёды добры ўраджай. І раслі яны на дзіва моцнымі і хутка, або, як у нас казалі, *бучнымі* — усё *цельпукамі* ды *камлюкамі*. *Склюты, пішчыкі, худапахолкі* і *нідапошлыя* былі рэдкім выключэннем. Дарослыя ж, як мне цяпер здаецца, былі ўвогуле вельмі шчырымі і добрымі людзьмі. Не было сярод іх ні *агазных* гультаёў, ні *бадзяк*, ні *валацуг*, ні бязмерна тоўстых, ні *сухіх, як пруток*. Не было і *набітых дурняў*. Але народная моўная фантазія стварала іх у вялікай колькасці: на вечарынцы, *на сялё* 'седзячы ў вольны час у каго-небудзь з аднавяскоўцаў', у полі, дома, у *злосці* і ў добрым гуморы. Так, у гультайстве можна было абвінаваціць любога, але гультай быў чамусьці амаль заўсёды мужчынскага роду і абавязкова тоўсты: *лэйбус, байбак, біцуга* (хаця *біцаваць* значыла 'цяжка працаваць'), *басалыга, бадзяка, страміла, рашка, навурзня, намакань*. Два апошнія былі да таго ж яшчэ не вельмі рухавымі, а *рашка* павінен быў мець тоўсты чырвоны твар. *Басалыгі, бадзякі, страмілы* вельмі любілі хадзіць *на сяло* або былі *юрлівыя да жанчын*. На работу гультаі звычайна збіраліся *як галодны ў крапіву*. Пра такія *зборы* казалі: *«Пакуль сын абуўся, дык бацька змалаціў»*. А працавалі гультаі *пусці — паналюся*. Калі якая-небудзь жанчына мела такого *мужука*, што павінна была ўсюды сама *запабегчы* 'ўсюды паспець', то пра такую казалі: *«Гаратніца»*. І вось сядзе такая *маладзіца, ссумеецца* 'замаркоціцца', паправіць хустку і ўздыхне: *«Ахухцінацямненькі,* гора мне з гэтым *пасяльнічым: адкалынтырыцца на гэтай рабоці абы*

*номір адбыць, тады забяжыцца дамоў, як жару ўхваціць, там нік, тут ліась, наб'ець сваё пільмо і пашоў на скруты, а ты — хоць ты выпруцься. Так і жывеш: дзе сам ні дайдзіш, там і ні найдзіш. Казні яму ці ні казні — ўсядно як да пня».*

Да тоўстых, як да патэнцыяльна або пэўна лянівых, таксама не адчувалася асаблівай прыхільнасці, таму і звалі іх неяк неласкава: *самўйла, бўйла, рыдзіль, што ўшыркі, то ўдоўжкі.*

Вялікую спраўную жанчыну называлі *тартарыца,* калі яна любіла і ўмела лоўка і хутка працаваць: *«Во ломіць — аж трашчыць»* або: *«Аж гай шуміць».* А *рыдзіль* нават фігураваў у такой прымаўцы: *«Хворый ты хворый, сам ты як рыдзіль, нос як бутвіння».* Тоўстыя маглі быць *купкувáценькімі* 'гладкімі з круглым брушкам', *пуцкувáтымі* або *лупáтымі* 'з вялікімі губамі, якія ўтвараюць адну дэталь разам з носам'.

Пра таго, хто быў укормлены, але моцны і не тлусты, казалі: *як кýкамі збітый, спрáўны як лут, як бізýн.* Калі размова ішла пра *спрáўнае, пóўнае* дзіця — *камлюкá* або *цельпукá,* то яно магло выклікаць добрую усмешку і словы: *«Няўрóкам скáзана, пахóжый мáліц* 'для свайго ўзросту даволі вялікі', *як пірамытый* 'гладкі, укормлены'».

Калі ж дзіця не вызначалася ўзорнымі паводзінамі, па-нашаму, *дурэла,* яно магло заслужыць такія стрыманыя эпітэты, як *дурóный, благій, ніякій, распýснік, агáзный, сабакáр, вачапóр.* Два апошнія словы ўжываліся ў тым выпадку, калі дзеці ставіліся непрыстойна да дарослых. Былі выпадкі, калі маці сварылася і страшней. Вось прыйшло дзіця зімой з вуліцы, адным махам скінула з сябе пары тры штаноў, *мокрых, як юхціна,* і комам павесіла на шасток на печы, а валёнкі, поўныя вады, пакінула каля парогу. Само ж узлезла на ложак і цешыцца. Тады ўжо маці *рашчачэнівалася* 'пачынала доўга і шматслоўна сварыцца': «Ну, *шкáраць малая, ні жывацéй* 'сцеражыся', усё *кінуў-рынуў, швáрнуў* гэты *буртулі* на шасток, і ў *вáлінцах* вун вада *квякчыць,* ды ў дабавак вун яшчэ ўсю пасцель *здратавáў ...» Лясь!* — і малое атрымлівае *ліпікá* па адным месцы... На гэтым моўны тэатр зачыняўся.

Працавітых і здольных людзей называлі *вараціла* або *ўмéка.* Прозвішча самага *рýпнага* 'руплівага' чалавека ў

вёсцы магло ўжывацца як агульнае імя, як сінонім стараннасці. «Здароў, Барманскій,— гаворыць сусед суседу.— Нешта ты дроў *вўтла* 'мала' *наробій*. Можа табе якіх *смалякі* са два пазычыць на *паджогу* 'растопку'?» А гэта зусім і не Барманскі, а які-небудзь Шпілецкі або Прыстаўка, Фрыдрых ці Бруквін. І дроў у яго не *вўтла*, а пад самую страху і ў хляве, і ў хаце. Сапраўды, як у Барманскага, які ўмее рабіць усё: і жорны, і цабэркі, і боты.

Калі ж хто не вызначаўся асаблівым талентам і стараннасцю да працы, пра таго казалі: *зломак; ні да танцу, ні да ражанцу; у яго рукі там; у яго рукі недзя.*

Легкадумным, якія многа і хутка гавораць і ўсюды стараюцца *ўставіць сваё тры грошы,* прычэплівалі *менні* 'мянушкі': *тарахцёлка, жэйгала, халтама, лаханда, балабешка* або нават *балбешка.* Так, адна жанчына пераконвае другую ў тым, што карова-перадойка не можа даць у сакавіку багата малака: «*Ту на цябе, тарахцёлка, Манька адкуль другая, гаворыць, як спіць. Йікая табе пірадойка ў марцы месіцы столькі малака дась — тры літары як лёду. Як на траву пойдзіць, дась болі».* (А Манька ўсёй вёсцы вядома сваёй *халтамаватасцю* і несур'ёзнасцю). *Халтама, лаханда* і *лахалэя* вызначаліся яшчэ сваёй неахайнасцю і часам пачыналі *рабяціцца, халтаміцца* 'паводзіць сябе, як дзеці'.

Манера маўлення чалавека адлюстроўвалася ў словах: *комкала* 'той, хто комкае словы ў роце', *зяпло* 'той, хто крычыць, *зяпаіць,* шырока рашчыняючы *зяпу* або *ляпу* 'рот', *гыркала, гіркала* або *крыкун* 'той, хто *гыркае,* як сабака, або раве *нема,* як бык'. Пра *зяпло* гаварылі, што *да яго з колам у горла ня ўлезіш. Мармырак* жа — таўстаморды слімак, які пырскае слінай, калі гаворыць, дакладней кажучы, *мармыча* 'гаворыць незразумела'.

Калі каму хацелі сказаць, што ён не надта разумны, ужывалі словы *цюпка, пешня, абух, доўбня, пацяўпешка, нявывалака, нюнька, аплэвух, аблэвух, боўтка, стуібінь, змішуджаный, пыльным мяшком удараный, нідапёка, нідапечаный, нідаробак, Ганс дурный.* Апошняя назва ўзнікла, магчыма, па той прычыне, што немцы размаўлялі на *ніна́ськай* 'незразумелай' мове або ў іх звычаях і паводзінах было нешта незвычайнае, на погляд маіх землякоў. Да таго ж і суседскія адносіны, відаць,

давалі падставы часам для адпаведнай моўнай адзнакі.

Мясцовыя веліканы зваліся *жардзіна́, гарга́рына, вірста́* або зноў жа *сту́йбінь,* калі яны рабілі што-небудзь не вельмі разумнае. Той, каго прырода абдзяліла ростам, зваўся *кны́пус, віліпу́т* або *курду́піль.* Адметнай рысай *курду́піля* былі таўшчыня і кароткія ногі.

Пра худога някрэпкага чалавека маглі сказаць: *склют, суха́р, сухле́ц, сухасто́іна, пішчык, зды́хля, худапахо́лак, заню́жалый, нідапо́шлый, падтату́ліный, сухадру́цкій, тры дні да смерці, глядзіць на папо́вы сані, у шчэ́пкі ўзя́ць, падхарта́ный.*

Позна спаць лічылася ў вёсцы справай, не вартай павагі. Нават госць падымаўся разам з гаспадаром і спрабаваў знайсці нейкі карысны занятак. Літаральна ў апошнія гады, калі да нас пачаў хадзіць аўтобус і ўсё наваколле закішэла гарадскімі паляўнічымі і рыбакамі — выхадцамі з нашай вёскі, гэта патрыярхальная традыцыя раптам канула ў небыццё, і цяпер на сон усе глядзяць з гарадскім рацыяналізмам. Даўней жа пра аматараў паспаць, *трухло́ў* і *ла́нтрухаў,* гаварылі, што яны *шча́сця й до́лю праспя́ць,* і страшэнна *ванця́лі* 'лаялі': *«Во, ла́нтрух, тру́хніць, паку́ль саба́ка воч ні прамы́іць,* або: *во, рышта́нт, дзярэ́ць за пе́ччу тра́пкі* 'храпець', *пакуль со́нца ў вадно́ ме́ста ня ўпрэ́цца».*

Даставалася і непаваротлівым. Яны атрымлівалі мянушкі *навурзня́, на́макань, бамбэ́нак, рагіза́, барана́ чухо́нская, нясклё́пістый, нясклё́па, ціляпе́нь.* Тры першыя словы ўжываліся звычайна ў адносінах да тоўстых асоб. Больш канкрэтна слова *ціляпе́нь* служыла для назвы чалавека, маладога хлопца, які не мог удала пераскочыць цераз агонь у ноч на Івана Купалу.

Пра таго, хто многа плакаў, гаварылі, што ў яго *вочы на мокрым месці.* У адносінах да дзіця ўжывалі ў гэтым сэнсе слова *ру́мза. Ру́мзаць* значыла 'плакаць слязліва і доўга'.

Пра ганарыстую жанчыну з характарам маглі сказаць: «Тожа паглядзі, гэткая *кню́па, но́тная, ты ж панімаіш, начапуры́лася* 'прыбралася', *як глё́ра, шастко́м барады́ ні дастаніш. Хо́дзіць ханянё́м, як ахмістры́ня».* А вось якую моўную характарыстыку маглі атрымаць завіўка і нафарбаваныя губы гэтай асобы: *«Во шчэпіцца здуру* 'лупіцца са скуры': *наплоіла* свае *калтуны́, на-*

*шчакятýрыла лýпы і сёртаіць* па *заўгóллю* 'бадзяецца, мазоліць вочы'».

Пра чалавека, у якога ўсё ў парадку і якога амаль нішто не турбуе, з добрай зайздрасцю маглі заўважыць: ён *тýмарнік; у яго ўсе дні ў дабрэ́* (між іншым, так гаварылі і пра гультая, але з пэўнай інтанацыяй); *яму й ні шум баравый; у яго ўсё ў даглядзі; у яго ўсе дóма. Тýмарнік* быў і той, хто адчуваў сябе шчаслівым і задаволеным хоць у якой дробязі. Так, сядзе маці на *услóнчык,* або *зэ́длік, пірабувацца,* накруціць сухую *анучыну, шлык!* — надзела бот — ды й скажа шчасліва і супакоена: «Во, цяпер я *тýмарніца:* цяпер *мне сам чорт ні брат».* І пайшла жывёле даваць, ваду насіць, адным словам — *спраўляцца.*

*Тýмарніка* маглі назваць і *рахмáным,* калі ён хваліўся. Напрыклад, сядзяць *мáльцы* 'хлопцы' *на сялé,* гуляюць у карты і размаўляюць: *«Ну, дзяржыся, Сямён, січас мы вас напаяйім».— «Ты, Вальдук, рахмáный сягоння, у цябе вун поўна рука казыроў, а ў мяне адна шáкша* 'дрэнныя карты: ад шасцёрак да дзевятак' *сабралася, ды і ў Ёскі ўсе чысценька абмалóткі* 'тое ж, што і шакша'».

Хто любіў *збедніцца* і ўвесь час скардзіўся на свой лёс, заслугоўваў іранічнае спачуванне: *«Ты ў нас гарáтнік, бедный, як стáрац у дзярэўні: што ўгол — то есь, што куст — то рóбіць».* Бедны, які, наадварот, любіў *падзадáцца* 'падхваліцца', зваўся *багатыр* або *багатыр Пакроўскій.* Проста хвалько зваўся яшчэ *задавáка* або *задавáла.*

Хітрыя і лоўкія людзі нашай вёскі маглі *з любóга кóраба выскачыць.* Але калі такі *дзялóк (шалапýт, пракýда, пракýдзісты)* спрабаваў *пад'ехаць лéтам на сáначках* да такога ж *выжлы,* як сам, то апошні мог у яго запытаць: *«Дзе ты спіш, такій хітрый, каб цябе куры ні абробілі?»*

Стары хворы чалавек мог сам сябе назваць *адарóпка* або *чарóпка. Адарóпкай* можна было назваць і вялікі стары прадмет з цвёрдым каркасам: хату, хлеў, калёсы, мялку, скрыню і г. д.

Адзінокі чалавек або яго хата, калі яна стаяла на вотшыбе, называліся *баўдыр.*

## Як ён гаворыць

Калі дзіця нараджалася на свет, яно ўмела толькі *балбата́ць, балмата́ць, піцюкаць, шчабята́ць, квіркаць* або *лялёшчыць*. Яно *лялёшчыла*, калі бачыла падыходзячую маці, але не магло словамі выказаць сваю радасць. Між іншым, *лялёшчылі* малыя ластаўкі і іх маці, *квіркалі* 'квакталі' жабы ў *ко́панцы*, або ў *лу́міні*, 'сажалцы'. Пазней дзіця пачынала ўжо нешта *гялдэ́чыць, галдуе́чыць* або *галдэ́чыць*. Потым ужо *лададзіць* і *тарахце́ць*, калі адчувала радасць ад таго, што словы вылятаюць з роту, як боб. За некаторымі звычка *лададзіць, далаціць* і *тарахце́ць* захоўвалася на ўсё жыццё.

Калі дзіця чамусьці плакала і паводзіла сябе неспакойна, гаварылі: *сквярэ́цца, кавэ́нчыцца* або *сця́гаваецца* 'хварэе'. Калі яно пачынала *раўсці*, казалі: *захо́дзіцца, раве́ць не́ма.*

Паўтараць адно і тое ж або прасіць чаго-небудзь без перапынку значыла *жэ́йгаць* або *ка́нькаць*. Так, калі малое ўсю раніцу ніяк не магло дачакацца, пакуль зварыцца бульба, і ўсё *жэ́йгала: «Мама, ну калі ўжо бульба будзіць добра?»*, маці магла не вытрымаць і *расхаляра́вацца:* «Усё, *квіт, загарэ́лася бяро́ста ў адны́м ме́сці. Ка́нькаіць усё рання, што я табе бульбу з па́льца выламаю. Я вам учора вечарам казніла, каб паджо́гі сухой нашчапалі, цяпер во ўсё рання курады́млюся з гэты́мі на́макнямі* 'памакамі'».

*Гультаява́тыя* жанчыны часта *распіры́нджывалі* 'марнатравілі час за пустой балбатнёй', п'яныя нешта *труліli, варлы́жалі, вярзлі, зяпа́лі. Зя́па́ць* ці *трылу́зіць* маглі і цвярозыя, але яны ўжо рызыкавалі тады ператварыцца ў *зяпло́* або *трылу́зу*, які *гаворыць, як спіць* 'несур'ёзна'. Незадаволеныя асобіны *пукчэ́лі*, як цеста ў дзежцы-хлебніцы, калі *падхадзіла*, або *гундо́сілі*. Увогуле *гундо́сіць* значыла 'гаварыць у нос'. Хворыя ў беспрытомнасці *тры́знілі*, пляткаркі *зюзюкаліся*, абгаворваючы суседзяў, падросткі *гулёкалі* або *гарлапа́нілі* на ўсю ваколіцу. *Гука́ць* значыла 'гаварыць пустое, няпраўду'. Так, адна жанчына пераконвае другую ў тым, што яе карова вельмі *памаўзлі́вая*, 'шкодная': «Ну што ты *гука́іш*, Вінчыха, калі твая *Крутугало́ўка загізу́іць*, яе ўжо ніякій чорт *ня тверніць* 'не забяжыць'».

Тое, аб чым не гаварылі ўголас, а толькі *шэ́мрылі,*

’дудукалі’, звычайна *разносіла сарока на хвасце.* Звычайна *дудукаць* і *гаманіць* значыла ’гаварыць глуха і ціха’, калі змест гаворкі слухаючаму было цяжка разабраць.

## Як ён есць

*«Хлеб ды соль!»* Так віталіся, уваходзячы ў хату, калі гаспадары елі. У адказ звычайна чулася гарэзлівае: *«Ядзім ды свой»* або *ветлае: «Садзіся — госцем будзеш».* «Прыемнага апетыту» або «Смашна есці» ніхто нікому не жадаў, таму што было гэта справай залішней. Ежа была заўсёды вельмі *глыткая* ’елася лёгка’: і *булён,* і *калатуха,* і *лянуха,* і *камы.* Інакш яно і быць не магло. Як *набугліцца* ’напрацуецца’ чалавек на рабоце, *выхартаецца* добра, то не будзе *боцкацца, бурзокацца* ў ежы, а сядзе ды добра *умуліць, уломіць, навурыцца, навурзгаіцца, напундырыцца, нагламзаіцца, набухаіцца, нагаруіцца, намугуіцца, набудуіцца, намурцуіцца, натопчыцца, напхаіцца, нахрапаіцца, нацюрыцца, набубеніцца* і г. д.: *апіражыць місу булёну, уваліць паўкацілка* кашы, *пуўстаўбуна* малака, *стугур* ’кучку’ хлеба дый скажа: «Во цяпер я *надбіўся,* цяпер я *тумарнік».* Бо калі толькі *пасёрбаеш калатухі* ці *пасцібаіш якога варыва,* то з гэткім *наедкам далёка ня пойдзіш,* бо ў ім *ніякага трунку німа* або *мала клёку* ’нетрывалая ежа’. Гучна *пляцкаць, сёрбаць, храпаць,* апускаючы ніжнюю сківіцу, не дазвалялася. За гэта бацька або маці (калі бацькі не было) *лахалі* або *лязгалі* лыжкай па лбе. *Хрупаць,* як гэта робяць коні, можна было. *Гавеніць* ’чэрпаць паўнюткую лыжку’ было нядобра, бо так рабілі толькі тыя, хто *спяшаўся ў Заскаркі на мельніцу.* Калі страва была не вельмі густая, то можна было *есці-есці ды й напіцца* ’выхлебнуць’ — *высірбнуць астальцы нагбом.*

У дзень дзеці ўсё елі на хаду. *Забягуцца* ’прыскочаць’ усёй *вяткай* ’усім *кагалам’* у хату, як *насланнё* ’нашэсце’, там *зюлюбнуць,* там *гламзануць, палабізуюць якія сіндзі-бryндзі* ды й на двор. Так часам *назбіравалася, наспытывалася* і гаспадыня, пакуль разам *спраўлялася па дому і па скаціні* і варыла ежу.

У размове з малым, з якім маці многа *танянёхалася* ’непамерна песціла або калі дзіця было хваравітае’, ужываліся асабліва ласкавыя формы: *есткі, піткі.* Суфікс *-кі* сустракаўся не толькі ў дзеясловах, якія абазна-

чалі жыццёва важныя паняцці *(есткі, спаткі, піткі)*, але і ў іншых часцінах мовы, якія мелі дзеяслоўны сэнс: *вонкі, дамоўкі, бадынькі, баінькі* і інш.

Многа елі *жарлы́* і *трублы́*. Дрэнна елі *піраб́орлівыя*. Такім трэба было *выстрэ́нчываць усякія сіндзі-бryндзі*. Яны былі *ніякія йідуны́* 'дрэнна елі'. Калі нечага было есці, то *клалі зубы на паліцу* або, *пазычыўшы ў сабакі вочы*, ішлі прасіць да суседа ці малака *прысівіць булён*, ці жменьку мукі *загусціць. рашчыну*, ці якую *крупіну*. І вось зварацць нейкую *пасцябу́ху*, дзе *крупіна́ за крупіно́й ганя́ецца з дубіно́й, абжарга́юць* усёй сям'ёй тую міску і *сёрбаюць адзін перад адным аж трэтар ідзець*. Смачна! Абы юшка троху *завісістая* 'загуслая' была. Што не даеў, тое далежыш. Пойдзеш на палок — *брык дагары́* і ляжыш, *каб сала каля пупа абвілося*...

Калі ж чалавека забірала якая *сукру́ха* 'захворванне' або калі яму было *мо́ташна* 'блага' пасля выпіўкі і ён не адчуваў смаку ў роце і не хацеў нічога *няць* 'есці', то гаварылі: *«Яму й ўсё як трава»*.

*Мо́мніць* значыла 'есці папоўніцы'. *«Момніць аж нічога ня помніць»*,— гаварылі пра абжору.

## Як ён чуе свет

Роднае слова звінела, стракатала, вухкала. Як піла, як конік, як тапор, як птушка. Усё наваколле гаварыла з намі. І мы гаварылі з наваколлем. А словы былі чароўныя...

Бывала, зловіш у траве коніка, пасадзіш на далонь і гаворыш: *«Кызя-кызя, дай мазі, а то зарэ́жу на гразі»*. І ён расчыняе свой рот-каўшок і дае *«мазі»*, ад якой прападаюць усе *дзічы*. Асабліва тыя, якія *абсяда́лі* рукі пасля таго, як дакранешся да *рапу́хі* 'шэрай жабы'.

Ці сядзіш *на па́сці*. Хочацца, каб хутчэй пачаўся *ава́д* і каровы *загізава́лі*, каб пагнаць іх дамоў. Пачынаеш зваць аваднёў: *«Гіз-гіз-талалай, гіз-гіз-талалай»*. Калі авадні прылятаюць, пачынаеш дражніць кароў: *«Гіз-гіз-талалай, вышы хвост паднімай, талалай-талалай, яшчэ вышы паднімай, гіз-гіз-гіз»*. І каровы ўжо бягуць дамоў.

Або вечарам сядзіш каля вогнішча, дзе вараць *бульбу з соллю*, падкладаеш трэскі і слухаеш, як *шмо́ргаіць*

*дзіркач*. Паўтараеш разам з ім: *«Дзіркáч лёг спáць, пáд пýній — з Мáтрýнай, пáд хáтай — з Агáтай, пáд кóлам — з Мікóлам, пáд сітам — з Мікітам»* і г. д. І дзяркач хутка замаўкае пад такую калыханку.

Ідзеш у сад шукаць *апáдышы*. Рваць з сукоў нельга: *матка будзіць крычаць* 'сварыцца'. Пачынаеш шаптаць нешта накшталт малітвы: *«Гóспадзі Ісýсе Хрысцé, падáй мне яблык у лісцé. Калí апáдыш ні найдý, тадьí сучóчак заламлю́»*. І праўда, хутка босай нагой пад лісцем намацаеш *ападыш*.

Возьмеш палку, *абкарыш* яе і пачынаеш нажом, як тапаром, рабіць засечкі і прыгаварваць: *«Сяку-сяку сякéрачку, а вы́сіку Насцю, хто ня верыць, хай праверыць, калі не шаснáсцю»*. Як хутка ні сячэш, усё роўна атрымліваеш шаснаццаць засечак. Дзіва ды й годзе!

Рэжа маці дровы з цёткай Тэкляй. А піла спявае: *«Жгіў-жгіў — гэта матцы, жгіў-жгіў — гэта цётцы»*.

І так усюды — словы і гукі спляліся ў адно цэлае. Ідзеш *з паствы*, абвесіўшыся венікамі да пят: *шась-шась!* Вядзеш каня да коней. Едзеш вярхом галопам — *скапыты-скапыты́!*, а рыссю — *лататýх-лататýх!* Цікавая гэта рэч — слухаць свет. Асабліва ноччу. Тады гукі можна не толькі слухаць, але і бачыць...

Вось сядзім мы з маці пад калгасным свірнам. Мама — старажыха. Праўда, толькі ноччу. У дзень яна разносіць пошту і пасе гусей. Дакладней кажучы, гусей пасем мы, дзеці. Нас нямнога. Усяго чацвёра. Бацька загінуў, калі яму было сорак... *Прыцю́цькаешся* да маткі, *прылабýнісся* і слухаеш, як жыве ноч. *Шаў-шаў-шаў!* — з падстрэшша ў глухое акно паплыла лятучая мыш, кажан. *Скрэм-скрэм-скрэм!* — точыць мышка свае зубы ў засеку. Патачыла і змоўкла. І зноў ціха. Толькі *цвыркуны шашчаць* сваёй пясочнай мелодыяй. Але вось дзесьці за аборай чуецца мернае *талы́х-талы́х-талы́х*. Гэта воз з нечым цяжкім *куляецца* па раллі. Так і ёсць. Гэта Барманскі вязе камень на жорны. А вось і яго сабака. *Хамы́ль-хамы́ль!* — і яна ўжо тут. Вялізная нямецкая аўчарка. *Нюх-нюх* — *абшны́парыла* ўсё заўголле, абнюхала нас. *Віль-віль* сваім абсечаным хвастом і пабегла. Яе завуць Крываляпый. Як яе першага гаспадара, нямецкага *фітфебіля*. У яго быў рот набок — *крывая ляпа*. Цяпер вось фельдфебеля няма. А сабака яго ёсць... А вось і сам Барманскі. Так, гэта ён. *Таргік-тар-*

*гік* — узбіраецца ён на *пугірак*, падцягваючы правую нагу. І боты яго: *шлок-шлок-лох-лох!* — б'юць шырокія халявы па лытках. Ён! Каму ж яшчэ быць! *«Здарой, начнік!* — вітаецца маці першай,— *усё жаронцы майстрэчыш».— «А майстрэчу, хай йіх халера, нада ж. Усё ж сотня йікая будзіць».— «Ціхуці! Хто гэта там?»* — Маці прыслухоўваецца. *Штых-штых-штых!* — сыпле нехта драбняком з-пад фермы. Хто ж гэта? Відаць, баба. *Кавыль-кавыль* — і яна ўжо зварочвае за пуню. Прысядаю, углядаюся ў цемень на фоне неба. *Ды гэта Мікіціха — філосаф! Леташнюю асянчыну патроху карові на подсціль носіць. Хай сабе носіць... Я ў маткі за падстарóжку. Усё чую і бачу. Нашто нам сабака. Ён болі за мяне зьесь... Квяк-квяк!* — Мікіціха ўжо за канавай. *Шчалы́к* — зачыніла вароты, прайшоўшы калгасны пастаўнік, і прапала ў чарнільнай цемры. А Барманскі ўжо раскурвае цыгарку — *па-па!* і нешта *дудýкае* з маткай. Мне шкада каня. Ён час ад часу трасе галавой і робіць гэтак *п-п-фф-рр-р!* Прытаміўся. І галодны. Я нават чую, як у яго ў жываце бурчыць: *юрр-р!* У каня, як і чалавека, калі ён *вы́хартаецца, юрчы́ць* у жываце... Але вось Барманскі ўжо дакурыў, *гіп!* — хуценька ўстаў, пагладзіў пяшчотна свой камень, праверыў падпругу і — *валюх!* — закінуў сябе адным махам у калёсы. *Склыг-вы-ы-х!* — застагнаў нямазаны перадок, конь, не чакаючы голаса вазніцы, рушыў насустрач дому, насустрач доўгачаканаму начлегу...

Многа чаго пачуеш у родным краі. Расказваць пра гэта — яшчэ раз вярнуцца ў дзяцінства, у дзіўную казку матчыных слоў. Але ў кожнага — свая казка. І толькі адзін ты сам гаспадар. Ці ж словамі перакажаш казку-сон? А вось дзеючых асоб казкі — матылькоў, травы, пáхі — можна засушыць і інвентарызаваць. Вось яны — цені і адгалоскі рэчаў, дзеянняў, прыкмет, якія гучалі для мяне ў дзяцінстве. Як руплівы і сквапны гаспадар я звязваю іх у пучкі і засоўваю пад бэльку ў новай хаце. Сохніце, родныя, ды не засыхайце! Будзьце і лекамі, і насеннем. Бывайце, зёлкі роднай мовы! Цяпер вы ўжо— інтэр'екцыі.

## Калі нешта звалілася ці нехта паваліўся

| | |
|---|---|
| *Бах!* | Скаварада, качарга, вялікі чалавек |
| *Бойць!* | Камень у ваду, рыбіна з кручка |
| *Брась!* | Нехта бразнуўся |
| *Брык!* | Нехта раптоўна паваліўся *дагары* (на спіну) |
| *Брынк!* | Талерка са стала (і разбілася) |
| *Брўнк!* | |
| *Валюх!* | Нехта тоўсты (або даволі жвава) саскочыў з вышыні, *шавырнўўся, валюхнўўся.* |
| *Вартых!* | Воз абярнуўся, чалавек з возу вываліўся |
| *Выць!* | Нехта балюча пабіўся пры падзенні (не абавязкова на мокрым месцы), *вытнуўся.* |
| *Грым!* | Скаварада, качарга, вялікі чалавек<br>Нехта вялікі (або вельмі моцна) *грымнуўся* (моцна пабіўся або паваліўся з шумам і лязгам) |
| *Ёрсь!* | Нехта паслізнуўся, паваліўся і балюча пабіўся *(ёрзнуўся)* |
| *Плёх!* | Нехта (нешта) з вышыні ў ваду (з брызгамі) |
| *Шабулдых!* | Дзіця з печы, мяшок з возу |
| *Шавыр!* | Нехта тоўсты (або даволі жвава) саскочыў з вышыні, *шавырнўўся, валюхнўўся.* |
| *Шлок!*<br>*Шлык!*<br>*Шчалык!* | Нешта праз нешта прайшло, праваліласся, пераадольваючы пэўную перашкоду, чапляючыся за што-небудзь (нага пралезла ў бот, выцягнулася пробка з бутэлькі) |
| *Шусь!* | Нехта са стога, сена, з саламянай крышы (як на санках) |

## Калі нешта паламалася, парвалася ці разбілася

| | |
|---|---|
| *Брунк!* | Талерка, стакан |
| *Брынк!* | |
| *Крэнк!* | Дрэва вывернулася з каранём |
| *Лусь!* | Яйцо хруснула |

| | |
|---|---|
| *Пукш!* | Шнурок у бацінку, *драцьвіна,* абора на лапці |
| *Пэнк!* | *Драціна́,* спіраль у плітцы |
| *Трэсь!* | Нешта трэснула |
| *Храп!* | |
| *Храпсь!* | Зуб у граблях, косць, аглобля |
| *Хрась!* | |
| *Хрусь!* | Нехта адкусіў вялікі кавалак яблыка |

**Калі нехта есць**

| | |
|---|---|
| *Жмак-жмак!* | Амаль тое ж, што і «ком-ком», але падкрэслівае больш пражорлівасць, чым манеру есці |
| *Ком-ком!* | Есці папоўніцы з зачыненым ротам (хлеб, бульбу і інш.) |
| *Лісь-лісь!* | Не есці, а толькі *лабізава́ць* (ласавацца) |
| *Мом-мом!* | Есці папоўніцы з зачыненым ротам (хлеб, бульбу і інш.) |
| *Нязм-ням!* | Чвакаць разжаванай ежай |
| *Пляцк-пляцк!* | |
| *Храп-храп!* | Расчыняючы рот і гучна перакусваючы ежу тыпу яблыка, храстка і г. д. |
| *Хруп-хруп!* | Тое ж, што і папярэдняе, толькі з зачыненым ротам |

**Рознае**

| | |
|---|---|
| *Ай-ё!* | Вокліч страху, здзіўлення пры з'яўленні нечага нечаканага і жахлівага |
| *Бах!* | Вінтоўка страляе |
| *Ба-бах!* | Гармата страляе |
| *Брынк-брынк!* | Нехта менціць касу або косіць, зразаючы толькі вяршкі травы |
| *Галдадра́!* | Вокліч радасці ў танцы |
| *Гато́ўка з По́лацку!* | «Цябе тут толькі не хапала!» |
| *Дожаж*+прыдатак! | *Дожаж, неслух, матцы ўсе вантробы пераверніць! Дожаж, лантрух, усё яшчэ спіць!* *Усё прыстроілі, і дожаж гэтат дож-* |

| | |
|---|---|
| | *гадась пашоў* (агульны сэнс: як на зло) |
| *Драг!* *Дрог!* | Нехта стукае ў дзверы (*драгае, другае*), сячэ палку, якая ляжыць на нечым цвёрдым |
| *Ёк!* | *«А ў мяне ў грудзях — ёк!»* (як нешта абарвалася) |
| *Жох!* | Раптоўнае наступленне нечага нечаканага: *«А ён — жох! — і прыехаў»* |
| *Квіт!* | Вокліч незадавальнення чым-небудзь нецярпеннем: *«Усё ўжо, квіт — мінуты ня можыць бяз гэтага курыва»* |
| *Пух!* | Вінтоўка страляе |
| *Пібіп!* | Аўтамабіль дае сігнал |
| *Тах!* | Вінтоўка страляе |
| *Тра-та-та!* | Кулямёт, аўтамат страляе |
| *Трох-трох!* | Нехта падпраўляе ношку (вязку галля, закручанае дзіця), якая спаўзла |
| *Хляп!* | Нехта рэзка зачыніў дзверы або яны самі закрыліся, напрыклад, ветрам |
| *Цоп!* | Нехта нешта хуценька схапіў |
| *Шась!* | Раптоўнае наступленне нечага нечаканага: *«А ён — шась! — і прыехаў»* |

**Калі нехта б'е, штурхае і інш.**

| | |
|---|---|
| *Выць!* | Глухі моцны ўдар тупым прадметам |
| *Гак!* | Моцны ўдар (любым спосабам і па любым месцы) |
| *Дзюб!* | Чым-небудзь вострым (або вельмі хуткі кароткі ўдар) |
| *Дзюг!* | Глухі моцны ўдар тупым прадметам |
| *Джгель!* *Жгель!* | Кароткі рэзкі балючы ўдар пугай або рэмнем |
| *Лах!* | Моцны ўдар па корпусу |
| *Лусь!* | Па лобе, па галаве |
| *Ляп!* | У морду, у храпы |
| *Лясь!* | Па голым целе. Лясь! — найбольш моцны ўдар. Астатнія больш сімвалічныя, каб паказаць сваю сілу. |

| | |
|---|---|
| *Мяк!* | Глухі моцны ўдар тупым прадметам |
| *Ням!* | |
| *Плёх!* | Па голым целе. |
| *Плясь!* | |
| *Сцёб!* | Пугай, дубцом, бізуном |
| *Тайхель!* | |
| *Тоўх!* | У грудзі, у бок (злёгку) |
| *Трах!* | |
| *Трэсь!* | |
| *Шарах!* | Моцны ўдар (любым спосабам і па любым месцы) |
| *Шлёп!* | Па голым целе |

## Яго моўныя кантакты з жывёламі

Асноўным сродкам для падтрымання «моўнага» кантакту са свойскімі жывёламі, як мне здаецца, былі інтанацыя, гучнасць і тэмбр голасу. Усё гэта было надзіва багатым. Калі добра ўслухацца, там можна было знайсці свае легата, андантэ, крэшчэнда і сфарцанда. А жывёла вельмі добра чуе «моўную сітуацыю. Вось стаіць запрэжаны конь, ногі дугой, расставіў вушы і дрэмле. Сена ў возе да верху. «Тр-р-р!» — крычыш яму з інтанацыяй «Но-о-о!»,і ён ідзе. І наадварот: *унóсіць* 'ідзе ў разнос' конь з гары, хамут з'ехаў на вушы, перадок б'е па задніх нагах, а ты гэтак лагодненька тузаеш нацягнутымі лейцамі: «Но-о, конік, но-о». Але ж голас твой просіць: «Ну, пацярпі, братка, яшчэ крыху, яшчэ».

Для ўсякай жывёліны было і сваё спецыяльнае слова, каб паклікаць яе, адагнаць або *адвярнуць* 'направіць у жаданым кірунку'. Гэтыя словы даюцца ў табліцы.

Сапраўды бясконцае яно — роднае слова. Дзівосна яно гучыць: летуценні — заранка — ветразі — я сумую па табе — бывай. Калі ж часам тут праглядаецца салёнае дзедаўскае слова, то яно ж вельмі прыдатнае да народных пачуццяў і думак. Жывая мова не для вегетарыянскага вуха. Ёсць там і многа слоў для адмоўных рыс чалавека. Але гэта не значыць, што людзі заўважаюць толькі благое. Добрае не патрабуе асаблівай назвы. Яно і ёсць добрае. Хтосьці сказаў: «Чым больш у мове народа назваў для гультая, тым больш працавіты гэты народ». У нас казалі: «Благому каню — пуга, а гультаю — меня». Мянушка, значыць.

| Жывёлы, птушкі і інш. | Як іх падзываюць | Як іх адганяюць |
|---|---|---|
| Конь | *кось-кось! соў-соў!* | *но-о! пашо'ў!* |
| Карова | *каро'ўк! каро'ўк! хадзь! хадзь, Бу'рая, хадзь!* | *па'шла'! па'шла' ў по'ля! пашла вон!* |
| Бык | *бы'ська-бы'ська, хадзь! хадзь, бы'ська, це-це-це!* | *абы'ля пашо'ў! абыль!* |
| Цяля | *цёл-цёл-цёл! це-це-це!* | *аксы'ля! аксы'ль! аксы'ль у хлеў!* |
| Жарабя | *тпрулю'х-тпрулю'х! кось-кось!* | *атпру пашо'ў!* |
| Авечка | *авур-вур-вур! це-це-це! авечк-вечк-вечк!* | *ашкы'ра, ашкы'р!* |
| Баран | *бэ'рка-бэ'рка! це-це-цё! бару'ська-бару'ська'!* | *ашкы'ра, ашкы'р!* |
| Ягня | *аву'р-вур-вур!* | *ашкы'ра, ашкы'р!* |
| Свіння | *ц-ц-ц, дзю-дзю, дзю'тка!* | *аюць, аюсь, авы'ць!* |
| Парася | *дзю'тка-дзю'тка, ц-ц-ц!* | *аюсь, авы'ць!* |
| Каза, казляня | *къзі-къзі!* | *акы'зя!* |
| Трус | *трусь-трусь, тру-тру!* | *атру'сь!* |
| Кошка, кацяня | *къці-къці, кс-кс!* | *апсі'к, псік!* |
| Сабака, шчанё | *фю-фю, Жук, на! ха'дзі' на! цю-цю-цю! цю-цю-на'* | *пашо'ў вон! пашо'ў ляж!* |
| Воўк | | *Агату'! гату'!* |
| Курыца | *ціп-ціп, пылі'-пылі'! се'лъ-се'лъ!* (калі хочуць злавіць) | *акыш! кыш!* |
| Качка, качаня | *вуць-вуць!* | *аву'ць!* |
| Гусь | *гуль-гуль! вуль-вуль!* | *агы'ля! агыль!* |
| Гусяня | *вуль-вуль! зюль-зюль!* | *аву'ля!*(ль)*! азю'ль!* |
| Кураня | *пълі-пълі! ціп-ціп!* | *апы'ля! апы'ль! кш-ш!* |
| Муха | | *ашыш!* |

*Табліца*

| Як іх адварочваюць | Як іх лашчаць | Як іх чуюць |
|---|---|---|
| *тпру куды! каб цябе вайкі! каб твая магіла трасл ся!* | *стой, коська! тпру! цыш-ш! ножку!* (*калі путаюць*), *ф‘ю-ф‘ю* (*калі конь п‘е*) | *іржэ'ць: іга-га! іў-іў!* (калі б‘е азадкам) |
| *куды' наза'д, Бу'рая! куды— я цябе, каб цябе!* | *стой, каро'ўк, стой! стой, Бу'рая, ці'ху ты!* | *мічы'ць, рыкаі'ць, му'каі'ць: му!* |
| *абы'ля куды'! абыль куды'! абы'ля наза'д!* | *бы'ська-бы'ська, бом-бом !* (калі падзываюць жартаўліва басціся) | *мічы'ць, раве'ць: м-мгу-у!* |
| *аксы'ля куды'! куды наза'д! аксы'ль куды'!* | *гіз-гіз-з!* (калі заахвочваюць гізаваць, як карову) | *мічы'ць, му'каіць: му!* |
| *атпру' куды'! тпру куды!* | *тпрулю-ю'-х, тпрулю-ю'-х!* | *іржэ'ць: і'га-га!* |
| *ашкы'р куды', шыш куды!* | *ве'чка-ве-е'-чка!* | *бляе'ць, мармо'чыць: бе-е! ме-е!* |
| *ашкы'р куды', ашкы'ра куды'!* | *бэ-э'-рка, бару-у'-ська!* | *бляе'ць: бе-е!* |
| *ашкы'р куды'!* | *ву'рка-ву'рка!* | *бляе'ць: ме-е!* |
| *аю'ць* (*аюсь, авыць*) *куды'!* | *дзю'тка-дзю'тка!* | *ро'хкаіць: рох-рох, хлё-хлё!* (калі тлустая) *пішчы'ць: і-і-і!* |
| *авы'ць куды'!* | *дзю'дзя, дзю'тка!* | *хру'каіць: кхр-хр!* |
| *акы'зя куды'!* | *ко'за-ко'за!* | *бляе'ць, ме'каіць: ме-е-е!* |
| *тру-у-сь* (дапамагаюць рукой) | *тру'сік, тру'сік!* | *мармо'чыць: умр-умр!* |
| | *ко'ця, мъсіню'ръна мая!* | *ка'ўкаіць, раве'ць: каў, мяў! вурчы'ць: ур-р! курню пяе'ць: мур-р!* |
| | *Жук, Жучо'к, мой харо'шый!* | *брэ'шыць: гай-гай! ўва'ўвай! вурчы'ць: ўву-ву! е'нчыць: яў-яў!* (ударылі) |
| | | *вы'іць: ву-у!* |
| *акы'ш куды', каб цябе' каршу'н!* | *пы'ля мая, пылю'тка!* | *куда'кчыць: кут-куда'х!* (знесла яйка) *сако'чыць: ко-ко!* (чакае яйка), *клу'хаіць: клох-клох!* (падзывае куранят) |
| *аву'ць-куды'!* | *ву'ці мае, ву'ці!* | *хра'каіць* (*кра'хаіць*): кра-кра! |
| *агы'ля(ль) куды'!* | *гу'лі мае, гу'лі!* | *гаго'чыць* (*гы'нгаіць*): *га-га! гын-гын!* |
| *аву'ля(ль) куды'! азю'ль куды'!* | *зюлюлю'ткі мае!* | *зюлюлю'каіць: зю-лю-лю!* |
| *апы'ля(ль) куды'!* | *пылю'ткі, пылю'ські, ці'-пы!* | *ці'ўкаіць, цы'ўкаіць: цыў, ціў!* |
| | | *гуд-і'ць: мз-з!* |

Так яно і вялося. Слова называла, слова смяшыла, слова выхоўвала.

Змяняецца час. Змяняюцца людзі. Змяняюцца словы. Паміраюць людзі, але не паміраюць словы. Яны часам толькі засынаюць у нас саміх, каб потым зноў вярнуцца. І калі праходзіш каля таго месца, дзе стаяла хата твайго дзяцінства, яны, як добрыя ластаўкі, апаноўваюць цябе і бяруць у палон. І твае вусны міжволі шэпчуць: «Добрая была хата».

*А. А. Крывіцкі*

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА З ПАЎНОЧНАЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Рэгіянальныя словы, якія ўвайшлі ў гэту падборку, запісаны ў 1974 г. на поўначы Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці ў в. Бярнова Віраўлянскага сельсавета пры збіранні матэрыялаў для Лексічнага атласа беларускай мовы. Пераважная большасць слоў была зарэгістравана ў час «праграмных» і звычайных гутарак з мясцовымі жыхарамі Міқалаем Андрэевічам Пётрусем і яго жонкай Яўгеніяй Рыгораўнай, калгаснымі пенсіянерамі, людзьмі гасціннымі, добрымі і сардэчнымі. Мікалай Андрэевіч паведаміў таксама мясцовыя назвы рыб і шмат рознай лексікі, якая звязана з традыцыйнай лоўляй рыбы і яе апрацоўкай. Ён заўзяты рыбалоў, выдатна ведае сваё чыстае, прыгожае і даволі вялікае Бярноўскае возера (з усімі яго падводнымі і надводнымі насельнікамі), каля якога на адным з высокіх пагоркаў размешчана вёска.

Гаворка вясковых жыхароў па фанетыцы і марфалогіі слоў тыповая для паўночнай Віцебшчыны. Да гэтага варта дадаць толькі наступнае.

Вельмі выразная ў гаворцы, так сказаць, «невыразнасць» канцавога ненаціскнога *а* ў адкрытым складзе: *пучы́нӑ, паве́сьмӑ, тріпа́лкӑ, се́нӑ, ба́бӑ, нъпра́вӑ, кълӑ* і г. д. У некаторых выпадках такое вымаўленне ўспрымаецца нават як адсутнасць гука. Але звычайна чуецца сярэдні па пад'ёму, але вельмі кароткі нейкі «безгалосы» галосны гук (голас перастае гучаць быццам бы на нейкае імгненне раней, чым закончыцца «выдыханне» канцавога галоснага).

У мясцовай гаворцы досыць паслядоўна выступае таксама адна марфалагічная асаблівасць — формы з *-ы(-і)* у назоўнікаў жаночага роду тыпу *вада́, зямля́* не толькі ў давальным, але і ў месным склоне адзіночнага ліку: *к вады́, к травы́, к сястрі́, на сцяны́, на спіны́* і г. д.

Нарэшце, як паслядоўная заканамернасць адзначаецца ў гаворцы дысіміляцыя спалучэнняў аднолькавых свісцячых зычных *сьсь, сс, зьзь, зз* або шыпячых *жж, шш*. Замест іх адзначаюцца спалучэнні *сьць, сц, зьдзь, жджс, шч: сь цéмя* (<с семя), *адгулóсьця* (<адгулосся), *касьцір* (<кассір), *сь Цібíры* (<с Сібіры), *пáчысьця* (<пачысся), *сьцялілі* (<ссялілі), *бясьцільный* (<бяссільный), *забувáісьця* (<забуваісся), *с цы́нам* (<с сынам), *сцýнуў* (<ссунуў), *Загýзьдзя* (<Загуззя—вёска), *зь дзярэ́шкам* (<з зярэшкам — з зярэнцам), *здзáду* (<ззаду), *жджóга* (<жжога), *жджáць* (<жжаць), *ш чы́шкам* (<ш шы́шкам — с шышкамі).

Сучасны Гарадоцкі раён Віцебскай вобласці ўваходзіў у зону, дзе ў 20-я гады праводзілася збіранне лексічных матэрыялаў для «Віцебскага краёвага слоўніка» (1927) М. Каспяровіча. Таму ў алфавітную падборку ўключаны толькі такія словы, якія не трапілі тады ў гэты слоўнік. Аднак варта будзе, відаць, пералічыць і тыя зарэгістраваныя зараз рэгіяналізмы, якія ёсць у адзначаным слоўніку, але маюць у ім адзнаку аб месцы ўжывання ў іншых кутках Віцебшчыны.

*Абанíтый, абжы́нкі, аблóй, ажнýль, азгарóда, баркáн, (бъркáн), валóжыць, гігéль, дзіч, жулéйка, затýла, змаркóціць, кісліца, кіч, кладóк* (тут — капа снапоў у полі, гл. *клад), крóшні* (у Касп. *крóшлі), кýзаў (кýзъў* у Касп. *кузавóк), кýка, кагáльнік, лубя́нка, лянýшка, мя́кліш* (у Касп. *мя́клыш), мярлóх м.* (у Касп. *мярлóга ж.), мярóжа* (у Касп. *мярэ́жа), нагды́сь, нáніц, насóў* (тут — палатняная накідка на кажух), *наўрáцца, нідалýгій, няхóльный, падвóйні, паджóга, пакрóмак (пакрóмък), памёт, пахíсткі, пацьсьмéціны, пірядóк, піхцель, плéва, прадýквіна* і *прадýпліна* (у Касп. *прадýхліна), пýня, пърахóнь, рубíха, сак, смык, спажы́нак, субóр, сцігá, сырапéня, сы́рніца, ток, трóсьць, тутэ́шній* (у Касп. *туташні), тын, узнор, умаленіе, хальны, хряпы, хрясні, цяртýха, шакóлы* (у Касп. *шакóліны), шашкó* м. (у Касп. *шашóк* м.), *шля́хаць (шля́хъць,* у Касп. *шля́каць), шніць.*

АБО'Р *м.* Стаўная рыбалоўная сетка. *Абары́ пъставіў на ноч, паеду сцірéч.*

АДГУЛО'СЦЯ. *н.* Рэха (у Касп. *адгалосьсе).*

АПКО'ПКІ *мн.* Дакопкі.

АСТАШЫ' *мн.* Боты з доўгімі халявамі (былі пашы-

раны раней у рыбакоў). *Асташы́ — кра́сныі, а пръпіта́іш іх жыръм — марос ні бірець!*

АТТУ'ХА *ж.* Адліга. *А нъ дваре ужо аттуха, лепіць мокрый снех.*

А'ХЦІ МНЕ'НЬКА! Усклікванне ад вялікага здзіўлення, стомы.

БАБЛЮ'К *м.* Прымак.

БА'БЪЧНІК *м.* Сноп, якім накрыта бабка жыта ў полі.

БАДЗЕ'ЦЬ *незак.* Балбатаць, верзці глупствы. *Што ты бадзеш, што па дзесіць* (рублёў)? *Пъ пітнаццъць!*

БАРУЗЬДЗІ'ЦЦА *незак.* Капашыцца. *У траве і барузьдзіцца* (жук).

БЕЛЬ *ж.* Дробная недрапежная рыба — пераважна плоткі, чырванапёркі, пад'язікі і інш.

БІРІСЬЦЯ'НКІ *мн.* Паплаўкі ў сетцы.

БІЧУВА'ЦЦА *незак.* Мардавацца ў працы. *Бічувалася баба дома — пряла, ткала.*

БУГРІ'ЦЬ *незак.* Біць. *Бугрі́ў іе́ і муцюга́ў, што ні дывядзі бох!*

БУДЗЁНІШНІЙ *прым.* Будзённы, на кожны дзень. *Па нескълькі валінък* (валілі), *і будзёнішніі і празьнішніі.*

БУ'КШТЫ *мн.* Спецыяльна прытопленыя ў возеры дрэўцы ядлоўцу, ельніку для прываблівання рыбы. Каля іх ставілі потым сеткі.

БЪГАБО'ІНЫ *мн.* Груба зробленыя падсанкі з неачэсаных палак.

БЫТ, БЫЦЬ *прысл.* Як быццам, ужо ж. *Два грабы́ ў хаці, быт страшка! Быць нехта забіўся?*

ВАЗІ'ЦЦА *незак.* Катацца па лёдзе ці па снезе. *Нъ кънькаx вазіцца буду, баба, нъ азіре́.*

ВАЛТЫ'ЖЫЦЦА *незак.* Валтузіцца.

ВАЛХВІ'Т *м.* Чараўнік. *Валхвіты пумъга́лі, у іх валхвіцкіі кніжкі былі.*

ВЕ'РІС *м.* Ядловец.

ВЕРЯСНІ'К *м.* Зараснікі ядлоўцу.

ВІРЦЕ'П'Е *н. зборн.* Стромы пагоркаў, зарослыя альшэўнікам, лазняком, ажыннікам і г. д.

ВЯСЁЛКА *ж.* Звычайная драбналістая бяроза.

ГАЛУ'ТА *ж.* Слізота ў абліваху.

ГАЛУ'ТЛІВА *прысл.* Слізка. *Галутліва зъ вадой іці.*

ГРУЦЬ *ж.* Груда, змерзлая камякамі зямля.

ГУМНО′ *н.* Месца ў канцы агароду з гумном і прыгуменкам.

ГУ′ЦКАЛКА *ж.* Гушкалка, арэлі.

ГЪЛІНЯ′СТЪЙ *прым.* Галіністы. *Дуп гъліністъй, біс цукоў.*

ДЗЯСНО′ *н.* Дзясна.

ДО′СЫБУ *прысл.* Досыць, даволі. *Рысціряліся досыбу.*

ДРАЦЬ *незак.* Ламаць (пра лёд). *Азяро ужо дзёрыць, к бірягў лёт прібіла.*

ДРЫВАСЕ′К *м.* Дрывотня.

ЖА′ГЛІЎКА *ж.* Пякучая крапіва.

ЖЫРІ′ЦЦА *незак.* Жыраваць. *Рыба жыріцца ідзець на мель.*

ЗАБЁНКА *ж.* Торба на каня карміць аўсом. *З забёнкі і куръм сыпълі* (у Касп. *забёнка* — пасудзіна мерай 1/4 чацвярыка).

ЗАВЕ′Т *м.* Звычай. *У нас пряма нет завёту такога* (пераймаць вясельны абоз).

ЗАГЛЕ′ДЗІЦЬ *зак.* Заўважыць. *Загледзіў, што ён пашоў.*

ЗАРУ′Б *м.* Просты шчыт у страсе.

ЗА′РЪСЬЦІЛЬ *ж.* Зараснік.

ЗАТО′НЛІВЫЙ *прым.* Натурлівы.

ЗРУ′ГЪВЪЦЦА *незак.* Здзеквацца. *Зрўгуіцца над мышáм кот, мучыіць іх.*

ЗЪБУРБУЛІ′ЦЬ *зак.* Забубнець, загаварыць з нездавальненнем. *Ціха, зъбурбуліў ужо!*

ЗЫК *м.* Муха гнідаўка. *Сільна бъяцца зыкоў коні.*

ІГРА′ЦЬ ТЪЛАКУ′. Рабіць талаку. *У нас ігралі тълаку навос вазіць.*

ІРШАВЕ′ЙКА *ж.* Рыбалоўная сетка з малымі вочкамі ў сеткавым палатне.

КАЗУ′ТКА *ж.* Козлік, падобны да ўслончыка, катацца па снезе з горак (у Касп. *казўтка* — лёгкі летні вазок).

КАСНЫ′Й *прым.* Завостраны на конус з двух бакоў. *Касны мълаток. Късная стамеска* (гл. у Касп.).

КВА′ТЪРГА *ж.* Квадра, чвэрць месячнага перыяду. *Ету первую кватъргу аддўіць ціпер дожджь.*

КВО′КЪТ *м.*, КВО′КЪНЬНЯ *н.* Жабурынне.

КЛАД *м.* Тарпа збажыны ў гумне, на полі.

КНЫ′РІЦЬ *незак.* Шукаць. *Кныріў, дзе што ўзяць.*

КНЫ'ХЪЦЬ *незак.* Вохкаць, паціху стагнаць. *Старуха ляжыць на печкі, кныхъіць.*

КОМ *м.* Камяк, грудка сухой зямлі. *Камы на полі білі кукъй.*

КРАШЭ'СЬЦЬ *ж.* Курасадня.

КРЕШ *м.* Прыбярэжная мель на возеры (азёрная «літараль»). *Як мелкъя въда, ловім рыбу пъ кряжў. Нъ кряжы нъріступáла рыба.*

КРЪПА'НІК *м.* Піражок, начынены цыбуляй з алеем (у Касп. *крапáнка* — начынка).

КРЫПЁНКІ *мн.* Цупышкі. *Сеў нъ крыпёнкъх.*

КУПЁЛА *н.* Балотца сярод поля.

КЪЗА' *ж.* 1. Сузор'е. 2. Нейкая невялікая рыбка.

КЪРВА'ТЪЙ *прым.* Каравы. *Кърватъя жаба.*

КЪРКЪЛІ' *мн.* Пусткі. *Кърксълі — такіі няўдобія.*

ЛЪБЪРДА' *ж.* Страва з рознага збору. *Нашто такую лыбардў варіць?*

ЛЕНЬ *м.* Рыба лінь.

ЛІДЗЯ'НКА *ж.* Намарожанае рэшата для катання з горак. *Нъ лідзянкі лоўка вазіцца, іе як закрўцюць!*

ЛО'ЗЬНІК *м.* Лазняк.

ЛУНЬ *м.* Дурань, здурнелы, разгублены. *Вот бълда, стаіць, як лунь!*

ЛЫ'ГА *м.* і *ж.* Лгун, брахун.

МА'КРУШ *м.* Насякомае макрэц.

МАТЫ'ГА *м.* і *ж.* Мот, круцель.

МЕ'ТНЫЙ *прым.* З адзнакай, з прыкметай. *У метныі дні бываіць што сходзіш* (у госці).

МІ'ЖА *прыназ.* Між. *Міжа пальцуў шчэпіну* (трэску) *забіў у нагу.*

МЪЛЪЧА'Й *м.* Рыбіна з малокамі.

МЫ'ШЧЫКЪЛЪТКА *ж.* Костачка [чучалак] у пальцы.

МЯКО'ШЫЙ *прым.* Мяккі. *Мякóш етът нош.*

НА'СЛЫШ *ж.* у р. скл. адз. *нáслыжы.* Рыба верхаводка.

НЯЎРУ'ЧНА *прысл.* Нязручна.

ПАБО'ЧЫНА *ж.* Падбрушша, падчарэўе ў парсюка (пры разбіранні тушы). Пабочыну скручвалі ў трубку, заклаўшы ў яе цыбулі, перцу, солі, лаўровага лісту, і добра праварвалі, а потым паступова спажывалі.

ПАЁМІСТЫЙ *прым.* Панятлівы, кемлівы. *Паёмістый такéй унук і паслухнёный* (паслушны).

ПАЛО'ЙНІК *м.* Сузор'е.

ПАЛО'ЦЬ *незак.* Палаць. *Начовачкі, што палоць.*

ПА'ПЪНКА *ж.* Плеўка. *Папънкі нъ худым мясі.*

ПАЦІ'РКА *ж.* Ручнік, уціральнік. *Пацірка з махрáм і кружъвáм* (у Касп. *пацірка* — ручнік для посуду).

ПІСКУ'Н *м.* Уюн.

ПРАСКО'К *м.* Адамаў яблык у чалавека.

ПРУ'ТНІЦА *ж.* Лавушка на рыбу з лазовых дубцоў.

ПРЫВАЛЕ'НЬ *м.* Прымак.

ПРЫ'РЪЎКЪМ *прысл.* Урыўкамі.

ПРЫСТАВЕ'НЬ *м.* Прымак. *Пашоў туды ў прыстаўні.*

ПУДУГРЕ'БЫ *мн.* Грыбы грузды. *Пудугребы — крянóшыі грібы.*

ПУМА'ЧКІ *мн.* Ападкі ў выглядзе дажджу. *Як пумачкі, то гарот родзіць.*

ПУМІРА'ЦЬ *незак.* Гінуць. *Лёт пуміраіць, як белый.*

ПУП *м.* Ікра ў рыбіне. *Пуп — такей мяшочък с ікрой,*

ПУТРЯ'НЪЙ *прым.* Густы. *Суп путряный* (у Касп. *путрáны* — з путры, г. зн. саладухі).

ПУЧЫ'НА *ж.* Уздухавіна, крынічная мясціна. *Абръзъвáлъсь пучына къла калодзіся.*

ПЪГРАНІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць сцечныя разоры на пасеве.

ПЪНА'ГДЪСЬ *прысл.* Заўчора.

ПЪРЯДО'ШЫ *прысл.* Радзей.

ПЪХНЯ' *ж.* Сабраны ўраджай, дабро. *Нъпъхáлі два снапы* (бобу), *ікая ета пъхня!*

П'ЯНЮ'Х *м.* П'яніца.

ПЯШО'К *м.* Пянёк. *Дзеріва убяруць і пяшок апчысьцюць.*

РАЛЕ'МЫЙ *прым.* Прызначаны для арання (пра хамут).

РЕ'ЖА *ж.* Рэдзь, сеткавае палатно з вялікімі вочкамі. *У режы бальшэі вокны.*

РІ'ЖКА *ж.* Сушыльня ў гумне.

РУЦЭ'СКА, *руцня́ ж.* Жменя лёну. *Дзесіць руцэсък — куль.*

РЪСТАРО'ПІЦЬ *зак.* Растаць, набракнуць вадой, развесці (пра раставанне снегу). *Ръстаропіла нъ дваре, ні прайці ні праехъць.*

РЭ'ДЪЛІ *мн.* Воз для сена.

САСІ'ЛЫ *мн.* Саскі ў жывёлы. *Сасілы ня сосіць цялёнък, ні пускаім.*

САТ *м.* Карма ў невадзе, мяшок пасярод яго, куды трапляе рыба.

СВЯЦІ'ЛА *м.* Светач для лучыны.

СКЪСЬЦІНЯ'ЦЬ *зак.* Аблаяць, вельмі зняважыць, унізіць. *Скъсьціняіць усю цібе етът п'янюх.*

СТРІХА' *ж.* Капёж са страхі. *Стріха руччом, вот паготка!*

СУРМАЛІ'НА *ж.* Ажына.

СУХЪЛЬЛЁ *н.* зборн. Сушняк, сухое галлё.

СУЦЫЛЕ'ННЫЙ *прым.* Суцэльны. *Суцыленныі шыны на кóлісі* (у возе).

СЪБА'ЦКІ *прым.* Сабаччы. *Събацкъя свадзьба. Събацкі жыр.*

СЪМАРО'СЛІНА *ж.* Выраслая такой сама па сабе. *На полъс біpéцца крівая съмаросліна тъкая, ні гбáнъя.*

СЯКІ'ЛА *н.* Сякач для крэсіва.

СЯЎРЁНКА *ж.* Мяса, вытрыманае на халодных веснавых вятрах.

СЯЎРЁНЫЙ *прым.* Высіверaны (пра кумпяк, каўбасы, мяса). *Окърък сяўрёный, як і капчоный.*

ТРО'СКІ *мн.* Смецце пры паланні ячменных круп, абтоўчаных у ступе. *Троскі с-пад гўшчы.*

ТХЛО *н.* Прыдуха, задуха, замор рыбы ў возеры. *Тхло у нас ретка буваіць.*

ТЪНЯ' *ж.* Затон на возеры. *Каждъя тъня імеіць сваё нъзванія.*

У АПШЧЫ'ПКУ *прысл.* Скупа, у ахапак. *Нада сена травіць карові у апшчыпку.*

УВОЙ *м.* Сувой, столка ў вяроўцы (у Касп. *увой* — вяроўка з дрэннага валакна).

УДО'РІНА *ж.* Лішняя нітка пры сdefinitionваннi красён.

УЗНО'РІСТЫЙ *прым.* Крынічны. *У нас там зъ баній узнорістъя мясціна.*

УКРА'СЛІЦА *ж.* Рыба чырванапёрка.

УСТУ'ЖЫНА *ж.* Вязок у санях на першых капылах.

УСУ'ХІ *мн.* Падводныя камяністыя пагоркі на возеры.

УХМЫ'ЛІЦЦА *зак.* Пагрозліва вышчэрыцца, прытуліўшы да галавы вушы (пра каня).

ХАБО'ЦЦЯ *н. зборн.* Адыходы пры ачыстцы збажыны.

ЦІЦІВА′ *ж.* Вяроўка, шнур у сетцы, на які яна пасаджана.

ЦЮ′ПІЦЬ *незак.* Крышыць хлеб у малако. *У латку цюпіць хлеб, у мълако.*

ЦЯКУ′Н *м.* Дробны пясок.

ЧАЧУ′ГА *ж.* Бяроза чачотка. *Чачуга ш чышкам* (с шышкамі), *тъкая ніскъя.*

ЧЫШЧА′ *ж.* Хваёвая іголіца.

ШАПТУ′Н *м.* Полаг над ложкам.

ШВЫРКУ′Н *м.* 1. Птушка берасцянка. 2. Цвыркун.

ШО′РКІ *мн.* Шаркуны, балабончыкі на вупражы.

ШУРЧА′ЦЬ *незак.* Цурчаць, струменіць. *Шурчыць въда у разводьдзя.*

ШЧЪКЪТА′ЦЬ *незак.* Пляскацець. *Плътва нърастуіць, шчакочыць.*

ШЪРЛУХА′ *ж.* Лупіны, луска з рыбы.

ШЫРЯ′К *м.* Дробныя акуні (з яршамі) ва ўлове. *Як гарохі цвітуць, то ловім шырікá на усўхъх.*

ШЫХЪВА′ЦЬ *незак.* Шыкаваць, раскідацца. *Грошым шыхўюць.*

Я′ЧЫЯ *ж.* Малое вочка ў сетцы.

*І. Я. Лепешаў*

# У ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Пададзеныя тут словы з'яўляюцца працягам працы «З лексікі вёскі Берпіты Шчучынскага раёна»[1]. У гэту падборку, як і ў ранейшую, увайшлі словы, якіх няма ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), «Дыялектным слоўніку (З гаворак Зэльвеншчыны)» П. Сцяцко (1970), «Матэрыялах да слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1972), «Гаворках Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1959), а таксама ў артыкулах з дыялектнымі матэрыяламі Гродзеншчыны, змешчаных у кнізе «З народнага слоўніка» (1975). Выключэнні адзінкавыя і матываваныя (іншае значэнне, інакшае гукавое афармленне і г. д.).

Некаторыя адметныя фанетычныя і граматычныя асаблівасці гаворкі вёскі Бершты ўжо называліся ў памянёнай працы. Апрача гэтага, варта адзначыць наступныя:

1. Займеннікі *ты, сябе* ў родным і вінавальным склонах могуць ужывацца як у форме *цібе, сібе,* так і з пропускам сярэдніх гукаў — *це, се: У це німа лішняго кошыка? Сам за се заступіцца ні можа.* Параўн. таксама ва ўстойлівым спалучэнні: *Трасе — за бацька і за се* (як ацэнка моцнага пітва або кіслай, горкай ці рэзкай ежы).

2. Ад некаторых прыметнікаў простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца пры дапамозе суфіксаў *-ш-, -айш-: багаты — багатшы, шырокі — шыршы, дзяшовы—дзяшоўшы, здаровы—здароўшы, дарагі — дарошшы, кароткі — каротшы, глыбокі — глупшы; высокі — вышайшы, ніскі — ніжайшы, харошы — харошайшы, гарачы — гарачайшы, бліскі — бліжайшы, дужы — дўжайшы, кароткі — карочайшы.*

3. Асіміляцыя *бн* у *мн, дн* у *нн, бм* у *мн: дромны, монны, анна́, галонны, халонны, аммінуць.*

[1] З народнага слоўніка. Мінск, 1975, стар. 36—52.

4. Дысіміляцыя *дд* у *нд, нн* у *дн: андаць, андалёк, сяднік, содна.*

5. Прыстаўка *пера-* ў некаторых словах вымаўляецца як *пара-: паранaчаваць, парaабуцца, парaадзецца, парастало, парагрэўса, парайсьці, паравaжыць.*

6. Асобныя словы адрозніваюцца ад літаратурных некаторымі асаблівасцямі, не звязанымі з фанетычнымі і марфалагічнымі заканамернасцямі гаворкі: *зыскаць — сыскаць, трумаць — трымаць, згараць — узараць, бланка — бланк, бутэлка — бутэлька, гамзоль — камзол.*

АБРЫ'ЗЛЫ *прым.* Кіславатае (малако). *А чаму гэта на стале малако абрызло стаіць?*

АБЭ'ЛГА *ж.* Паклёп. *Ні слухайця вы яе, гэта ш яна на нас абэлгу склала.*

АЖНУ' *часц., злучн.* Аж, ажно. *Ажну ні верыцца, што такая дзяўчук і ні паступіла* [у інстытут]. *Хацеў, каб ізну пер'ячко каля яго абіралі, ажну ні вышло.*

АЛЁС *м.* Балота, мокрая сенажаць. *Кажны гот на альсе сено рабілі, а гэты гот на санажаці далі.*

АПАРАЗІ'ЦЬ *зак.* Растрывожыць, патрывожыць. *Апаразіла нізнарок скулу, ціпер во баліць, ажну ні магу.*

АТПА'ЛЧЫЦЬ *зак.* Аддубасіць, адлупцаваць (неабавязкова палкай). *Калі яшчэ хоць рас улезяш ні ў сваё дзело, атпалчу я цібе, як каня.*

БА *злучн.* Бо. *Падворак ляпей за ўсё мясьці дзяркачом, ба ён добро выдзірая ўсё.*

БАГНО' *н.* Багна, мокрая сенажаць з мноствам купін. *Ягады жураўліны на багне растуць.*

БАТЛА'ШКА *ж.* Біклага. *Андрэй кажны рас бярэ с сабой на санажаць батлашку малака ці вады салоджанай.*

БЗЫ'КАЦЬ *незак.* Гыркаць, груба адказваць (пра чалавека). *Малая яшчэ ты вырасла, кап так бзыкаць старэйшаму чалавеку.*

БЛЮЖДЖА'Й *м.* Асака светла-зялёнага колеру, якая пачынае расці ранняй вясной. *Пажану сваю цялушку на блюжджай.*

БРЫ'НДА *м.* і *ж. асудж.* Чалавек, які сланяецца, ходзіць без мэты і справы. *От і брында гэта Машка: лазіць с хаты ў хату, а гарот яе зарос, як лес.*

БУ'ЧА *ж.* Буч. *Ціпер акрас рыба нярастуя, та давай каля берага бучу паставім.*

ВЕ′РХНІК *м.* Верхняя рухомая частка церніцы. *Я ш табе кажу, кап ні броў за верхнік, ба мяшаяш ты мне.*

ВО′ЛЯК *м.* Расол ад селядцоў. *Як пайдзеш брацъ сялётку, та папрасі магазіншчыцу, хай нале воляку.*

ВУ′ТЛЫ *прым.* Кволы, схільны да захворвання. *Наша Таня ната вутла: дзе якая хвароба ні была п, та ўсе на яе зьлезя.*

ВУШ *м.* 1. Гуж. *У хамуце парвоўса вуш, та покуль зьвязоў яго, бачыш, як ад вас атстоў.* 2. Пяцелька ў цэпе, раменная частка цэпа. *Ідзі пашукай раменьчыка. Хто зь вяроўкі вуш да цэпа робіць?! Сьмех адзін...*

ВЫГАДА′НКА *ж. гумар.* Выгода. *От табе сёнячы выгаданка: ні трэба і аходжвацца, ба мужык усенко зрабіў.*

ГА′ГАЎКА *ж. груб.* Глотка. *Чаго ты гагаўку дзярэш? Сьціхнула п ужэ!*

ГАЛАГУ′НДЫ *толькі мн.* Званочкі на раменьчыку, які зашпільваецца на шыі запрэжанага каня. *Бало, як вяселя, та павыягджаюць на конях, ды з галагундамі. От красіво было!..*

ГАЛАШЧО′КА *ж.* Галалёдзіца. *На гэту галашчоку я баюса цібе пускаць, ба яйчэ аўтобус можа пяравярнуцца на дарозі.*

ГАЛЫЧО′К *м.* Маленькая гала, прастора між лясоў. *Як велька прастора бязь лесу, та гэта гал, а як нівелька, та галычок. Во гэты — галычок, тут з вос сена будзя.*

ГА′РА *ж. грэбл.* Гарэлка, звычайна самагонка. *Ізну ты гэту гару локчаш, кап ты ўжэ заліўса!*

ГІЖУ′ШЧЫ *прым. неадабр.* Занадта рухавы, жвавы, хуткі ў рухах, непаседлівы. *Віця такі ўжэ гіжушчы, што рады німа.*

ГРУМАДЗЭ′НЯ *прысл.* Вельмі многа. *Труфелі ў нас называюць сабачай бульбай і ні ядуць, хоць іх грумадзэня расьце.*

ГРЫЖО′К *м.* Рыжык. *Грышкі даўней салілі ў велькіх бочках.*

ГУНДО′СЫ *прым.* Гугнявы. *Хлопяц та ён добры і працавіты, толькі што гундосы трохі.*

ГУ′ШАЛКА *ж.* Гушкалка. *У нас гушалка на клёні была, ажну галіна засохла.*

ДЗІСЯТО′К *м.* Бабка (дзесяць састаўленых радам снапоў). *Дошч як доў, та добро, што дзісяткі Гілёвыя бліско былі, мы там і схаваліса.*

ДРАПЧА'К *м.* Драбіна, якая ўстаўляецца ў задок павозкі або саней. *Ні забуць драпчак ўставіць, як паедзяш па кастрыцу, ба вываліцца ўся.*

ДРЫГВО' *н.* Дрыгва. *Там такоё дрыгво, што і ўтапіцца можно.*

ДЫ'МКА *прым.* Прадымленая (цыбуля). *Дымка цыбуля велька расьце, яе сьмело садзі, стрымбулёў ні будзя.*

ЖУРАЎЛІ'НА *ж.* Журавіна. *Як хочаш, пайдзем за мною на багно ў жураўліны.*

ЗАВАРАЦЕ' *н.* Месца ў канцы загона, дзе араты паварочваецца з плугам. *На самум завараце такі камянь папоўса, чуць я плух ні папорціў.*

ЗАЙГРА'НО *прым.* Аплодненае (яйцо). *Нашла сёня дванаццаць яёк у сені, і ўсе як анно зайграныя.*

ЗАПА'ЛАК *м.* Запалка. *Некі запалак папоў ніўдалы.*

ЗА'РАСЬЦЬ *ж.* Зарослае быльнікам поле. *Ні садзі ты на гэтуй зарасьці нічого, ба толькі насеня змарнуяш.*

ЗА'СМАРКА *ж.* Зашмарга. *А што ж гэта за ніткі мне папаліса? Засмарка на засмарцы.*

ЗДАРАЖА'ЦЬ *зак.* Падаражаць. *Гэты гот грыбоў было мало, та й здаражалі натто.*

ЗІМО'ДРА *ж.* Ранняя шорсткая балотная трава. *Сена ўжэ ні было, та на зімодру скаціну ганялі. На зімодры летам плады, як кумяк белай ваты.*

ЗЯГРА'ТЫ *прым.* 1. Велікавокі. *Зяграта дзеўка расьце, вот хлопцы некалі любіць будуць!* 2. Яркі, квяцісты (пра адзенне). *На сукенку дачанка зягратаго некаго палатна падарыла.*

ІЗНУ' *прысл.* Зноў. *У сьверні ізну мышы завяліса.*

ІЛЯ'НЫ *прым.* Ільняны. *Іляно палатно некалі і на рынку добро ішло.*

КАЛБЕ'ЛЬ *ж.* Падвесная калыска. *Даўней на гэтум круку калбель вісела.*

КАЛЮ'ШЧЫ *прым.* 1. Бадлівы. *Яго такая карова калюшча, што німа рады.* 2. Калючы, з мноствам калючак. *Гэтымі бадзякамі калюшчымі ўсе рукі пакалола.*

КАМІНА'РНІК *м.* Камінар. *У міне й мужык за камінарніка паслужыць, пачысьціць і сам сабе комін.*

КАРАНІ'ШЧЫЦЬ *незак.* Праклінаць. *Кап ты толькі чула, як Марыля каранішчыла мужыка сваго, аш слухаць страшно было.*

КАЦЭ'МБА *ж. зневаж., жарт.* Нага. *Куды ты суняш*

*свае кацэмбы доўгія! Ні хватая табе места на сваёй пасцелі?*

ҚАШАРЫ'ЦЬ *незак.* Старанна і доўга мыць (бруднае, заношанае адзенне). *Што гэта ў цібе рубашка, як у шмаравоза? Қашару, кашару і ніяк ні аткашару.*

ҚВІЧА'ЦЬ *незак.* Пішчаць. *Чаго ў цібе так парасята квічаць? Хіба ты іх пакарміць забыла сёня?*

ҚІЯ'Ш *м.* 1. Рагоз (балотная расліна з чорнымі шышкамі). *Қіяш на балоце расьце, дзе макрэй.* 2. Қолас (шышка) рагозу. *Қіяшэ як патсохнуць, та натто пухам разьлятаюцца, а так кіяшэ мяхкія, як с плюшу.* 3. Пачатак (верхняя пладаносная частка кукурузы). *Такія кіяшэ харошыя на кукурузі, прынёс паказаць вам.*

ҚЛЯҚО'ТҚА *ж.* Званок, які чапляюць жывёле на шыю. *Недзі пашла мая карова, і ні знаю, дзе шукаць. Қап была клякотка на шыі, та, можа, й нашоў бы дзе.*

ҚО'ЎЗАЛҚА *ж.* Қаток. *Нашыя хлопцы як пайдуць зранку на коўзалку, та чакай толькі ўвечары.*

ҚУЗЁ'МҚА *ж.* Пасудзіна з кары для збірання ягад. *Памерзьлі ў гэтум годзі ягады, хіба толькі ў кузёмку іх зьбіраць, а ні ў кошык.*

ҚЯ'ЎҚНУЦЬ *зак.* Яўкнуць. *Яго ш на маіх вачах забілі, і слова ні ўсьпеў сказаць, толькі кяўкнуў і гатоў.*

ЛА'ЙБАНҚА *ж.* Лаянка. *Хай сея той кусок, ды ўсё, нашто табе лішняя лайбанка зь людзьмі.*

ЛЕ'ДВО-НІЛЕ'ДВО *прысл.* 1. З вялікай цяжкасцю. *Ледво-ніледво дастала яблыко, аш патскочыць прышлосо.* 2. Нарэшце такі. *Ну, дачакаліса цібе ледво-ніледво.*

ЛЫ'БІЦЦА *незак. асудж.* Усміхацца. *А ты чаго так лыбіса? Тут німа нічого сьмешнаго.*

ЛЮ'ШҚА *ж.* Юшка. *Ні забуцьця прыкрыць комін, толькі люшку да канца ні закрывайця.*

МА'ЦЯРҚА *ж.* Бульбіна-насенніца. *Як пападзецца мацярка, та аткінь яе ўбок.*

МІРГАЦЕ'ЦЬ *незак.* Міғацець, мігцець. *Вун зорачкі міргацяць. Нешто галава баліць, а ўваччу ўсё міргаціць.*

НАМАГЧЫ' *зак.* Наверадзіць. *Мусі, добро намагла сабе ногі, цалы дзень ходзячы па лесі.*

ПАВО'ДЗЯ *н.* Паводка. *Хіба ні адзін гот такого паводзя ні было, як у гэту весну.*

ПАЗАГУ'МЯНІ *прысл.* Загуменнем, не па вуліцы. *Чаму ты ні ходзіш, як людзі, па дарозі, а ўсё пазагумяні?*

ПА'КАЛАТКА *ж. груб.* Глотка. *Маўчы, ба зара заткну тваю пакалатку.*

ПАМА'К *м.* Сажалка, дзе мачылі лён, пяньку (у мінулым). *Даўно ўжэ німа памакоў у нас, ба лёну ніхто ні сея.*

ПАСО'ЛЯ *ж.* 1. Фасоля. *Гэты рок пасоля ўрадзіла.* 2. Суп з бульбы і фасолі. *Скажы, каб мама ўзоўтра зварыла пасолі.*

ПАТКАЛО'ТКА *ж.* Бульбяны суп, падкалочаны грэчневай мукой. *Німа с чаго паткалотку зрабіць, ба мука кончыласа.*

ПАТРА'ВА *ж.* Ежа. *А мае ш вы дзетачкі, німа ў міне для вас сёня ніякай патравы смашнай.*

ПІСКУ'Р *м.* Пячкур. *Бацько мне казоў, што піскурэ ў норах жывуць.*

ПІ'ШЧЫКІ *толькі мн.* Кончыкі пальцаў рук ці ног. *Што, узяло за пішчыкі? Я табе казала, кап цяпло адзявоўса.*

ПЛІ'САЎКА *ж.* Пліска. *Лянь, як плісаўка хвосьцікам півая.*

ПЛО'ШЧАЙ *м.* Касач. *У нас сіні плошчай пад вокнамі расьце, а жоўты — на балоці.*

ПЛЮХАТА' *ж.* Кепскае надвор'е, слота, плюхота. *Ні прападзе той конь, а ў такую плюхату і сам змарнуяса.*

ПО'ДБІВО *н.* Падкладка (у адзенні), падшэўка. *Трэба мне купіць на подбіво чаго дзяшоўшаго.*

ПО'ПЛІСКА *ж.* Адна з планак, якія набіваюцца на капылы. *Я новыя попліскі ўставіў, ціпер доўго падзержацца.*

ПРА'ЙНЯ *ж.* Пральня (на рэчцы, возеры). *Ніна пыталаса, дзе ты, та я ёй сказоў, што пашла на прайню.*

ПРЫЛЯ'ПАЦЬ *зак.* Прыбіць. *Прыляпаў быля-як во гэтыя штынкеты і недзі пашоў сабе.*

ПУСТАБРЭ'ХІЧ м. Пустабрэх. *Нагаварыў быля-чаго гэты пустабрэхіч.*

ПУХЛЯ'К *м.* Падбярозавік. *У нас пухлякі ніхто ні бярэ, а як найдзе, та нагой паткіня і пашоў.*

РАЗЬВЕ'Й *м.* Пясчаная неўрадлівая глеба. *Дзе тыя агуркі добрыя вырастуць, калі тут адзін разьвей...*

РАЗЬВІ'ЛКІ *толькі мн.* Месца, дзе перакрыжоўваюцца дарогі. *Ты зьбірай чарніцы каля разьвілак, а я потум падыду.*

РАСХРАБУСТА'ЦЬ *зак.* Разбіць на дробныя кавалкі. *Учора мой Пеця такую харошу талерку расхрабустоў.*

РЭ'ЙДАЛО *н. асудж.* 1. Чалавек, які гаворыць лухту, бяссэнсіцу. *Рэйдало староё, маўчоў бы ўжэ.* 2. Рот. *Аткрыласо ўжэ яго рэйдало, ціпер доўго ні замоўкня.*

СЕ'ЎКО *н.* Рэдка вытканае палатно. *У міне яшчэ есьць сеўко, мусі, метраў пятнаццаць; як будзя дачка замуш выходзіць, та пасьцялю пад ногі.*

СЁ'НЯЧЫ *прысл.* Сёння. *Сёнячы ізну ў гнязьдзе анно каралюшчо ляжыць, а яйко выпіто.*

СІ'ЦЯЧКО *н.* Сузор'е стажары. *Стары я ўжэ стоў, ні бачаць мае вочы нават і сіцячка.*

СКО'МА *ж.* Аскома. *Скому набіў гэтымі яблыкамі кіслымі.*

СКРЫ'НЯ *ж.* Калодзежны зруб. *Чысто згніла скрыня! — Ні дзіво: гадоў с сорак прастаяла.*

СМО'ЛАК *м.* Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу. *Я свой цадзілак вечня на смолак вешаю.*

СПАХО'МЫ *прым.* Адхонны. *У нашум возяры берах пасьці ўсюды, асобянно каля вёскі, спахомы.*

СПО'ЙСАВАЦЬ *зак.* Выцяць. *Конь заўпарціўся і ні зь места, покуль я ні спойсавоў яму за злосьці пугай.*

СЫ'ЗМА *м.* і *ж. асудж.* Вельмі злы, нядобразычлівы чалавек. *От дзе сызма! Бе дзіця, што вырваў бяс просу агурочка з гароччыка.*

СЬЛЯПНЯ'К *м.* Сляпень. *Мусі, гэто на дошч, ба сьляпнякі сёдня натто кусушчыя.*

СЬПІ'ЧАК *м.* Запалка. *Кап хоць з годзін сьпічак у кубарцы быў.*

СЬЦЁ'ПЦЯ *ж.* Колькасць чаго-небудзь сыпкага, якое можна ўзяць трыма пальцамі. *Дасып мне сьцёпцю солі.*

СЬЦЯ'ГЛЯ *н.* Сцягно. *Намагла я сабе той рас ногу, сьцягля баліць і ціпер.*

СЬЦЯКА'ЦЬ *незак.* Рабіцца кволымі, вялымі ад недахопу святла (пра расліны). *Пэўня, мало тут сьвету маім агуркам, што сьцяклі зусім.*

СЯНАВА'НЯ *н.* Касавіца. *Ціпер сянаваня ў нас, німа калі сядзець с табой.*

ТА *злучн.* То. *Як ні закелзаяш каня, та паабірая ўсю бульбу з баразён.*

ТРУДНАВА'ЦЦА *незак.* 1. Турбавацца. *Ні труднуйцяса вы так, мы ні хочам абедаць.* 2. Пакутаваць, моцна

перажываць. *Труднаваласа баба, як аспадара на вайну забралі.*

ТРЫВУ′ЛЬНО *прысл.* Трывала. *Кап мяса кусок ці сала — другоё дзело, было п трывульно.*

ХВАРАВЕ′КІ *прым.* Хваравіты. *А ён і быў хваравекі ўсё жыця, та й памёр рано.*

ХІХО′Л *м.* Састаўленыя разам снапы льну ці лубіну. *Мая баба лён ці лубін лоўко і скоро ў хіхлы ставіла.*

ЦЫБУ′К *м.* Цвёрдая частка пяра з крылаў і хваста. *Такі цьвёрды цыбук у гэтум пярэ, як дзьвік сяраўно.*

ЧАРНАМО′ЛЯЦ *м. экспр.* Брудны, неахайны чалавек. *Чарнамоляц ты, памыўса п трохо.*

ЧАШО′ЙКА *ж.* Асобная пасма на клубку нітак. *Кап хоць ні паспускаць чашойкі, ба ўся мая работа дарма будзя.*

ЧУ′ЧАЛКА *ж.* Костачка (на пальцах рук). *Забівоў дзьвік і зьбіў чучалку.*

ШТЫ′РБАЦЦА *незак.* Штурхацца. *Ні штырбайса, ба дам здачы.*

ШЧА′ЙКА *ж. неадабр.* Неслух. *От шчайка якая, дзеда перастала слухаць.*

ШЫЛЬБАБО′Н *м.* Фасоля. *У нас гэту пасолю называюць хто — тычкавая, а хто — шыльбабон.*

ЯДЖГА′Р *м.* Ёрш. *Яджгар — рыба смашна, аля натто калюшча чысьціць.*

*І. П. Чыгрын*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЧАМЯРЫ СЛОНІМСКАГА РАЁНА

АБЖА′ЦЦА *зак.* Кончыць жніва. *От абжацца толькі збольшаго, там вальней дыхнем.*

АБЛІВА′НЦЫ *мн.* Гумовыя чаравікі. *Такія спрытныя абліванцы я сабе купіла — і цёплыя, на байцы: цяпер то ўжэ не прамокня нага. Адзень абліванцы — дождж ідзе.*

АБЭ′РЖА *ж.* Нешта вялікае, нязграбнае, пасудзіна часцей за ўсё, але і пра чалавека, пра жывёлу могуць сказаць тое ж. *Куды ты гэтую скрыню ў сені валачэш, абэржу такую, усе сені заваліш. Абэржа — ні кабыла.*

АД′Я′ДА *ж.* Згрызоцце, здзек. *Ад'яда адна, колькі ты ў мяне будзяш пытаць адно і тоё ж. Як я ні сталалася, а зрабіць нічого ні магла — толькі ад'яда сэрца.*

АЦО′ЎКНУЦЬ *зак.* Абрызгнуць. *Малако ацоўкло — я яго піць ні буду.*

БАБО′К *м.* Лугавая расліна, расце на мокрых мясцінах. *Якая там трава? Адзін бабок парос.*

БАРМАКІ′ *мн.* Густыя жалезныя вілы грузіць каменне, буртаваць бульбу і інш. *Ні забудзь бармакі ўзяць, будзям каменё з канюшынішча звозіць.*

БАЎЦІ′ЦЬ *незак.* Заганяць боўтам рыбу ў сачок. *Сёня па рыбу пайдзем. Я застаўляць буду, а ты — баўціць.*

БЗДОР *м.* Здор. *А дзядзько любіў бздорам блінцы мазаць.*

БІНДЖУ′Р *м.* Аб'едзенае сцябло расліны, дрэўца. *Вунь убіліся каравэ ў агарод, усе картоплі рэсцілі, адны біндэжурэ паасталіся. Столькі гічаня карові дала, хоць бы біндэжур адзін пакінула — з такім смакам усё з'ела.*

БЛАШЧЫ′ЦА *ж.* Клоп. *Развяла блашчыцаў — жыцця німа.*

БЛЫ′НТАЦЦА *незак.* Сноўдацца, таптацца; блытац-

ца. *Блынтаўся ўвесь дзень па горадзі. Блынтаецца пад нагамі.*

БОЎТ *м.* 1. Тычка з набітым (звычайна гумовым) наканечнікам пужаць рыбу. *Добры боўт, такім з-пад любого карча рыбу выганіш.* 2. *перан.* Дурань, тупіца. *Боўт ты, боўт — яму адно, а ён другоя!*

БРЫДО'ЦЁ *н.* Непрыгожы, благі чалавек. *Ну й брыдоцё: вгсь у бацьку, неслух такі. Якое ж ты брыдоцё! І памыцца нават ні хочаш.*

БРЭ'НДАЦЬ *незак.* Хадзіць недзе без справы, без ніякай карысці. *І дзе ты цэлы дзень брэндаяш? Дзе ён напасвіў тыя каравэ? Брэндалі цалюткі дзень на выгані.*

БУНТ *м.* Звязка. *Такі бунт цыбулі за ніішто збыць прышлося.*

БУНТАВА'ЦЦА *незак.* Памыляцца, блытацца, збівацца з панталыку. *Недзя збунтавалася—ні палучаяцца задача.*

БЭ'ЙБУС *м.* Няўломак. *Бэйбус гэтакі! Вырас да неба, а дурань, як трэба.*

БЭ'МБАЛЬ *м.* Нешта не ў меру напятае, цвёрдае, вялікае. *Паляц уздуўся, як бэмбаль, нарывацъ будзя. Карова наелася — жывот, як бэмбаль.*

БЭ'СТЫЯ *м.* і *ж.* Абманшчык, хітрун, жэўжык. *Ах ты, бэстыя, гэто ж пух пад носам ні вырас, а ён ужэ абманвацъ!*

ВА'ГАНКА *ж.* Арэлі. *Хлопцы ды мужчыны, бывало, як збяруцца, як зробяць ваганку, да неба падлятаяш: піску, смеху — вясяло было.*

ВА'РА *ж.* Варыва. *Агоркла мне гэта ваша вара — адно і тоё: капуста ды капуста, зварылі б што-небудзь новаё.*

ВЕ'ЯЛКА *ж.* Вейка. *Веялкі ў яе, як у пані якой — доўгія, файныя, аж надто.*

ВІ'ЎКАЦЬ *незак.* Насіць хвост пісталетам, выбрыкваць. *Столькі работы ты сваёй кабылай перарабляеш, а яна вунь яшчэ што — віўкаць. Ты да яе па-добраму, як чалавек да чалавека, а яна толькі тоё і зная, што віўкаць.*

ВІХЛА' *ж.* Увішны, рухавы чалавек. *Віхлой круціцца — цэлы дзень ёй упыну німа.*

ВО'ПАЦЬ *ж.* Падучая. *Каб цябе вопаць кідала, каб цябе!* (праклён). *У яго вопаць, мая ты саколка, захварэў чалавек ды так ні па-людску.*

ВО′ПСЫС *прысл.* Не зважаючы ні на што, сляпіцаю, нагла. *Што за чалавек? Вопсыс у вочы лезя.*

ВЫНДРЫМУ′СЫ *мн.* Непатрэбшчына, неверагоднасці, выдумкі розныя. *Кажны дзень усё новыя вындрымусы ў яго.*

ВЫ′ЦЕПКАЦЦА *зак.* Так абшмаргацца (пра адзенне), што ніткі пачынаюць аддзяляцца. *Рукаў у каптанчыку выцепкаўся, дай зарублю, а то брытко — ніткі вісяць.*

ВЭ′ДЛУГ *прысл.* Паводле, у параўнанні. *Вэдлуг учарашняго, то ты мало скасіў сёня.*

ВЯДРО′НЫ *прым.* Багаты, ураджайны. *Такія вядроныя сады ў гэтум годзі, от будзя яблыкаў! Увесь базар слівамі заваліця, такія вядроныя яны ў вас.*

ГАЛЬ *ж.* Голае, даступнае вятрам месца. *Што ты раўняяш? Наш сад на галі — падуў вецяр ды атрос усе аблыкі, пабіліся, як адно.*

ГАЛУ′ЗА *м.* і *ж.* Недацёпа, галава садовая. *Эх ты, галуза, галуза! Колькі ні вучы цябе, а ты як быў дурням, дык дурням і застаўся.*

ГАЛЯ′НКА *ж.* Скібка, ломцік. *Я галянку каўбасы з′еў, смашная.*

ГАЛЯ′ЦЬ *незак.* Бегаць, лётаць. *Дзе гэта ты так цэлы дзень галяяш? Вялікі ўжэ хлопяц у яе, за дзеўкамі ва ўсю галяя.*

ГА′ЧКА *ж.* Матыка. *У агародзі зарасло ўсё, усохло, трэба прапалоць хоць збольшаго, гачкаю пагакаць.*

ГІБА′ *ж.* Мера (у ткацтве). *Гэта ж дзевяць гіб кужалю толькі той зімою выткала!*

ГІЧА′НЁ *н.* Лісце бурачнае. *Зеля нарвеш свіням — гічаня трохі, картаплянішча, макрыцы якой.*

ГЛЕ′НІК *м.* 1. Высушаны брусок абалоні, з якога дралі лучыну. *Высахла, як гленік.* 2. *перан.* Нага, калена. *Нашто ты выставіла свае гленікі, каб людзі лядзелі?*

ГЛЫ′МЗАЦЬ *незак.* Есці без адчування смаку (без ахвоты, пахапкам, па хваробе). *Калі тут есці? От глымзануў раз—два ды пабех. Які з яго работнік? Ні есць саўсем. Раз ці два глымзане дый годзі.*

ГО′НЫ *мн.* Мера даўжыні (каля 120 крокаў). *Праз цэлыя гоны мо, мо далей — ідзі так просто, надыбаяш.*

ГЛЫЦЬ *м.* Той, хто есць спяшаючыся, пражорлівы, прагны чалавек. *Глыць ты, ні ясі, а глытаяш. О, табе глыць гэты нешто ўпусціць!*

4. Зак. 1483

ГО'РБА *ж.* Куча. *Такую горбу картопляў згнаілі — ну і гаспадарэ.*

ГРА'ДКА *ж.* Адкрытая насценная шафка для посуду, лыжак і інш. *Міскі і талеркі на градцы ў нас стаяць. Сыночак, скоч у хату, вазьмі з градкі брусок і прынясі мне.*

ГУМО'ЎЦЫ *мн.* Гумавы абутак (боты, чаравікі). *Гумоўцы, якія трэ было б купіць на восянь — якраз на макрэчу добро было б.*

ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. *Гэтта пастаў — якраз добраё месцо для яго.*

ДРАБЯ'СТ *м.* Тычынкі (найчасцей — з ляшчыны), пры дапамозе якіх прыціскаюць і прымацоўваюць дубцамі слой саломы да латы падчас крыцця. *А драбясту такога добраго насёк — заглядзенё! Цяпер і крыць можно пачынаць. Толькі дубцоў мало.*

ДУРЫ'ЦА *ж.* Чалавек, які робіць не падумаўшы; дурніца. *Ты от паказаў бы гэтуй дурыцы, што і як, а то зноў зробіць ні тоё.*

ДУРЭ'Ц *м.* Няхітры, непрыстасаваны да жыцця чалавек; дурань. *Хіба ён паслухая цябе, дурэц гэты — ўбіласё нешто ў галаву, то і чайпе сваё.*

ДЫМІ'ЦЬ *незак.* Апрацоўваць спецыяльным спосабам цыбулю, каб не пагнала ў стрэлкі. *А ў мяне добрая цыбуля, і ўсю вунь дымлю на камінку цэлую зіму.*

ДЫ'РБА *ж.* Тонкі, высокі, як жэрдка, чалавек. *От вырасла, як дырба, ды што з таго — худая, сухая.*

ДЖВА'ГНУЦЬ *зак.* Ударыць вельмі моцна. *Узяў кала ды як джвагня па карові.*

ДЖВЭ'НГАЛО *н.* Той, хто гаворыць надакучліва адно і тое ж. *Джвэнгало староё, як ты мне абрыдло, ратунку німа!*

ДЖВЭ'НГАЦЬ *незак.* 1. Стукаць, грукаць. *Хто так джвэнгая каля калодзяжа вядром?* 2. Гаварыць адно і тое ж. *От джвэнгаяш бясконца над вухам.*

ДЖГА'ЦЬ *незак.* 1. Біць. *Джгаю кажын дзень, як скаціну якую, а ён усяроўно сваё право правіць.* 2. Шпарка ісці, бегчы. *Палядзі, хто гэто так джгая цярэспаля?*

ДЗВІ'НУЦЬ *зак.* Скрануць з месца, пацягнуць. *Наклалі воз, як дзвінуць.*

ДЗЯЎЧУ'К *м.* Дзяўчынка-падлетак. *Дзяўчук пабег. Колькі гэтай бабі гадоў, а як дзяўчык усё — невысокая, худзенькая, рухавая.*

ДЗІВІ'ЦЦА *незак.* Глядзець. *Падзівіся, ці не ідуць каравэ з ранніцы.*

ДЗЫ'ГАЦЬ *незак.* Скакаць. *Ён добра дзыгая, спартсменам можа быць.*

ЖЫТКАВА'ЦЬ *незак.* Вібрыраваць. *Чаму ты, сынку, алешынку гэту ні перасёк? Яна жыткуя ў цябе на плячы, нясці кепско.*

ЖЫ'ТКІ *прым.* Гнуткі, эластычны. *Узяў бы твой бацько жыткаго дубчыка, скінуў бы ганавічкі ды высяк бы добранько — нябось, ні палез бы ў чужы агарод.*

ЗАКАПЫ'ЛАК *м.* Капрызны, фанабэрлівы чалавек; задавака. *Ну і закапылак урадзіўся — ні падступіся да яе.*

ЗАКУ'ТНІК *м.* Дамасед. *Закутнік некі ні хлопяц — усе ў клуб пайшлі, а ён дома сядзіць. Закутнік няшчасны! Што ты можаш ведаць?*

ЗАНУРТАВА'ЦЬ *зак.* Паляцець потырч, заараць носам. *Сёня лепш ні ісці на вуліцу, такая слізгота — я як зануртавала, як бразнулася аб зямлю.*

ЗАРАХЦЕ'ЦЬ *зак.* Захацець вельмі. *Бывая, як зарахціць што, хоць ты яму што хочаш, усяроўно сваё зробіць. Гэтак ужэ замуж зарахцела, гэтак захацела, дзе ты яе ўтрымаяш.*

ЗАТАРА'НЧЫЦЬ *зак.* Занесці асцярожна. *Дачушку от затаранчыла да мацеры, то і ўзялася за работу.*

ЗА'ЎША *прысл.* Заўсёды. *Прыдзя заўша ні тады, як трэба, час толькі марнуй з ім.*

ЗАЦІ'НЛІВЫ *прым.* Наравісты. *От купілі некую халеру зацінлівую, то і стаіць сабе ў хляве, а мы пяшком у горад ходзім. Прадаваць трэба, які гэто конь?!*

ЗБАБЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Ударыць з усёй сілы. *Як падскочыць, як збабэнчыць калом па чалавеку, той і асеў.*

ЗБО'ЎЧЫЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць чым-небудзь. *Вось як збоўчу кулаком па галаве, дык і духу ні ўкажаш.*

ЗБЫЦЬ, ЗБЫТ *прысл.* Вельмі, надта. *Збыць кепскі ёй трапіўся сем'янін. У нашых суседзяў збыць добрая вада, ні выказаць словамі якая.*

ЗБЫТКАВА'ЦЬ *незак.* Насміхацца, кпіць, жартаваць. *Знайшоў з каго збыткаваць? Раўня ён табе, ці што?*

ЗБЫ'ТКІ *мн.* Насмешкі, кпіны. *Няма чаго з старого збыткі строіць.*

ЗБЭ'НЧЫЦЬ *зак.* 1. Уздуцца. *Цэлы дзень на каню-*

*шыні недзя гэтая карова прахадзіла, дык от і вбэнчыла так.* 2. *перан.* Узлавацца. *Сказалі ні па шэрсці, збэнчыло яго, усхадзіўся.*

ЗБЭ'РСАЦЬ *зак.* Зрабіць абы з рук, сапсаваць. *Усё полё збэрсаў — як ён гараў, хто яго ведая.*

ЗВО'ДЫ *мн.* Нагаворы. *От ходзіць толькі па сяле ды зводы зводзіць.*

ЗВЯРЭ'ДЗІЦЦА *зак.* Надарвацца. *Работа ні цяжкая была — ні вельмі ты звярэдзіўся.*

ЗДАЙНА' *прысл.* Нагбом. *Можаш і здайна напіцца, яшчэ яму кружку падавай!*

ЗНУ'ХТАРЫЦЬ *зак.* Уведаць, дапільнаваць. *Гэтакі ўсюды знухтарыць, усюды дападзе.*

ЗЫ'ЗЫ *мн.* Стан крайняй абуранасці, злосці. *Хібы ты мне на зызы не нарвешся; жыў ні буду, як я табе гэто дарую.*

ЗЯЛЕ'ПУХА *ж.* Жаба. Але на жаб так амаль не кажуць. Затое калі хочуць назваць чалавека жабай, то часцей за ўсё абзываюць зялепухай. *Які яна чалавек — зялепуха гэто, а ні чалавек.*

І'МПАТ *м.* Цяжкі дух, смурод. *Такі імпат у нос даў, хоць ты з хаты ўцякай.*

КАЗЯ'К *м.* Любы, апрача баравіка, ядомы грыб. *Пайду ў лес, то мо казякоў якіх назбіраю хоць, так грыбоў захацеласё, так захацеласё.*

КАНЧА'Р *м.* Кавалак. *З'еў гэтакі канчар каўбасы! Такі канчар поля незасеяным застаўсё.*

КАШУТА' *ж.* Перхаць. *А кашуты ў цябе, хлопча, кашуты — твая маці цябе, мусіць, у год раз і то ні мыя!*

КВАС *м.* Мясная страва з дробна нарэзанай бульбы, з сушанымі грыбамі, цыбуляй і іншымі прыправамі. *Квасок ні з трасок* (прымаўка). *З якім смакам я квасу сёння паеў. Мамо, ты часцей варыла б. Але, мусіць, грыбоў, мало ўжэ засталосё?*

КЕЛБ, КОЎБ *м.* Невялічкая рачная рыбка. *У гэтых келбаў надто ж мясо смашнаё — такоё далікатнаё, такаё белаё!*

КЕ'ПЕЛЬ *м.* Загрывак, патыліца. *Добры ў яе мужык быў. Яна нават біла яго. Як заздуецца, натаўчэ, натаўчэ ў кепель, а ён нічого, усміхаяцца толькі.*

КЛЕ'ВАЦЬ *незак.* Ледзь ліпець, быць хворым, слабым. *Бацько наш ледзвя клевая, такі слабы, такі слабы!*

КЛЕ'ШНЯ *ж.* Калашына. *От закачвай клешні ды*

*ідзі, тут плытко, ні намочышся. Клешні так абрындай, так зацёгай, што глядзець гатко.*

КЛЮ'ЧКА *ж.* Тычка, пры дапамозе якой дастаюць ваду са студні. *Зрабій бы ты ключку люцкую, вады німа чым з калодзезя зачарпнуць.*

КО'РМНІК *м.* Япрук, пастаўлены на адкорм. *Два кормнікі па пудой пятнаццаць закалой — багато жыве дзядзько.*

КРЫВУ'ЛІ *мн.* Задняя частка воза (задóк), прыстасаваная для перавозкі доўгіх бярвенняў (колы на восі і дзве лапы, ззаду прымацаваныя да асі, спераду звінчаныя). Робяцца з мэтай прыдаць манеўранасць «возу». *Кіруй, сынку, улево крывулі вярні, бо за пень зачэпімсё.*

КУДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *У нас кудзельніцай поўная хата — заходзь, хлопчык, заходзь: вясяло.*

КУЗА'КА *ж.* Насякомае кузурка. *Не, ні жук, так некая кузака, чаго ты баішся?*

КУ'ЛЬКА *ж.* Ручка ў касе. *Кульку лепшую, тато, трэба зрабіць, а то гэтая нікудышняя, не змагу касіць.*

КУРДУ'ПЕЛЬ *м.* Недаростак. *Які гэто мужчына — курдупель некі. Нашто ты мне, гэты курдупель суняш? Сам еш такоё яблыко.*

КУРЧ, КУ'РЧЫК *м.* Сударга. *Глядзі, каб курч (курчык) хаця не схапій, вада ж халодная.*

ЛАДАВА'ЦЬ *незак.* Класці, грузіць. *Колькі можно ладаваць? Колькі воз вытрымая, толькі і ладаваць буду.*

ЛАСНІ'ЦЦА *незак.* Ільсніцца. *У нашай кароўкі шкура аж ласніцца — сытая, адпасвілася за лето.*

ЛАХТА' *ж.* Балбатуха. *Якая гэто баба? Лахта, а ні баба — гаворыць і гаворыць абы-што.*

ЛЕКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Дрыжаць, трэсціся. *От лекачу ўвесь ад холаду. Так перапалохаўся, што аж лекаціць, бедны.*

ЛЕ'ТКІ *прым.* Быстры на ногі. *Ты толькі паглядзі, жонка, які наш сусед леткі — ён у дваццаць гадоў ні хадзій так лёхко, як цяпер.*

ЛЕ'ШКА *ж.* Лапінка льну (пад лён, з-пад ільну) на загоне. *Лешка невялікай была, але лён урадзіўся, назбіраласё, дзякуй богу.*

ЛІХАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *А ліхачко! Ліхаежлівы які ты стаў? З якіх гэто пор?*

ЛІХІ': *на ліхі бок* — навыварат. *Надзеў рубашку на ліхі бок ды ходзіць сабе, палохая людзей.*

ЛЯ'ДА *ж.* Прылада, якая аблягчае пагрузку бярвення на калёсы. *Ні цяжко было. Ляду ж браў. Як бач, паклаў. З лядай лёхко.*

ЛЯДАВА'ЦЬ *незак.* Паднімаць, класці. *Такі ценжар — ледзвя ўтрох злядавалі.*

ЛЯДЗЕ'ЦЬ *незак.* Глядзець. *Лядзіць на мяне, лядзіць, а пасля, як крыкня!*

МАДЫГАВА'ЦЬ *незак.* Рамантаваць; рабіць, складаць як-небудзь. *Палядзі, суседзе, можа, як адмадыгаваў бы ты маю прасніцу — калываяцца, бачыш.*

МЭ'ТЛАХІ *мн.* Астатак, званне адно. *Я цябе на мэтлахі растрасу і мэтлахаў тваіх ні астанецца.*

НАБЭ'ХАЦЬ, НАБАБЭХАЦЬ *зак.* 1. Наліць без патрэбы. *Набэхаў кадушку вады. Набабэхая вады ў вару, а ты еш і богу дзякуй.* 2. Разліць. *Нашто ты ў сенях стольні вады набэхала.*

НАВО'ТЛЯХ *прысл.* Навотмаш. *Ударыў навотлях — звер ні чалавек.*

НАДУ'НДЗІЦЦА *зак.* Напіцца ўдосталь, уволю. *Надундзіцца малака, як бычок, залезя ў цянёк і храпе сабе!*

НАДУ'ЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца, абразіцца. *Ні зачапі такую паню — надулася ўжэ, закапыліла нос.*

НАДЫБА'ЦЬ *зак.* Наткнуцца, набрысці. *Ні вельмі много тых малінаў — от надыбала адно ме́сцячко, то назбірала крыху.*

НАПУ'ГАЦЦА *зак.* Напіцца праз меру. *Напугаецца той вады... Нашто яе столькі піць? Якая карысць з гэтаго?*

НАСТО'РЧЫЦЬ *зак.* Вывіхнуць, выкруціць. *Пальца насторчыла — і от баліць.*

НАСТРАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Падгаварыць, падбухторыць. *Настрапаліла суседку, нагаварыла чорт ведама што, і тая на плот ад злосці гатова лезці.*

НАЎМЕ'ЦЦА *зак.* Набрацца, назапасіць. *Адзежы на гэтаго гіцля ні наўмеяшся. Наўмеяшся на цябе тых грошаў?*

НЫ'ДЗГАЦЬ *незак.* Есці без апетыту, перабіраючы. *Паныдзгаў, паныдзгаў над міскаю, а есці ні хоча. Што з табою, работнічак мой?*

ПАВЕ'СМЯНЕ *н.* Дзве жмені ачасанага льну, скру-

чаных адпаведным чынам з мэтай перахоўвання. *Колькі ты павесмяняў зрабіла? Хлопчык, як павесмянё,— стаміўся так бедны, на руках заснуў.*

ПАДБІ'ЦЁ *н.* Падкладка ў адзенні. *Падбіцё на ваці, цёплаё, моцнаё — добро будзя.*

ПАДБО'Й *м.* Нарыў на падэшве. *Падбой гэтакі на назе. Чаму не абуваяшся? Як усяроўно няма ва што?*

ПАДВАРО'ТНО *н.* Выкуп за дзяўчыну, які перад варотамі маладой бяруць ад маладога, калі ён прыязджае яе забіраць. *Ты чула? Гэто аж пятнаццаць літраў падваротнаго далі за Надзю!*

ПАДЖА'РЫ *прым.* Лёгкі, падцягнуты. *Конь у яго паджары, лёхкі на хаду, ні тоё што якая абэржа.*

ПАДКАЛО'ТКА *ж.* Малочная страва з накрышанай бульбай, падкалочанай, як на зацірку, мукой. *Мамо, я так люблю падкалотку, навары, га? Далася табе гэтая падкалотка.*

ПАДСКРЭ'БУШАК *м.* 1. Хлеб з апошняга ў дзяжы цеста. *Дала некі падскрэбушак: сама еш гэтакі хлеб.* 2. *перан.* Апошні. *Ён самы меншы ў маткі — падскрэбушак.*

ПАДЦУКРАВА'ЦЬ *зак.* Увесці ў вушы, нагаварыць. *Падцукруя гэтаго мужыка, а той і кідаецца на суседзяў. От жонку ўзяў, дык узяў.*

ПАКЕ'ПВАЦЬ *незак.* Кпіць, жартаваць. *Што я табе равеснік, што ты з мяне ўвесь час пакепваяш?*

ПАЛАКА'ЦЬ *незак.* Паласкаць. *Цэлы дзень мыла — палакаць панясла на рэчку.*

ПАНІВА', АПАНО'ЎКА *ж.* Патэльня, скаварада. *Паніву трэба з ручкай купіць, лепш абыходзіцца з такой, зручней і ў печ і з печы.*

ПАРСУ'НА *ж.* Воблік, твар, пыса. *Каб твая парсуна згінула!* (праклён). *Усюды ўсуня сваю парсуну.*

ПА'СМЯНЁ *н.* Ачасаная жменя льну. *З дзьвёх пасмяняў круціцца пасля павесмянё.*

ПА'ЧАСІ *мн.* Адыходы пры часанні льну на шчотцы са свіной шэрсці. *Пачасямі часто патыкаюць аснову з кужалю — файнаё палатно палучаецца.*

ПАЧЫ'НАК *м.* Некалькі ручаек пражы, скручанай на адно верацяно для прасушкі. *Пачынак вунь на камінку ляжыць. Хлопчык, як пачынак,— пухленькі, тоўсцянькі.*

ПЕ'ЛЮСЦІ *мн.* Выхад з печы (уваход). *Гэто ж дзіця ў самыя пелюсці лезя — згарыць.*

ПЛА'ЦЁ *н.* Бялізна. *Столькі плацця намыла — усю гару завешала.*

ПЛЫ'ТКО *прысл.* Мелка. Тут плытко — не раздзяваючыся можно перайсці на другі бок.

ПЛЮ'ТА *ж.* Стан надвор'я, калі ні то снег, ні то дождж; хлюпота. *Такая плюта на дварэ, хоць з хаты ні выходзь.*

ПЛЯ'ГА *ж.* Слізь пры адхаркванні. *Нездаровіцца, браце. Плягай сыходжу ўвесь.*

ПРАКУЛІ'КА *ж.* Незвычайнае нешта, цуда. *Пракуліка некая, ні хлопяц. І чаго ён толькі ні вырабляя — і танцуя, і спявая, і на галаве ходзіць.*

ПРЫ'ДАНО *н.* Пасаг. *Прыдано яна ўзяла ні малоё — дзесянціну зямлі, сундук адзежы ўсякай.*

ПРЫ'СТАРАНАК *м.* Бар'ер з бярвення, які аддзяляе ток ад левай або правай стараны гумна. *Нашто такі высокі прыстаранак? У старану цяжко пералазіць. За прыстаранкам палядзі, у левай старане.*

ПУ'ЧКА *ж.* Верхні згіб пальца на руцэ; чучка. *А няхай цябе! Які ты неасцярожны — усе пучкі паабіваў.*

ПЫШ *м.* Прысак. *О, колькі пышу! Вось мы разгорням яго, накладзем туды картопляў, папякуцца яны, хлопчык, як булкі, будуць, скарыначка жоўценькая — аб'ядзенё!*

ПЭ'НКНУЦЬ *зак.* Трэснуць, лопнуць. *Ні пі так много — пэнкняш.*

ПЯРЭ'ДНІЦА *ж.* Спецыяльнае прыстасаванне ў пярэдняй частцы воза (з ланцуга, з вяроўкі) уціскаць сена, збожжа і інш. *Пярэдніца ледзвя ліпіць — дзе яна вытрымая такую дарогу?*

ПЯРЭ'ПАЛАХІ *мн.* Замовы ад перапуду. *Гэто ж вадзіла хлопца качаць пярэпалахі. Зблажэў, даўся нечаго весь. То хто яго ведая ад чаго? Мо спалохаў хто?*

ПЯЧА'ЙКА *ж.* 1. Пякотка. *Во каторы ўжэ дзень пячайка, як агнём, паліць, усё нутро перагарыць скоро.* 2. Рухавы, тэмпераментны (чалавек, конь і інш.). *У яго ні баба, пячайка некая, на ёй шкура гарыць.*

РАДЗЮ'ШКА *ж.* Дзяружка. *Акрыйся радзюшкаю, цяпло ў хаці, ні змерзняш.*

РАСО'Л *м.* Страва з хлебнага квасу або сыроваткі, маладых агуркоў, маладой цыбулі, укропу. *Расолу б з гуркамі пасёрбаць — зрабеця, бабы, ні палянуйцяся.*

РЫ′ХТЫК *прысл.* Такі самы; такі як. *Рыхтык бацюхно, і крышачкі пабрау́.*

РЭ′СЦІЦЬ *зак.* Дабіць, даканаць, пакараць моцна. *Ну, ён цябе рэсціць, на гэты раз ты ад яго не выкруцішся, хіба у́ хату толькі ні прыходзь. Добры касец з цябе. І гэты клін рэсціу́ такі.*

САВЯ′К *м.* Падбярозавік, абабак. *Якія там грыбы? Няма грыбоу́. От некалькі савякоу́ толькі найшла. Стары, як савяк.*

САЛО′ДНЫЯ *мн.* Салёнікі. *Салодных зварыць хіба, бо на другое што часу брак.*

САПАЦЕ′ЦЬ *незак.* Пыхаць жарам. *Печку напалілі, аж сапаціць. Гарачка у́ яго вялікая, аж сапаціць, так гарыць увесь.*

САША′ *ж.* Шаша, шасэ. *Сашу эсфальтам пакрылі.*

СВЯРЭ′ПА *ж.* Сурэпа. *Поле аж жоу́тым стала — так свярэпай укрыта.*

СЕ′МЯНЁ *н.* Льняное семя. *Семянё высушым, патау́чэм у ступі, солі дабавім ды будзям з картоплямі есці.*

СЛІЖ *м.* Невялічкая рачная сомападобная рыбка. *Палядзі, колькі я сліжоу́ налавіу́. Слізкі, як сліж* (прымау́ка).

СЛОЙ *м.* Сувой. *Яна за зіму два слоі палатна наткала. У сундуку можа пятнаццаць слояу́ палатна стаіць.*

СОК *м.* Тук. *Соку памакай — салодкі, з маладого сальца.*

СПРЫТНА′ *прысл.* Нявыбарачна, па парадку. *Еш спрытна, ні перабірай. Секлі спрытна, дзялянкамі* (лес).

СПЭ′ПАНДУ *прысл.* Зналёту, разгарачыу́шыся, нечакана. *От так спэпанду і у́скочыу́ у агонь, ні падумау́.*

СТАКВЕ′ЛЯ *прысл.* Так многа, гэтулькі. *Стакверя людзей у горад валіць — от базар будзя.*

СТАЛЬНІ′ЦА *ж.* Кухонная дошка. *Стальніцу вазьмі. Нашто ты на голум стале сала рэжаш?*

СТРАКАВА′ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Каравэ цэлы дзень стракавалі — дзе ім наесціся?*

СТРОК *м.* Гіз. *Каравэ строку баяцца — з кустоу́ і ні вылазяць.*

СТРУПЯНЕ′ЦЬ *зак.* Перапужацца да смерці. *Калі падкрадзецца, калі крыкне над вухам — той і струпянеу́ увесь.*

СТРЫХА′У́КА *ж.* Прылада, пры дапамозе якой кры-

юць кулявой саломай будынкі, падраўноўваюць, падбіваюць салому. *Стрыхаўкі ні ўмея ў руках трымаць — дзе ён табе пакрыя?*

СТРЫЧЫ'ЦЬ *незак.* Тырчыць. *Вунь цвік стрычыць у сцяне. Стрычыць увесь дзень на людзях бяз дзела.*

СУ'ЧКА *ж.* Сані з пакарочанымі, прыкладна напалову, палазамі, прызначаныя для вывазу лесу; моладзь каталася на іх з горкі, на лёдзе. *Сучка ў мяне моцная, любую штуку пакласці можно.*

СЦІБА'ЦЬ *незак.* Ісці шырокімі крокамі; шыць шырокімі захопамі. *Палядзі, як твой сваяк недзя вунь сцібая — ці ні ў горад, бо прыбраўся, як на вяселё. Няма калі шыць акуратно — от пасцібаю трохі, пасцібаю.*

СЦІ'БНУЦЬ *зак.* Забраць тайком, украсці. *Нехто сцібнуў. Кладзеш абы-дзе.*

СЧАЎРЭ'ЦЬ *зак.* Перакіснуць, перастаяць. *Твая капуста даўно счаўрэла, а ты чалавеку даеш — будзя ён яе есці! Гэто малако ні толькі скісло — яно счаўрэло ўжэ.*

СЯ'ДРАВО *прысл.* Ядрана. *Як сядраво на дварэ — да восяні ні далеко, мусіць.*

ТРУБІ'ЦЬ *незак.* Есці без меры. *От таптун! Трубіць і трубіць. Жуе і жуе.*

ТУ'ПКО *прысл.* Там, дзе можна прайсці без цяжкасці, без рызыкі; утаптана, уходжана. *Тут тупко — прайдзеш. Сцежка тут даўняя, тупко — ісці можно смело.*

ТЭ'ЎШЧА *ж.* Таўшчыня. *О тэўшча! О дуб! У тры абхваты ні абдымяш.*

УВАЎРЭ'ЦЬ *зак.* Упарыцца ад утомы. *Уваўрэў, як шчур, аж цячэ з чалавека. І нашто ты так бярэш?*

УДУ'ХА *ж.* Удушлівасць, астма. *А, браце, якоё здароўё? Мало адной бяды, дык удуха яшчэ напала. Не ссапуся вось.*

УДЫ'РЫЦЬ *зак.* Прыйсці ў галаву, стукнуць у галаву. *От удырыць чалавеку нешто дурноё ў голаў — ён і вар'яцея.*

УКАМЛЕ'НІ *прысл.* У адно імгненне. *Каб ты ўкамлені дайшоў, нават з месца ні скранулася б.*

УМАЛЁ'КАЦЬ *зак.* Упрасіць, угаварыць. *Пайдзі ў дзядзькі папрасі, можа, умалёкаяш як.*

УРЫ'МСЦІЦЬ *зак.* Паспець, дапяць. *А мая ты міленькая, ці ж я магу адна ўсюды ўрымсціць?*

ФА'ЙНЫ *прым.* Добры, спрытны, прыгожы. *О, дзеўка яна файная, ні гэтакага хлопца ёй трэба.*

ХАЛЮКІ' *мн.* Памінкі. *Бывая, як панапіваюцца на халюках, як пачнуць скакаць ды песні спяваць: нябожчыку сваё, а жывому сваё.*

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* Зяхаць, спускаць дух. *Як дам, дык і ні хаўкняш. Адзін ці два разы хаўкнуў — і ўсё, і выпрастаўся, бедалага.*

ХВА'НДА *ж.* Складка на адзенні. *Сярмяжка ў дваццаць хвандаў.*

ХРО'БУСТ *м.* Шыракалістая крохкая расліна. *Хробуст расце на мокрум месці — каля карчоў, каля канавак.*

ЦЁ'НГЛЯ *прысл.* Заўсёды. *Прывалачэцца цёнгля, каб душу толькі ад'ядаць. Ён цёнгля быў такі — спакойны, развважлівы.*

ШАХРА'Й *м.* Неашчадны, раскідлівы чалавек; транжыра. *Хіба з такім шахраям што калі будзяш мець — яму нічога ні шкада, усё недзя параздае, недзя параскідая.*

ШЛЕ'ЙКА *ж.* Падвясны шэст для адзення. *У дзеда была шлейка вешаць адзежу, і ў нас шлейка была.*

ШЛЫ'КНУЦЬ *зак.* Нырнуць пад што-небудзь, схавацца. *А ты шлыкні пад адзіяло — яна цябе там ні знайдзя, ні здагадаяцца, што там можаш быць.*

ШЛЯ'ГА *ж.* Кувалда з кавалка дубу забіваць калы. *О, гэто шляга! Тры разы стукнуў — і кол на тым свеці недзя. Яго і шлягай ні заб'еш, дурня гэтаго.*

ШТЫЛЯ'ЦЬ *незак.* Кідаць. *Ён так далеко штыляя каменя, што, здаецца, і ні відаць, дзе той падая.*

ШЧАВЕ'Й *м.* Шчаўе. *Цяпер шчавей ні збіраям на балоці, сеям у агародзі.*

ШЧАЎНЫ'К *м.* Лугавая расліна, лапушыстая, з высокім сцяблом, з семем, накшталт як у грэчкі. *Шчаўныку много панарастало каля канаўкі.*

ШЧО'ЛАК *м.* Рэдкая частка стравы. *Шчолаку дабаўця, а то адна гушча: я ні люблю густого супу.*

ШЧЫ'НАК *м.* Сена, збітае граблямі ў ахапак; пласт. *Са шчынкаў копкі складаям. У гэтай копцы ні больш як дзесяць шчынкаў сена.*

ШЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Пластаваць. *Трэба сена шчыняць, копкі класці, а то дождж каб хаця ні пайшоў.*

ШЫ'КАЦЬ *незак.* Шушукаць, шаптацца. *Што ты шыкаяш ёй на вухо? Усё некія сякрэты, а хай бог крыя...*

ЯГО'ЛІЦЬ *незак.* Сварыцца, грызціся штодня. *Яна яго кажны дзень яголіць, есць і есць, як ржа жалезо.*

Я'РКІ *прым.* Дабраякасны, востры. *Файны сярпок, яркі — такім жаць адна любата. Яркая каса, як агонь.*

*Г. У. Арашонкава*

# ДА СЛОЎНІКА ЧЭРВЕНЬШЧЫНЫ

Словы запісаны ў 1972 г. у час экспедыцыі па збору матэрыялаў для Лексічнага атласа беларускай мовы ў в. Рудня [1].

Як вядома, лексіка гаворак Чэрвеньшчыны багата прадстаўлена ў «Краёвым слоўніку Чэрвеньшчыны» (1929) М. В. Шатэрніка. У артыкуле І. Я. Яшкіна «З лексікі вёсак Дудзічы і Азярычына Пухавіцкага раёна» [2] пададзена яшчэ каля 150 рэгіяналізмаў, якіх не было ў названым слоўніку. Таму з сабраных у в. Рудня слоў не ўключаны ў падборку тыя, якія зафіксаваны ў гэтых працах.

У тых выпадках, калі зафіксаваныя ў в. Рудня словы адрозніваюцца словаўтваральнымі ці фанематычнымі асаблівасцямі, а таксама значэннем ці яго адценнем, яны ўключаны ў падборку з адпаведнымі спасылкамі на слоўнік М. В. Шатэрніка і артыкул І. Я. Яшкіна (скарочана Шатэрнік, Яшкін).

АДБАЗАВА′ЦЬ *зак. экспр.* Адлупцаваць. *Ну і адбазую яго, саглуміў, парэзаў і нічога ня вышла.*

АЛЬХО′ВІЦА *ж.* Кусты алешніку. *Пойдзям у альховіцу па шчаўя.*

АПЕ′РЫЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Во аперыў ката палкай, аш кеўкнуў.*

БАНЬСЮ′К *м.* Байструк.

БЕЛЬ *ж.* Белыя ніткі. *Бабы на ніткі белыя казалі бель. Ткаць буду бельлю.*

БІ′НДА *ж. абразл.* Гультаяватая жанчына, гультайка. *Юзікава Фэля такая бінда: то ляжыць, то па хатах пойдзя, пасёльніца, а дзеці як папала кідаюцца.*

БЛА′НКА *ж.* Драўляная планка.

---

[1] Вёска Рудня — цэнтр сельсавета, знаходзіцца на поўначы Чэрвеньскага раёна, у 23 км ад Чэрвеня, каля ракі Уша.

[2] З народнага слова. Мінск, 1975, стар. 110—118.

БУСЛО'ЎКА *ж.* Буслінае гняздо. *Буслам барану зацягнулі на буслойку.*

БЭНЬСЬ *м.* Байструк (Бэнісь 'т. с.' — Яшкін).

ВАЛАВЯ'НКА *ж.* Ваўнянка. *Валавянкі мочаць у вадзе, соляць сырыя — і так укусна.*

ВА'ЛЬНЯ *ж.* Сукнавальня. *Да вайны ў нас была вальня, сукно валілі.*

ВЕРХАВО'ЦЬ *ж.* 1. Верхаводка (рыба). *Верхавоць мошкі розныя ловіць, скача паверху, таму і верхавоць, яна пахожа на плотку.* 2. Вада на паверхні лёду. *Во пашла верхавоць, не пяройдзяш на той бок* (верхаводка 'т. с.' —Шатэрнік).

ВЕСНАЎСКІ' *прым.* Веснавы. *Веснаўскія сьвяты — паска, посьля ушэсьця, а патом сёмуха.*

ВО'БАЛАК *м.* Светлая хмарка ў пагодлівы дзень. *Абалакі пашлі, абалакоў многа.*

ВО'ТМУТ *м.* Вір, глыбокае месца ў рэчцы. *У Каншонкавым вотмуце ўтапіўся Юльчын хлапец. І на Крукавым вотмуце страшка купацца, чалавек мажэ ўтонуць.*

ВЫДАЛБА'НКА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з бервяна. *Выдалбанку робілі з тоўстага дзерава, бальшынство з ліпы, асіны.*

ГАЛАШЧО'К *м.* Марозная пагода, калі зямля не пакрыта снегам. *Галашчок, калі сьнегу німашака, а маразы, голая зямля* (галашчок 'моцны мароз' — Шатэрнік).

ГАЛЬ *ж.* Не пакрытая лесам прастора. *Галь — на балоця мала дзярэўяў: там бяроска, там бяроска. Касіў на галі.*

ГАРЛА'ШНІК *м.* Гарлянка. *Гарлашніку спарыла, выпіла зельля, палехчала* (гарлянка 'т. с.' — Шатэрнік).

ГАРШУ'Н *м.* Каршун. *У гаршуна добрыя капцюры.*

ГІРАВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць. *Каню надзяюць аброць, тады гіруй управа, улева.*

ДАРМО' *прысл.* Нядрэнна. *Сразу там дармо было, жыць можна. Заралі балота, пасеялі цімафеяўкі, дармо парасло, будзя падмога скаціня.*

ДЗЕ'ДЗЬВА *ж.* Расліна, падобная на асот, якая расце на лузе і ёю кормяць свінней.

ДЗЕРАЎНЫ' *прым.* Драўляны. *Трапло дзераўноя кастру выбіваць. Вяроўкі вілі дзераўнымі кручкамі. У дзераўной боццы жлукцілі плацьця.*

ДЗЯНЯ'ШНІ *прым.* Пра малако, надоенае днём, у поўдзень. *Дзяняшні ўдой і вячэрні ўдой здаём.*

ДУ'ЛЬКА *ж.* Пыл і дробныя адыходы валакна пры апрацоўцы льну. *Як чэшаш лён, мелкі пылочак лезя ў нос, кажуць дулька.*

ДУПЛЯНА'ТЫ *прым.* Дуплаваты. *Брушка дуплянатая, разрэжаш, а там пуста, дзірка. Дуплянатая дзерава, у ім вядуцца шаршні.*

Е'ЛЕЦ *м.* Ялец. *Елец як плотка патхадзя. Налавіў ельцаў.* Памянш. ельчык.

ЕРШ *м.* Ёрш. Памянш. ёршык.

ЖМА'КА *ж.* Жуйка. *Карова жуе жмаку* (жвака, жвайка 'т. с.' — Шатэрнік).

ЖУЖА'К *м.* Вялікая муха, якая кусае летам скаціну. *Жужакі — вялікія мухі, кусаюць кароў. Сьляпень таней за жужака.*

З *прыназ.* Ад. *З вайны жывот мне баліць і баліць.*

ЗАЖУ'РАЦЬ *зак.* Затлецца. *Ой сьмярдзіць, на печы нешта зажурала* (зажураць 'прыгарэць, крыху абвугліцца і пачарнець' — Шатэрнік; зжурыць 'пажоўкнуць, зрыжэць ад гарачыні на печы, каля агню (пра бялізну, адзенне)' — Яшкін).

ЗАКІ'НУЦЬ *зак.* Закрыць (комін). *Пайду закіну трубу, а то грыміць, я баюся пéруна.*

ЗАРЭ'ЦЬ *незак.* Світаць.

ЗА'СЬЦІЦЬ *незак.* Зацямняць, заступаць святло, агонь. *Ні засьці, адыдзіся трошачка ўбок.*

ЗАШАРАШЭ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім лёдам. *Зашарашэла рака, марозік ночы быў.*

ЗГРУЗІ'ЦЬ *зак.* Стаптаць. *Усё згрузілі на балоця каровы, і жабы няма, а то бывала начнуць квахтаць.*

ЗДО'ЛКУ *прысл.* Знізу. *Здолку пацягня плятню і лезя.*

ЗУБ *м.* 1. Буйное чорнае зерне ў жыце. *Які чорны зуб у жыця вырас. Зубы выраслалі ў жыця, іх настайваюць і п'юць;* 2. Памылка пры тканні, калі ніткі асновы ідуць зверху без пературыкання. *Зуб наткала.*

ЗЬДЗЕ'ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Сёння камары пякуць і ўдзень, я была зьдзелася ды зноў надзелася.*

ЗЬДЗЕЦЬ *зак.* Распрануць. *Зьдзень сьвітку.*

ЗЬДЗЯВА'ЦЬ *незак.* Знімаць (пра панчохі). *Зьдзену чулкі, горача.*

КАЗЛЫ' *мн.* Люцік.

КАКО'ШНІК *м.* Капытнік. *Балота было, гушкалася, як пойдзяш у какошнік, гушкаяцца, страшка так.*

КАМАРНЯ′ *ж. зборн.* Многа камароў. *Камарні столька, за камарнёй німа як у лес іці* (камарно 'т. с.' — Шатэрнік).

КАНЬ *ж.* Спосаб кладкі сцяны, калі бярвенне закладваецца ў шула. *Сьценку ні рубім на вугал, а робім кань. Гэта канявáя сьценка.*

КЕ′ЎКНУЦЬ *зак.* Піснуць (пра ката).

КЛЫ: вышывáць на клы. *На абразы вышывалі рушнікі на клы, панямношку в аднаго канца і з другога, а абрус вышываяцца укрух.* Завязаць на клы (на кол). *Платок завязала на кароткі на кол. Лясёнку зьвязуяш на клы і нясеш траву.*

КЛЮ′БА *ж.* Таўставатая трэска.

КАСТРА′ *ж.* Кастрыца (кастрыца 'т.с.' — Шатэрнік).

КРА′ТАЦЦА *незак.* Варушыцца. *Аш чырвана ад жукоў на бульбя. Паляджу, што крачуцца на лісьцяйку, страшка ажно* (кратацца 'зварушыцца з месца'; кратаць 'чапаць' — Шатэрнік).

КРУК *м.* Матыка з двума зубамі.

КРУКАВА′ЦЬ *незак.* Апрацоўваць зямлю крукам. *Крукуюць крукам на рысах, дзе цьвёрда.*

КУБА′Р *м.* Плеценая невялікая карзінка. *У кубар паложаць аблупляную лягушку, ставяць кубар на дно і ловяць ракаў.* Памянш. кубáрык, кубáрычак. *Кубарык із бяросты, ягады зьбіралі ў кубарычкі.*

КУНА′ТЫ *прым.* Густы, купчасты. *Каноплі былі галавістыя, кунатыя: гэта густыя галовачкі, кунацанькія. Кунатая бяроза.*

КУ′ПАВІЦА *ж.* Трава, што расце ў балоце на купінах. *Купавіца — зялёненькая трава, расьце на балоцінках кустамі.*

КУ′СТАЎЯ *н.* зборн. Кусты, хмызняк. *Кустаўя многа на нашай санажаці.*

ЛЕ′ТАШКА *ж.* Цяля, якое перазімавала.

ЛІН *м.* Лінь. *Ліны красныя, плодзяцца ў гразі* (лінь 'т. с.' — Шатэрнік).

МАСЬЦЁВЫ *прым.* Пародзістыя. *Наша кошка масьцёвая.*

МАХАВІ′ЦА *ж.* Месца ў лесе, зарослае мохам. *Дзе баравы мох расьце, там махавіца кажуць, а на балоцця імшарынка.*

МАЧА′Н *м.* Лясная расліна, якую выкарыстоўвалі для фарбавання. *У леся мачану нарвуць, у гаршкі на-*

*кладуць, ён прэя, робіцца чорны, ніткі саджаюць у яго і красяць.*

МІНТРЭ'ЖЫЦЦА *незак.* Адчуваць недамаганне. *Дзіця мінтрэжыцца, нешта яму нездаровіцца. Скаціна мінтрэжыцца, яг забалея* (мінтрэжыцца 'трывожыцца'; мінтрэжыць 'трывожыць' — Шатэрнік).

МЫЛА'ТЫ *прым.* Бязрогі (пра карову). *Мылáтая карова.*

МЯЧЭ'ЎНІК *м.* Балотная расліна.

НАДО'Б'Я *н.* Госці. *Ён справіў надоб'я. У тэй хаця было надоб'я.*

НАЗЫ'ВІШЧА *н.* Назва. *За нашым сялом палосы — сялібныя, асіньнікі, доўгія, начовачкі, шырокія, кабылья галава — разныя назывішча* (званьне 'т. с.' — Яшкін).

НАСА'ТКА *ж.* Бочачка. *Насатка, як вядро, ў ёй толька два дны і дзірачка. Бандары рóбілі насаткі, начоўкі выдалбалі.*

НАСТРЭ'НЧЫЦЦА *зак.* Намучыцца, нагаравацца. *Настрэ́нчылася я за свой век.*

НЕДАСЕ'К *м.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. *Недасек наткала.*

НО'ЧЫ *прысл.* Ноччу. *Ночы было хмарна, хай ба дождждык сабраўся. Днём нас папалілі, у Студзішча пагналі, а ночы ўжо красныя прышлі, тады дармо было.*

НЯСТЫ'ДНІК *м.* Сараматнік.

НЯСТЫ'ДНІЦА *ж.* Сараматніца.

ПАЛІ'К *м.* Гестка. *Мушчынам сарочкі шылі, цьвіклы ўстаўлялі, а на плячуках палікі.*

ПАМА'К *м.* Кусок намокшага бервяна. *У рэццы дзерава як крэпка намокня, то — памак. Кажуць: намок, як памак. Як мочаць каноплі ў возяры, наверх кідаюць памакі, кап пянька аптала на дно* (памак — 1. вымакшая вязка канопляў; 2. Іран. Непаваротлівы тоўсты чалавек — Шатэрнік).

ПАРА'ДНІЦА *ж.* Дарадчыца. *Я ўжо ні парадніца ім: часамі яны пераспораюцца.*

ПАСАБЕ' *прысл.* Паасобку, асобна. *Яны пасабе спалі, пасабе елі.*

ПАСЁЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах.

ПЕ'ЛЯКА *ж.* Пяшчаная, неўрадлівая глеба. *На пеляца нічога ні расьце, нават трава ні хоча расьці. Наша зямля — пеляка, тыднік і запыліць.*

ПЕЛЯКАВА'ТАЯ *прым.* Неўрадлівая. *Мая зямля пелякаватая.*

ПЕРАВА'ЛАМІ *прысл.* З перапынкамі. *Пераваламі ідзе дош.*

ПЕРАКАВЕ'Ц *м.* Папярочная баразна ў канцы поля. *Перакавец засадзіў бульбай* (перакавік, пярак 'т.с.' — Шатэрнік).

ПЕ'РУН *м.* Пярун. *Цёмная хмара ідзе — будзя перун. Перун страляя. Перуны б'юць часта.*

ПЛЕШ *ж.* Месца, дзе не ўзышло засеянае збожжа. *Сяголета ў многіх плешы на полі, а даўней ні было, каб зямля балела.*

ПЛОЦЬ *ж.* Плотка.

ПРАДУ'ХА *ж.* Ход вакол печы. *Як ёсь прадуха ўкрух печы, то добра, дух ходзіць.*

ПРО'ЛУПКА *ж.* Палонка. *Прасек пролупку на рацэ і рыбу ловіць зімой.*

ПРЫВА'РАК *м.* Мука з ячменю і грэчкі. *Ячмень і грэчку мяшалі і малолі на бліны — гэта прыварак.*

ПРЫВАРКО'ВЫ *прым. Прыварковыя бліны.*

ПРЫ'КІДЗЬ *ж.* Дзіцячая хвароба, вогнік.

ПРЫЛЮ'ДНЫ *прым.* Кампанейскі. *Ён прылюдны чалавек, мажэ к усім падыйсьці, усіх уважая.*

ПРЫ'ПЛЫЎ *м.* Смецце, якое вада прыбівае да берага. *Прыплыў — гэта і трэскі, і цыбульлё, цыбукі такія растуць пры беразя, восеньню зваляцца і плывуць, плывуць, да берага дзе прыстануць — вот і прыплыў.*

ПРЫ'ШЧЫНКА *ж.* Балячка. *Усё цела ў майго Юзіка на прышчынкі пайшло, папрышчылася, паўсхапваліся прышчынкі.*

ПЫ'СЫ *толькі мн.* Нявымалачаныя каласы. *Змалоціш ячмень цапамі, а пысы дзяржацца, тады трэба каласаваць зерня, тады пысы зьмятуцца, а зярно на рэшата патсяваць.*

ПЫ'ТАЛЬ *м.* Будынак, дзе пытлявалі. *Да вайны ў нас пыталь быў, стаяў ля вальні. Алей ціснулі ў пытлі, ячмень, пшаніцу пытлявалі* (пыталь — 1. лепшага гатунку памол папярэдне ачышчанага зерня; 2. лупцоўка — Шатэрнік).

РАЙДУНЫ' *мн.* Людзі з іншай вёскі і з іншай гаворкай. *У Гарадзішчы райдуны* (райдунка 'жанчына з іншай вёскі і з іншай гаворкай' — Яшкін).

РАССЬВІТА́ЦЬ *незак.* Світаць. *Рассьвітая, трэба ўставаць.*

РЫЗЯ́НКА *ж.* Коўдра, вытканая з анучак. *З рызьзя ткалі рызянкі. Плацьця парвецца, рвалі на ленточкі і ткалі рызянкі, а аснова із радна.*

РЫ́СА *ж.* Баразна, рад узышоўшых караняплодаў. *Па пяць рыс атвялі палоць. У нас рысамі шчытаюць: гэта мой участак пяць рыс, гэта твой участак пяць рыс.*

РЭ́ЗЬНІК *м.* Балотная трава. *Сьвіння ядуць добра рэзьнік, на крыніцы ў вадзе расьце.*

САЛАДЖА́ЦЬ *незак.* Станавіцца салодкім. *Саладуху рашчынялі з жытняй мукі, ставілі ў печ, і яна стаіць там ці на прыпячку і саладжая.* Асаладжаць *зак.* Стаць салодкім. *Мука асаладжая ў дзяжы, потым кісьня.*

САМАДЗЯЛКО́ВЫ *прым.* Самадзельны. *Ё самадзялковы дымар, пчол паткурваць, а раней трапку запа́ліць і дыміць* (самадзелак 'самадзельная рэч' — Шатэрнік).

СЕ́ДЗЬБА: се́дзьба сядзе́ць. Сядзець працяглы час, не падымаючыся. *Баба бывала седзьма сядзіць, прадзе тальку.*

СІЛЯ́ЦЬ *незак.* Нанізваць. *Дубова лісьця зьбіралі, на нітачку сілялі, тады павесяць у будыніну вяслы і сохнуць. Бывала пойдзяш у лес, возьмяш нітку, іголку і сіляяш лісьцяйка.*

СІНЯ́ЎКА *ж.* Малая каляровая рыбка.

СПРЭ́КУ-ВЕ́КУ *прысл.* Спакон вякоў. *Спрэку-веку, калі ідзе дош на Барыса, дык на гару бярыся.*

СТАНДА́РА *ж.* Укапаны ў зямлю слуп, на які кладзецца першы вянок зруба. *На дубовых стандарах ставяць дом. Сагніе стандара, і дом асуняцца, тады новую патстаўляюць стандару.*

СТАРЫ́К *м.* Месяц у апошняй квадры. *Первая квадра сышла, потым другая квадра, пасьледняя квадра — старык. Саўсім сходзіць месяц — кажуць старык.* Памянш. *старычок.*

СТРЭНЧ *ж.* Клопат, турбота. *Хлопяц вот стрэнчы вам дастаўляя: тоя ні хоча, тога дай.*

СТРЭ́НЧАНЬНЯ *н.* Клопат, турбота. *Надаела стрэнчання каля печы.*

СУВЕ́Й *м.* Мяцеліца. *Сувей вялікі ночы быў.*

СУ́ДЗІНА *ж.* Пасудзіна. *Каноплі клалі ў судзіну ў цёплую ваду, і яны там прэюць.*

СЬЛІ'ЖЫК *м.* Невялікая рыба, падобная да ўюна. *Сьліская рыбка, без лускі, большыя сьліжыкі ні растуць.*

СЬЛІ'ШЧА *н.* Сцелішча. *Лён сьцеляцца на сьлішчы, снапкі развязуяш і сьцеляш. Чатыры нядзелі паляжыць і трэба падымаць. У нас сьлішча каля азярца было, так і звалі — азярцо. Кіломятра паўтара ад дзярэўні да сьлішча.*

СЬПЕ'ШКА *ж.* Скараспелка (пра бульбу, агуркі). *Сьпешка скора расьце і цьвіце. У мяне сьпешкі тры баразны, ужэ можна капаць. Гуркі сьпешкі, пяць сёня ўзяла, але пустацьвету многа.*

СЫПУ'Н *м.* Сухі, сыпучы, як пясок, снег, а таксама дрэнная пясчаная зямля. *Сьнег сыпун, як пясок. Зямля нецікавая, сыпун нейкі.*

СЫЧО'ЎКА *ж.* Пасма нітак на клубку. *Як плоха матаяш, то сычоўка ссыпацца мажэ с клупка.*

ТА'ЛЬКА *ж.* Тонка спрадзеныя ніткі. *Пралі бабы тальку, выпрадалі тоненечка-тоненечка. З талькі ткалі намёты.*

ТРАЯ'К *м.* Бервяно даўжынёй 6 метраў. *Траякі на дошкі рэзалі* (траяк 'старадаўняя манета ў Беларусі= =1 1/2 кап. (3 грошы)' — Шатэрнік).

УЛАВІ'ЦЬ *зак.* Злавіць. *Улаві гуску малую, ня ўкусіць цябе.*

УНО'РЫСТЫ *прым.* Скручаны, з цвёрдай драўнінай. *Унорыстая дзерава, скручаная, яго ні ўсеч.*

УПЕРАК *прысл.* Супраць. *Як табе ня стыдна, уперак усіх пашла, нястыдніца ты.*

УРО'ДНА *прысл.* Урадліва. *Як уродна, тады грыбоў кучамі, чародамі растуць грыбы. Хто пабяжыць першы, ведая месты, баравікоў нарэжа кош. Сёлята ніўродна, дробнянькія ягады.*

УСЬМЯ'ГНУЦЬ *зак.* Упрэць. *Каноплі ў печы ўсьмягнуць, як алей усяроўна.*

ЦУ'РКА *ж.* Лядзяш. *Цурак многа вісіць. Во малымі дзецьмі палізалі цуркі, і горла ні балела.*

ЦЬВЕХ *м.* Цвік. *Многа цьвяхоў купіў, чыстакол гарадзіць буду. Цьвяхі жалезныя. Памянш. цьвяшок.*

ЦЭР *ж.* Нарасць на дзераве. *Губа — ад бярозы, а на алешыня цэр, цэр жоўтая, іскра папала на цэр — ні патушыць.*

ЦЮХЛЯ'К *м.* Матрац. *Цюхляк с пільсьці. У нас бы-*

*ла вальня, атходы мылі на рэццы, сушылі і робілі цюхлякі замест падушак.*

ЦЯГЛО′ *н.* Род заработку. *У цягло паедзям, лес на рум вазіць.*

ЧЫ′ЛЫ *прым.* Незнаёмы. *Чылы чалавек. Чылая места.*

ШАПАВА′ЦЬ *незак.* Шукаць. *Што ты ўсё шапуяш, ня нойдзяш.*

ШАРШЭ′НЬ *м.* Шэршань. *Шаршні водзяцца ў леся, у дуплах, на сенакося ў куп'і, іх мёт укусны; найдзяш у гранцы мёт і прас саломку смокчаш. А як шаршэнь укусіць — от баліць* (шэршань 'т. с.' — Шатэрнік).

ШАРЭ′Ш *м.* Намаразь на дрэвах. *Шарэш белы пайшоў па дзераве.*

ШЧАПА′ЦЦА *незак.* Трэскацца. *Ногі шчапаюцца, с пятаў кроў ідзе. Цяпер нікагда-ні шчапаюцца, босыя ня ходзяць, усё абуўшыся.*

ШЧЭ′ПЦІ *толькі мн.* Колькасць сыпучага рэчыва, якую можна ўзяць у тры сціснутыя пальцы.

ЯЕ′ШНЯ НА ВО′ЧКАХ. Яечня. *Яешня на вочках надаела штодня ядучы. У бяседзя ні пякуць яешню на вочках.*

*П. І. Сігеда*

# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА БРЭСТЧЫНЫ

Дыялектны матэрыял, які ўключаны ў гэту падборку, быў запісаны ў апошнія гады (пачынаючы з 1968 г.) у розных вёсках і раёнах Брэсцкай вобласці.

Увесь дыялектны матэрыял падаецца ў графічным запісу, прынятым у сучаснай беларускай дыялектнай лексікаграфіі. Такі запіс, натуральна, не можа перадаць усіх тонкасцей вымаўлення дыялектных слоў. Напрыклад, у некаторых гаворках пад літарай «ю» (пераважна ў новых закрытых складах пад націскам) «скрываецца» або дыфтонг [ý[і]] (*злюг,* Радзеж Маларыцкага р-на), або *і*, падобнае да *у* (*громю́тнык* 'расліна дуброўка серабрыстая', Трышын). Не абазначана вымаўленне напаўмяккіх зычных *р* і *к*: *р* перад *і* і *э* закрытым у гаворках вёсак Радастава Драгічынскага р-на і Павіцце Кобрынскага р-на (*рэ́ба, брікь, вріхь, рія, брэ́жэ,* 'частка галаўнога ўбору, які надзяваюць сваццi на вяселлі' (Павіцце Кобрынскага р-на), а *к* перад канчаткам *э* (закрытым) у гаворцы Радастава (*баля́скэ* 'шчыкеты', *ве́лкэ* 'драўляныя вілы з двума рагамі'). Не размежаваны *э* закрытае і адкрытае ў радастаўскай гаворцы.

У даследуемых гаворках перад *і* або перад *і*, падобным да *у*, вельмі часта зубныя (радзей губныя і цвёрданёбныя) зычныя вымаўляюцца цвёрда: *с-пуд ніх* (Сял.), *тілько, кулісок, сугік, на двю́р* (Рад.), *кулі́тка* 'тронак нажа', *ню́чка, злюг, курчі́* (Радз.), *ка́лдубіць* (Пуг.) і г. д. (У дужках пададзены ўмоўныя абазначэнні вёсак, пералік якіх гл. ніжэй). Цвёрдае вымаўленне гэтых зычных у нашым слоўніку не абазначана.

У некаторых словах і іх формах у абсалютным пачатку перад *і* ў гэтых гаворках вымаўляецца моцны варыянт фанемы /j/: *йі́стэ, йі́дло, йідя́ть, йіх, з йім,* але ў прынятым тут графічным запісу ў гэтым выпадку *й* не пішацца; гэта ж датычыцца моцнага або часцей слабога *j* у пачатку непачатковага складу перад *і*: *стойі́ть, мойі́х,*

*молодыйі, пуйіхав, выйіжджя́в, свуйім, пырыдуйіжджа, на нэ́йі* і т. п.

Розныя часціцы, словы, якімі падзываюць або адганяюць дамашніх жывёл і птушак, і іншыя экспрэсіўныя словы маюць своеасаблівае інтанацыйнае гучанне. Разнастайны спектр інтанацый у мнагазначнай і вельмі распаўсюджанай на Палессі часціцы *алэ́ (алэ́ ш)*. Гэтыя тонкасці нельга перадаць на пісьме толькі аднымі літарна-графічнымі сродкамі.

У радастаўскай гаворцы ёсць цікавы фанетычны закон: у мове людзей старэйшага пакалення ў канцы слова перад паўзай задненёбныя вымаўляюцца мякка: *сніхь, брікь, вріхь, чоловікь, бульбо́вныкь* 'бульбянік' і інш.

Прыняты наступныя скарочаныя абазначэнні назваў населеных пунктаў. Брэсцкі раён: Вульк.— Вулька, Пуг.— Пугачова, Трыш.— Трышын (~~цяпер~~ гэтыя тры вёскі ўключаны ў мяжу горада Брэста), Страд.— Страдзеч; Драгічынскі раён: Н. Пап.— Новая Папіна, Рад.— Радастава, Татар.— Татарнавічы; Іванаўскі раён: Мот.— Моталь; Камянецкі раён: Нав.— Навасёлкі; Кобрынскі раён: Дыв.— Дывін, Пав.— Павіцце, Сял.— Сялец; Маларыцкі раён: Мельн.— Мельнікі, Радз.— Радзеж, Чар.— Чарняны.

АБЫЯКЫ'Й *прым.* Неахайны. *С то́го дя́тькы сміялыся, бо він абыякый.* Радз.

АЛЭ' *часц.* 1. Няўжо?! (перапытанне са здзіўленнем).— *Чула? Марія вродыла хлопця.— Алэ́!* Радз. Алэ́-э? Рад. Алэ́ ш? — *Я ны піду с тубою! — Алэ́ ш?* Дыв. 2. Так (сцверджанне з адценнем здзіўлення).— *Ка́э, ты, ба́бо, ху́тко вмрэш.— Алэ́! Алэ́!* Мельн. 3. А як жа! (з адценнем абурэння). *Та я ны бачыв, алэ́!* (Быццам я не бачыў! Нібыта я (гэтага) не бачыў! Вымаўляецца пасля паўзы, прычым энергічна, коратка). Рад.

БАРА'К *м.* Сасна (адно дрэва). У мове старэйшага пакалення можна пачуць форму *байракы́ мн.* Страд.

БЗІК *м.* Стан узбуджэння жывёлы ў час спёкі, калі паяўляецца заедзь; гізаванне. *Бзік на курувы́ нападэ́.* Вульк.

БІНА'МНЭ *прысл.* Усё роўна. *А міні бінамнэ.* Рад.

БЛЫЖНЭ'Й *прым.* Абкладны (пра дождж). Рад.

БЛЮ'ШЧЫТЫ *незак.* Заплюшчваць (вочы). *Блюшч, блюшч очі, бу́ду лыты воду!* Радз.

БО'НДА *ж.* Булачка з пшанічнай мукі. Дыв.

БРІКЬ *м.* Авёс, які бралі каню ў дарогу. Рад.

БРОХОТНЯ' *ж.* Стукатня, грукатня. *Выдно, шо шэ нэўдалая ткальля, бо наробыла набылыцамы брохотні на ўсю хату.* Мот.

БУ'ЙМЭ *выкл.* Далібог. *Буймэ праўда! Буймэ ны знаю тóго слова.* Пуг. *Буймэ ны пожыну с тубою куруві.* Радз.

БУ'КАЧ *м.* Кій з патоўшчаным канцом, якім паганяюць жывёлу. Радз.

БУЛО'ТО *н.* 1. Балота. Дыв., Рад. 2. Сена з балота. *Дав курóвэ булóта.* Дыв.

БУ'РКАЛА *толькі мн.* Частка ткацкага станка — драўляныя блочкі, прымацаваныя да верхняй перакладзіны, якія рэгулююць становішча нітоў. *Ну й добрыі буркала выйдуть з клёна, алэ ёгó трэба напэрш просушыты.* Мот.

БУ'ХМАРОК *м.* Воблака, воблачка. Рад.

БУ'ХТА *ж.* 1. Яма, напоўненая вадой. Мельн. 2. Гразкае, непраходнае балота. *Ну й бухта! Ны пруйдэш.* Дыв.

БЫЛЫ'ЦЯ *ж.* Вавёрка. Радз.

БЯЗДУ'ШНЫК *м.* Тоўчаная бульба з фасоляй. *Прынэсэ́ міні бяздýшныка.* Рад.

ВА'ЖНЫ *прым.* Цяжкі. *Коб чоўнык буў зробляны з клёну, дрýгэ діло булó б, а то гэ́той бы камэнь важны. Лэдьвы шо ўволоклы́ ў хату ўдвох становы́ны* [бакавіны рамы красён], *гэ́такіі воны вáжныі.* Мот.

ВІ'ТКА *ж.* Мяцёлка проса, аўса. Рад.

ВЛОПАКЫ' *прысл. рэдк.* Хутка. *Побіг влопакы.* Сял.

ВОЛОТУ'ЗЫТЫСЬ *незак.* Дурэць, валтузіцца. *Нэ волотýзьтэся коля крóсён, бо нарóбытэ мні там лыха, потом нэ розбэруса.* Мот.

ВРІХЬ, ЎРІХ, УРІ'Х *м.* Паласа засеянага збожжа або бульбы. *Вріхь — зэмня́ між розбрамэ, у вріхувэ* 15—20 *бурузэ́нь, дэ вы́шшое полэ, на высóкому; ек вріхэ роблять, то сіють бульбу, ны садять.* Рад.

ВУЕ' *н.* Гарызантальная калодка, якая ўтварае корпус сахі; дышаль сахі. Радз.

ВУ'ЗДРО *н.* Ніжняя частка снапа. Рад.

ВУ'СЯЛКА *ж.* Шнур для дзіцячай калыскі. *Вýсялкэ в кулэ́сцэ вя́льмо слабéі.* Рад.

ВХЫ'ТЧЫНА *ж.* Наваселле. Дыв.

ВЫБЭ'НДЮВАТЫ *незак.* Капрызіць, перабіраць *Шо ты тут выбэ́ндюіш, йіш шо дають.* Сял.

ВЫГНЁ'СТЫЙ *прым.* Выгнуты. *Струг* [скобля, якой бондар вычышчае бочкі] *буває выгнёстый.* Пуг.

ВЫ'КАРАЧЫТЫ *зак.* Выпучыць (вочы). *І чого́ ты вы́карачыў очі!* Радз.

ВЫ'ЛОЧКЫ *толькі мн.* Дугападобная дэталь калаўротка, замацаваная на той жа восі, што і шпуля. Служыць для раўнамернага намотвання нітак па ўсёй шпулі. Радз.

ВЫ'СТАНОВЫТЫ ДУ'ШУ. Забіць, адправіць на той свет. *Тыі зло́дыі грошы забыруть, шэ й ду́шу вы́становлять.* Радз.

ВЫ'ЧАВКА *ж.* Нізкае месца, нізіна. *Дождік пруйшов, і як ідэш, то вуда цю́ркае с-пуд ніх, вича́влюіця.* Сял.

ВЭРЭТУ'ЗЫТЫ *незак.* Мыць бялізну. Страд.

ВЭРЭ'ТЫЯ *ж.* Невялікі астравок сушы сярод балота. Рад.

ВЭ'СМАГНУТЭ *незак.* Зрабіцца густым (пра варыва), уварыцца. *Капуста в пычы́ гэть вэ́смагла.* Дыв.

**ГА'ГАЎКА** *ж. груб.* Шыя; гарляк. *Плюнула юму́ пуд га́гаўку, пут шыю.* Радз.

**ГА'ГНУТЫ** *зак. экспр.* Памерці, сканаць. *Так на́лякаў мынэ, шо я чуть ны га́гнула.* Пуг.

ГАЛЕ'ВКА *ж.* Скураное колца, якое злучае дзве часткі цэпа. Н. Пап.

ГАЛЬВА' *ж.* Хамуцік з дубцоў для ўмацавання кожнага зуба бараны. Рад.

**ГАНДЗЮРА'** *ж. груб.* Шыя; гарляк. *Чулувік той подоліў во́ўка, колінОм ёго́ прыдушіў, шчэ ліпшэ прытягну́ў і різануў нужэм по гандзюрі.* Радз.

**ГА'РА** *ж.* Драўляная скрыня, якая адпавядае памерам воза і ў якой возяць сыпкае рэчыва. Н. Пап.

ГБА *ж.* Мера даўжыні асновы, якую падрыхтоўваюць для ткання. Пуг.

ГО *часц.* 1. *узмацн.* Вось. *Ой баба добрая: шоп то маты так мы́ла отако го́ о́! А го́чы ў еі ныwылычкі, зарошчуны ў шэрсьці, а ушка такыі ну го́ мале́нькыі. А лапы пырідніі пузаро́станы, як у качкы, помыжы ты́мы го пазуря́мы доўгымы. О́ одэ го́* [даслоўна: вось тут вось]! Радз. 2. *пыт.* А? *Батьку́, го́ батьку́! Зробы́ мні до́брого і*

*хоро́шого вэрстата. Ма, го́ ма! У мэнэ́ мусыть уже быльш чы́сныць получылоса, чым трэба.* Мот.

ГОЛЁ′СА *ж.* Балота ў лесе. *Лэдь пруйшлы́ чэрэз тую голёсу.* Радз.

ГРУ′МА *ж.* Гурба, сумёт. Рад.

ГРЫ′ВА *ж.* 1. Сухая, узвышаная мясціна сярод балота, нізіны. *Грыва́ — ны то груд, ны то булото: на груда́ ны путходыть і на булото ны путходыть.* Рад. 2. Верх саламянай страхі. *З мя́тэі соломы натяга́ють грыву. Положыв ко́зла такыі, шоб вітёр ны звэрну́в мні всю грыву.* Трыш. Грэ́ва *ж.* Касмык травы на скошанай сенажаці. Рад.

ГРЭБІ′НКА *ж.* Калодка ў граблях, у якую насаджаны зубы. Рад.

ГУДЭ′НА *ж.* 1. Час, пара. *Тувді́, як я був мулудэм, ны такая була гудэна.* 2. Надвор'е. *Ну й гудэна: субакэ на двыр ны вэ́жыныш.* Дыв.

ГУЛО′ *н.* Кут, куток у пакоі. *Поўбыва́е кулкы́ у гулі́, у однэ́му гулі́ і ў другэ́му.* Радз.

ГУЛУВЭ′НЬКА *ж.* Галавешка. *Глянь у піч: гулуэнькы́ шэ е?* Радз.

ГУЛУТЭ′ЧА *ж.* Беднасць, галеча. Дыв.

ГУРЗІ′ЛКА *ж.* Горла. Страд.

ГЫ′ДЫТЫ *незак.* Ганіць; ганьбіць, знеслаўляць. *Як начала́ гыдыты — ізгы́дыла ту бабу.* Радз.

ГЭЗ *м.* Стан узбуджэння жывёлы ў час спёкі, калі паяўляецца заедзь; гізаванне. *На́чалы быкы́ танцюваты так, як высною од гэ́зу (та як од гэ́зу — гызу́е скоты́на), хвусты пуддэрлы догоры.* Радз.

ГЭЦЬКІ′В'Е *н.* Поле пасля грэчкі. Рад.

ДВУРЭ′ЦЬ *м.* Двор каля хаты. Страд.

ДЖЮ′ГАТЫ *незак.* Шоргаць, шаркаць. *Ідэ́ і джюгае чубутьмы́.* Вульк.

ДЗЯ′ВКАТЫ *незак.* Брахаць надрыўна, дакучліва (пра сабак). *Собака дзявкае на ко́гось.* Пуг.

ДЗЯ′МАТЫ *незак.* Гаварыць пустое, абы-што. *І чо-го́ ты дзя́маіш!* Радз.

ДЛЯТО′ГО *часц.* Усё-такі, усё ж такі. *Мэ вжэ ду́малэ, шо тэ ныколэ ны прэдыш ду нас, шо убідівся мыцно, а тэ длятого прышов.* Дыв.

ДРАПА′Ч *м.* Дзяркач. Страд.

ДРАЧЭ′НЬНЕ *н.* Пілаванне. Дыв.

ДРЭ′ГАВКА *ж.* Ямкі на дарозе, ухабіны. Пав.

ДУЖА′К *ж.* Асілак. *Дужак — дужый чоловік.* Радз.

ДУЛЭ′НА *ж.* Голая лапіна на засеяным полі, на нізкім, мокрым месцы, калі збожжа не ўзышло. *Дулэна — тілько на нэскуму, дэ вуда стуяла.* Рад.

ДУСТРЭ′НЧЫТЫ *зак.* Нараіць. *На дрýгый дэнь моюй матыры дустрэ́нчылы люды ў пулувыны дня ўзяты свячоного маку, забыты дырку гусóвым кулóчком, осы́паты могы́лу і хату.* Радз.

ДУТЫНА′ТЭ *незак.* Упікаць, дакараць. *Чуго тэ мыні дутынáіш сітым, я ж ны вынуват.* Дыв.

ДЫВЧА′ТНЫК *м.* Малады чалавек, хлопец, які аддае перавагу таварыству дзяўчат. Страд.

ДЫ′НЬКА *ж.* Адно семя гарбуза, сырое або пражанае. Мельн.

ДЫТЮ′К *м.* Дзіця (хлопчык). *Колы́шка для дытюкá. Вы́дры булы́ б дытюкá зайілы, ягбы мы ны пубачылы.* Радз.

ЕГ БА′Ч *прысл.* Хутка, скора, як бачыш. *Ег бач прувіраімо лістэ́.* Рад.

Е′НЫЙ *м.* Іней. Рад.

ЖВЫ′КАТЫ *незак.* Характэрна гучаць — «жвык-жвык» (пра нітку ў пустой трубачцы, якая служыць для матання пражы). *У хаты стояла тышынá, оно булó чуты, як жвы́кала нытка ў юркóвы.* Мот.

ЖЖУ′ЧЫТЫ *зак. экспр.* З'есці з прагнасцю. *Він ужэ всэ жжýчыў.* Сял.

ЖЫ′СТЫЙКО *м.* Жыццейка. Кліч. форма: *Моя́ жы́стыйко! Моя дóлыйко, моя жы́стыйко!* Радз.

ЗА′БЫГЭ *мн. рэдк.* Нахіл на саннай дарозе, куды заносіць сані. Рад.

ЗА′КЫТКЭ *мн.* Тое, што і *зáбыгэ.* Рад.

ЗАЖЕ′ЛА *толькі мн.* Пачатак жніва. *Вжэ, мусыть, тры дні пруйшло, як булы зажела.* Мельн.

ЗАГНА′ТЫ *зак. безас.* Замаляваць, замазаць (вокны марознымі ўзорамі). *Пузаганéе чéсом лáсыцямэ, зажэнэ́, шо й шкла ны вэ́дно.* Рад.

ЗАКЛЕ′КЛЫЙ *прым.* Схуднелы. *Шось наш Вася зусім став заклеклый, ны йісьть нычóго.* Дыв.

ЗАЛО′Х *м.* Цаліна. Н. Пап.

ЗАЛЫЎКЫ′ *толькі мн.* Варыва ведзьмы. *Відьма залыўкы залывала: ўрэдні залыўкы залые, бы кроў; чы там на тэ́бэ зробыть, цы на дытя зробыть, шо ўмрэ.* Радз.

ЗА'ПІК *м.* Лаўка, па якой узлазяць на печ. *Ма́ня стала на запік.* Рад. За́пык *м.* Невялікія козлы (іх 2), якія стаялі каля печы і трымалі *пры́мусты* (гл.). Радз.

ЗА'ПЫЧОК *м.* Тое, што і *запык. В за́пычковы спалы. Він з до́сок зробляный: козлікы ставыш, на ных доскы, сідныка кладэш соломэю набытого і спыш.* Трыш.

ЗАРЫГОТІ'ТЫ *зак.* Заржаць. *Кунь зарыготі́ў.* Радз.

ЗА'ТУЛКА *ж.* Фартух. *Я пушэла хурошу затулку.* Рад.

ЗАТУ'ЛЭЦЬ *м.* Клінок, якім замацоўваецца каса на касільне. Трыш.

ЗАШКОРУ'ГНУТЫ *зак.* Пакрыцца ледзяной скарынкай. *Зэмля́ зашкору́гла, бурунуватэ ны будыш.* Трыш.

ЗВОНЯ'К *м.* Асобная частка вобада (чацвёртая ці шостая). Пуг., Трыш., Радз. *Звонякы́ роблять з бырозы. Кулэ́со робытьця з звунякы́ў.* Радз.

ЗВЫ'ЎНЫЙ *прым.* Вёрткі, жвавы. *Спорт на вуді показують: і дыу́чята спорцмэны такі звы́ўны.* Чар.

ЗГЫ'НКОМ *прысл.* Нагнуўшыся, прыгнуўшыся. *І вуна так йшла згынко́м.* Радз.

ЗДМУХ *м.* Дрыгва. Пав.

ЗДРО *н.* Ніжняя частка снапа. Н. Пап.

ЗДЫ'МКЫ *толькі мн.* 1. Дрыгва, непраходнае месца на балоце. *Такі здымкы, што курувы́ тупы́лысь.* Сял. 2. Расліннае покрыва на балоце, якое ўспухае, узнімаецца. *Здымкы — дэ здымаітьця мох, трава.* Сял.

ЗЛАМА'ННЫЦЯ *ж.: Шоп ты пушов на злама́нныцю!* [Каб ты пайшоў туды, дзе ламаюць рукі і ногі]. Сял.

ЗЛЮГ *м.* Аблога, аблужная зямля. *Трэба кы́даты горо́да на злюг.* Радз.

ЗНО'СНЫЙ *прым.* Так гавораць пра лес, у якім растуць высокія і роўныя дрэвы. *Хорошый ліс, зносный, бэз сучкі́ў.* Радз.

ЗРЭ'БЛЯНЫЙ *дзеепрым.* Няроўны ад няўмелага кляпання (пра касу). *Нэ вмі́ў клэпатэ, рэ́бу загнаў — от і стала куса зрэ́бляна.* Рад.

ЗУМЭ'СЛЭ *прысл.* Наўмысна. *От зумэслэ ны бу́ду гувурэтэ з ім.* Дыв.

ЗЫКРА'ТЫ *прым.* З вялікімі вачыма. *Вун вэльмы зыкраты.* Радз.

ЗЫЛО', ЗЭЛО' *н.* 1. Расліна (агульная назва раслін). *Панувы́й — зыло.* Радз. 2. Зелле. *З зыла́ роблять відьму:*

*закрўчують зылом добрэ, попуд рукамы, скрузь. Із зэла скрутять чоловіка, тым зэлом окрутять.* Радз.

ІГЫ′ *часц.* Так.— *Чы ты ўжэ йіла? — Ігы!* Сял.

І′ДЛО *н.* Апетыт. *Раньче мныго йіла, а тэпэр вжэ ныма й половыны того йідла.* Мельн.

ІЗГЫ′ДЫТЫ *зак.* Зганіць, абгаварыць. Радз.

ҚА′ЙДУП *м.* Пасудзіна, выдзеўбаная з дрэва. *Повны кайдуп солэ.* Рад.

ҚА′ЛДУБІЦЬ *м.* Драўляная падстаўка ў жорнах, на якой ляжаць камяні: яна зроблена з дзёўбанай калоды. Пуг.

ҚА′ЛДУБЭЦЬ *м., мн. калдупці.* 1. Бочачка. Вульк. 2. Тое, што і *калдубіць. Қалдубэць для журноў.* Радз.

ҚАРАМҚА′ТЫ *прым.* З крывымі ствaламі, карчакаваты (пра лес). Радз.

ҚАРАЧУ′Н *м.* Крывое і сукаватае дрэва. *Крывое дэрыво, тое, шо с сучкамы, то, каэ, карачун.* Радз.

ҚІ′РГАН *м.* Шматок пашы ці сенажаці, ці лесу сярод палёў. Пуг.

ҚІРУ′Х *м.* Страўнік жывёлы, кіндзюк. *Қірух ужэ поўны, бо натуптало затувкэю.* Рад.

ҚІШ *м.* Вялікая Мядзведзіца. Рад.

ҚЛАДОВЫ′ТЫСЯ *незак.* Стварацца (пра акалічнасці). *Ўжэ тры разы мні смэрть кладовылася.* Радз.

ҚОБА′НЯ, ҚУБА′НЯ *ж., мн.* Кубані. Упадзіна, выбітая жывёлай і запоўненая вадой, выбоіна. *Мыжы болотом е, як выб'е скутына, брюд; у тому брудовы вуда стуіть, то кубаня.* Радз.

ҚОБРЮ′ТОҚ *м., мн.* Қобрюткы. Қалаўротак, калаўрот. *З дэрыва такая пряха — то кобрюток.* Радз.

ҚОВРІ′ТОҚ *м.* Қалаўротак. *Шэ вун коврітка ны здзіймаў з горы, шэ лыжыть кудэля ны прéджэна.* Мельн. *Шо ў возў, шо ў ковріткy — всэ одно: колэсо.* Радз. Қоўрюток *м. Қоўрютка зробыў ясынюва, ясыніў коўрюток. Раньче на коўрютках прялы.* Радз.

ҚОЖУ′Х *м.* Тое, што і *здымкы 2. Такый кожух е на тэму болоты: вуда зрывае кожух од шчырцу. На тэму кожуховы гуйдатыся можна.* Радз.

ҚО′ЗЛЭ, ҚУЗЛЭ′ *толькі мн.* Металічныя вілы. Рад.

ҚОЛО′ДЗЯДЗЬ *м.* Қалодзеж. *Қолодзядзь — глыбока яма, дэ жывэ вода.* Мельн.

ҚОЛУДЁ′Қ *м.* Нож з драўляным тронкам. *Нюж-колудёк, бу то кулітка дырыв'яна.* Радз.

КОМЫЛГА′ *ж.* Нарасць на дрэве (на хвоі, на бярозе). Радз.

КОРЧ *м.* Сутарга. *Корч зайшоў у голюнку. Курчі заходять ў ногу цы ў руку.* Радз.

КОСЯ′К *м.* Вугольнік сталярны. Радз.

КО′ШАНКА *ж.* Скошаны луг. Н. Пап.

КРАЎЧА′ТЫ *незак.* Сквярціся (пра жаб). *Жабы краўчать.* Вульк.

КРУГЫТА′ТЫ *незак.* Вішчаць (пра парасят). *Поросята кругычуть.* Вульк.

КРУ′ТО *прысл.* Хутка, скора. *Тая баба круто говорыть.* Мельн.

КРУ′ЧА *ж.* 1. Вір. *Попаў у кручу і ны выплывэ.* Радз. 2. Завіруха, завея, мяцеліца. *Такая круча, што й собакы ны выгнаты з буткы на двюр. Круча — як сніх крутыть.* Радз.

КРУШНА′Я *прым.* Ломкая, крохкая. *Вырбына крушная, ны лізь, бо вырба крушная — впадэш.* Рад.

КРЫНЫ′ЧЫНА *ж.* Дрыгва, твань, багна. Нав.

КУ′КА *ж. дзіц.* Болька, рана. Дыв.

КУЛА′К *м.* Дуля, кукіш. *От дала кулака пуд нус.* Радз.

КУЛІ′СОК *м.* Сноп, абмалочаны не да канца. *Куліска ны вітэрусюють.* Рад.

КУ′ЛЬКА *ж.* 1. Кульба, кульбака. Рад. 2. Ручка касы. Трыш.

КУ′ЛЬША *ж.: сіно кластэ на кульшу* [класці сена па краях воза] — *ны будэ псоватысь.* Рад.

КУЛЭ′НЬКА *ж.* Луста хлеба. Дыв.

КУ′МАТЫ *незак.* Квакаць (перарывіста «кумммкумммм»). *Жябы так кумають:— Кум — кума, позыч пулутна.— Нашчо пулутно? — Дытына ўмырла!— Дэ лыжыть? — Пут столом. — Чым накрыта? — Постолом.* Радз.

КУПА′ЛНЫК *м.* Доўгая спадніца з грубага саматканага матэрыялу, якую надзявае жанчына капаць бульбу. Дыв.

КУПРЫ′ЦЯ *ж.* Драўляная ці металічная планачка ў верхнім камені жорнаў, якая трымаецца на шпяньку ніжняга каменя. Радз.

КУПЭ′ЛЯ *ж.* Купіны на балоце. *Самэ купэ, сама купына, купэля. Вэлікэ на булотэ купэ, трава рустэ, вышэр.* Рад.

КУРГА'Н *м.* Тое, што і *кірган. Мэжы полэм нызо́вына, лысок рустэ — то то́ курган.* Радз. *У кургано́вы, у тому курга́нчыку вся вода́ высохла.* Пуг.

КУРДУ'ПЫ *мн.* Бульба. *Раньче казалы ны картошка, а курдупы.* Радз.

КУСНЫКЭ' *мн.* Тонкія карэньчыкі цыбулі. Рад.

КУ'ЧА *ж.* Адгароджанае ў хляве месца для жывёл. Страд.

КУ'ЧКА *ж.* 1. Тое, што і *ку́ча.* Дыв., Пав. 2. Пячурка (ямка з боку печы, дзе сушаць што-небудзь). Дыв., Радз. *Пулужэ́, дочычко, запа́лкэ в кучку.* Дыв. 3. Снапок ільну. *Нарва́ла всюго́ дватцыть ку́чок льну.* Дыв.

ЛА'ГВІЦА *ж.* Невялікая бочка для засолкі сала. Пав.

ЛА'ГВІЦЯ *ж.* Тое, што і *ла́гвіца. Лагвіцю робять з дубовых душчок.* Рад. Ла́гвыця *ж.* Драўляная скрыня для засолкі сала. Дыв.

ЛАГО'ШЫ *мн.* Доўгія палкі, якія ўстаўляюцца ў драбіны воза, каб больш палажыць снапоў. Н. Пап.

ЛА'НЫЦА *ж.* Зашчапка, якая рэгулюе становішча ствала паляўнічай стрэльбы. Радз.

ЛАПА'СТЫЙ *прым.* Які падае вялікімі сняжынкамі (пра снег) [руск. «снег хлопьями», укр. «лапатий сніг»]. Трыш.

ЛА'СЫЦЫ *толькі мн.* Марозныя ўзоры на вокнах. *Ласыцы на о́кнах ны тта́ють. Сонцэ прыгріе — ласыцы тта́нуть.* Радз. Ла́сыцэ *толькі мн. В о́кнах ласыцэ пустава́лэ. Чесом зажэнэ́ ла́сыцямэ, шо й шкла ны вэ́дно.* Рад.

ЛАТУ'ХА *ж.* Саматканая світка. Дыв., Радз. *Раньче латухы́ такі шылы. Лату́ху пукажы ту́ю свою́.* Радз.

ЛАХ *м.* Лахман, рызман. *Бэруть наклада́ють на нэі ла́ха старэ́йкого.* Радз.

ЛЁ'ТКА *м., мн.* Лёткы. Шрот. Радз.

ЛО'ПАТЫНЬ, ЛО'ПОТЫНЬ *м.* Спецыяльны свердзел, якім прарабляюць адтуліну ў калодцы кола воза. *Для кулёс вун, вывэ́рчуваты дырку́ і бу́ксу ўбыва́ты. Ло́потні ў штэльмахо́ў бува́ють.* Радз.

ЛУШПЕ'КЫ *мн.* Лупіны (ад сланечніку, гарбуза і да т. п.). Мельн.

ЛЫ'СУХА *ж.* Высокае месца, дзе нічога не расце. *Сіялы буракы ны доходя́ лы́сухы. За лы́сухою добра паша. На лы́сусі ны хліб, ны ліс ны ростэ́.* Мельн.

ЛЫСЫВЫНА' *ж.* Урадлівая зямля. *Лысывына — то чурнузём.* Рад.

ЛЭ'ШІЧАТКЫ *толькі мн.* Шыны (хірургічныя). *Нажмыныла рўку: конпрэсы ставыла, шмальцом тэрла, а послЯ у лэшчаткы бралы.* Трыш.

ЛЮКУТІ'ТЭ *незак.* Дрыжаць. *А я сыжу сама в хатэ, пôвнучэ на ўлыцэ, страшно мні, вся люкучў.* Дыв.

ЛЯ'ДА *ж.* 1. Скрынка для саломы ў сячкарні. 2. Бёрда. Радз.

ЛЯК *м.* Спалох (нават у значэнні нейкага злога духа, звышнатуральнай сілы). *Ляк, откўль ты прыйшоў? Шоб ты з дымом пуйшоў!* (частка замовы). Радз.

МАНЮ'ШЧЫ *прым.* Пахучы. *Вельме манюшчы дікалон.* Рад.

МАРО'НЯНЫ *прым.* Ружовы. Рад.

МЁ'ТЛЫ *толькі мн.* Сонечныя палосы-праменні паміж хмарамі. *На нэбі от сонця йдуть мётлы.* Трыш.

МО'РКУТ *м.* Маркач. Радз.

МО'ТЛОХ *м.* Дробязь (дробная бульба). Сял.

МУЛ *м.* Незамярзаючае балота. *Мул — то болото, шо ны замэрзае, шчо мороз нэ бэрэ.* Мельн.

МУЛУКЫ'ТА *ж.* Маладая лаза, з якой плятуць кашы. Сял. Мулукэта *ж.* Дыв.

МУРІ'Й *м.* Дробнае і мяккае сена. *Мурій — сіно дрібнэ, мнякэ.* Рад.

МУТЫ'ТЫ *незак.* Падманваць. *Не, мўтыш, мўтыш, ты ны плакала.* Радз. Мутэтэ *незак.* *Ста дівчына дôбрэ мўтыть.* Рад.

МУ'ЧАНЫЦЯ *ж.* Каўбаса з мяса і крыві. *Хутко в нас бўдэ мучаныця.* Рад.

МЫГЫ'КАТЫ *незак.* Крычаць (пра бакаса). *Пэкун* [бакас] *мыгыкае.* Радз.

МЫЖЫ'ТЫ *незак.* Імжэць. *Дошч мыжыть.* Пуг., Радз.

МЫ'ЗЯ *ж. дзіц.* Карова. *Мызя прыйшла. Дам мызі пыты. Он мыська.* Радз.

МЫРШЧЫ'НА *ж. толькі адз.* Бязлюддзе (як быццам усё вымерла). *Ныкôго ныма, як мыршчына.* Радз.

МЫТЛА' *ж.* Сонечны прамень. *Мытла стоіть от сонця ў хаты.* Трыш.

МЫТЫЛУ'ХА *ж.* Мяцеліца. Мельн.

МЫХІ'Р *м.* Плавальны пузыр у рыб. Трыш.

НАБЫ'ЛНЫК *м.* Пласт сена, які можна ўзяць на вілы. Н. Пап.

НА'ГЛА *ж. эўф.* Смерць. *Як «Волгу» купыш, то й нáглу нáйдэш.* Радз.

НАЖМЫНЫ'ТЫ *зак.* Пашкодзіць, натрудзіць руку работай на агародзе. *Грацовала бýльбу і так нажмыныла рýку, шо прыйшлося конпрэ́сы стáвыты.* Трыш.

НА'ЗЭМКА ПШАНЭ'ЦЯ. Азімая пшаніца. Рад.

НАКЭЗНА'ТЫ *зак.* Закілзаць (каня). *Накэзнáў куня, сів і пуіхав.* Радз.

НАПЫКНУ'ТЫ *зак.* Намякнуць. *І вун ёмý напыкнýў, шо жóнка з другы́м гуляе.* Радз.

НАРУ'ЧЭ *н.* Бярэмя (дроў), ахапак (сена). Рад. Ахапак (сена). Мельн. Н а р у́ ч ч э *н. Отакых двінатцать нарýччуў налóжыш — і бýдэ купыця высокая.* Радз.

НАРЫНКУВА'ТЫ *зак.* (*незак.* рынкувáты). Напластаваць (сена). *Накосыш сіна, нагрыбэш, на насілныцы кладэ́ш копы́цю: так нарынкýеш, шо лэдь пудыймэш.* Радз.

НАТУЛЫ'ТЫ *зак.* Прыкрыць. *Муй дід ýзяў засвыты́ў сеічку, звэ́чору постáвыў, вэ́ртягою натулы́ў. Вэ́ртяга — такая мыска высока була чырыпляна, глы́няна.* Радз.

НАШЧОСЭ'РЦЭ *прысл.* Нашча. *Ны йіш ядёр нашчосэрцэ.* Дыв.

НАЯ'ДНО *прысл.* Дакучліва, надрыўна. *Собака на кóгось наядно так дзя́вкав.* Пуг.

НІ'ХРЫТЫ *незак.* Чахнуць, сохнуць. *Ніхрые чоловік, гэть схуд.* Радз.

НЫГУ'ДЛЫВЫ *прым.* Дажджлівы. *Ныгода, літо ныгýдлывэ.* Радз.

НЫРІ'ДНЯ *ж.* Падчарыца. Мельн.

НЫХЛЮ'ЖЫЙ *прым.* Дрэнны, кепскі. *Ныхлю́жы я́блыка.* Чар.

НЭГО'ГА *ж.* Няўклюда. *Вот якей-то нэгога.* Рад.

НЭ'НЬКА *ж.* Калыска (толькі вісячая; тая, што на круглых палазках, стаячая,— *кулэ́ска*). Рад.

НЭПОЛІ'ТОК *м.* Неўраджай, няўрод. *От тэпэр нэполіток на гарбузэ́. Ныполіток на ёгудэ — ягід ныма зусім.* Рад.

НЮ'НЬКА *ж.* Мордачка. *Нюнька у крота, пры́ха.* Радз.

НЮ'ЧКА *ж.* Кажан. *Як сонцэ зайдэ́, нючкы́ вылітáють на прулёт; выводятця ў дэ́рывовы, ў дуплóвы.* Радз.

ОБЛЮЗУВА'ТЫСЯ *зак.* Сцерціся (пра вал у гадзіннiку ці пра краі адтулін стрэлак). *Стрíлкы ходять на*

*шво́рэню; облюзу́еться і па́дае, бо у́жэ обробы́лася.* Трыш.

ОДБЫ'ТЫСЯ *зак.* Пакрыцца (пра кабылу). *Кобыла, ежэ́лі покры́та, то одбы́та: от, ка́э, ужэ одбы́лася.* Радз.

ОДЗЁ'МОК *м.* Тоўстая частка бервяна, 1—2 метры ад зямлі. Пуг. Одзэ́мок *м. На пудва́лкы дуба прывіз, одзэ́мка цілого.* Радз.

ОДРЫ'НА *ж.* Месца каля хлява. *О́сынню людэ возять сіно на одры́ну.* Рад.

ОДУВА'ЧКА *ж.* Пушыстае семя адуванчыка, сухая галоўка з яго насеннем. *Одува́чкы, одува́чка: фу́кны — і вун злыты́ть.* Трыш.

ОПЯ'ТРЫТЫ *зак.* Выпетраць (пра лёд). Радз.

ОСЦЁ'Н *м.* Доўгая палка з металічным стрыжнем на канцы, ёй паганялі быкоў. *Осцён — палка, кыёк больш́ый, і голка була́ у́ткнёна у́ кунэц. Як вун с пудвырля выіжджя́у́ і быкы почалы́ путска́кува́ты, то вун вы́тяу́ іх осьцюно́м.* Радз.

ПА'ДАНКА *ж.* Змяя (мядзянка?). *Паданка чэрвона.* Радз.

ПАЛЮВА'ТЭ *незак.* Цячы, не замярзаючы зімой (пра ваду ў рэчцы). *Палю́е вуда: прутё́к ідэ, шо ны замэрза́е, ідэ вуда прутё́ком.* Рад.

ПА'МОЛОДЫТЫСЯ *незак.* Пачынаць падрастаць (пра расліну). *Па́молодытьця, окрыя́е пусля́ моро́зу.* Радз.

ПАНУВА'ТЫ *незак.* Быць прыгодным, падыходзіць, адпавядаць. *То́е зыло́ почьті до у́сюго́ пану́е.* Радз. *Пану́е тыбі платьте.* Рад.

ПА'ШЧЭКА *ж.* Скіўіца (у воўка). *Той чоловік узя́у́ вовка за ныжню па́шчэку.* Радз.

ПЕ'РНАЧ *м.* Пярына. Трыш.

ПЕ'ХТО *прысл.* Пеша. *От, я пехто йшла.* Сял.

ПІ'ВО *н.* Пойла для свінней: вада з дадаткам мукі. Рад.

ПІ'ЛО *н.* Тое, што і *піво.* Рад.

ПІ'ТЯШКА *ж.* Стужка. *Вуна вплэла́ в ко́су пітяшку.* Рад.

ПЛАМЭ'ТЫТЫСЬ *незак.* Хандрыць. *Тэ знов пламэ́тыся.* Дыв.

ПЛАЎ *м.* Тонкае балота, дзе калышацца верхняе покрыва. *Плау́, плавэ́, шо ны можна пруйтэ: ты ідэш, а він дмэця пэрэт тубою.* Рад.

ПЛЫТЫНЯ′ *ж.* Пляцень. *Пло́та зробы́ў с плытыні. Нарубáў лозы́н, сплíў плытыню́, плют.* Радз.

ПЛЫТЮ′Х *м.* Балбатун, лапатун. *От такы́й плытюх стары́й.* Радз.

ПЛЭЧУВЫ′Й СТОВБ. Шула. Рад.

ПЛЮ′ТА *ж.* Дождж са снегам. Дыв., Радз. *Якая надворі плюта, шо субакы ны вы́жынэш.* Радз.

ПО′ВНУЧЭ *прысл.* Цёмна. *А я сыжу самá в хатэ, повнучэ на ýлыцэ, стрáшно мні, вся люкучý.* Дыв. Пóўночі *прысл. Ўжэ так поўночі.* Радз.

ПОДЫ′ЎЛЕ *н.* Дзівоснае здарэнне, дзіва. *Такэ́ страшнэ́ подыўле було́; зáраз нымá такóго поды́ўля — дывýютьця люды, шо слýчай такый получыўся.* Радз.

ПОМО′РОК *м.* Тлум. інфарм.: *мрэць, дыя́вул, нычы́ста сы́ла. Так вуна (тая похóвана вíдьма) стала худы́ты по смэ́рты ўжо помóрком. Этой пумóрок увуйшóў прус ту дырку до хаты.* Радз.

ПО′ПЛАВ *м.* 1. Заліўны луг. Страд. 2. Сенажаць каля хаты, каля агарода. *Поплав — грудóк куля хатэ, блы́зэйко. На мэжі куля поля прыгурудэ́в пóплава. Хоч прыдёра дэрэ́, хоч поплаў прыгурудэ́.* Рад.

ПОПЛАВУ′ХА *ж.* Першая маладая трава, якая расце па берагах рэк. *По ріццы ростэ́ поплавуха.* Нав.

ПОПЛАВЭ′Ц *м.* Месца на лузе, дзе жанчыны беляць палатно. *Тэпэ́рэчка тэплая вэснá, то бýдуть нáдто добрыі попла́ўцы́, доладý полóтна побы́лымо.* Мот.

ПО′ПЛЮСКЫ *толькі мн.* Доўгія палкі, якія ўстаўляюцца ў драбіны воза, каб больш палажыць снапоў. Н. Пап.

ПО′СТАРЫЙ *прым.* Не вельмі стары чалавек. Радз.

ПОТКУ′РОК *м., мн.* Поткуркы. Абцас. *Купыла субі туфлі на высокых поткýрках.* Радз.

ПРАЖЭ′ЛО *н.* Растоплены тлушч. *Матэ налылá пражэ́ла в бульбу.* Рад.

ПРО′ШВА *ж.* Навалачка. *Гáнно, налужэ́ прóшву на пóдушку* Рад.

ПРО′ШВУСТ *м.* Сатканае, але яшчэ не адрэзанае ад асновы палатно. *Шэ пáру цы́вок вы́тчу, да і прошвуст бýдэ готóвый.* Мот.

ПРУКІ′ВЭЦЬ *м.* Пярсцёнак, персцень. Страд.

ПРУ′ТКО *прысл.* Туга. *Як прадэ́ш, шнур крэ́пко ныткý тя́гнэ. Путкрунэ́ш шрýбу, шоп прýтчэ шнур буý.* Радз.

ПРЫГІ'Н *м.* Дамашнія жывёлы, якія бацькі далі як пасаг заручоным. Мельн.

ПРЫ'ДАНКА *ж.* Вясельная госця з боку нявесты. *Сва́ха е і на кажну сваху давалы тугды по однýй пры́данцы.* Радз.

ПРЫДЁ'Р *м.* Кусочак поля, які прыворваюць да свайго поля ці агарода. *Хоч прыдёра дэрэ, хоч по́плаў прыгурудэ́.* Рад.

ПРЫ'ЗВА *ж.* Дзве маладыя бярозкі, звязаныя верхавінамі, якія кладуцца на стог. Мельн.

ПРЫ'МУСТЫ *то́лькі мн.* Дошкі каля печы, якія клалі на дзве падстаўкі — невялікія козлы — і на якіх спалі. Радз.

ПРЫНЦЫПА'ЛУХА *м.* і *ж.* Ахайны чалавек. Дыв.

ПРЫ'СТАРЫЙ *прым.* Вельмі стары чалавек. Рад.

ПРЫТЮ'К *м.* Час, калі можна прасці і ткаць (пасля свят). *Вжэ прыйшóў прыт́ок — почы́нка прыволýк* (прымаўка). Радз.

ПРЫ'ХА, ПРЫ'ШКА *ж.* Мордачка. *А пры́шка малéнька такая, бы вы́малëвана.* Радз.

ПРЫЧВА'РА *ж.* 1. Прытворшчык. Радз. 2. Дзівакаваты чалавек. Пуг.

ПРЫШТЫ'ЛЬГУВАТЫ *незак.* Накульгваць. *Тая баба прышты́льгува́ла.* Радз.

ПРЫЯ'ТЭ *незак.* Жадаць дабра каму-небудзь, добра адносіцца да каго-небудзь. *Матэ, як ныхто, свуім дітём дубра прыя́е.* Дыв.

ПРЭ'КРЫЙ *прым.* Круты, стромкі (пра бераг). *Бэ́рух прэ́крый.* Рад.

ПРЯ'ДЛО *н.* Пража; прадзіва. *Мынэ за́вшэ хвалылы за муé пря́дло.* Радз.

ПСО'ТА *ж.* Шкода. *Вуна зробыла так, шо тая відьма ўжэ ны робыть псоты.* Радз.

ПУВНУЧО'ТА *ж.* Цемра. *Такая пувнучота на двуры́, ніц ны вэ́дно.* Дыв.

ПУДЗО'РНІК *ж.* Вышываная і аблямаваная карункамі фіранка, якую вешаюць на ложак. Пав.

ПУДРІ'ЗУВАТЫСЯ *незак.* Днець, світаць, развідняцца. *Нэбо пудрíзуецця, рузвыднéе, жовта нэ́тучка на нэ́бэ.* Рад.

ПУЗАЗА'ВТРЫЙ *прысл.* Праз тры дні пасля сягоншняшняга, на чацвёрты дзень. *Я прыдý ны взавтра, а пузазавтрый.* Дыв.

ПУЗАЗАВЧО'РА *прысл.* Тры дні таму назад, на чацвёрты дзень. *Було́ стэ дело пузазавчора.* Дыв.

ПУЗАЗАЗА'ВТРЫЙ *прысл.* Праз чатыры дні, на пяты дзень. *Вын казав, шо прыйідэ двацыть п'ятого чысла, значыть вжэ пузазазавтрый.* Дыв.

ПУЗБЫГА'ТЫ *зак.* Зарасці пустазеллем і ад недахопу святла зрабіцца вельмі малымі (пра буракі). *Буракы гэть пузбыга́лы.* Мельн.

ПУЗНА'КА *ж.:* *пузна́кэ ныма́* — і знаку няма. *Пулола-пулола стуго́ угуро́да — і ныма ныя́кыі пузнакэ: знов зарыс.* Дыв.

ПУКУЛО'ШКАТЭ *зак.* Патармасіць, разварушыць, разбудзіць (таго, хто спіць). *Йдэ́-но пукуло́шкай юго, хай встае́ хучый, бу́дымо йістэ.* Дыв.

ПУЛО'НЬ *ж.* Не пакрытая лесам прастора (на сухім месцы). Рад.

ПУЛУЗНЫ'ЦЯ *ж.* След ад палазоў на заснежанай дарозе. Рад.

ПУ'ЛЯТЫСЬ *незак.* Напружвацца з усіх сіл. *Чуго тэ пу́ляіся? Всё равно ны дуста́ныш, бо высо́ко.* Дыв.

ПУРТО'К *м.* Абрус. *Міні матэ купэла пуртка́.* Рад.

ПУСКА'ТЭ *незак.* Адступаць (пра зіму). *Зыма пускае.* Радз.

ПУТПА'ЛКЭ *толькі мн.* Бліны. *Мэ напеклэ́ путпа́лків сма́чных.* Рад.

ПУ'ХТЯ *м.* і *ж.* Той, хто надзьмуў шчокі. Пав.

ПУЦІ'В *м.* Адзінка меры, каля сямі кілаграм. *Пуцію́ жэ́та змэлэ́.* Рад.

ПУШКРІ'ПТАЧ *м.* Апошняе дзіця ў сям'і. Мельн.

ПЫРЫБУКА'ТЫСЯ *зак.* Перакуліцца. *Кабан збыў його з ног, пырыбука́ўся разю́ў тры.* Радз.

ПЫРЫБЭ'НДЗЮВАТЭ *незак.* Капрызіць, перабіраць. *У мынэ́ дітэ зроду ны пырыбэ́ндзювалэ, як у дру́гых, а йідеть, шо дасэ́.* Дыв.

ПЫРЫДУІ'ЖДЖА *ж.* Момант вясельнага абраду — другі прыезд сватоў у хату нявесты. Дыв.

ПЭРЭМУГТЫ' *зак.* Пашкодзіць, натрудзіць руку работай на агародзе. *Я ру́ку пэрэмугла́ жныва́мэ.* Рад.

ПЭРЭПАДЭ'СТЫЙ *прым.* Няўстойлівы, зменлівы (пра надвор'е). *Пэрэпадэстэ літо: то дошч, то пуго́да.* Рад.

РАЛЮ'Х *м.* 1. Палоска поля паміж межамі. *Ралюх, ралюхы́ — ў полю, а загон чы гра́тка — в огоро́ді.* Трыш.

2. Участак прыватнага агарода шырынёй 8—10 м і даўжынёй 50 м і болей, на якім садзяць толькі бульбу. Мельн.

РАНКУВА'ТЫ *незак.* Пластаваць (сена). Мельн.

РА'ПА *ж.* (радз. рапа́). Чырвоная неўрадлівая глеба. *Зэмля́ чэрвона, шо́рстка, пісок такый чэрвоны — ра́па. Дві-дна бу́льбына вы́ростэ — бульш не. Сама́ рапа́, ка́жэ.* Рад.

РІ'Я *ж.* Лыч. *Як вун стрілыў, попа́ў якраз у рію і выбыў ёму кло* [клык дзіка]. Радз.

РОСПА'ЦКАТЫ *зак.* Размазаць. *Ны чыпай, бо роспа́цкаіш краску.* Радз.

РУКА'ЎЧЫК *м., мн.* Рукаўці. Дажджавое воблака, навальнічная хмара. *Рукаўці дошчовы́е — вуны сы́вые. От рукаўчык вы́йшоў і пэрун забы́ў тылушку.* Радз.

РЫГОТІ'ТЫ *незак.* Іржаць. *Кунь вэрэшчы́ть, рыготы́ть.* Радз.

РЫ'ЖЫЦЬ *м.* Слой глебы рыжага колеру на глыбіні 15—20 см. Н. Пап. Рэ́жэць *м.* Жоўты пясок. Рад.

РЫПТЮ'Х *м.* Мяшок, сплецены з вяровак, у які кладуць сена для каня. Н. Пап.

РЫЧА'ТЫ *незак.* Рыка́ць, мыкаць. *Курова рычы́ть, бык рычы́ть. Чуго, вуна, ка́э, рычы́ть.* Радз.

РЭ'БА *ж.* Няроўнасці на палатне касы пры няўмелым кляпанні. *Ны вміў клэпа́тэ — рэ́бу загна́ў.* Рад.

РЭ'ВЭНЬ *м.* Ямка з вадой, крыніца. *Рэвэнь — ямка, дэ з діда-прыдіда вода жывэ.* Мельн.

СВІ'ТОМ ТОЧЫ'ТЫ. Ісці ў белы свет. *До́чкы пушлы́ світом точыты.* Радз.

СІ'РЫ *толькі мн.* Тое, што і *вы́лочкы.* Нав.

СКМЭ'ТЫТЭ *зак.* Скеміць, сцяміць. *Пупав я в гытко́е пулужэ́ніе, алэ ш скмэ́тыв, шо рубэ́тэ.* Дыв.

СКУ'РАТЭ *зак.* Быць пабітым. *Тэ у мэнэ́ ску́раеш!* Рад.

СКУТУГІ'Н *м.* Сцежкі, вытаптаныя жывёлай. Рад.

СО'ПКАТЫ *зак.* Папіхаць (кім-небудзь). *Ты йім бульш ны будыш сопкаты.* Радз.

СПІ'ВКА *ж.* Прамакатка. *У тэбэ́ кітра́ть бэс співкэ.* Рад.

СПТА'ШЫТЫ *зак. экспр.* Забіць (тайна). *І хутілы вуны ёго́ спташыты, вбыты.* Радз.

СТІН *м.* Вельмі тонкая ледзяная скарынка на вадзе. *Зашэрха́е вуда і робыцця стін — то́нэйкы літ, такый то́-*

*нэйкый, шо ку́рыцю ны здэ́ржыть, як бу́дэ йты по сцёновэ.* Рад.

СТОПНЯ'К *м., мн.* Стопнякы́. Стрэлка, кветканоснае сцябло цыбулі. Радз. Ступне́к *м. Ступнякэ́ на цыбулі і на шчав'юху́.* Рад.

СТОЎПА'К *м., мн.* Стоўпакы́. Тое, што і *стопня́к.* Пуг., Трыш. *Цыбуля ў стоўпакы пошла́, ў стоўпак.* Трыш. Стувпа́к *м.* Мельн.

СТРАМЫ'НА *ж.* Драбіны. Н. Пап.

СТРІ'ХЫ *толькі мн.* Лядзя́шы. *Стріхы вы́сять замэ́рзлыі. Потыклы́ стріхы.* Радз.

СТРУЛЭ'ЧНЫК *м.* Сланечнік. *Струлэчнык начына́е цвістэ́.* Рад.

СТУ'ЗАТЫСЯ *незак.* Бегчы ад перапуду. *Як то ты́і овэчкы́, шо то сту́заютця. Чоловік як на́лякаетца — кажуть: сту́зайся.* Радз.

СТЫ'ПЫР'Е *н.* Сцябло цыбулі. Мельн.

СУДУСЭ'ТЭ *незак.* Сустрэць, спаткаць. *Судусэ́тэ кугось.* Рад.

СУПЛЯКЭ' *толькі мн.* Лядзя́шы. *З длэ́гэ як ка́пае, суплякэ намэрза́ють.* Рад.

СУТІ'К *м.* Тлум. інфарм.: *курчі круго́м булота — то сутік.* Рад.

СУТУНІ'ТЫ *незак.* Змяркацца. *Вжэ сутуніе.* Рад.

СХВАНУ'ТЫ *зак.* Схапіць. *І схвану́ў воўк чоловіка за ру́ку.* Радз.

СЭ'ЛНЫЙ *прым.: Сэ́лна бульба.* Добры ўраджай бульбы. Рад.

СЯЎКОТІ'ТЫ *незак.* Пішчаць (пра гусянят). *Малы́і гусыня́та сяўкотя́ть, гусэня́ сяўкоты́ть.* Радз.

ТАРАНДІ'ТЫ *незак.* Балбатаць. *А баба та́я тарандыть і тарандыть.* Радз.

ТАСЬ-ТАСЬ-ТАСЬ! *выкл.* Так падзываюць гусей. Радз.

ТЁСЬ-ТЁСЬ-ТЁСЬ! *выкл.* Так падзываюць коней. Радз.

ТОЛЫНА' *ж.* Праталіна. Радз.

ТО'РКАТЫ *незак.* Упікаць, дакараць, лаяць. *Хай бы юй ўжэ то́ркалы, а Йвана ны чыпалы.* Радз.

ТРАСЫЛЭ'ВЫНА *ж.* Дрыгва. Нав.

ТРУБЭ' *толькі мн.* Вотруб'е (адходы ад памолу круп). *Ек мэ́лэш на ва́льцэ, на пэ́тэль муку́, утхо́дять трубэ́.* Рад.

ТРЫВЫ'НКА *ж.* Жонка братавага мужа. Дыв.

ТЬМЕ'НЫ *прым.* Ружовы. *Я пушэла тьмéнэ плáтьте.* Рад.

УЛЬ *м., мн.* Улі. Вулей. Пуг.

УПА'ДОК Ё ВІДАЕ! Ліха яго ведае! Рад.

УПУ'ХА *ж.* Пласт сена, які абвісае са стога. *Упуха упустэ́лася.* Рад.

УТРАВЭ'ТЫСЯ *незак.* 1. Унадзіцца, панадзіцца (рабіць шкоду, хадзіць у шкоду). *Утравэ́ўся ў гурóт, як вэ́прык у бульбу.* Рад. Утровы́тыся *незак. Тхюр як утрóвытця, дэ молоды́і курыня́та, то вы́носыть усí.* Радз. 2. Атруціцца. *Ку́ры утровы́лыся ут чугось.* Радз.

УШЧЫ'ПНЫЙ *прым.* Вузкаваты (пра адзенне, якое шчыльна прылягае). *Купэ́лэ п ужэ тыбі стэ пальто, хурошэ на від, але ж вэ́льмэ ушчы́пнэ, пурвэ́цьця ху́тко.* Дыв.

УЧВЭ'РЫТЫ *зак.* Натварыць, нарабіць, выкінуць штуку. *Калду́ньнік той дэ́шчо ўчвэ́рыть.* Радз.

ХВАНТЭ'НА *ж.* Адзенне да твару. Дыв.

ХЛЮ'БА *ж.* Тонкая палка, прут. *Хлюба — палочка тóнкая, вырбá.* Трыш.

ХЛЮГ *м.* Жэрдка. *Тэпэ́р штахэ́ты, а ра́ньче булы́ хлю́гы.* Радз.

ХЛЮ'ГА *ж., мн.* Хлюгы. Планкі, да якіх мацавалі снавалку. *Ны ма́е хлю́гы — снуўны́цю ставыты. А там ныма такы́х пырэ́кладуў — называ́юця хлю́гы.* Радз.

ХЛЯПАНЭ'НА *ж.* Сырая пагода з мокрым снегам. Рад.

ХМІЛ *м. рэдк.* Цвік, гвозд. Хмэ́лык *м. памянш.* Рад.

ХОЎП *ж.* Астравок (лесу). *Хоўп лісу.* Мельн.

ХРАПА' *ж.* Чырвоная неўрадлівая глеба. Рад.

ХРА'ПКУ ГНА'ТЫ. Біць па твары, па носе. *І пучалы́ вуны́ ёму храпку гнаты.* Радз.

ХРУ'СЦІК *м.* Галлё, ламачча. Н. Пап.

ЦЕ'ПАТЫ *незак.* Даіць. *Га́нко-о-о, ты ўжэ цéпала тылу́шку?* Мельн.

ЦЫБ *м.* Сцябло цыбулі. Радз.

ЦЫБА'Х *м.* Тое, што і *цыб. Цыбахэ́ росту́ть. Нашчы пáй цыбахíў.* Рад.

ЦЮХ *м.* Сабака. *Цю́хом нацкуéтэ там ёгó, лозу́ юму́ бырóзову!* Радз.

ЦЮ'ШКА-ЦЮ'ШКА-ЦЮ'ШКА-ЦЮ'ШКА! *выкл.* Так клічуць свінней. Чар.

ЦЯПРУ′К *м., мн.* Цяпрукы́. Кураня, якое яшчэ не вылупілася з яйца. Сял.

ЧАРІ′НЬ *ж.* Вялікае грыбное месца. *Цілый чарінь грыбіў знайшла́ у лісі.* Радз.

ЧО′ПУЛУХЭ *толькі мн.* Распушчанае валоссе. *Чуго трэсэ́ш чо́пулухамэ.* Рад.

ЧУГІ′ШКАТЫ *незак.* Гайдаць на руках дзіця. Страд.

ЧЭ′РЧЭЛЬ *м.* Цыркуль. Рад.

ШАБЛІ′ *толькі мн.* Фасоля. Мельн., Радз. *Ны пуска́й ў гурот, бо ўсі шаблі зьзісьть.* Радз.

ШАБЭ′ЛЬ *м. зборн.* Фасоля. Радз.

ШАЛЕ′ПАТЫ *незак.* Шчыкатаць, ласкатаць. Страд.

ШАМУ′ЛЬ-ШАМУ′ЛЬ! Азначае непрыкметны выхад адкуль-небудзь. *А вын слу́хае бу́тьтобэ, а сам шамуль-шамуль — і за двэ́рэ.* Дыв.

ШВУ′ХНУТЫ *зак.* Боўтнуцца, пляснуцца, плюхнуцца. *Вун шву́хнуў у во́ду і поплы́ў пуд вудо́ю.* Радз.

ШІРМА′ТЫ *прым.* Шырокі і круглы, пляскаты (пра зерне сачавіцы). Сачі́вка шірма́тая. Рад.

ШПЕ′РКА *ж.* Сала. Пав.

ШУЛЯКЭ′ *толькі мн.* Наросты на корані капусты. *Шулякэ́ пунаро́сталэ.* Рад.

ШУ′СТА *ж., мн.* Шу́стэ. Асцюк. *Шуста пупа́ла в о́ко, ріжэ — нымáе місьця. Ячмінь ш шу́стамэ.* Рад.

ШЧЫ′РЭЦЬ *м.* Чысты жоўты пясок. *Вуда́ зрыва́е ко-жу́х од шчы́рцу.* Радз.

ШЫ′БОД *м.* Апаўшыя голкі сасны, елкі. *Колю́чый шыбод. Шы́боду нагрыблы́. Шыбодо́ю* [незвычайная форма!] *то́плять.* Сял.

ШЫ′НДЫЛЬ *м.* Скаварада з ручкай. Н. Пап.

ШЫРЫ′Ш *м.* Тонкая ледзяная скарынка на вадзе. *Шырыш плывэ́, ріка замэрза́ты бу́дэ.* Трыш.

ШЫРЫ′ШЫТЫ *незак.* Пакрывацца тонкай ледзяной скарынкай (пра ваду ў рацэ). *Начына́е шырышыты, вжэ ріка́ замэ́рзла.* Трыш.

ШЭБУРШЭ′ТЭ *незак.* Рухацца; варушыцца, мітусіцца. *Вот ужэ гэ́тэ дітэ шэбуршэ́ть.* Рад.

ЯДРО′ *н.* Семя (гарбуза, сланечніку). Дыв.

ЯДРЫНЫ′ *прым.* Ядраны (пра зерне збажыны). *От хуро́шэ жэ́то квіту́е — бу́дэ ядрыно́е.* Рад.

Я′ДУХА *ж. Кашаль, астма.* Пуг.

Я′ДУШЛЫВЫЙ *прым.* Такі, які кашляе, якога мучыць кашаль. *Ядушлывы чоловік ко́лы дыше, свы́шчэ в*

*ёго, ядуха прэ, сюд ны тут — і кашляе.* Пуг. *Вун буў ядушлывый: кашляў харкамы, як старый дід.* Радз.

Я′ЛКА *ж.* Елка, яліна. Радз.

ЯЛО′ХА *ж.* Ялаўка, ялавіца. *Ялоха — курова, яка ны пубігала.* Радз.

ЯЛО′ШКА *ж.* Цялушка. *Тылушка прывыла тыля, отылыласе — ялошку чы быка.* Радз.

ЯРАХА′ТЫ *прым.* Кучаравы. *Наш Іван вэльмэ ярахаты.* Рад.

ЯСЛО′ *н.* Дзясна. *Зуб булэть, гэть ясло руспухло.* Дыв.

*П. А. Міхайлаў*

# З ЛЕКСІКІ РОДНАЙ ВЁСКІ

Словы, якія падаюцца ў гэтым артыкуле, характэрны для гаворкі жыхароў в. Ушкавіца Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці.

Вёска Ушкавіца (Ушковы́ця, жыхар вёскі — ушковля́н, жыхарка — ушковля́нка, жыхары — ушковля́ны) знаходзіцца за 10 км на захад ад горада Кобрына, недалёка (1,5 км) ад шашы Брэст — Масква. У вёсцы налічваецца зараз 32 калгасныя гаспадаркі. Яе ўзнікненне прыпадае на канец XVI ст. Назва вёскі магла ўтварыцца ад прозвішча феадала Юшковіча, якому ў XVI ст. належалі гэтыя землі[1]. Таму, магчыма, першапачатковая назва была Юшкавіца.

Фанетычныя асаблівасці дадзенай гаворкі дазваляюць аднесці яе да сярэднезагародскага тыпу гаворак Брэсцка-Пінскага Палесся[2]. Таму адзначым толькі некаторыя яе своеасаблівыя рысы.

1. На месцы этымалагічнага *о* ў закрытым складзе пад націскам пераважна вымаўляецца *і*, а ў некаторых выпадках — слаба лабіялізаваны гук *і (ӥ)*. Зычны гук перад галосным *ӥ* вымаўляецца цвёрда (або часам паўмякка): *тӥк, кӥнь, кӥтна (овэчка), рӥг, лӥй, спрынджынӥвка.*

2. Своеасаблівы ў гаворцы гук *ы.* Гэты галосны пярэдне-сярэдняга раду верхне-сярэдняга пад'ёму.

3. Шыпячыя зычныя і *р* перад націскным *а* часта бываюць мяккімі: *жяба, шяпка, жяты, чясто, грятка, прялка, хряк.*

---

[1] Сапега Димитрий. Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 г. королевским ревизором Димитрием Сапегой, с присовокуплением актов Браславского земского суда, относящихся к Кобринской архимандрии. Вильна, 1876, стар. 88.

[2] Ф. Д. Климчук. К лингвогеографии Западного Полесья (фонетика четырех полесских говоров). Автореф. канд. дисс. Минск, 1973, стар. 3—6.

БЛЮ'МА *м.* і *ж.* экспр. Плаксун, плаксуха. *Ну ты й блюма, і як тобі ны стыдно такому вылыкому ёнчыты.*

БРУ'КАЛО *н.* Палена, прывязанае да шыі каровы так, каб, калі яна захоча бегчы, біла ёй па каленях. *Як врёдна корова, походюшча, то юй на шыю брукало одівають, шчоб ны могла втычы далэко.*

БРЫНІ'ТЫ *незак.* Расці, чырванець (пра балячку, скулу). *От брыныть в тыбэ рана, вжэ попонбсыся з ею, пополлачэш.*

БУ'ХТОВЫЦЯ *ж.* Гразь, макратэча. *Кажный дэнь дошч і дошч льле, і на дворі такая бухтовыця, шчо с хаты ны выйты.*

БЫЗДЭ'ННЫЦЯ *ж.* Бяздонне, бездань. *Ны пудыходь до озыра на болоті блысько, бо там быздэнныця, так і пійдэш на той сьвіт і ныхто й ны знайдэ.*

ВВОЧО'Х *прысл.* Вельмі хутка, увачавідкі. *Мусыть такый вжэ голодный був, бо як дала кусок хліба — ввочох зьів.*

ВДО'ЛАТЫ *зак.* Выканаць, закончыць, зрабіць. *Лэдь за тыждэнь вдолала гэту кнішку.*

ВОЖЯ'ЙКА *ж.* Мера вагі сена каля 4 цэнтнераў. *Ай, і шчо він там накосыв, вожяйка будэ чы ны будэ, а корову ж то трэба зымоваты.*

ВЫ'КАТАТЫ *зак. экспр.* Пабудаваць. *От Пытра до осыны гэтого зруба выкатав і кажный дэнь на роботу ходыв.*

ВЫ'ПЭЦЬКАТЫ *зак. экспр.* Выгадаваць. *Оставлю на літо тыля, як-нэбудь выпэцькаю.*

ВЭ'РТЯХА *ж.* Вялікая гліняная міска. *Бувало, як усядыця вся сым'я кругом вэртяхы і вжэ хто справнішый, той ліпш наісьця.*

ГАЛЯ'ТЫ *незак.* Швэндацца, лодарнічаць, гультайнічаць. *Такый вылыгдур вырос, а робыты ныць ны хочэ, оно галяе по цілюськых днях.*

ГАРЛЫ'НА *ж.* Вялікі сноп абмалочанай прамой саломы, якой раней крылі дах. ***Гарлыны*** *трясли с снопів; гарлына аж вымалёвана як вытрясэш.*

ГЛУМЫ'ТЫ *незак.* Марнаваць. *Нашчо ты так яблыка глумыш, чы то хорошэ ны можна з'істы?*

ГЛЫ'НКА *ж.* Мел. *Ны забудь прынысты глынкы хату покалыты пут свято.*

ГНА'ТЫ *незак.: гнаты храпку* 'мець злосць'. *Вжэ він на мынэ давно храпку жынэ, а от за шчо тілько ны знаю.*

ГО'ПАТЫ *незак. экспр.* Кашляць. *Ну й гопав ты гэту ніч, дэсь учора такы добіг холодныі воды напытыся.*

ГУ'ДЫТЫ *незак.* Лаяць, ганьбіць, абгаворваць. *За шчо ты іі так гудыш, шчо вона тобі нычогого зробыла, то ж людына як людына?*

ГУСТЫ' *незак.* Быць у стане цечкі (пра свінню). *Моя свыньня як но ны зыла мішань, то і знаю — будэ густы.*

ДАВНОВІ'К *прысл.* Вельмі даўно, даўнавата. *Стыпан тут давновік жывэ і то такого ныць ны помытае.*

ЗА'ВОРОТЫ *мн.* Галавакружэнне. *Тую зыму я якраз вэльмы міцно хворіла, аж завороты в голові булы, аж кыдало, а вжэ гэту, дяку богу, ліпш такы.*

ЗА'КРУТЭНЬ *м.* Невялікая (25—30 см) палачка, завостраная з аднаго канца, якая ўжывалася для вязання снапоў. *От дурная голова, закрутня дома забулася, і як тыпэр в'язаты буду?*

ЗАСТО'РКНУТЫ *зак.* Затрымацца. *Шчось ты тыпэр і ны засторкнув у іі, мусыть, выгнала с хаты чый, мо зусім ны пустыла.*

ЗА'ЧЫПКА *ж.* Прычына. *А ты ж завшы зачыпку знайдэш, абы посварытыся.*

ЗЫ'МОВАТЫ *незак.* Карміць зімою (дамашні статак). *Сіна ны косыш, чым будэш зымоваты корову?*

КАБА'ЛНЫЦЯ *ж.* Гадалка на картах. *Засовайся хучій, бо гэндэ йдэ кабалныця, шчэ прысуныця в хату.*

КАПЛУ'Н *м.* Страва з пасоленай кіпячонай вады, нарэзаных кусочкаў хлеба і засмажанага сала. *Мні так тыпэр каплуну схотілося, наробы но, Мане.*

КАРАКУ'ЛЬ *м.* Багаты чалавек.

КВА'СКА *ж.* Кубел (на сала). *Вымый добрэ кваску, высушы іі, завтра свыньню заколымо.*

КВАШЫЛЫ'НЫ *мн.* Студзіна. *Зайды в магазін і купы свыньнячых лапок, зварымо квашылын.*

КЛОПОУ'ХЫЙ *прым.* Аблавухі. *Клопоухый выпрук у мынэ: такыі свыны, кажуть, вэльмы хорошы ростуть.*

КЛЯ'ВАТЫ *незак.* Ледзь жыць, чуць дыхаць (пра слабага чалавека). *Вжэ Нычыпор лэдь клявае, зусім ныць ныма його, а такый чоловырно був.*

КНЫ'БЭЛЬ *м. Гл.* ЗА'КРУТЭНЬ.

КОБЫЛЬНЮ'Х *м.* Конскае шчаўе. *У нас кобыльнюхом от чогося лічаця, но я ны помытаю от чого.*

КОВПОТЫ'ЛО *н.* Свіначае логава. *На дворі мороз, то зробыла поросятюм ковпотыло, шчо б ны помэрзлы.*

КОЗА′ *ж.* Нязжаты касмык жыта, які пакідалі на полі. *Колы́сь на по́лю козу́ оставля́лы, як жялы.*

КОЗАЧКЫ′ *мн.* Дзьмухавец, адуванчык. *Бува́ло, як нарвэш козачкі́в і давай бы́тыся і́мы.*

КО′ПСАТЫСЯ *незак.* Замучыцца, нахадзіцца за дзень. *Так за дэ́нь нако́псався, шчо й істы ны хочу, оно́ коб ляхчы́ хучій і всё.*

КО′ШАНКА *ж.* Скошанае ржышча з розным палявым зеллем. *От чым ма́еш кажный одвычо́рок пы́ты, ліпш пойшо́в бы дэ якую копы́цю кошанкы збы́в бы, зымо́ю всё піійдэть.*

КРАЁВЫ′НА *ж.* Аполак. *Ході́м прынысэ́м с то́бою краёвы́ну, бо мні само́му тя́шко со́ваты.*

ЛА′ЙЗА *м.* і *ж.* Валацуга. *Ну й лайза ты, і як тобі ны стыдно тако́ со́ватыся?*

ЛЁКОТІ′ТЫ *незак.* Трэсціся, баяцца. *Чого́ ты шчэ лёкоты́ш, ужэ́ ж усёй страх давно пройшо́в?*

ЛОМАНТА′ *м.* і *ж.* Балбатун. *От ломанта, як заряды́ть, ныма́ ныя́кого спа́су, хоч с хаты втыкай.*

ЛЭ′ШКАТЫ *незак.* Кастрыраваць, пакладаць. *Прывызы дохтора, трэба каба́нчыкув лэ́шкаты, ны повызэ́ш жэ на базар нылэ́шканых.*

ЛЮ′МЗА *м.* і *ж. экспр.* Плаксун, плаксуха. *А Маруся вжэ ж такая люмза, і мызы́ньцём ёі на́вить ны зычыпы́.*

МАНТЫ′ТЫ *незак.* Прывабліваць. *От жэ ж сусітка в мынэ́: манты́ла-манты́ла моіх курэ́й, тыпэр всі до одн́эі в іі нысу́цьця.*

МОРКЫТА′ТЫ *незак.* Быць у стане цечкі (аб авечцы). *Шчось до́вго наша овэ́чка ны моркы́чэ, шчо п хоть ны оста́лась ныкітна.*

МОЦЁВА′ТЫ *незак.* Стукаць яйцо аб зубы, правяраючы ці моцнае яно. *В мынэ тато вміе ейця моцёваты добра, а я не.*

МЫДВЭ′ДЫНЫ *мн.* Ажыны. *Мамо, навары мні варэньня з мыдвэдын.*

МЫ′ДЛЫТЫ *незак.* Апірацца з мэтай што-небудзь украсці. *Ныма чого́ тобі тут мыдлыты, йды оцьцю́ль.*

МЫХІ′Р *м.* Мачавы пузыр. *Колы́сь з мыхіра́ дітюм цацку робылы: вымына́юць ёго́ в по́пыловы, насыпають горох, надувають, роблять шылыстуна́, будэ мня́хкый, хоть у у́хо пхай.*

МЫ'ЧКА *ж.* Месца пад заднім пальцам на капыце каня. *Пуд мычкамы чясто мокрэць заводыця у конэй.*

НАТЯКА'ТЫ *незак.* Намякаць. *Знов про нас шчося в сылі говорять, бо Сыкліта мні тыпэрычка вжэ натякнула.*

НЫВЖЭ'Ж *прысл.* А як жа. *Нывжэж, напэвно буду, й ны пытайся навыть.*

НЫЗАСТО'РКНУТЫ *зак.* Не затрымацца.

НЫМОВІ'ТЬ ЯК *прысл.* Надта, немаведама. *Нымовіть як трэба було в Кобрэнь зьіздыты, а я пуднятысь ны могла.*

НЫОБО'ЛЫТЫ *прысл.* Не спрыяць. *То ж то трэба такому чоловікові уродытыся: він навыть своюй матыры ныць ныоболыть, шчо вжэ тут про людэй говорыты.*

НЫОСТЫРКА'ТЫСЯ *незак.* Не быць, рэдка паказвацца. *І шчо за хлопэць, дома й ныостыркаіця, всё в поході й в поході.*

НЫХЛЮ'Я *ж.* Неахайная жанчына. *Ну й ныхлюя, якая на юй споднйця заляпана, ты но подывысь.*

ОБДЫРТУ'С *м.* Абарванец, абшарпанец. *Ідэ обдыртус оно шматы трясуцьця.*

ОБЗЭ'ЛЬ *ж.* Абалона. *Дырывына называіця: одна обзэль, стрыжня й ны выдно зусім.*

ОГЭ'НДЭ *прысл.* Вунь там. *Огэндэ лыжыть гэблык, подай но мні ёго.*

ОДБЫТКОВА'ТЫ *зак. экспр.* Набіць. *Зара возьму рэмня, одбыткую добрэ і ты напэвно ляжэш вжэ тогді.*

ОДВОЛО'ГНУТЫ *зак.* Адсырэць (аб бялізне). *Штаны пырысохлы, шчо ныможна прасоваты: повісь нануч на дьвір, шчо б одвологлы.*

ОДЫНА'К *м.* Адзіны сын у сям'і. *З одынака як ны пес то собака.*

ОКА'ПА *ж.* Скура, якой абшыты хамут.

О'КЫДЬ *ж.* Ападкі. *Вжэ ж якаясь окыдь будэ: бач коло соньця якое прыслоньне.*

ОПЛЯТА'ТЫ *незак. экспр.* Есці многа поўным ротам. *От оплятае, аж уха трясуцьця, як тыждэнь ныівшы.*

ОПОЛОШЫ'ТЫ *зак.* Аблаташыць. *Діты залізлы в сад і ополошылы одну яблыну.*

ОПО'Я *ж.*: *опоя сьвіта* 'чалавек, які многа п'е'. *Ай, шчо вжэ про ёго там говорыты: то ж то опоя сьвіта.*

ОПХО'ДЫТЫ *незак.* Кранаць, непакоіць. *Тым він*

*мынэ ны опходыть, шчо чужый. Чого воно мае мынэ опходыты?*

ОПЧА′ХНУТЫ *зак.* Абсохнуць (аб траве). *Тыпэрычка погода, до обіда покосы опча́хнуть, а з обіда можна будэ повырнуты.*

ОСМА′ЛКЫ *мн.* Прыгарэўшая звараная бульба. *А я такы́ вэ́льмы люблю картоплі з осма́лкамы.*

ОТХЭ′ЦЬКАТЫ *зак.* Выхадзіць, вылечыць. *Пару дён лыжяла там, пока́ її отхэ́цькалы.*

ОШАЛАПУ′ТЫТЫ *зак.* Абмануць, абвесці вакол пальца. *Такую хоро́шу дівку ошалапу́тыв і покы́нув, більш такэ́і вжэ ны́гды ны зна́йдэш.*

ПА′НТОЧЫТЫ *незак. экспр.* Есці. *Всё панточыш і панточыш, колы́ вжэ ты наїсы́ся.*

ПЛАШЧА′К *м.* Плашка. *У нас і хата і сіны с плашчака́ зробляны.*

ПЛО′ХЫЙ *прым.* Прыручаны. *Хвыдо́рын бычок плохый, а мій як гад ска́чэ, жу́тко пудыйты́.*

ПОБЛА′ГНУТЫ *зак.* Змарнець. *Так картоплі побла́глы, шчоп хоть чы́сто ны пропа́лы.*

ПОКОВБА′ЧЫТЫСЯ *незак.* Пакрывіцца. *Зусім до́скы на пудло́зі поковба́чылыся, мусыть сыры́мы застыла́в.*

ПОЛОВЫ′НЧЫК *м.* Аполак. *Колы́сь хлывы́ і хаты́ с полові́нчыкув робы́лы.*

ПОПЫРЫЧНЯ′К *м.* Папярочны загон поля. *Попырычняка́ трэба бурака́мы засады́ты: на зы́му коровы корм будэ.*

ПОТЫРЭ′БЫНЫ *мн.* Пахмелка, пахмелле. *Я то ду́маю куды він так рано поїхав, а то ж на потырэбыны хучій погна́вся.*

ПРА′ЧЫК *м.* Апалонік. *Як булы́ малы́мы, ловылы пра́чыкув і ба́вылыся імы.*

ПРОГА′ПЫТЫ *зак.* Прашляпіць, праваронiць, празяваць. *Прога́пыла такую хорошу хустку в ону́чныка, ны купыла.*

ПРЫБО′РКАТЫ *зак.* Прыручыць. *Лэдь тро́ху тыля́тко прыбо́ркала, а-то такое ды́кэ уроды́лося.*

ПРЫМАНТЫ′ТЫ *зак.* Прываражыць, прывабіць. *І чым тілько вона ёго́ зуміла прымантыты?*

ПРЫМГНУ′ТЫ *зак.* Задрамаць. *Пойды́ вжэ ты покыльну́й корову, а я пойду́ хоть на мыню́ту прымгну́.*

ПРЫНЫ′ТЫТЫСЯ *зак.* 1. Прылашчыцца, прыгалу-

біцца, прытуліцца да каго-небудзь. *От прыны́тылася до матыра.* 2. Супакоіцца, сціхнуць на нейкі час, зашыцца. *Дэ́ но ты там прыны́тылася, а ну́ вылáзь.*

ПРЫСЛО'НЬНЕ *н.* Чырвоны слуп над сонцам на заходзе. *Якáясь зьмéна погоды будэ, бо на зáході такое прыслоньне було.*

ПРЫШЧІ'ТОК *м.* Срэшка ўнізе франтона. *Трэба нóвого прышчíтка зробы́ты, гэтой зусім гнылы́й.*

ПУДЬЮ'ДЖУВАТЫ *незак.* Падбухторваць, падштурхоўваць словамі зрабіць што-небудзь. *Гэто напэвно Васыль ёгó пудью́дыв, сам він ны́гды такого ны зробы́в бы.*

ПУТПОЛО'НЫК *м.* Перапечка (з хлебнага цеста). *Спычы́ путполóныка, я ёгó вэльмы люблю.*

ПЫШІНО'ТА *м.* і *ж.* Чалавек, збалаваны ежай, пераборлівы ў ежы. *Пышнота ты ў мынэ, тóе ны хочэ, гэ́тэ ны буду, от іж, шчо далá, ны то забыру́ зусíм.*

РА'ПТОМ *прысл.* Усяго. *Раптом на годы́ну мні трэба був жылíзнык, і тó нáвыть пошкодовáла.*

РОБІ'ТКА *ж.*: *робíтка рóбыть* — цвісці (пра збажыну).

РОДІ'ЛЬЛЯ *ж.* Парадзіха. *Ходíмо, Мáнё, до родíльлі на одвíткі у ныдíлю.*

РО'ШЧА *ж.* Рост (як працэс). *То в ёгó такáя рошча: будэ худым він у вас аж покá ны вы́ростэ, затóе тогді якый хлопчы́ско станэ, ны одлюбу́іся.*

СВЫРІ'ПА *ж.* Варыва з лебяды. *Бувáло посёрбаеш свырíпы і цілый дэнь робыш.*

СЛЫПЫНЬДЯ' *м.* і *ж.* *экспр.* Сляпы чалавек. *Помáлу, то голову розоб'ėш, слыпыньдя, прыгынáйся трохы.*

ССЯКА'ТЫ *незак.* Падсыхаць. *На дворі ссяќло трохы, можэ, вы́пусьць дíвчыну на якýю годы́ну, ныхай побíгае.*

СТРЫ'ЖЭНЬ *м.* Зламаны рог. *Корова як зоб'ė рóга, остаéцьця стрыжэнь. Як пэршый раз зоб'е, то шчэ одрóстае, а більш — не.*

СТЫДО'ТЬТЕ *н.* Вялікі сорам. *О стыдотьте будэ, як лю́дэ почують, й на сылó ны выйдэш.*

СУДОСЫ'ТЫ *зак.* Сустрэць. *Побыжы́ маму судосы́ з роботы, выдро з молоком пудносы хоч.*

СУХО'ПАРКОМ *прысл.* Усухамятку. *Жінка ёму́ сьнідáньне ныколы ны варыть, сухопарком пойісьць і побіг на роботу.*

СЫРОМІ'ТЬ *прысл.* Амаль дарма аддаць. *Зайшов якы́йся о́дур в голову, сыромі́ть оддала́ півня.*

СЭ'ЛЯХ *м.* Качар. *Зарубай старого сэ́ляха на суп.*

ТАЛЯХА'ТЫ *незак.* Абгаворваць. *Ны мають роботы, позбыра́лыся та й таляха́ють языка́мы на всіх пудряд.*

ТАШЧЫ'ТЫ *незак.* Разграбаць рукамі выараны рад бульбы, капаць бульбу. *Сядай на ряткы́, помагай ташчы́ты*

ТІ'КАТЫ *незак.* Гайнаваць (пра сучку). *Знов наша сучка тікае.*

ТОВКАНЫ'ЦІ *мн.* Звараная тоўчаная бульба. *У моюй сым'і такы́ ныхто товканы́ць ны ісьць, а о́т су́пу оно́ подава́й.*

ТОВМАЧІ' *мн.* Звараная тоўчаная бульба.

ТУ'ТЫКА *прысл.* Вось тут. *Ны зна́ю, куды́ воно́ могло поді́тыся, я тутыка кла́ла.*

ТЫЛЫПА'ТЫСЯ *незак. экспр.* Ісці. *Думаю, і хто там такы́й на змыркáньні тылыпа́іця доро́гыю?*

УГРАЗЫ'ТЫ *зак.* Развярэдзіць рану, стукнуць па ране. *Пома́ліньку йды, ны угразы́ но рану.*

УДВЭ'ЖЫТЫ *зак. экспр.* Стукнуць кіем. *Як удвэ́жу дэ́ чым — вы́вырныся. Як удвэ́жыв, аж згo̗рбывся.*

У'СЯЛКА *ж.* Вяроўкі, на якіх вісіць калыска.

ХАЛЁВА'ТЫСЯ *незак.* Убірацца, прыхарошвацца. *Ну й куды́ ты так ззара́ньня халю́іся, пойды мні ліпш дров топы́ты прыныcы.*

ЦА'ЦКАТЫ *незак.* Гадаваць, пеставаць. *За́ра його́ ца́цкаеш-ца́цкаеш, а як пудростэ́ й одвэ́рныця.*

ЦЮ'ПАТЫ *незак.* Папракаць. *Шчо́ ты мынэ́ моє́ю дочко́ю цю́паеш, шчэ нывядо́мо шо у самэ́і ростэ́.*

ЦЮРУ'БАЛО *н.* Костка з абрэзанага свіного кумпяка. *Шу́ро, пойды́ розрубай мні цюрубало в су́п укы́нуты.*

ЦЯ'ПАТЫ *незак.* Няўмела даіць карову. *До́брэ хоть дочка уміе тро́хы цяпаты корову, а то й ны знаю шчо робыла б, такая хвора була.*

ЦЯ'ТА. *ж.* Скалка. *Дывы́сь, якы́і цяты в усі.*

ЧЫМЫЛЬДЫ'КНУТЫ *зак.* экспр. Выпіць гарэлкі. *Дэ́ ты всьпів чымыльдыкнуты, ты ж на роботі був?*

ШЛО'ЙДА *м.* і *ж.* Балбатун. *Ныма чого його́ слухаты, шлойду́ гэ́ту, шоло́тыть чо́рт відь шчо.*

ШМО'РГНУТЫ *зак. экспр.* Стукнуць дзіця. *Сядь, бо як шмо́ргну шытыком по плэ́чох.*

ШМОРЫ′ГАТЫ *незак.* Сашморгваць лісце з галінак. *Пойды нашморы́гай вышнёвого лысьця, гуркы́ посо́лымо.*

ШНЫ′РЫТЫ *незак.* Шныпарыць. *І шчо́ ты там шны́рыш, шчо ты там оста́выв?*

ШОЛО′ТА *м.* і *ж.* Балбатун.

ШПА′ГА *ж.* Стрэмка. *На, вы́ймы мні шпа́гу с па́льця, у самэ́і ныць ны получя́іця, ны бачу вжэ.*

ШЫ′МОРОДЬДЕ *н.* Драбяза (трэскі, галінкі і інш.). *Вы́паль все гэтэ шымородьде, хай ны заваря́е пуд нога́мы.*

ШЯ′РГА *ж.* Вялікі вецер. *Куды тыбэ роздітого нысэ́, бач яка́я шярга пуднялася.*

Ю′ДЫТЫ *незак.* Зводзіць. *Куды его́ ю́дыш, куды?*

Я′ДУХА *ж.* Задышка. *Ны здумай взяты Барташука́ ора́ты, в его́ ядуха, вжэ стары́й.*

ЯЛО′ЗЫТЫ *незак.* Вымазваць. *Тако́е ж то в мынэ яко́еся ныокура́тнэ дытына: за дэнь усю одэжу заяло́зыть, ны вспываю мы́ты і одіва́ты.*

*М.М. Аляхновіч*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ВАЛІШЧА ПІНСКАГА РАЁНА

Вёска Валішча размешчана ў 35 км на поўнач ад Пінска. Дыялект вёскі адносіцца да брэсцка-пінскіх гаворак. Адзначным некаторыя яе асаблівасці.

1. У новых закрытых складах пад націскам на месцы ѣ вымаўляецца *ê*, а на месцы *о* вымаўляецца *ô* (закрытыя *ê, ô* перадаем праз *е, о*): *чоловéк, сусéт, вон* 'ён', *плот.*

2. Галосны *ы* больш пярэдняга ўтварэння, чым *ы* ў літаратурнай мове.

3. Перад этымалагічным *і* назіраецца паралельнае ўжыванне як мяккіх (часцей), так і цвёрдых губных, заднеязычных, *з, с (робіты, лáпіты* 'латаць', *лушпавіна, булькавкі* 'бурбалкі', *носіты, повéсіты);* зычны *л* у гэтай пазіцыі заўсёды мяккі *(ліпа, ліхі).*

4. Перад галосным *о* пераважае прыстаўны *г (горэшнык, гострыты, горáты, ныгóдын* 'ніводны'), зрэдку ўжываецца прыстаўны *в: вóчы;* прыстаўны *в* пераважае перад галосным *у: вýшы, вýліца, навýка.* Часам прыстаўныя зычныя адсутнічаюць: *óзеро, óко, окнó — окнá.*

5. Назоўнікі 3-га скланення ў родным склоне адзіночнага ліку пасля мяккіх зычных маюць канчатак *-е: мастé, костé, мазé, гразé, кроўé.*

6. У адрозненне ад большасці брэсцка-пінскіх гаворак прыметнікі назоўнага склону адзіночнага ліку ўжываюцца ў кароткай форме: *чóрны, вэлікі, стрáшны, зэлёзны.*

7. У канчатках інфінітыва пасля мяккіх зычных на месцы *і* пад націскам вымаўляецца *е: вэсті, нэсті, пэкті, сэкті, іті, тэкті, вóлокті, грэбті, поўсьті* 'паўзці'.

У Валішчаўскай гаворцы пашыраны таксама такія лексічныя ўтварэнні, як *зáрэка* — зараз, *тáмэка* — там, *тóжэка* — таксама, *трэ́бака* — трэба, *тýтэка* — тут, *тэпéрэка* — цяпер, а таксама *дэнь* — дзе-небудзь, *хтонь* —

хто-небудзь, *колінь* — калі-небудзь, *куда́нь* — куды-небудзь, *шчонь* — што-небудзь і інш.

БАДУЛЬКІ′ *мн.* Ігліца (хвойная). *Нагрэблі бадулёк у лесі, думалі картоплі накрыты, поехалі, а іх не́хто ўжэ забраў.*

БОЯ′КА *м.* і *ж.* Палахлівец. *Такого бояку маты за руку во́дыть.*

БРАЗДЭ′НЬК Пра імгненнае падзенне. *Тут вон його́ браздэньк на зэм.*

БРА′ТЫ *незак.* Вязаць. *Ой, Олеся як почнэ́ браты, як почнэ́, дак гледы́ш, ото́ й вы́брала ўжэ швэ́дра хло́пцу.*

БУ′СЬКО *м.* Бусел. *Кажуть, шчо як станэ бусько на комін, дак у гэтой хаты шчасце будэ.*

БУЯ′Н *м.* Непакладаны бык. *Учора на коро́ўнык буяна́ з друго́го сэла прывэзлі.*

ВЕ′Я *ж.* Павека. *Як ходыў тогдё ў лес і голінсю шкра́бнуў по окну, дак і тэпэ́рэка вея не́шчо боліть.*

ГАРАБЭ′ШОК *м.* Верабей. *Гарабэшкі зімою ў стрэ́сі хаваюцца.*

ГРАНЫ′ЧЫТЫ *незак.* Раздзяляцца палосамі хмар (пра неба). *Бач, як нэбо хмарамі пограны́чанэ.*

ДЭ′РЭВО *н.* Стрэмка. *Добегаўса, дэрэво, як полено, у ногу загнаў.*

ЖО′ВЭНЭЦ *м.* Жоўтая зямля. *Тут такі жовэнэц, шо ныц нэ ростэ.*

ЖОНО′ЧЫНА *ж.* Жанчына. *Наша сусетка добра жоночына.*

ЖЭРЛО′ *н.* Джала. *Як упу́стыть пчола жэрло, дак закрутысса.*

ЗАБЕ′Г *м.* Нахіл на саннай дарозе, дзе заносіць сані. *Та́мэка забе́гі такіе, шчо й пэрэвэрну́тыса нэдо́ўго.*

ЗЛЕ′ТАТЫ *зак.* Збегаць. *Ганночко, злётай но до тёткі Насті, побач, шчо з іхнім малым зро́біласа.*

ЗЭЛЁНЫ′ЦА *ж.* Зялёнка. *Но й грыбы ж гэтые зэлёны́цы — зіма чэрэз нэделю, а іх ішчэ мэшкамі з лесу носять.*

КАЙ *прысл.* Каля. *А дед, як нэ свой: то кай одного́ двора вон сэдыть, то кай друго́го бачать його́.*

КОНЮКІ′ *мн.* Канькі. *Нэ трэба було конюкі малому купляты, до вон тогдё у хаты сэдеў бы.*

КРАСНОГОЛО′ВЕЦ *м.* Падасінавік. *Молодые красноголо́ўцы добрэ есты, колі воны посма́жаны.*

ЛЕ'КАЧ *м.* Гл. БОЯ'КА. *Лéкач лéкача злекáўса.*

ЛУШПАВІ'НА *ж.* Лушпіна. *Онó одну лушпавіну нашоў од гороха.*

ЛУШПА'ЎКА *ж.* Лушпайка. *Нэ кідай лушпавóк на подлогу, а тую лушпáўку, шчо кінуў, подымі.*

ЛЮДЫ'НА *ж.* Чалавек. *За хлевáмі, по загорóдьдю, людына нéкая цэлы дэнь ходыть.*

МУТЫ'ТЫ *незак.* Маніць. *Мутюн з мутюнóў, вон так можэ мутыты, шчó й сам бувае нэ верыть собе.*

МУТЮ'Н *м.* і *ж.* Манюка. *Можэ, й дождэсса, кóлі той мутюн праўду скажэ. Гэто ж дéўчына, а такі мутюн стрáшны.*

МЭ'ЛЕС *м.* Від варэння. *Мэлес роблять з буракоў цукровых чы с тёртых яблык.*

НА'ВЭЦЦА *Часціца.* Нават. *Гэто ж после поўдня косіты пошоў, своє скосіў і суседу навэцца помог.*

НЫЧО'ГО *прысл.* Дрэнна. *Ішла ж гэто з грыбоў да так нычого зробілóса, так нычого, што онó-онó додому дойшла.*

ОГЭ'НДЭ *прысл.* Вунь. *Бач, Колька, огэндэ волóшкі.*

ОГЭ'ТЬ *прысл.* Вунь. *Куда ты дывісса? Огэть твоє коровы ходять.*

ОДЭНУ'ТЫСА *зак.* Апрануцца. *Як на сэло пойдэш, дак трэба одэнутыса тэплей, бо ўжэ холодно стало.*

ОНО' *прысл.* Толькі. *С такім вэлікім мэшком пошла по картоплі і оно стольки прынэслá.*

ПЛЕЙТО'Ш *м.* Чалавек, які вельмі любіць пагаварыць. *Но й плейтош, плетэ, плетэ, абы шчó бáе, здаецца, ото ўжэ й язы́ка злáміць — аж не.*

ПЛОТ *м.* і *ж.* Балбатун. *А баба Яра такі плот, шчо свет не бачыў. Да ў тэбэ ўжэ вушы ўпалі, слухаючы гэтого плотá.*

ПЛЯ'ГА *зборн.* Зараза, навала. *Як убіласа гэтая пляга ў горóд, дак усэ на светы понэслá — гэбі й нэ садыла ныц.*

ПЭРЭЛО'ГІ *мн.* Курч., сутарга. *Думаю, чого гэто корова то устаé, то пáдае. Аж на её пэрэлогі напалі.*

ПЭЧОНЦЭ' *мн.* Бульба ў мундзірах, спечаная на агні. *Вэльмі смачные пэчонцэ гарачые з молоком холодным.*

ПЭШЧУГА' *ж.* Пясчанае поле, на якім нічога не расце. *Там такая пэшчуга, шчо ніколі ныц нэ вырослэ.*

ПУКЕ'Р *м.* Пухір. *Обоп'ёк руку, шчо ажно пукер схапіўса.*

РАЛЮ'Х *м.* Склад (пры аранні). *Горо́да за́рэ ўсе люды ў тры ралюхі го́руть.*

РЭЗО'НЦЫ *мн.* Бульба, разрэзаная напалам і звараная ў мундзірах. *Позно ўжэ, але рэзо́нцоў я вам ішчэ ўсьпею наварыты.*

СМАГОРЭ'ЛЦЫ *мн.* Прыгарэлая бульба. *Смагорэлцы ка́жын рас свіньням оддаём.*

СОЛОНЦЭ' *мн.* Цэлая бульба, звараная ў мундзірах. *Солонцэ з росо́лом будэтэ есты.*

СОПЭ'ЛЬ *м. экспр.* Ёрш. *Колі хочэш пойма́ты шчонь до́брэе, до нэ стой ту́тэка, бо ў гэтом мэсьці одны сопле́ лова́юцца.*

СТРАМІ'НА *ж.* Лесвіца. *Нэ гута́йса на страміны, бо ўпадэш.*

ТЁ'СКА *ж.* Лучына. *Добрэ, шчо ты смоляко́ў прывёз, а то тёскі нэ було ш чого насекты.*

ТУ'РЗАТЫ *незак.* Тузаць. *Поту́рзай мне кро́хі руку, а то, мусіть, выбіў не́дэ. Узяўса ту́рзаты, дак ту́рзай.*

ХУТНЕ'Й *прысл.* Хутчэй. *Хутней будэ, як сюдою по́йдэш.*

ЦІБА'Х *м.* Кветканоснае сцябло цыбулі. *Мой хлопэц вы́тягса за лето, як той цібах.*

ШЧО'ТКА *ж.* Сівец. *Шчотка — гэто белая, сухая, твэрдая трава, якая добрэ горыть.*

ШЧЭРУ'БІНА *ж.* Невялікая дзірка (у падлозе). *Голка ў шчэру́біну ўпа́ла.*

*І. С. Шпакоўскі*

# З ЛЕКСІКІ ПАЎДНЁВАЙ ПІНШЧЫНЫ

Гаворкі паўднёвай Піншчыны па многіх сваіх асаблівасцях блізкія да суседніх украінскіх. Яны значна адрозніваюцца ад беларускай літаратурнай мовы і па фанетыцы, і па граматычнаму ладу, і па лексіцы. Найбольш яркімі адрозненнямі з'яўляюцца оканне, гук *і* на месцы этымалагічнага *ѣ (дід, літо, сніг)* і націскнога *о* ў новых закрытых складах *(віл, він, стіл);* цвёрдае вымаўленне часціцы *ся:* у мужчынскім і жаночым родзе — *са,* у ніякім — *со (умывса, умылосо);* адсутнасць прыстаўных *г, в* перад *о, у (оконныца, осэнь, остров, ухо, усьце, ондэ).*

Цікава, што назвы амаль усіх вёсак супадаюць па аснове з прозвішчамі іх карэнных жыхароў: у Шаломічах жывуць пераважна Шаламіцкія, у Лазічах — Лазіцкія, у Качановічах — Качаноўскія, у Лемяшэвічах — Лемяшэўскія, у Калаўровічах — Калауры, у Поўхаве — Палхоўскія *(Повхы),* у Каўбах — Каўбы, у Барычэвічах — Барычэўскія. У Тырвовічах і Грыўкавічах сустракаюцца прозвішчы, вядомыя па «Пінскай шляхце» В. Дуніна-Марцінкевіча,— Пратасавіцкія і Цюхай-Ліпскія.

АВСЬ-АВСЬ! *выкл.* Выгук, якім адганяюць свіней.

БОВГАНІ'ТЫ *незак.* Невыразна віднецца здалёку, у смузе. *Выйшов на выгон, прыдывляюса, шчо там бовганіе, аж то Владысюв кінь.*

БО'ДНЯ *ж.* Кадзь. *У нас у сэлі боднёю называють вэлыку бочку, в яку встарыну складалы сувоі. Вона була знызу шырокою, звэрху узішою, чэрэз «ушы» увэрсы протягалы шворэнь, якый бралы на клямку, на яку вішалы замок. Зарэ в бодню кладуть свіжыну, сало, затовку.*

БО'ЛЬБОТ *м.* Балбатун, балаболка, балабон; той, хто гаворыць, расказвае захліпаючыся.

БЛОШЧЫ'ЦА *ж.* Клоп. *Блошчыцы, така зараза, ляж спаты на стіл, так заповзуть на столю і будуть вночі цопаты прамо на тэбэ, спасу од іх нэма.*

БРА′ТЫ *незак.* Вязаць (кручком, спіцамі). *Чы догадаесса, якого свэдэра я выбрала, а якый з іх фабрычный?*

БРО′ХАТЫ *незак.* Гучна ступаць або шлёпаць па вадзе. *Да нэ брохай ты так, всю рыбу порозгоныш. Ну й брохало, брох да брох, ныяк нэ дотумкае, як хочэм шчо зловыты, трэба спудтышка пудходыты. Вчора рыбу ловыв, попоброхав, тількы що два кожушка і впоймав.*

БРО′ХНУТЫ *зак.* Гучна булькнуць. *Ополонку снігом запорушыло, він і нэ оглэдывса, як брохнув у ii, з головою накрывса.*

БРЫНІ′ТЫ *незак.* Бруіцца. *Грэблю прорвало, вода так і брыныть, так і пэрэлываецца по бугорках, по камінычыках, выдно всэ до самісінького дна. На Одрыныньому забрыніла вода, хоча на полі шчэ лэжыть сніг.*

БУВА′ТЫ В БУВА′ЛЬЧЫЧАХ. Быць у пераплётах. *До його на дурняка нэ пуд'ідэш, він бував у Бувальчычах, він кручэный і тэртый, знае, шчо до чого.*

БУНЬКЫ′ *мн.* Мыльныя або дажджавыя пухіры. *Бувало возьмэ натрэ мыла тэркою, розвэдэ в воді, возьмэ соломынку і пускае бунькы — чым бы нэ тішылосо, абы нэ плакало,*

БУ′СЬКО *м.* Бусел. *Бусё-бусько цыбатый, лэты з жабою дохаты.*

БЭЗО′ДНЫК *м.* Нізкая мясціна, дзе вада ніколі не высыхае.

БЭЗУРО′КУ *прысл.* Няўрокам кажучы. *А хлопчык, бэзуроку, пудріс, подужчав. Росцвэла дівка, бэзуроку, як макув цвіт.*

БЭ′ЙБАС *м.* Ёлуп, ёлупень.

БЭРУЛЬКЫ′ *мн.* Чапёлкі ў кроснах.

БЭ′РВЫ *мн.* Кладка праз раку або ручэй, забалочаную мясціну. *На высыпкы ныяк нэ добэруса, бэрвы погнылы, куды дывляцца мужчыны — трэба поладыты.*

БЭ′ЦЮ-БЭ′ЦЮ! *выкл.* Падзыўныя выгукі для кароў.

ВАРАКУ′ЗЫТЫСА *незак.* Прыкідвацца ап'янелым, выраблясь у нецвярозым стане ўсялякія штучкі; куражыцца. *Бач, корка понюхав і варакузыцца, смолою в очы лізэ. Чоловічэ, буйся бога — лэтыть мыска до порога, годы вжэ, нэ варакусса — бэры чарку й сала кусман.*

ВАШЭ′ЦЕ ПРО′ШЭ *часц.* Калі ласка.

ВІ′ТКА *ж.* 1. Мяцёлка аўса, проса. 2. Гронка вішань, вінаграду.

ВОЛО′ВА СЫ′ЛА Спарыння.

ВОЛО'КА *ж.* Тонкая вяроўка.

ВОЛОСІ'НЬНЕ *н.* Конскі волас, які выкарыстоўваецца на смычок; з яго ж пастухі сплятаюць тонкую вяровачку, якую прычэпліваюць на канцы арапніка.

ВОЛОХА'ТЫЙ *прым.* Кашлаты, пухнаты, валасаты. *Гускы за мною, вовк за горою, сіры, білы, волохаты, прошэ дохаты* (з дзіцячай гульні).

ВОРОТЫ'ЛО *н.* Навой, драўляны вал у ткацкім станку. *Вэлыкэ воротыло* — задні навой, з асноваю. *Малэ воротыло* — палатняны навой.

ВОЧЫПКЫ' *мн.* Вяроўка ў люльцы. *Вочыпкы скубляла, зжамтала абы-як і за пояс, і пошкандыбала, тарабанячы ціпкамы по зэмлі.*

ВУДЫ'ЛНА *мн.* Цуглі.

ВЫ'БОВКНУТЫ *зак.* Нечакана, раптоўна выскачыць з вады на паверхню, вынырнуць. *І одкуля він тут выбовкнув, казалы нэмае, завэрбовавса. Камінье з'іхало, і лён выбовк, нэ вымок як трэба.*

ВЫЛО'ГЫ *мн.* Адвароты ў адзенні.

ВЫ'ОПРАГАТЫ *зак.* Збіць (лейцамі, аброццю і інш.). *Завшэ лізэ він у шкоду, застав раз було, так добрэ такы выопрагав, алэ й було за шчо.*

ВЫ'ЛЫШАТЫ *зак.* Кастрыраваць.

ВЫРАЧКОВА'ТЫЙ *прым.* Лупаты, вірлавокі, зіркаты.

ВЫ'РАЧЫТЫСА *зак.* Вытрашчыць вочы. *Ну чого ты вырачывса, чого выторопывса, шчо нэ бачыв, сіль-пэчына з твоімы очыма — шчэ зурочыш.*

ВЫ'СЫПКЫ *мн.* Лехі ў залітых вадой мясцінах, «высыпаныя» высока за кошт зямлі з разор.

ВЫХВАТА'НЭЦ *м.* Скавароднік.

ВЫ'ЧАВКЫ *мн.* Жамерыны. *Насіньне з гарбузів вычавляють, одбырають, а вычавкы оддають свынням.*

ВЭЛЫКДУ'Р *м.* Боўдзіла. *Ну й вэлыкдур уродывса — вэлыкый до нэба, а дурный як нэ трэба.*

ВЭЛЬКО'ЛЁН *м.* Вялікі і няроўны лён.

ВЭРСТА'ТЬ *м.* Ткацкі станок.

ВЫШШЭ'Й *м.* Асака-разуха, якую кладуць на дах або на вышкі для ўцяплення, а таксама скарыстоўваюць на подсціл. *У Завішновы багато вышшэю накосыв, думаю, шчо хопыть на всю зыму.*

ГЛЫ'ЗЯВЫЙ *прым.* Вязкі, ліпкі, нясмачны (пра страву); ацэслівы, з закальцам (пра хлеб). *Нэ в пору*

*рошчынила, хліб нэ вдавса, глызявый, закалэц на палэц. Глызявы млынці.*

ГЛЭ'КАВКА *ж.* Ікота. *Як нападэ глэкавка, то стыс-ны ніс пальцамы, затаі дыханьне, мо й пройдэ.*

ГЛЭ'КАТЫ *незак.* Ікаць. *Наокола смэюцца, а він собі глэкае і глэкае, упынку нэмае.*

ГНЫЛЭ'Ц *м.* Месяц у трэцюю чвэрць, у трэцяй фазе.

ГНЫНУ'ТЫ *зак.* Моцна кулаком ударыць. *Як гны-ну, світа божого нэ зобачыш.*

ГОЛОШЧІ'Т *м.* Дождж са снегам, золь і слізгота.

ГОНОЗА' *ж.* Заедзь.

ГРУДО'К *м.* Сенажаць або папас у сухім, узвыша-ным месцы. *Шчо ёму, він на грудах накосыв, трава як чай, пахнючая.*

ГУ'ПАТЫ *незак.* Вухкаць, бухаць. *Цілый дэнь дэсь коло міста гупало — чы то лід рвуть, чы салдат учать.*

ГУ'ЦАТЫСА *незак.* Гойдацца, калыхацца. *Підэмо, погуцаемса, мні тато зробыв гуцалку.*

ГЫ'ЧКА *ж.* Адростак у караняплодаў.

ДОВЭСТЫ' *зак.* Асачыць (курыцу, кнігаўку і інш.).

ДОПІ'РУ *прысл.* Зараз, цяпер, у гэты момант, да гэтай пары. *Выбэраецца як на высільле, а допіру він удома.*

ДОТЫКА'НЬНЕ *н.* Вытканае, але яшчэ не адрэзанае ад кросен палатно.

ДРЭ'КАВЫЙ *прым.* Картавы.

ДЭРНО' *н.* Дзірван, дзёран. *Обкладу хлэвы дэрном, мо тэплій будэ. Шчо там уродыть — однэ дэрно.*

ДЫВЫНА' *ж.* 1. Дзіва. *Чы то дывына — він завшэ був такым, шалапута-шалапутою.* 2. Падтыннік.

ЖЭБОНІ'ТЫ *незак.* Бубнець, ціха і невыразна гава-рыць, гаманіць. *Послухай-бо, про шчо воны там жэбо-нять. Жэбоныть і жэбоныть нішчо сам собі, як нэпры-каяный якый.*

ЖЭРЛО' *н.* 1. Джала (у пчалы, у касе). 2. Жарало, жэрла (печы, прорвы, крыніцы, гарматы).

ЗАВГОДІ' *прысл.* Загадзя, наўперад. *Він завгоді всэ наладовав: коші, клівню, бовтало.*

ЗАГА'БАТЫ *зак.* Прысвоіць, прыхаваць, захапіць. *І дэ вона ту сподныцу загабала? Святый Антоныку, об'-явы іі, об'явы.— Так він тобі і об'явыть, колы сама нэ знайдэш.*

ЗАГАМОВА'ТЫ *зак.* Утаймаваць, супакоіць (рану, боль).

ЗА'ЗУБЭЦ *м.* Рыбалоўны кручок. *Почэпывса було кожушок, алэ знаеш, якый у мэнэ зазубэц — одорвавса.*

ЗАЗЭ'ПАТЫСА *зак.* Задыхацца (пры хуткай хадзьбе, пры ўзыходжанні на гару). *Покы заліз на гэты вышкы, зазэпавса, продыху нэмае.*

ЗАКОПЫ'ЛЫТЫ ГУБЫ *зак.* Надзьмуцца, пакрыўдзіцца. *Бач, яка цяця, чуть шчо нэ по його, і закопылыть губы, і надуецца, прыступу до його нэмае.*

ЗА'КРУТНІ, ГУЖО'ВКЫ *мн.* Заверты, заваратні. *Закрутні роблять для санэй, гужовкы — в прасло.*

ЗА'ЛЭВЭНЬ *м.* Лівень, заліўны дождж.

ЗАЛО'ЖЭЧНЫК *м.* Месца для лыжак на кухні.

ЗАПО'НА *ж.* Фіранка, заслона.

ЗАТО'ВКА *ж.* Здор, свіны нутраны тлушч.

ЗАТРУБЫ'ТЫ *зак.* Закінуць, згубіць. *Дэ шапка, куды ты іі затрубыв.*

ЗАХОДЫ'ТЫСА *зак.* Заўпарціцца. *Заходывса—тількы дай йому і всэ, хоч з-пуд зэмлі достань, і поставыв на своёму, знашлы, досталы.*

ЗА'ЯЧА МО'РКВА *ж.* Маркоўнік.

ЗДУ'ХОВЫНА *ж.* Дыхавіца; паха ў жывёлы. *Пуд здуховыною почало колоты, нішчо пэчэ, ёкае. Нішчо кобыла занудылася, погано юй, бач, як здуховыны рознэсло, мо поганяты по выгону, хто його знае, чы поможэ.*

ЗІ'ВЫ *мн.* Прамежкі паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, у якія прапускаюць чаўнок з утокам.

ЗІ'КРА *мн.* Іклы.

ЗЛЯ'КУ, З ПЭРЭЛЯ'КУ *прысл.* З перапалоху. *Оповночы уво млынка завшэ 'лякае, одын раз Фэдорэц зляку впав у воду. Здалосо, шчо вовк, так з пэрэляку і сіла, аж то Дубойчыкув собака.*

ЗНІ'ТЫТЫСА *зак.* Знікнуць, стушавацца, засаромецца. *Хлопчык соромлывый, як тількы увыйдэ хто, він застыдаецца, стулыцца, знітыцца в куточку, як бутто і нэма його.*

ЗОЗУ'ЛЬКЫН ЛЁН *м.* Казялец.

ЗО'ПАЛУ *прысл.* З гарачкі, з шалу, з ачмурэння, замарачэння; неабдумана, неабачліва, неспадзявана. *А я нэ бачу, шчо яруга, і зопалу як чобовхну: кому сміх, а кому гріх.*

ЗЯБЛЯ' *ж.* Зябліва.

КА'ДЫЦА *ж.* Калодка ў коле ад воза.

КАПО'РЭ, А КАПО'РЭ ВОНО' *прысл.* А нічога, а дармо. *Гэто ж трэба такому подіятыса, така втрата...— А капорэ воно, ніяк пэрэжывэмо.— Та воно ж так, вы тїлькы нэ бэдуйтэ, заходьтэ...— Дякуемо, прыйдэм.— Постуйтэ, загабавса комнірэц, я вам поправлю.— А капорэ, нэ до гэтого, і так зыйдэ.— Побігла б, зайняла б колійку, нішчо выкынулы на свято, а зарэ, мусыть, пізно.— Капорэ, обыйдэцца цыганьскэ вэсільле без марціпанув.*

КАЧАВЫ'ЛО *н.* Месца, дзе качаўся конь. *Постуй, нэ влізь в качавыло, а то будэ чырак.*

КЛІ'ВНЯ *ж.* Рыбалоўная прылада кломля.

КЛЫ'ШАВЫЙ *прым.* Клышаногі. *А колошвы в його шлюх да шлюх, прыдывывса я, ажно він клышавый.*

КОЖУ'ШОК *м.* Шчупачок.

КОЛО'ШВА *ж.* колошвы *мн.* Калашына, калошы.

КОЛЭСНЫ'К *м.* Вялікі воз сена.

КОЛЭСНЯ' *ж.* Насціл з дошак на возе.

КОЛЮ'Н *м.* Урочнік. *Сів як колюн у цвэтах.*

КОНЦІ' *мн.* Ніткі, адрэзаныя ад кроснаў пасля датыкання палатна.

КОРЭ'Ц *м.* Дошчачка з дзіркай, у якую ўваходзіць ніжні канец млёна.

КОСЯ'Р *м.* Нож, якім выразаюць жала касы.

КОШЭЛІ'ТЫ *незак.* Балбатаць, гаварыць без сувязі, хутка і абы-што.— *Шчо він тобі накошэлів? — Повну бочку арыштантув.— Ну о, і вір такому, кошіль, нэдовірок.*

КРА'ЙКА *ж.* Мярэжысты пояс, вытканы з шарсцяных нітак.

КРУГ *м.* Поўны камплект колаў для воза.

КУБЛО' *н.* Гняздо.

КУ'БЛЯТЫСА *незак.* Корпацца, кешкацца. *Чого ты там так довго кубляесса — пора іты.*

КУ'ЧКА *ж.* 1. Катух пад прыпекам для курэй. 2. Пучок вырваных сцяблоў ільну, пастаўленых конусам.

КЭ'ДЫСЬ, КЭ'ДЮСЬ *прысл.* Калісьці, некалі, даўней, у старыну. *Гізують як бугаі, бо якого завалка воны роблять, от кэдысь було — натягаесса за цілый дэнь, то спыш як убытый, на улыцу нэ потягнэ.*

КЫДЭ'РЫ *мн.* Фалды, трубкі; зборкі ў ніжняй частцы буркі, світкі.

КЫ'ЧА-КЫ'ЧА! Вокліч, якім адганяюць авечак. *Кыча-кыча, шчоб вы подохлы, вправы на іх нэмае.*

КЫЯ'Х *м.* Кукурузны пачатак.

ЛА'КЫ *мн.* Рогі драўляных віл, прызначаных для сена або саломы.

ЛАСТОВЫ'НЬНЕ *н.* Рабаценне, вяснушкі на твары.

ЛА'СЫЦЫ *мн.* Узорыстая намаразь на шыбах зімою.

ЛЁКОТУ'ХА *ж.* Дрыготка, дрыжыкі. *Лёкотуха напала.*

ЛІСА' *ж.* Насціл з дошак на санях.

ЛІ'ШТВА *ж.* Падбіўка ў вопратцы.

ЛО'ПОТЭНЬ *м.* Лапатуха.

ЛЫ'ЧЫТЫ *незак.* Пасаваць, ісці да твару. *Гэта шапка ёму лычыть, такэ ёму пасуе.*

ЛЭ'ЖЫВО *н.*, ЛЭ'ЖА *ж.* Месца, на якім вылёжваецца разасланы лён.

ЛЯСКУ'ЧЫЙ *прым.* Звонкі, гучны. *Ну й ляскучый, як звонок.*

МА'ЗЯ *м., ж.* Размазня, плаксун. *Ай, мазя вона, пхынькае, мажэцца.*

МА'КОВЫЦА *ж.* Макаўка.

МА'КОВЫШЧЭ *н.* Поле, на якім рос мак.

МАРА' *м., ж.* Пачвара. *Ну й мара, колы б зустрівса дэ нэнажэно в тэмному кутку з ім, то й сэрцэ в пяткы. Всю ніч сныласа някась мара, так шчо обрадоваласа, шчо прочнуласа. Мара, одчэпыса од мэнэ.*

МАТЛЯ'ТЫСА, МАТЛЯХА'ТЫСА *незак.* Развявацца, матацца. *Голощіт різав очы, зрывало хустку, мотало кутасы, а вона, нычого нэ бачачы, нэ чуючы, бігла і бігла, аж покы зовсім нэ выбыласа з сыл.*

МО'ГЛЫЦЫ *мн.* Могілкі. *Назад з моглыц нэ нэсуть.*

МОЛОТІ'ЛНЫК *м.* Малацьбіт.

МОМІ'Л *м.* Белы гарлачык. *Моміл ростэ у воді; з момолу дэвкы робылы собі вэнкы; маковыцы роздыралы, выбыралы насіньне, вэльмы смачнэ, і ілы.*

МРУ'ГНУТЫ *зак.* Маргнуць. *Нэдовірок, збрэшэ і оком нэ мругнэ.*

МУТЮ'Н *мн.* Ілгун, хлус. *А я нэ віру ёму, мутыть він; такый мутюн, шчо світ пройды, нэ знайдэш. Ну й мутюн, крутнёю-мутнёю світ пройдэ, алэ назад чы вэрнэцца.*

НАВГАДЫ' *прысл.* Наўгад, наўздагад, усляпую.

НАВО'БМАЦКЫ *прысл.* Вобмацкам, навобмацак.

НА′ВОРОТНІ *мн.* Бярвенні з выдзяўбанымі паглыбленнямі, у якія ставяць кроквы.

НАГОЛОБІ′СКУ *прысл.* Набасанож. *Прохопывса, аж бачу — развыдняе, наткнув шчо попало, здаецца, някы чэрэвыкы наголобіску — і дай божэ ногы.*

НА′ДОВБЭНЬ *м.* Даўбешка, доўбня.

НАКОЗУ′БЫТЫСА *зак.* Натапырыцца, пакрыўдзіцца, надзьмуцца. *Бач якэ малэ, а гоноровэ — накозубылосо, нэ пудходь.*

НАО′ЗНАЧ *прысл.* Дагары тварам.

НАРО′ЗМІТЬ *прысл.* У раскідку. *Гэту нывку з'ору нарозміть, а посэрэдыны выкопаю глыбоку розору — нэхай сходыть вода. Зэмля любыть, коб выробыв; купыв я загона, попар, дэрно, взяв пароконку, плуга запустыв, гарапом — «но!», пошлы, ажно свышчэ, роскынув його нарозміть, оно полэжало, да шчэ роскынув, да выборонoвав, стало, як яечня, алэ й робыв, сорочка плавом плавае, з мэнэ пара, але всэ-такы поставыв на своёму.*

НАЁРО′ШЫТЫСА *зак.* Натапырыцца, насцярожыцца. *Тількы почалы про ії, а вона і дух утаіла, ушы наёрошыла, удае, шчо спыть.*

НАШЧОСЭ′РЦЭ *прысл.* Нашча. *Нэ пый нашчосэрцэ, знов жывіт болітэмэ.*

НЁ′КОЧ *прысл.* Некалі, калісьці, даўней. *Шчо зарэз, от нёкоч було, возьмэш торбу хліба, сала, да ногы на плэчы, за ніч і прыйдэш до міста.*

НО′РЧЫК *м.* Нырэц. *Як дав норчыка, ждэмо, а його всэ нэмае.*

НЫ′ГДЫ *прысл.* Ніколі. *Ото порадкы, ныгды такого нэ було. Ныгды, ныгды, а колы ж воно будэ, на святыі мыгды?*

НЭДОСІ′КА *ж.* Недабой, загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам.

НЭВДО′БШЧЫНА *ж.* Няўдоба, няўдобіца, неўрадлівая, запушчаная зямля.

НЭМОВІ′СТЫ *прысл.* Немаведама. *А людэй у колійцы — нэмовісты кількы. Ну й збаяв — нэмовісты шчо. Болыть нэмовісты як, алэ тэрплю, куды дінэсса.*

НЭ′МЫСТОМ *прысл.* Знарок, наўмысна.

НЭ′КОШ *ж.* Някошаны луг, поплаў.

НЭНА′ЖЭНО *прысл.* Незнарок, неспадзеўкі, нечакана.

НЭОБО′ЛЫТЫ *незак.* Не спрыяць, не жадаць дабра.

*Нэоболять, колюцца, бач, чоловік взбывса на ногы, так поможітэ, а нэ топітэ его.*

НЭХЛЮ'Я *м.* і *ж.* Неахайны, нехлямяжы. *Ну й нэхлюя — світ нэ бачыв.*

НЭХО'. Скарочаная форма, утвораная ад часціцы і дзеяслова. Не хачу.— *Сынку, іды істы.— Нэхо, я нэ голодный.*

ОБА'ПОЛОК *м.* Аполак.

ОБЛОЖКЫ' *мн.* Пераплёт па баках саней.

ОГЛОБЭ'ЛЬНЫЙ *прым.* Каранны конь, якога запраглі ў аглоблі.

ОГРАЗЫ'ТЫ *зак.* Расцвяліць, раздражніць, развярэдзіць. *Бувало дрыжыш, ходыш як коло скулы, всэ боісса, шчоб нэ огразыты.*

ОДПОЯ'ТЫ *зак. перан.* Выкінуць штуку, вытварыць што-небудзь незвычайнае, неспадзяванае; дасціпна сказаць або адказаць на якое-небудзь пытанне. *А ты нэ чэпляйся до іі, бо як одбрые, як одпояе, місца собі нэ знайдэш.*

ОЗА'ДЬДЕ *н.* Пазадкі. *М'якына впэрод лэтіла, озадьде в трубы, а обмэты, солома з колосьсем, зільле высыпалосо вныз, пуд сыта.*

ОЛІ'ЙНЫЦА *ж.* Самаробная прылада, пры дапамозе якой выціскалі алей з ільнянога або сланечнікавага насення.

О'НДЭ, О'НДЭЧКЫ, ОНЁ', ОНЁ'ДЭ, ОНЁ'ДЭКА *прысл.* Тут, вось тут, вунь дзе.

ОПА'ЛКЫ *мн.* Апалушкі, паланкі; начовачкі для апалання збожжа.

ОПУ'ДАЛО *н.* 1. Пудзіла, пужала. *Ёго б поставыты в огород, добрэ було б опудало. Наодывавса як опудало. Да скынь ты гэтэ опудало.* 2. *перан.* Тоўсты, няўклюдна апрануты чалавек. *І дэ воно взялосо, гэтэ опудало, нэ можэ сэбэ до ладу довэсты, як ёму нэ ая-яй.*

ОПУ'КА *ж.* Самаробны мячык з анучак, абшыты, перамотаны і абвязаны ніткамі. *Поможы звязаты сыну опуку, нэхай і в ёго будэ, як і во всіх дэтэй.*

ОПЫ'НАЧКА *ж.* Вялікая суконная хустка, якою абкрываліся ў мароз.

О'РЧЫКОВЫЙ *прым.* Прыпрэжаны конь.

ОФЭ'РМА *м.* і *ж.* Няўклюда, няўдаліца, расцяпа.

ПАЗЮ'Р *м.* Кіпцюр, пазногаць.

ПАК *часц.* Бо. *Дэ ж пак. Шчэ б пак.*

ПАМПУ'ХА *ж.* Распаўнелая жанчына. *Наодэваласа, укуталаса, стала, як пампуха. Мусыть, добрэ ісы, шчо така, як пампуха.*

ПАСЬМО' *н.* Мера колькасці нітак у матку або ў аснове. *У пасьмо входыть дэсять чыслянок по тры ныткы в каждуй. Як снують основу, од бэрда бувае дэсять, дванаццать, а то і шэснаццать пасём,— гэто, як хто хочэ широкэ полотно, алэ бульш дванаццаты в нас нэ ткалы. Бэрда так і называють од того, скулько пасём,— дэсятка, дванаццатка...*

ПА'СЭРБЫЦА *ж.* Падчарыца, падчарка. *Не, гэто нэ іі дочка, пасэрбыца.*

ПАШНЯ', ПАШНЫ'ЦА *ж.* Збожжа, зерне. *Сьвятый Васыль по полю ходыть, жыто-пшэныцу родыть, всяку пашныцу; зароды, божэ, вам жыто на новэе літо, згоры колосыстэ, знызу короныстэ.*

ПІ'ДКІДНЯ *ж.* Пропуск у палатне, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання.

ПІ'ЗЫНЬНЕ *н.* Апоўзіны (на стажку).

ПІ'РНАЧ *м.* Пярына; пуховы матрац.

ПІ'ЧЧЫВКА *ж.* Падкладка ў верхнім адзенні.

ПЛЫ'ГНУТЫ *зак.* Скочыць. *Муй кінь як плыгнэ, і шчо ты думаеш, той ровчак пэрэскочыв.*

ПЛЫ'СКАТЫСА *незак.* Пырскацца. *Нэ плыскайса, нэ бачыш, і так всю облыв.*

ПЛЭ'ШНЫК *м.* Аер. Адрозніваюць два віды *плэшныку: чуткі,* са светла-зялёнай афарбоўкай, з насеннем у адкрытых *«волыках»,* і *глухі* — зялёны з шызым адлівам, насенне якога схавана ў своеасаблівых стручках, у так называемых буславых агурках.

ПОДА'Й ВА'ШЭ ЗДОРО'В. Зычлівае пажаданне здароўя.

ПОДБУ'ЯТЫ *зак.* Падбухторыць, падгаварыць, настроіць, схіліць да чаго-небудзь. *От бугаі, нэма чого ім робыты, гэто воны його набуялы, а він і повірыв і до тэбэ чэпляецца.*

ПОДЫ'НЬНЕ *н.,* ПОДО'К *м.* Адонак у стозе, у печы.

ПОЗА'БОРСЫ *прысл.* Па шчыкалатку. *А воды тут— позаборсы.*

ПОКІ'Т *м.* Гарышча ў хаце. *Кіт побіг на покіт мышэй ловыты.*

ПОКО'ВЧАТЫСА *зак.* Запэцкацца, памяцца. *Можэ*

*б і сіла, да боіцца — сподныцу поковчае. І дэ ты так заковчався?*

ПОЛО'СЬСЕ *н.* Лыка. *Прынэсы мні тыі постолы, шчо з молодого полосься. Він надрав полосься, полосьсем позавішвав усэ на світы — повітку, комірку, хлэвы. Полосьсе сушылы пуд повіткою.*

ПОМОГА'ЙБО. Зычлівае пажаданне плёну ў працы.— *Бачу, плоскуны выбэраетэ. Помогайбо.— Казалы богы, шчоб вы помоглы. Хытрому конця нэмае: як позычае, то очы соловьіныі, як аддае, то совыныі, буркнув свое «помогайбо» і пойшов. Помогайбом нэ одбудэш.*

ПО'ПЭРЭДЭНЬ *м.* Перадок, галоўкі ў санях; загнутыя ўверх пярэдняя частка палоззя. *Всі попэрэдні покрывыв, поламав.*

ПОСКРІ'БУХА *ж.* Паскрэбак. *Поскрібухою нэ вэльмы бо наісыса.*

ПОСТІ'Л *м.* Лапаць. *Муж як постіл, алэ сунь його за стіл.*

ПОСЭДІ'НКЫ *мн.* Вячоркі.

ПО'ТАК *м.* Сукала для навівання цэвак. *Подай потака і цівку.*

ПО'ТЭСЬ *ж.* Прасніца.

ПРАВЦЭ'М *прысл.* Прама, старчаком. *Бач, цікуе, стоіть, шчоб тэбэ правцэм поставыло.*

ПРІСТЬ *ж.* Глыбокая, выкапаная ўручную пратока праз балота і сенажаці, якая злучае рэкі або азёры. *Коло нас протыкае Лозыцка прість, іі прокопалы з Прыбока аж до Тупчыч.*

ПРОШЧА'ВЛЯНЫЙ *прым.* Пракіслы, з кіславатым прысмакам.

ПРЫКЛЮ'К *м.* Прычына, прычэпка. *Вона тількы для прыклюку прыйшла позычаты рэшэто, а направду поціковаты, шчо мы робымо.*

ПРЫКО'НЭЦ *м.* Сплеценая з конскага воласу вяровачка, якая прывязваецца да арапніка (пры ўмелым размаху гучна ляскае).

ПРЫСТІ'ЛОК *м.* Шуфляда ў стале. *Подэвыса, чого в тому прыстілку нэмае: квыткы, бавэльныца, обценькы, плоскогубцы, ухналі. Прыстілок обвіс, трэба поправыты.*

ПУ'ЖАЛНО *н.* Пугаўё. *Пужално найчастій вырэзають з молодоі вышэнькы або слывкы.*

ПУСТА'КЫ *мн.* Цэментныя блокі, пустыя ўсярэдзі-

не, выкарыстоўваюцца замест падвалін. *Подрубы тут хутко погнылоть, нызко, сыро, пудошлы б хыба шчо з ольхы, а ліпш за всэ поставыты пустакы.*

ПУСТЫ'НЯ *м.* і *ж.* Пусты, распушчаны чалавек. *Однэ слово — пустыня, і вправы на ёго нэмае, і нычого з ім нэ вдіеш. Шчо з ею говорыты — пустыня. Ай, пустыня вона, сама собі жытку загубыла.*

ПУ'ТЮ-ПУТЬ-ПУ'ТЬКА! Падзыўныя выгукі для курэй.

ПУ'ШКА *ж.* Пачак для запалак.

ПХЫ'НЬКАТЫ *незак.* Румзаць, хныкаць. *Да нэ пхынькай, пхынькало, будэ тобі.*

ПЭ'КАР *м.* Дзіцячая гульня. *У гурбу пэску втыкаецца цурка, ігракы збывають іі кыйкамы, потом каждый з іх повынэн побігты за одвэдэную рыску за своім кынутым кыём і забраты ёго так, коб до ёго нэ доторкнувса пэкар — сторож цуркы, іначэй він станэ пэкаром.— Тодось, будэш граты в пэкара? — А хто пэкаром будэ? — Надокучыло, всэ в пэкара і в пэкара, давай в хованку пограемо.*

ПЭЛЮ'ТКА *ж.* Ягадзіца. *Так роспанахав садно, шчо аж пэлюткы світяцца.*

ПЭЛЮ'ШКА *ж.* Пялёнка. *Пойду пэлюшкы праты.*

ПЭЧА'ЙКА *ж.* Пякотка. *Здосвыта пэчайка пэчэ, а тут ныдэ нэма соды.*

ПЫЦЯ'ТЫЙ *прым.* Мардаты, пухнашчокі.

РУМЯ'НОК, РОМАН *м.* Рамашка. *Румянок різный бувае: е румянок свынячый, дыкый, і е пахнючый. Ой, пойду ж я на гору, накопаю роману, хоч я сама нэхороша, хорошого пудману.*

РО'ШШЫВКЫ *мн.* Прошвы (у вязанні).

РЭ'ЙПЫНА *ж.* Драпіна. *Подав руку, чорную, у рэйпынах, мусыть, в кузні робыть.*

РЭЧНЫ'Й *прым.* Языкаты. *Вэльмы ты рэчный став, дывы, коб нэ поламалы рогы.*

САДНО' *н.* Задняя частка штаноў.

САМОДІ'ЛКОВЫЙ *прым.* Самаробны. *Кэдысь, всэ було самоділковэ: ножі, ложкы, допіру, кажуть, знов за ім на базары ганяюцца. А тут дід зробыв і скрыпку самоділкову.*

СВЭНЫ'НЭЦ *м.* Свінушнік, загарадка для свіней.

СІ'МЭНЬ *м.* Семя льну.

СІ'ЯЛНЫК *м.* Сейбіт, сявец.

СКА'ЛЬКА *ж.* Куклянка. *Воду зогнало, по всьому бэрэзы скалькы.*

СКОМЛЫ'ТЫ *незак.* Нудзець, енчыць, ныць. *Да нэ скомлы ты, всі гізунты пэрэів. Цілы дні скомлыть і скомлыть, місца собі нэ знаходыть.*

СЛОТА' *ж.* Назола, прыліпала. *Одчэпыса, слота, нэ оттараскаесса.*

СЛЭПЫНЖА' *м.* і *ж. зневаж.* Сляпак, сляпец.

СМОЛЯНА' КОБЫ'ЛКА. Нешта надзвычай каштоўнае, рэдкаснае. *А смоляноі кобылкы ты нэ хочэш? О, він выцыганыть і смоляну кобылу.*

СНІ'ВНЫЦЫ *мн.* Снавадла, прылада, пры дапамозе якой снуюць кросны; разлічана звычайна на 10 губ, губа — ад трох да чатырох з паловай метраў.

СНІГО'ВЦЫ *мн.* Кароценькія гумавыя боцікі.

СНОВА'ЛЬНЫЦА *ж.* Жанчына, якая снуе кросны.

СО'ВПАТЫСА *незак.* Соўгацца, таўчыся, топкацца. *Прочынаецца вдосвыта і вжэ будэ дэнь-дэньскый совпатыса і совпатыса коло пэчы.*

СОЛО'МЯНКА *ж.* Саламяны матрац.

СОЛОПЭ'Й *м.* Салапяка; някемліві, неразваротлівы чалавек.

СОХОВЫ'ЛА *мн.* Лапы драўлянай сахі, канцы якіх ператвораны ў ручкі.

СПРЫ'ХОДУ *прысл.* З краю, бліжэй да выхаду. *Не, я сяду луччэ спрыходу, а то скоро трэба іты, гостэй потрэвожу.*

СТАВ *м.* Ткацкі станок.

СТАТОВЫ'НЬНЕ *н.* Станіны ткацкага станка.

СТЁ'КЫ *прысл.* Не з галавою. Абазначае такое становішча чалавека ў вадзе, калі ён яшчэ можа даставаць нагамі дно, не акунуўшыся з галавою. *Нэ буйса, нэ втоплюса, мні тут шчэ стёкы. Ты думав, шчо тут я схаваюса з головою, подывы — стёкы. Не, я тут нэ стэчу, тут шчэ нэ стёкы.*

СТРАМЫ'НА *ж.* Драбіны, лесвіца.

СТРАХОПУ'Д *м.* Пудлівы чалавек.

СТРІ'ТЫНЬНЕ *н.* Традыцыйнае свята другога лютага па старому стылю.

СТРОПЭ'Ц *м.* Мэндлік.

СТУГОНІ'ТЫ *незак.* Гулка адгуквацца. *Нідэ далэко шлы бої, блыскало, прыложыш ухо до землі — стугоныть.*

*Да нэ стугоны ты так, дытя спыть. Цілый дэнь гупало, стугоніло. Подывыса, шчо там стугоныть?*

СТЭ′ЖАР *м.* Стажар′е.

СТЭНУ′ТЫСА *зак.* Скалануцца. *Проняло, аж стэнувса, а він хоч бы шчо.*

СУ′ВОРОТЫ *мн.* Папярочныя разоры па канцах нівы.

СЫЛОМІ′ТТЮ *прысл.* Сілком, нахабна, надакучліва. *Сыломіттю лізэ в очы, хоч ты стуй, хоч падай. Дэ просьбою, дэ грозьбою, а дэ сыломіттю, а возьмэ, нэ впустыть свого.*

СЫ′ЛЯГА *ж.* Дробнае і гнуткае галлё, лазняк. *Дубці в мэнэ е, трэба шчэ сылягы нарізаты, і можна плэсты коші.*

СЭ′ЛЯГ *м.* Качар, селязень.

ТА′МЫКЫ, ТА′МЫЧКА *прысл.* Там.

ТІ′КА *ж.* Зграя, гайня. *Як нападэ тіка, то прытысныса спыною да плота чы до стэны, прысядь і одбывайса палкою наокола сэбэ.*

ТКОЛЭ′ *часц.* Усё-такі, усё ж, аднак. *Возьму тколэ і подывлюса, шчо він за такый.*

ТОРО′ЧЫТЫ *незак.* Цвярдзіць, назаляць адным і тым жа. *Та шчо торочыш мні, так я тобі і повіру.*

ТРЭБУШЫ′ТЫ *незак.* Трэсці, калаціць. *Іды, вытрэбушы радюшку, в юй багато усцюків. Воны грушкы потрэбушылы, нычого нэ зусталосо.*

ТРЭНДЫКА′ТЫ *незак.* Трэнькаць, перадаваць галасам музыку, напяваць рэчытатывам. *Як выскочыть гэтый блызнючок з воды, да прытыснэ долоньню ухо, да і скачэ на однуй нозі, трэндычучы собі: «Комарык, комарык, вылый воду з уха».*

ТУ′СК *м.* Выпат, пот. *В туск вогнало, туск погнало* — так гавораць, калі на целе выступілі дробныя кроплі поту.

ТЭ′БЭЛЬ *м.* Шпунт, драўляны шпянёк, які забіваюць у адтуліну для змацавання бярвення ў сценах.

ТЭРУЯ′ *ж.* Пацяруха ад сена.

УПА′Л *м.* Спёка, спякота.

УПОВЫВА′Ч *м.* Спавівач.

УРУ′НА *ж.* Рунь. *З уруны стожка нэ кладуть.*

УШВЭЛЯ′ПЫТЫСА *зак.* Улюбіцца; засяродзіцца на чым-небудзь адным, не заўважаючы нічога іншага. *Божэ муй божэ, як ушвэляпывса в іі, то нычого ёму нэ трэба, ны хаты, ны дэтэй.*

УШЧЭ'ПЫ *мн.* 1. Прышчэпы. *Шо то погано прынялыса ушчэпы, здаецца ж, добры булы.* 2. Верхні вянок на хляве, у які ставяць крохвы.

ФЭ'ДОРКО *м.* Божая кароўка. *Діты, колы побачать або зловлять, то трэндычуть: «Фэдорко, Фэдорко, пэнь чы колода, скажы, шчо будэ — дошч чы погода?»*

ХАПА'ТЫСА *незак.* Спяшацца, парывацца. *Та нэ хапайса, нэ рвыса ты вэльмы, успіеш, за тобою ныхто нэ гоныцца.*

ХЛО'ПОТЭНЬ *м.* Дошчачка, да якой мацуецца кій у жорнах.

ХЛУДЭ'Ц *м.* Ракітавы або лазовы пруцік у цэўцы.

ХЛЮ'ПАВКА *ж.* Хлюпота.

ХОРОШЫ'ТЫ *незак.* Чысціць рыбу, моркву, маладую бульбу. *От рыбу похорошу і пойду спаты.*

ЦІ'ПУШ! Выгук, якім адганяюць куранят. *Ціпуш, шчоб на вас холера, всю радюшку поковчалы.*

ЦЫБА'Х *м.* Зялёная стрэлка ў цыбулі. *Цыбулю всю погнало в цыбахы, нэ знаю, шчо тэпэр і робыты.*

ЦЭРУБА'НЫТЫ *незак.* Цурчэць, ліць цурком (пра дождж). *Такый дошчыско цэрубаныть — аж стріху пробывае.*

ЦЯ'ТЫНА *ж.* Пляма. *Дэ ты такую цятыну посадыв, тэпэр чы й одмыеш.*

ЧАВЫ'ТЫ *незак.* Ціснуць. *З усіх гарбузів повычавляв насіньне, дэ там, одны вычавкы, насіння кіт наплакав.*

ЧКЭ-ЧКЭ-ЧКЭ! *выкл.* Падзыўны вокліч для свіней.

ЧОЛОВІ'ЧОК *м.* Зрэнка.

ЧУМА'ЖЫТЫСА *незак.* Хмурыцца (пра надвор'е). *Глянь, як зачумажылосо, чы нэ бура надходыть. Нішчо чумажыцца, коб дошчу нэ було, давай зносыты сіно.*

ЧЭРОНКЫ' *мн.* Прадоўжаныя краі бёрда, у якія ўстаўляюцца пласцінкі з трысця або дроту.

ШАБО'ВСЬ! *выкл.* Боўць.

ШВО'РНЫЙ *прым.* Шустры, жвавы, спрытны. *Занадто шворный він, по краю погыбэлі ходыть.*

ШІ'ХЛЯ *ж.* Ліхаманка, трасца. *Пэрэмэрзлы, одубілы, як од шіхлі траслыса. Хай його шіхля трасэ.*

ШПЫ'ЧКА *ж.* Стрэмка. *На, мо выймэш — загнав шпычку. А нэвжэж, шчо то значыть чужа родня, п'ють сокы, схудніла, тонюсэнька стала, як шпычка.*

ШУШВА'РОК *м.* Скварка. *Шушваркы смачны, колы*

*сало з мясом в чыгуні в піч поставыты і вытопыты. Тобі бульбы да шчэ й з шушварками.*

ШЧУ′Р *м.* Пацук. *Вымок як шчур. У хлэ́ву було багато шчурів.*

ШЭЛЭСТА′ТЫ *незак.* Казытаць. *Мамо, а воно шэлэшчэцца. Ой, нэ шэлэшчыса ты, я вэльмы боюса шэлыстув. Гэто усцюкы шэлэшчуцца, холера на іх.*

ШЫХОВА′ТЫ *незак.* Збіраць, рыхтаваць. *Тэпэр, маты, шыхуйса, на вэсільле.* 2. Шанцаваць. *Як нэ пошыхуе, то хоч плач, нычого не порадыш.*

ЯДУ′ХА *ж.* Задуха, астма. *Він давно як захворів ядухою.*

ЯДУ′ШЛЫВЫЙ *прым.* Задушлівы, хворы задухай, астмай. *Очмурыло цыганьне, пэрэпродалы ядушлывого коня, тэпэр шчо хочэш з ім робы.*

ЯРУ′ГА *ж.* Калюга, выбоіна з вадой. *І поіхав, нэ розбыраючы дорогы, по яругах, по выбоях.*

*Ф. Д. Клімчук*

# З ЛЕКСІКІ ГАВОРКІ ВЁСКІ ВІДЗІБАР СТАЛІНСКАГА РАЁНА

Вёска Відзібар (мясц. *Выдыбор*) знаходзіцца ў 15 км на паўночны захад ад г. Століна і ад р. Гарыні. Упершыню ў пісьмовых помніках яна ўпамінаецца ў 1505 г.

Гаворка в. Відзібар адносіцца да паўночна-ўсходніх загародскіх. Аднак некаторыя асаблівасці аб'ядноўваюць яе з сярэднезагародскімі гаворкамі: заднеязычныя перад галоснымі пярэдняга раду цвёрдыя (*гуркы́, му́хы, до́вгэ, коро́ткэ*); адзначаны выпадкі ўжывання мяккага *ц* (*струпці́, скопці́, коло скопця́, ста́нція, коцюба́*) і інш.

Відзібарскай гаворцы ўласцівы таксама некаторыя лакальныя асаблівасці: паяўленне пачатковага *і* перад збегам зычных у пачатку слова: *ізмулы́в, ізганя́е, ізвы́ты, ізляка́ты, ізла́маный, ірво́та, іспуска́ты* (гэтыя словы ўжываюцца і без *і*); вымаўленне *а* на месцы *ы* ў канчатках назоўнікаў мн. л. у словах *двэ́ра, двэ́рца, мо́глыца, ві́нца, хутора́* і ў канчатках назваў населеных пунктаў на *-чы, -цы*: *Бара́новыча, Ма́ньковыча, Тырво́выча, Бу́хлыча, Вы́коровыча, Усо́бовыча, Ку́дровыча, Калаву́ровыча, Качано́выча, Мі́сятыча, Лымышэ́выча, В'ю́нышча, Тырыбы́шча, Бырэ́зца, Гу́лца* (афіцыйна Гольцы).

Некаторыя асаблівасці відзібарскай гаворкі сустракаюцца толькі ў асобных словах: вымаўленне *а* на месцы ненаціскнога *о* (*мокрадэ́ча, габру́ч* 'абруч', *гары́лка, марка́ч* 'смаркач'), *о* на месцы ненаціскнога *а* (*чостова́ты, ко́мнота*), *а* на месцы ненаціскнога *е* (*траскы́* 'трэскі', *сады́ба* 'сядзіба'), *ы* на месцы ненаціскнога *о* (*дыйны́ца* 'даёнка', *сыльні́чка* 'пасудзіна на соль'), *ы* на месцы ненаціскнога *е* (*начы́пыш* 'начэпіш', *стры́тынне* 'грамніцы, рускае сретенье'), *в* на месцы *о* перад зычнымі (*вчыны́ты* 'ачыніць', *нывбо́лыты* 'не цярпець, ненавідзець', *втру́та* 'атрута'), цвёрдасць зычных перад *а*<*ę* (*сьва́то, сьваткова́ты, мі́сац, кназь* 'князь')[1], цвёрдасць зычных на месцы

[1] Гэта асаблівасць, магчыма, звязана з ацвярдзеннем зычных перад галоснымі пярэдняга раду яшчэ да пераходу пярэдняга *ę* ў *а*.

мяккіх перад іншымі галоснымі (*сьвýкор, чытьвóртый*), адсутнасць падаўжэння зычных у слове *збóжэ*, наяўнасць сцяжэння зычных у слове *росóха* і інш.

З рэгіянальных марфалагічных асаблівасцей гаворкі можна адзначыць наяўнасць павелічальна-зневажальных форм назоўнікаў на *-зно (бабзнó* ад *бáба, дывзнó* ад *дівка*), а таксама форм дзеясловаў 3-й асобы мн. ліку на *-ать (сýчать, полóшчать)*.

З устойлівых словазлучэнняў відзібарскай гаворкі зафіксаваны наступныя: *бóчкою качáтыса* 'высока ўздымацца (пра хвалі)'; *бы мóкрэе літо* 'без істотных змен' (*Моé платте,* г. зн. бялізна *вісыть бы мокрэе літо, в'янэ, і ны мóкрэ, і ны сóхнэ; Ева бы мокрэ літо, і ны хвора, і ны здорова); волóва сыла* 'буйнае чорнае зерне ў коласе жыта'; *впустыты жырлó* 'ўджаліць'; *всады́, бóжэ, пчóлы* 'выражэнне падзякі за частаванне ў час падбору мёду'; *выхровáтэ дэ́рыво* 'дрэва, вывернутае «ліхім» ветрам, г. зн. ветрам, у які «ўвасобілася» «нячыстая сіла» (*Выхроватэ дэрыво, вы́хор вы́вырнув, злый дух, на пострóйкы ны можна); дýба займáтыса* 'станавіцца на заднія ногі'; *накы́нуты кры́ксы* 'чараваннем прывесці дзіця да нястрымнага плачу'; *однэ́ слóво* 'два ці больш слоў тоесных па значэнню' (*Гэто однэ слово, шо драбы́на, шо страмы́на*); *пойты́ ровчаком* 'хутка, імкліва пацячы' (*Ровчаком вода пошла*); *пойты́ шпýнтом* 'пацячы моцным струменем'; *пырыбы́ты бóка* 'няякасна выткаць, калі адзін бок палатна забіваецца мацней'; *рýвно з рýбамы* 'поўна, да краёў (пра напоўненую пасудзіну)'.

Лексічны матэрыял, які прыводзіцца ў артыкуле, запісаны ў 1975 г. у час экспедыцыі па збіранню матэрыялаў для Лексічнага атласа беларускай мовы. Для публікацыі выбрана рэгіянальная лексіка. Яна ўмоўна падзелена на дзве групы. Да першай аднесены словы, якія па структуры і значэнню адпавядаюць ужо прыведзеным у нашых публікацыях словам з гаворкі в. Сіманавічы Драгічынскага раёна [2], блізкай да відзібарскай. Гэтыя словы адзначаюцца ніжэй; у дужках прыводзяцца тыя адпаведнікі сіманавіцкай гаворкі, якія адрозніваюцца ад відзібарскіх фанетычнымі, марфанематычнымі ці словаўтваральнымі асаблівасцямі: *блявýскаты, бля́шыты, болóтя-*

---

[2] Лексика Полесья. М., 1968, стар. 20—78; З народнага слоўніка. Мінск, 1975, стар. 135—153.

*ный, брыскот, брыску́тлыво (брыскы́тлыво), бу́лька, валкова́ты, вітра́к (вітраньік), влі́тюс (лі́тюсь і влі́тюсь), в одно́сталь, во́ло, вуздыр (вздро), вычорны́к, вычорны́ца (вычорны́ця), го́ндэ, гонё, гонёдэ, гораттьтэ́, гра́ды (гря́ды), гыкло́, гэ́ндэ, до́рож, драчова́тый, дру́вотня (дры́вотня), ду́йка (ды́йка), дыйны́ца (дойны́ця), дырышова́тый (гэрышова́тый), дя́тловына (я́тылына), жары́ты (жарі́ты), жырло́, жэ́жа (жы́жа), залу́м (за́ломка), запырэ́нька (запырня́), засмачы́ты, зашэ́рхнуты, згу́ла (ску́ла), зі́ва, кны́га, корч, корчы́ (корчі́), кро́хы, кругловы́дый, кру́ча, кукуда́каты (кокода́каты), ку́па, ла́сыцы (ла́сыці), лёкоті́ты, ляка́тыса (ляка́тысь), мазны́ца (мазны́ця), мака́тка, мокрадэ́ча (мокротэ́ча), наголобу́скы (наобы́скы і набосякы́), на́джа, накозу́бытыса (накозу́бытысь), на́сыпка (насыпня́), ынна́джоно (ынна́джано), ынна́джоный (ынна́джаный), нычо́го, нычо́гый, ону́к, па́зюр, пакулы́на, па́сынка ж. (па́сынок м.), по́вночы (по́ночы), полі́ткы (лі́та), поло́ня, полоскозу́б (пополо́кыны). поло́сьце (полы́сьсе), полотьтэ́, по́плав, попэ́ньскатыса (попэ́нькатысь), по́так, по́тысь, (по́тась), пошкры́бушка (поскрі́птуха), прач, про́тор, пустрыгова́ты (фасрыгова́ты), пылю́шка (палю́шка), пырыстёлыстый (пырысла́ный), пышча́га (пышчуга́), рата́й, ро́хаты (ро́хкаты), сады́ба (сыды́ба), свуй (су́вый), свыршо́к, скмэ́тыты, слун (ослы́н), смачы́ты, смы́каты, сокоры́ты (сокорі́ты), стоно́га, стоконо́г (стоно́га), стыкты́ (постікаты), су́крот (су́крут), су́кроч (су́крут), сутыня́ты (сутыні́ты), ту́былнэц (ту́былнык), трутызна ж. (трутызно н.), ту́рзаты (ту́заты), хляпаны́на, хоро́шый, хорошэ́, хору́шч (хорі́шч), хору́шчый (хорі́шчый), храпусті́ты (хробості́ты), хыта́тыса (хыта́тысь), чы́сныца (чы́сныця), шу́хля (шы́пля), шу́хля (шы́хля), шчылю́быня, шыхова́ты, ю́шыты, я́духа, я́душлывый, я́сла, ятра́, ятры́тыс (ятры́тысь).*

Усе астатнія словы ўключаны ў другую групу. Яна складае алфавітны рэестр слоўніка. Пры гэтым у некаторых слоўнікавых артыкулах прыводзяцца адпаведнікі з гаворкі в. Сіманавічы (скарочана Сім.).

У заключэнне зробім заўвагі адносна транскрыпцыі.

Літарай *ы* перадаецца не толькі галосны гук блізкі да *ы* ў літаратурнай мове, але і націскны гук больш блізкі да *і* на месцы былога *ѣ* пасля шыпячых, *ц, р,* якія вымаўляюцца цвёрда (*рыпкы, порызав, жарыты, корчы́, довжый*).

Літарай *о* абазначаецца звычайны *о* ў націскным становішчы і ненаціскны галосны *о*, які нярэдка вымаўляецца з набліжэннем да *у* або як *у*.

БАЛА'БУШКА *ж.* Маленькая пшанічная булачка.

БЛЫ'СКАВКА *ж.* Дробная рыбка з бліскучай луской, часта сустракаецца ў невялікіх вадаёмах. Сім. б л ы́ с к а в к а.

БЗЫНІ'ТЫ *незак.* Гусці (пра насякомых). *Пчола́ бзыны́ть. Мухы бзыня́ть. Ова́д як забзыныть.* Сім. б з ы ч я́ т ы

БО'ВТАЛО *н.* Шост, якім заганяюць рыбу ў сетку.

БО'РТНЫК *м.* Пчалавод.

БРА Зваротнае слова, ужываецца незалежна ад полу і ўзросту асобы, да якой звяртаюцца. *Ой, бра, шо я чула на́ станції.*

ВСО-ЦЫБА' Выгук падганяць валоў.

ВТАЛМОВА'ТЫ *зак.* Уціхамірыць. *Лэдь ёго́ вталмовалы.*

ВЫДУ'Н *м.* Мак-самасей. Сім. в ы д а́ к.

ВЫ'КОЗУБЫТЫ *зак. узмацн.* Вынішчыць. *Половыну сыла́ огонь выкозубыв.*

ВЫЛЁ'ТНЫЙ *прым.* Суцэльны, ад краю да краю. *Вылётна дырывы́на, на всю стыну́. Вылётный загу́н, од конця до конця поля. В клу́ні коло то́і вылётної стыны́.* Сім. в ы л ё т н ы й.

ВЫЛЬІДЮ'ЗНЫЙ *прым.* Вялізны. *От двэ́ра вылыдюзны.* Сім. в ы л і́ з н ы й, в ы л ы́ з н ы й, в э́ л ы ч н ы й.

ВЫМАЗА'НЭЦ *м. рэдк.* Дрозд.

ВЫ'ШТОЛЯТЫ *зак. узмацн.* Адлупцаваць. *Батого́м выштоляе.*

ГАДА'ТЫ *незак.* Прасіць, патрабаваць. *Гадалы за поросята сто, то можна купыты за дівыно́сто, за во́сімдысят.*

ГАЙДА'Р *м.* Паганяты скупленай жывёлы (на значных адлегласцях).

ГАЛЯ'ТЫ *незак.* Разгульваць. *Машыны́ всю нуч галя́ють.* Сім. г а л я́ т ы.

ГАНДЖУ'К *м.* Бізун, плецены з рэменю. Сім. к а н ч у́ к.

ГЛАБЫ'НА *ж.* Драбіны на воз.

ГОЛЁ'ТА *ж. анат.* Перадплечча.

ГОМОНА' *ж.* і *м.* Гаманкі, гаманлівы, гаваркі.

ГОРА′ПКА *ж.* Рабчык, лясная курачка. *Горапка рабэ́нькая, бы ку́ра, по лісу вона́.*

ГОРОПА′ШЛЫВЫЙ *прым.* Працавіты. *Горопашлывый чоловік.* Сім. г о р о п а́ ш н ы й, г о р о п а́ ш н ы к, г о р о п а́ ш л ы в ы й.

ГРЫБ: *градовы́й грыб* і *дубо́вый грыб.* Від белага грыба: сіваваты ніз шапачкі. *Дубовый грыб — пудо дном бы сывый, бы чорный, шэ ска́жуть — градовый грыб, алэ так бульш в Осовця́х зовуть.*

ДЗЫБА′ТЫЙ *прым.* Цыбаты, даўганогі. Сім. ц ы б а́ т ы й, ц ы б а н я́ с т ы й.

ДЗЫГА′ТЫЙ *прым.* Цыбаты. *Гэтой мухомор бы парасо́н дзыгатый.*

ДОВЖЫ′Й *ж.* Даўжыня, вялікая даўжыня. Сім. д о́ в ж а, д о в ж і́ н ь.

ДОХАВА′НЭЦ *м.* Спадчыннік, які даглядаў да смерці таго чалавека, ад якога атрымаў спадчыну.

ДРЫ′ГЛІ *толькі мн.* Квашаніна.

ДУБ *м.* Лодка, выдзеўбаная з аднаго кавалка дрэва.

ДУ′РБАЛО *н.* Дурань. дурыла. *Ой ты дурбало старэе.* Сім. д у́ р б а л о.

ДЫЧА′Р *м.* Нелюдзень, дзіклівы.

Ё′МКО *прысл. узмацн. рэдк.* Хутка. *От ёмко пошов.*

ЖАДО′БА *ж.* Моцнае жаданне, прага.

ЖЫСТЫЛЫ′НА *ж. бат.* Руск. жестёр. *Жыстылына — кора́ бы на вышні.* Сім. ж ы р с т ы́ н а.

ЗАГНІ′Т *м.* Верх полымя. *В пычы́ горыть, трэба прыкрыты, хай загніт прысядэ.*

ЗАЖМЫНЫ′ТЫ *зак.* Ператаміць, жнучы сярпом. *Зажмынылa ру́ку.* Сім. о ж м ы н ы́ т ы.

ЗАЛІ′ТКОВЫЙ *прым.* З мінулага году (пра сена). *Заліткове сіно.*

ЗАЛЫ′СЫТЫСА: *залы́сывса моро́з.* Утварылася ўзорная намаразь на аконным шкле.

ЗАПОРО′ЖНЫЦА *ж.* Дошка пад дзвярамі (у хляве, гумне).

ЗАРО′ШЧОНЫЙ *прым.* Зарослы. *Зарошчона ры́чка, заповзла́ му́лом.*

ЗГУК *м.* Рэха.

ЗОВЗУ′ЛІНЫ РУЧНЫЧКЫ′ *толькі мн. бат.* Плямістая зязюлька, плямісты ятрышнік. Сім. з о з у́ л і н р у ч н ы ч о́ к.

КАВЭ́НЧЫТЫ *незак.* Вельмі мучыцца. *Вун кавэ́нчыть.*

КАРАЧОВА́ТЫЙ *прым.* Моцна скрыўлены, пакрыўлены; крывы, пакручаны (пра дрэва). *Карачоватэ дэрыво.* Сім. к а р а ч у н о в а́ т ы й.

КАРАЧУ́Н *м. груб.* Празмерна пакрыўлены. *Карачун ты, в тыбэ́ ногы крывы́і.*

КЛУДЭ́Ц *м.* Палачка, на якую насаджваецца цэўка ў чаўнаку. *Ці́йка накладáіцца на клудэц.* Сім. к л ý т ч ы к.

КОЛО́ДА *ж.* Палатно, якое кладуць на крышку труны. *Колода — як на крышку кладуть полотно. Коб тобі поспіло на колоду гэтэе* (праклён).

КОЛОСНЫ́К *м.* Невялікі воз сена, саломы. *Колосный сіна прыв'юз.*

КОНО́ДРЫСЬ *м. бат.* Кураслеп анемона. Сім. к о н ó з д р ы ц я *ж.*

КРАПЛЫ́СТЫЙ *прым.* З вялікімі кроплямі. *Краплыстый дошч.* Сім. к р а п л ы́ с т ы й.

КУ́ЛКЫЙ *прым.* Пруткі (пра ніткі, тканіну).

КУРЫ́ТЫ *незак.* Імжэць. *Дошч курыть.*

КУШЫ́ЦЫ *толькі мн.* Два кіі, на якія чаплялі ніт. *Кушыцы — два кыі, на іх ныт чыплялы.*

КЭ́ДЫСЬНЫЙ *прым.* Колішні.

ЛНО́ВЫСКО *н.* Скошаная трава на льняным полі з рэшткамі нядабраякаснага льну. *Бульбу прыкрывають лновыском чы соломою.*

ЛЯГА́ТЫСА *незак.* Класціся спаць. *Будымо лягатыса.* Сім. л а ж ы т ы с ь.

ЛЯКРА́З *прысл.* Якраз. Сім. я к р á з.

МАЛЮГА́ *ж.* Рыбныя маляўкі.

МАНІ́ТЫ *незак.* Прыемна пахнуць. Сім. м а н í т ы.

МАРА́ *ж.* Нягоднік, паганец; нікчэмнасць. *Ох ты, маро́. Ня́ку мару́ на стул кы́нув.* Сім. м á р а.

МОРО́ЧНЯ *ж.* Багністая мясцовасць (і назва ўрочышча — *Моро́чня*). *Сюдою ны про́йдымо, бо там морочня.*

МО́РЭ *н. экспр.* Заліты вадою луг. *Пожыну корову у морэ.*

МРЫ́КАТЫ *незак.* Муркаць (пра ката). *Кýшка мрычэ.*

МШАР і ІМША́Р *м., мн. мшары́, імшары́ бат.* Махавік.

МЫДЯНЫ́Й *прым.* Мядовы. *Як молочный год — мэду ны будэ, а як мыдяный год — молока ны будэ.*

МЫГА'ТЫ *незак.* Бліскаць (пра маланку). *Побá, вжэ мыгае.* Сім. м ы г á т ы.

МЭ'НЬНЕ *н.* Імя. Сім. й м э н ь н е.

НА'ГЛЯДОМ *прысл.* Назіркам. *Наглядом пошов за ім.*

НЫВПРЫНДОВА'ТЫ *зак.* Не ўважыць, зняважыць. *Нывпрындовав, нывважыв старóго чоловіка.*

НЫМА'ЛЬ *прысл.* Амаль.

НЫХОРУ'ЗНЫЙ *прым.* Вельмі непрыгожы. Сім. н ы-х о р о ш і з н ы й.

НЭ'ВМА *ж.* Няўмека.

ОБОДНЯ' *ж.* Вяроўка, якою абкручваецца воз сена, саломы. *Ободнёю окóла обкрутьвають хýру.*

ОСНЯ'К *м.* Асіннік. Сім. о с ы н н я к.

ОТЁ'СА *ж.* Атоса. Сім. о т ё с а.

ОТКАХНУ'ТЫСА *зак.* Адкараскацца, адвязацца. *Вы́хор можэ скалічыты, можэ покрутыты, а то й утопыть, а як станэш хрыстытыса, то мóжэш откахнутыса.*

ОЧМУРЫ'ТЫ *зак.* Ачумець. *Вжэ я очмурыв од гэтої роботы.*

ПАК *часц.* Бо, гэта ж, жа, ж. *Я пак була тáмыка.*

ПАСВЫ'СТВО *н.* Паша (месца). Сім. п а с о в ы́ с к о.

ПА'СЫРБ *м.* Няроднае дзіця. *Я вдова, пошла замуж, то мої діты пасырбы дрýгому мужыку.*

ПА'СЫРБА *ж.* Няродная дачка.

ПАХНЮ'ЧЫЙ *прым.* Пахучы, духмяны. *Е пахнючый пэ́рэц.*

ПЛАВА'К *м.* Плывец.

ПЛАВКЫ'Й *прым.* Багністы. *Було тэ́е болото плавкэе, ны можна було ступыты.*

ПЛА'ШКА *ж.* Нешырокая паласа поля.

ПЛЁШЧЫ'ТЫ *незак.* Шумець (пра ваду). *Плёшчыть вода.*

ПЛІСНЯ' *ж.* Верх ступні нагі.

ПЛУСЯНЫ'ЦА *ж.* Салома з проса. Сім. п р о с я-н ы́ ц я.

ПОБА', БА *часц.* Глянь, паглядзі. *Поба, якая вылыка морква. Ба, вжэ Лэ́вко йдэ.*

ПОЗАГУ'НШЧЫНА *ж.* Падзел зямлі па загонах. *Загýн вáшый і нáшый, то позагуншчына.*

ПОЛОЗЫ'НЭЦ *м.* След ад палазоў саней. *Ідь полозынцэм.*

ПОЛОТНО′ *н.* Перапонкі ў вадаплáваючых птушак. Сім. п о л о т н ó.

ПОЛУ′СЫТОК *м.* Рэдкае сіта. *Полусыток рыдішый за сыто, а рышыто ішчэ́ рыдішэ.*

ПОЛУ′СЫЦОК *м.* Рэшата з лыкаў. *Полусыцка з лыкэй ткалы, як рышыто.*

ПОРОВНЮВА′ТЫ *зак.* Ураўнаваць. *Хто горэ́, хто боронуе, всіх буг поровнуе.*

ПРОСЛА′ТЫ *зак.* Паслаць. *Я простылю́, лягай.*

ПРОСТЫЛА′ТЫ *незак.* Слаць. *Простылáты лён трэба.*

ПРО′ТЯГ *м.* Працяжнае вымаўленне. *В Ду́боі с протягом говорать.*

ПРЫ′БОЛОТУХА *ж. бат.* Каўпак кольчасты. Сім. п р ы́ б о л о т у х а.

ПРЫВДА′ЛЫЙ *прым.* Прыгожы.

ПРЫКОРЭ′НКОВАТЫЙ *прым.* Нізкі, каранасты.

ПРЫСТУ′ЛОК *м.* Шуфляда (у стале, шафе і інш.). Сім. с т о л н ы́ ц я.

ПТАХ *м.* і *зборн.* Птушкі. *Птах вылытáе в гы́рэй.*

ПУДВІ′Й *м.* Хвароба ад «злога» ветру. *Пудвій — такá хвороба од вітру, спу́хнэ, чырвонэ стáнэ.* Сім. в í т ё р.

ПУДВУ′РНЯ *ж.* Месца паміж хлявом і гумном. *Пудвурня помыз хлывом і клу́нёю.*

ПЫНЬКОВА′ТО *прысл.* Няроўна (пра напрадзеныя ніткі). *Пыньковато напрала.*

ПЫРЫЛОМА′ТЫ *зак.* Перааараць (іржышча).

РАБУ′ШКА *ж.* Завітая намітка на галаве ў выглядзе шапачкі. *Зав'é намітку, рабушку зробыть бы шапку.*

РОЗРАІ′ТЫСА *зак.* Раззлавацца. *Розраівса бы собака.* Сім. р о з'я р í т ы с ь.

РОСТА′ЛЬЛЕ *н.* Месца, дзе растаў снег. *На ростальлі — як сніг ростанэ зымою чы навыснí.*

РЫ′ПКЫ *толькі мн.* Прыстасаванне ў выглядзе вузенькіх «драбінак», якое служыць для навівання аснаванай пражы на вал кроснаў (каб ніткі навіваліся раўнамерна на ўвесь вал). Сім. р í т к ы.

САРА′Ч *м.* Сукно з горшага гатунку воўны.

СВО′РЫНА *ж.* Адна з перакладзін, якімі змацоўваліся бакавыя часткі ткацкага станка. *Сво́рыны — ставá збывалы, одну́ і другу статывы́ны, було дві сворыны.*

СҚА'ЛҚА *ж.* 1. Слімак у ракавіне. 2. Ракавіна слімака.

СҚУПЫНЧА' *м., ж.* і *н.* Скупянда. Сім. с к у п ы н д я́.

СНЫТЭ'Й *м.* Сажа (у каласах збожжа). Сім. с н ы т э й.

СОҚОТІ'ТЫ *незак.* Раўнамерна, хораша пастукваць (пра новы воз). *Соко́чэть вуз, як новый.*

СОХОТІ'ТЫ *незак.* Сохнуць, нудзіцца, смуткаваць. *Сохоты́ть чоловік — такэе горэ ёму́.*

СПА'СНЫЙ *прым.* Непераборлівы ў ядзе.

СПІ'ЛЫТЫ *незак.* Спець, паспяваць. *Вжэ спілые жыто.* Сім. с п і т ы.

СПОГО'НЛЫВЫЙ *прым.* Злапамятны.

СПУ'СҚУВАТЫЙ *прым.* Палогі (пра бераг). Сім. с п у́ с к а с т ы й.

СТРАМЫ'НА *ж.* Прыстаўныя драбіны. Сім. с т р а м ы́ н а.

СУХОПУ'ТТЕ *н.* Сухое, не балотнае месца. *Сухопутте пуд ногамы.*

СЫ'ТЧЫЙ *прым.* Укормлены, сыты. *Са́мого сытчого бара́на зарызав.*

ТОВСТЫЛЮ'ЗНЫЙ *прым.* Вельмі тоўсты, таўшчэнны. *От товстылюзнэ дэрыво.* Сім. т о в с т і з н ы й.

ТОРЗУНУ'ТЫ *зак.* Тузануць, таргануць. *Як торзунэ́ ры́бына.* Сім. т у з н у́ т ы, т у з ы н у́ т ы.

ТРАВЛЯНЫ'Й *прым.* Травяністы, з травою. *Травляная солома, с травою.*

ТРУСЫ'ТЫСА *незак.* Дрыжаць. *Вун тру́сыцца.*

ТУМА'НЬ *ж.* Туман. *Тумань густа, густа, такою сму́гою потягласа, як мы з Вірою в Столын пошлы.*

ТЫЛЫСО' *н. спрошч.* Цела. *В Пытра́ тылысо довгэе.*

ТЫЛЫСЫ'СТЫЙ *прым.* З доўгім вялікім целам. *Тылысыстый чоловік.*

УҚОСТОВА'ТЫ *зак.* Адзець, прыбраць нябожчыка.

УПА'Р. *м.* Незамерзшая частка на сярэдзіне ракі.

УРА'Д *м.* Сваякі жаніха на вяселлі.

УХМАТНЭ'НЬҚА *ж.* Від кроення (у талію). *Ухматнэ́нькою пошыв.*

УЧЫПУРЫ'ТЫ *зак.* Учыніць незвычайнае. *От учыпурыв, шо по крайный міры, ныхай подывляцца.*

ХУДЮ'ЖНЫЙ *прым.* Вельмі худы. Сім. х у д і́ з н ы й.

ЦУД *м.* Цот. *Чы лы́шка, чы цуд.*

ЦЫ'БАЛКА *ж.* Гушкалка ў выглядзе бервяна з пакладзенай на ім накрыж дошкай.

ЦЫ'БАТЫСА *незак.* Гушкацца на дошцы, пакладзенай на бервяно. *На цыбалцы цыбаюцца, а на гóйдалцы гóйдаюцца.*

ЧЫРЫТА', ЧЫ'РКА *ж.* Чырок. *Чырыта як качка маленька.* Сім. ч ы́ р к а.

ША'НЬКА *ж.* Невялікая скураная торбачка.

ША'НЬКЫ *толькі мн.* Талеркі на вазе. *Вага на шаньках.*

ШАРУ'НОК *м.* Рад пабудоў пад адной страхой. *В одын шарунок.*

ШАРЫСТІ'ТЫ *незак.* Шамацець. *Шарыстьі́ть вода.*

ШКЛУ'ПКА *ж.* Паўкруглая скобля. Сім. с к л ы́ п к а.

ШУ'РПА *ж.* Чубатка.

ШЧ'ЫГЭЛ *м.* Шчыгол.

ШЫВЫЛЫ'ТЫ *незак.* Балаваўца. *Ны шывылітэ, діты.*

ШЫРЫШЭ'Й *м.* Дробныя кавалачкі лёду на вадзе.

*Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук*

# ЛЕКСІКА ЛЕЛЬЧЫЦКАЙ ГАВОРКІ

Змешчаная ў артыкуле лексіка (каля 150 слоў) запісана ў 1970 г. у в. Новае Палессе (у мінулым Каросцін) Лельчыцкага раёна Гомельскай вобл. у час экспедыцыі па збору матэрыялаў для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа. Гаворка гэтай вёскі адносіцца да мазырскай групы паўднёва-заходняга дыялекту.

Адзначым некаторыя нерэгулярныя фанетычныя з'явы гаворкі, а таксама асаблівасці суфіксальнага словаўтварэння.

Часта ў пазіцыі пасля губных, а таксама па суседству з губнымі, заднеязычнымі або *л* і рэдка пасля іншых зычных ненаціскное *о* змяняецца ў *у*: *смулá, мурóз, хувáць, кумарэ́, сулóма, сувá, стуя́ла*. Часцей такая замена адбываецца ў прыназоўніках і прыстаўках *па-, пад*: *пуд лáўкай, пупуд лáўкай, пугурувáла, пуéхаў*.

Гаворцы вядомы пераход *е* (з этымалагічнага *ѣ*) у *о* з папярэднім ацвярдзеннем зычных: *сповáць, сокéра*.

Ненаціскны галосны *ы* пераважна пасля губных зычных пераходзіць у *і* або сярэдні гук паміж *і* і *ы* (*і$^{ы}$*), зычныя ў такім становішчы вымаўляюцца мякка або паўмякка: *мі, ві, млін, вісóко, вісох* або *бі$^{ы}$к, жыві$^{ы}$, пі$^{ы}$тáе*.

Зычныя перад *е* з этымалагічнага *е* і *ь* вымаўляюцца паўмякка: *дэ$^{е}$нь, тэ́$^{е}$мны, стэ$^{е}$гнó, комэ́$^{е}$ль*, а перад *е* з *ѣ* — мякка: *цéста, лéс, дзéўка, невéстка*, але *сэ$^{е}$дыць*.

У некалькіх выпадках адзначана *ј* на месцы зычных перад галоснымі: *чэр'я́к, с'я́то, заязáць, заяжу́, ю́стро*.

Шырока ўжываюцца назоўнікі з суфіксам *-ін-а* са значэннем адзінкавасці: *я́годзіна, суні́чына, малі́ніна, олёшына, цыбу́ліна, траві́на, косі́на* (адзін волас), *худóбіна* і інш.

БЕ́ЖКІ *прысл.* Бягом. *Бежкі на выручку сэстэр!*

БЕЛЬ *ж.* Балота. *Бель — болото, которо не высыхае, вода там рыже.*

БОГА'ТО *прысл.* Многа. *Богато холодней.*

БО'РСАЦЬ *незак.* Барсаць. *Голка борсае ніткі.*

БОЎКУ'Н *м.* Ярмо на аднаго вала. *Хомут на коню, боўкун на волу.*

БРАТКО' *м.* Дваюрадны брат. *Мойго чоловека братко.*

БУ'ТКО *прысл.* Страшна. *Як сам у лесі, так вельмі бутко.*

ВЕРОБЕ'Й *м.* Усякая дробная птушка. *Есьць такі веробей — жаўронка.*

ВЕРЧ *м.* Скрутак лыка ў выглядзе васьмёркі.

ВЕ'ХА *ж.* Амела. *Веха росте на бэрэзе, мало яна поподае.*

ВІД *м.* Твар. *Красівы на віду.*

ГІ'ДКО *прысл.* Брыдка. *Гідко глянуць.*

ГОРШЧА'Й *м.* Ганчар.

ДЗЯ'ННА *ж.* Жонка дзядзькі.

ЖО'НКА *ж.* Жанчына. *Нека жонка ідэ.*

ЖЫ'ТКА *ж.* Жыццё. *Така жытка! Вода стоіць у розоры.*

ЗЕХА'ЦЬ *незак.* Бліскаць. *Блісковіца зехае.*

ЗОВІ'ЦА *ж.* Сястра мужа.

КАЛА'Ч *м.* Круг. *Калач коўбосы купіў.*

КА'ПАР *м.* Вага ў студні з жураўлём.

КВО'КЛЯ *ж.* Квактуха.

КЛО'МЛЯ *ж.* Рыбалавецкая лавушка з адкрытым заходам для лоўлі рыбы ўдваіх. *З лозы робяць кломлю і ловяць в'юны.*

КНЯЗЁК *м.* Жаніх. *Садзяць молодую з молодым князьком.*

КОВЕНЯ' *ж.* Качарга. *Ковеней жар выгрэбаем.*

КОСТРУБА'ТЫ *прым.* Шурпаты.

КО'СЫ *мн.* Валасы. *Чым вы помазалі косы? Косы выподають.*

КОЎБ *м.* Страўнік. *Коўб у чэловека, коня, корові.*

КОЎТУ'ННІК *м.* Лопух. *Ростэ коло плоту путыннік, звуць і коўтуннік.*

КОЦЮ'ШКА *ж.* Катушка. *Основу с коцюшок нацягваем.*

КОЧЭРБА'ХА *ж.* Палка, якой варочаюць вугаль, бульбу.

КОШЭ'ЛЬ *м.* Кошык. *Кошэль робілі з шырокіх полос, кош — з дубцоў.*

КРАСНЮ'К *м.* Грыб падасінавік.

КРОПІ'ЦЬ *незак.* Пырскаць. *Дожджык кропіць.*

КРО'СНА *мн.* Мера вытканага палатна. *Кросна — ето дэсяць губок полотна, поўкрасён — п'яць губак.*

КРЭ'СЛІЦЬ *незак.* Крэсіць. *Із губы і ціра крэслілі огонь.*

КУВА'ЦЬ *незак.* Кукаваць. *Зеўзюля куе.*

КУ'РОВО *н.* Пыл. *Курово осэдае, по-вашэму — пыл.*

КУРЫ'ШЧЭ *н.* Гарачае вуголле (з кастра, з печы). *Коло курышча драмае. Несла́ курышчэ у вэдрэ.*

ЛАНТУ'Х *м.* Гультай.

ЛЕ'ЖЭВЫ, ЛЕ'ЖЭЛЫ *прым.* Залежны. *Ялові.на — лежэвэ поле. Лежэло поле, доўго не пахалі.*

ЛЕПА'Р *м.* Той, хто абмазвае, лепіць хаты.

ЛІНЁВІШЧЭ *н.* Скура, якую скідае гадзюка ў час ліцькі. *Лінёвішчэ вужочэ.*

ЛОВА'ЦЬ *незак.* Лавіць. *Ловаю рыбу.*

ЛУПІ'ЦЬ ЗУ́'БЫ. Скаліць зубы. *Лупіш зубы без прычыны.*

МАЧ *м.* Вілы, якімі выкідаюць гной з хлява.

МЕРВА' *ж.* Топкае балота. *Мерва болото, не усыхае, можно утопіцца. Грузко место — мерва.*

МІГЛА' *ж.* Імжа. *Мігла бі дож, бі ні дож, ето мігла.*

МОЛОЧ'Я'К *м.* Малачай. *Молоч'як свіне ядуць.*

МОНА' *ж.* Сок з кветак. *Пчолы беруць мону з цвету.*

МУЛЯ'К *м.* Мазоль. *Крівавій муляк.*

МУСА' *ж.* Мыза. *Вол обліжэ мусу. Ты уподэш, пхнець мусой. Мусою розрые (свіння), хто кажэ лычом, хто мусой.*

НА'ГЛЫ *прым.* Вялікі. *Блінцэ наглыя. Наглы чоловек такі вырос, ето вісокі.*

НАГОДОВА'ЦЬ *зак.* Накарміць. *Нагодуй дзіця, а тады сідзець будэш.*

НАПРО'ЦІ *прыназ.* Перад. *Лосі напроці дня прышлі, істы хоцелі.*

НА'ЧЭ *прысл.* Інакш, іначай. *Начэ гаворуць. Дыня начэ гарбуза.*

НЕБО'Ж *м.* Пляменнік.

НЕГО'ЖЫ *прым.* Слабы, хворы. *Негожы старі.*

ОДІНІ'ЦА *ж.* Адзіная. *Дочка — одініца между сынамі.*

ОДМЕНЯ'ЦЦА *незак.* Адрозніваецца. *Цыр расьце на дэрві і на дубі, ён одменяецца: той такі, а той такі.*

ОДНА′КІ *прым.* Аднолькавы. *Всэ дэті однакіе ў нашое маторі.*

ОДНА′КОВЫ *прым.* Аднолькавы. *У мене суседка лежэнь: у нас участкі однаковэ, а ў ее нічого нэма.*

ОДНЕ′НЬКІ *прым. экспр.* Адзін. *З чотырох сыноў. Хоча п вернуўся одненькі.*

ОЗУВА′ЦЦА *незак.* Абувацца. *Дайтэ то я схожу воды, а то вам трэбо озувацца.*

ОЗУ′ЦЦЕ *н.* Абутак.

ОКА′ЛЕНЫ *дзеепрым.* Укачаны ў што-н. *Во, якэ окаленэ дзіця.*

ОПЕ′НІКІ *мн.* Апенькі. *Опенікі на пнях ростуць.*

ОСНЫ′ *мн.* Адросткі пер'я ў птушкі пасля ліньки.

ОСІ′КА *ж.* Асіна.

ПЕ′ЛЬКА *ж.* Лунка. *Пельку прачка сама просэчэ.*

ПЕРЭ′НДЖЫ *мн.* Поручні.

ПЛА′ЦЬЕ *зборн. н.* Бялізна. *Клалі плацье мі на вэсэлье. Плацье позоліла ў жлукце.*

ПОЗА′ЎТРЭ *прысл.* Паслязаўтра. *Позаўтрэ поедэ.*

ПОМОЛЕ′ЧКУ *прысл.* Пакрысе, крышку. *Помолечку ходжу.*

ПООКОЛЯ′ЦЦА *зак.* Умазацца, укачацца ў што-н. *Пооколялося дзіця.*

ПООКОЛЯ′ЦЬ *зак.* Умазаць, укачаць у што-н. *Пооколяла ногі. Рыбу пооколяла ў муку.*

ПО′РАЦЦА *незак.* Корпацца. *Пойду ў хату порацца. Тэпло стало як порацца начала.*

ПОСТЫРРА′КА *ж.* Стрэмка. *Як засадзіш постырраку!*

ПОШНЯ′ *ж.* Збажына. *Пошню ўсяку посееў: жыта, оўса.*

ПРА′ДКА *ж.* Папрадуха. *Прадкі на вечоркі ходзілі, кажна собе прала.*

ПУДТЫ′ННІК *м.* Лопух.

ПУЖА′ЙЛО *н.* Пудзіла. *Ставляць пужайло на грады, пужае ворон.*

ПУСТЫ′ *прым.* Нясытны. *У рыбока голые бока, а обед паньскій, у ахотніка дым густы, а обед пусты.*

ПУЎБЭРЭ′МОК *м.* Палова бярэмя. *Наберы дроў поўбэрэмка, а бэрэмок, як рукі сьцекаюць.*

РАКО′Т, РАКОТЭ′НЬ *м.* Капыт.

РОХМАНЮ′К *м.* Спакойны, рахманы чалавек, жывёла, птушка.

РЭШЭЦЮ'К *м.* Грыб махавік.

САМ *займ.* Адзін, адзінокі. *Як сам у лесі, так будко.*

СЕДУХА' *ж.* Фасоля, якая расце без тычак.

СЛЕПА'К *м.* Сляпень.

СЛЮЗ *м.* Слімак.

СМЕТНЮ'К *м.* Верабей.

СМУГА' *ж.* Багністая пратока. *Смуга — міжду болот, бежыць тудою вода, не перэйдэш, не перэедэш.*

СТО'ЛОК *м.* Услон. *Поставіць столка.*

СТРОЕ' *мн.* Ставы. *Прыносім строе і строім кросна.*

СТРО'ІЦЬ *незак.* Рыхтаваць. *Прыносім строе і строім кросна.*

СТРУПЕ'ЙШЫ *прым.* Больш шурпаты. *Нождак дойгі і плоскі, струпейшы, брус — каменны, гладзенькі.*

СУ'ТКІ *мн.* Праход паміж будынкамі. *Одын хозяін одгородыў, другы хозяін одгородыў, а тут место, дэ люды ходзяць — то суткі.*

СЬЦЕКА'ЦЬ *незак.* Губляць сілу (пра расліны). *Сьцекае расьценіе без сілы.*

СЭСТРУ'ХНА *ж.* Дваюрадная сястра.

ТЫ'ЖДЭНЬ *м.* Тыдзень. *Тыждэнь погода, тыждэнь сьнёх.*

ТЭЛІ'ЦА *ж.* Цялушка. *Тэліцу куплю.*

УДАЛЁКО *прысл.* Удалячынь. *Як уколісь было, то ў ярмолок едуць удалёко.*

УДО'МА *прысл.* Дома. *Я не пошла, осталася ўдома.*

УКО'ЛІСЬ *прысл.* Некалі.

УКРО'П *м.* Вар. *Укропом зальеш золу, то оно золіцца (пра бялізну).*

ХІСТЫ' *мн.* Вехі.

ХІТА'ЦЬ *незак.* Хістаць, калыхаць. *Худэ (дзіця) ветэр хітае. Ветэр дэрэво хітае.*

ЦУ'БКО *прысл.* Цвёрда.

ЦЫІ'Р *м.* Губа. *Цыр — гріб такі сухі, клубком ростэ, із цыра крэслілі огонь. Цыр расьце на дэрві і на дубі.*

ЧАГА'Р *м.* Зараснік. *Чагар — ето зарошшэ место.*

ЧОЛОВЕ'К *м.* Муж, гаспадар. *Мойго чоловека братко.*

ШІПО'Х *м.* Шышак. *Орэхі ростуць шіпохамі.*

ШЧЫ *прысл.* Яшчэ. *Шчы два гарбуза було.*

# ГРУПЫ МЯСЦОВЫХ СЛОЎ

*А. Я. Баханькоў*

## СЛОВЫ ПРА ЗЯМЛЮ І ЗЕМЛЯРОБСТВА

У падборцы змешчаны лексічныя матэрыялы, запісаныя ў в. Саламір'е Полацкага раёна. Усе ўключаныя словы могуць быць аднесены да прадметна-тэматычнай групы, якую ўмоўна называюць земляробчай лексікай. Матэрыял адбіраўся дыферэнцыравана. Традыцыйныя земляробчыя тэрміны, што з'яўляюцца прыналежнасцю літаратурнай мовы, такія, як *поле, зямля, шнур, гной, плуг, барана, саха, каса, серп, граблі, жыта, авёс, ячмень, араць, баранаваць, сеяць, жаць, малаціць, веяць* і падобныя, у падборку не ўключаліся. Адабраны толькі «чыста мясцовыя» словы, што абазначаюць спецыфічныя назвы зямельных угоддзяў і ўрочышчаў, працэсы і метады апрацоўкі глебы, назвы прылад працы і іх частак, спосабы ўборкі і абмалоту, сушкі і захоўвання ўраджаю, назвы метэаралагічных з'яў і некаторыя іншыя.

У дачыненні да адпаведных слоў літаратурнай мовы ўсе яны з'яўляюцца лексічнымі, словаўтваральнымі, семантычнымі, фанетычнымі або акцэнталагічнымі дыялектызмамі, г. зн. словамі, характэрнымі ў сваёй большасці толькі для данай гаворкі.

АБІЧО'ЎКА *ж.* Біч у цэпе. *Абічоўку пръвязъваюць да цапаўя ўгарынай, гужавінкай такой.*

АБМЕ'ЖАК *м.* Узвышаны край пожні, які прымыкае да нівы, да ворнай зямлі; узмежак. *Скасіў абмешкі. На абмешках трава смашнейшая, як на лугу.*

АГРАБІ'ЛЬНА *н.* Грабільна.

АГРА'БЛІ *мн.* Граблі.

АГУРУ'ТНЫ *прым.* Чысты, без прымесей. *Тут агурутны пясок, нічога ня ўродзіць.*

АДЗАЛЕ'ЦЬ *незак.* Будучы пашкоджаным золлю, холадам, не прарасці, не вырасці (пра зерне, усходы пасеваў). *У нізіні жыта адзалела і ні ўзыйшло.*

АДЗЯ′БНУЦЬ *незак.* Тое, што і *адзале́ць.*

АДНАВО′Р, АДНАВО′Р'Ю *прысл.* Па першай раллі, не па мешані. *Пасеіў жыта аднавор.*

АДЫСЬЦІ′ *зак.* Пракласці (мяжу), ідучы, пасоўваючы ногі па зямлі, траве. *Адысьці мяжу на лузі.*

АЗІ′МКА *ж.* Азімая пшаніца.

АМЕ′ЦІНЫ *мн.* Амецце.

АМІЛА′ *ж.* Пустазелле з высокім сцяблом і суквеццем мяцёлачка, якое расце ў жыце. *Гірсіца — хлебу пашніца, аміла — хлеб зьвіла.*

АПАНІТАВА′ЦЬ *зак.* У прысутнасці панятых скласці акт аб патраве, пашкоджанні кім-н. пасеваў. *Брыгадзір апанітаваў пастухоў, што жыта патравілі.*

АПКО′САК *м.* Астатак касы, старая скошаная каса. *Апкоскам многа ні накосіш.*

АПЧАРСЬЦЬВЕ′ЦЬ *зак.* Троху абсохнуць, абветраць. *Хай зімля апчарсьцьвеіць, тады паедзіш баранаваць. Сена на ветры троху апчарсьцьвела.*

АРАЛЛЯ′ *ж.* Ралля.

АРБА′ *ж.* Ворыва, аранне. *Учора на арбе быў, а сягоньня скарадзіць буду.*

АРО′МЫ: *аро́мы хаму́т* — хамут для запрагання каня ў плуг, барану.

АРЭ′Ц *м., Р.* арца́. Араты. *Зь яго яшчэ слабы арэц, плуга ня ўдзержъць.*

АСЕ′ЦЬ: *садзі́ць асе́ць* — расстаўляць снапы на цапкі ў нагрэтай асеці для прасушвання перад малацьбой.

АСТРО′ЎКІ *мн.*, АСТРАЎЁ *зборн.* Прыстасаванне для сушкі снапоў на агародзе; друкі. *Удзелі ячмень у астроўкі. Паставілі астраўё на гародзі.*

АСЬЦІНА′ *ж.* Адзін вусік асця; асцюк. *Асьціна ў вока папала, рэжацца.*

АТО′ЖЫЛЬЛЯ *н. зборн.* Атожылкі, адросткі. *Нарасло атожыльля.*

АТПІ′ЦЦА *зак.* Адсырэць, зрабіцца вільготным. *Сена атпілося за ноч, мяккая стала.*

АТСКО′ЧЫЦЬ *зак.* Хутка вырасці. *Пожню толькі скасілі, а ўжо маладая атаўка атскочыла.*

АТСЛІ′ЗНУЦЬ *зак.* Зрабіцца слізкім ад вады. *Гліна атслізла послі дожджу, араць саўсім неік.*

АТУРО′СЬЦЯ *н. зборн.* Адросткі, атожылкі. *Агрэст многа атуросьця пусьціў, налета бальшый куст будзіць.*

АТХО′НАВАТЫ *прым.* Адхонны, пакацісты. *Калі ат-*

*хонаватая гара, то яшчэ можна засеіць, а калі крутая, то с канём ні заедзіш.*

АТШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Адшчыпнуць. *Атшчыкні сабе яблыкаў.*

БАБО'ВІНЫ *мн.* Каліўе абмалочанага бобу; бабовая салома.

БАБО'ВІШЧА *н.* Поле, з якога сабралі боб.

БАЛАЦЯВІ'НА *ж.* Нізкая забалочаная пожня, звычайна невялікая. *Выкасіў балацявіну на потсціл.*

БАЛЬШЫНА' *ж.* Лепшая частка чаго-н. рэчыўнага, зборнага. *Наганялі бульбы многа, што за дзень ня выкапалі. Каб ноччу ні памёрзла, то бальшыну зьверху пазьбіралі, пазьбіралі скоранька, а дробная асталася ў зямлі. Дош находзіў, кап сена ня змокла, то бальшыну схапілі, а падграбіць ня ўсьпелі.*

БАРАДА' *ж.* 1. Пук жытніх сцяблоў, які пакідаецца на ніве ў час дажынак і ўпрыгожваецца каляровымі істужкамі, кветкамі. *Прыбралі бараду.* 2. Абрад дажынак, які спраўляецца тут жа на ніве і суправаджаецца песнямі, гуляннем. *Запіялі бараду бабы. Згулялі бараду учора.*

БЕЛЮГА' *ж.* Светла-шэрая падзолістая глеба. *Плугам вывірнуў білюгу наверх.*

БЕРАЖНІ'ЦА *ж.* Розная буйная трава, якая расце па берагах азёр, рэк. *Накасіў беражніцы на потсціл.*

БРЫ'ГАЦЬ *незак.* ПАБРЫ'ГАЦЬ *зак.* 1. Капаць (пра дождж). *Дош пабрыгаў і сьціх.* 2. Рэдка сеяць. *Вясной чуць пабрыгаў ячмень, а глядзі які вырас, патсаду даў.*

БУГО'Р *м.* Невысокі ўзгорак, горка. *У мачлівы гот на буграх добра родзіць.*

БУЗА' *ж.* Твань, багна, топкае месца на лузе, на балоце, на беразе возера. *Конь засеў у бузе.*

БУЙ *м.* 1. Узвышанае, сухое месца сярод лугу. *На буі трава высахла, выгарала ат сонца.* 2. Вяршыня ўзгорка, адкрытае для вятроў і сонца месца. *На самым буі веціp шугаіць.*

БУЛЬБЕ'НІШЧА *н.* Поле, з якога ўбралі бульбу.

БУЛЬБЕ'ЎНІК, БУЛЬБЕ'ННІК *м.* Бульбяная націна, каліўе бульбы.

БУРА'ЧЫШЧА *н.* Поле, з якога ўбралі буракі.

БУТЛЕ'ЦЬ *незак.*, ЗБУТЛЕ'ЦЬ *зак.* Парахнець, трухлець. *Салома змокла, патпарылася і пачала бутлець.*

БЫ'ЛЬЛЯ *н. зборн.* Быльнік.

ВАЗАВЫ′: *вазавы́ хаму́т* — хамут для запрагання каня ў калёсы.

ВАЙСТРА′К *м.* Востры бок якой-н. рэчы, прадмета. *Ударыў вайстраком тапара.*

ВАСЬМЯРЫ′К *м.* Даўнейшая мера вагі і аб'ёму, роўная 1/8 частцы *пу́ры.*

ВЕ′ТРЫЦЬ *незак.* Ачышчаць зерне ад мякіны, перасыпаючы яго з пасудзіны ў пасудзіну на ветры. *Ветрыць ячмень.*

ВІЧА′НІШЧА, ВІ′ЧЫШЧА *н.* Поле, з якога ўбралі віку.

ВО′БЖА, ВО′БЖЫНА *ж.* Адна з дзвюх аглабель у сасе. *Прывязаць гужы к вобжам.*

ВО′НКАХ *прысл.* Не ў хаце, а на дварэ-ці ў халоднай прыбудоўцы. *Ні нясі вёдры з вадой у хату, хай стаяць вонках.*

ВО′ТРАНІЦА *ж.* Памяшканне для вотран; застаронак.

ВО′РАХАМ *прысл.* Рыхлай кучкай. *Салома ляжыць ворахам.*

ВО′ТРАНЫ *мн.* Мякіна з прымессю цёртых каласкоў, саломінак. *Вотраны каровам абварываць.*

ВУСАВІ′НА *ж.* Участак зямлі, які вузкай паласой удаецца ў што-н. *Узараў вусавіну паміж пожні.*

ВЫ′ГАРКА *ж.* Яма на месцы выгаралага торфу, залітая вадой. *Напаіў каня ў выгарцы.*

ВЫ′ШАПТАЦЦА *зак.* Высахшы, зрабіцца ў сярэдзіне пустым. *Цыбуля за зіму вышапталася.*

ГАЛАЎНЯ′ *ж.* Хвароба злакавых раслін, пры якой зерне ператвараецца ў чорны пыл; сажа.

ГАЛО′ЎКІ *м.* Невялікія шарыкападобныя плады лёну. *Ільняныя галоўкі сушуць у маленькіх друках.*

ГАНЯ′ЦЬ *незак.*, ПАГАНЯ′ЦЬ *зак.* 1. Акучваць прапашныя культуры. *Ганяць буракі.* 2. Разворваць баразны плугам пры ўборцы. *Ганяць бульбу.*

ГА′РАЦ *м.* Гарнец. *Зерніты насыпа́лі ў мяшок гарцам.*

ГАРО′ХАВІНЫ *мн.* Каліўе абмалочанага гароху; гарохавая салома. *Гарохавіны болі коні ядуць, каровы — не.*

ГАРУ′ШКА *ж.* Узгорак, невысокая гара; горка. *Дош быў часта, і на гарушцы вырасла добрая жыта.*

ГА′РЧЫК *м.* Малы гарнец. *Гарчык круп.*

ГБА′ЛА *н.* Прыстасаванне, на якім гнуць дугі, абады,

палазы, *С тоўстага дубовага камля вычасаў плашку длі гбала.*

ГІРСА′ *ж.* Пустазелле сямейства злакавых, якое расце звычайна ў жыце.

ГІРСІ′ЦА *ж.* Памянш.-ласк. да гірса. *Гірсіца — хлебу памашніца, аміла — хлеб зьвіла.*

ГЛЫЖ *м.* Цвёрды камяк ссохлай зямлі, звычайна гліны. *Дайней глыжы кукай білі кожны на сваім шнуры.*

ГРАБЕ′ННІК *м.* Грабец. *Які сь цябе грабеньнік, ты йшчэ граблі ня ўмеіш дзіржаць.*

ГРА′БІЦЬ, ГРАБСЬЦІ′ *незак.* Грэбці. *Пачалі грабсьці сена.*

ГРА′НКА *ж.* 1. Гронка. *На рабіні многа гранак нарасло. Атламіць гранку каліны.* 2. Пра мноства каго-н., размешчанага кучна. *Чэрві па капусьці гранкамі сідзяць. Гнаць гранку* — помсціць каму-н., данімаць каго-н.

ГРУД *м.* Куча суччa; лоўж. *На лядах груды папалілі, дък жыта вырасьціць.*

ГРУ′ДА *ж.* Замёрзлая гразь.

ДАЛАЎКА′Х *прысл.* На зямлі, на падлозе. *Жыта пірасьпела, ужо многа зерніт далаўках валяіцца. Ножък быў на стале, а ўжо далаўках.*

ДВО′ЙНІ *мн.* Вілы. *Вазьмі двойні і накладай гной на вос.*

ДРАБА′К *м.* Спружыноўка.

ДРАБА′ЧЫЦЬ *незак.* Апрацоўваць глебу драпаком.

ДРАГБА′ *ж.* Топкае, гразкае месца; балота. *На такой драгбе нічога ня вырасьціць. Заехаў у нейкую драгбу.*

ДРО′ГІ *мн.* Калёсы з накладнымі бартамі для вывазкі гною, падвозкі дроў і інш.

ДРУГАВЕ′Й *м.* Другасортнае збожжа пры веянні; паза ддзе.

ДРУ′КІ *мн.* Прыстасаванне для сушкі снапоў, гароху, галовак лёну; рад увагнаных у зямлю сукаватых жардзін, змацаваных унізе і ўверсе пераkладзінамі; астроўкі. *Удзець ячмень у друкі.*

ДУДЬДЗЁ, ДЫДЬДЗЁ *н. зборн.* Дуткі, дыткі (гл.). *Карова лепшую траву павыбірала, адно дуддзё засталося.*

ДУ′ТКА, ДЫ′ТКА *ж.* Тоўстае цвёрдае сцябло травяністай расліны, звычайна засохлае.

Е′ШЧЫ, -ая, -ае. 1. Смачны, пажыўны (пра сена і іншы корм). 2. Які есць многа і апетытна (пра жывёлу). *Ешчы парасёнак.*

ЖМА'ЧКА *ж.* Жмут сена, саломы, травы.

ЖУ'ЖАЛЬ *м.* Гнойная жыжа. *Жужалем цыбулю паліваюць, тады добра расьцець.*

ЖЫТНО'Е *н.* Поле, на якім расце або з якога толькі ўбралі жыта. *У нядзелю хадзілі гуляць у жытное. Кароў пагналі ў жытное.*

ЗАБО'ЕЦ *м.* Дубовы клін, якім прымацоўваюць касу да кассяя.

ЗАЁМІСТЫ *прым.* З шырокім захопам рабочай часткі. *Заёмісты серп. Заёмістая каса.*

ЗАПЯРЭ'КАЦЬ *зак.* Загарадзіць часова, як папала. *Плот паламаўся, а коні лезуць, дък хоць да часу запярэкаў дзірку.*

ЗАСЕ'ІЦЦА *зак.* Кончыць сяўбу, засеяць усё.

ЗАСКАРУ'БНУЦЬ *зак.* Зацвярдзець, пакрыцца зверху тонкай коркай. *Ноччы замаразак быў, дажы зімля заскарубла.*

ЗАСТАРО'НАК *м.* Адгароджанае ў таку месца для складвання мякіны, саломы.

ЗБЛО'ЦІЦЬ *зак.* Сапсаваць, зглуміць; патравіць (пасевы, пожню). *Коні зблоцілі цэлы клін жыта.*

ЗДАЛІЗАВА'ЦЬ *зак.* Утаптаць, умясіць нагамі ў зямлю. *Коні здалізавалі жыта. Мальчаняты здалізавалі грады.*

ЗІЛЯНЬКІ' *мн.* Зялёныя, недаспелыя зярняты, плады.

ЗНІМА'ЛКА *ж.* Прыстасаванне для знімання яблыкаў, ігруш з дрэва.

ІЛЬЛЯ'НІШЧА *н.* Поле, з якога ўбралі лён.

ІСПА'ШКА, СПА'ШКА, СПА'ШЧЫНА *ж.* Від арэнды зямлі, пры якой плацяць часткай атрыманага ўраджаю. *Узяў Лахманаў хутар у іспашку.*

КАЗЁЛ *м.* Бабка ячменных снапоў без шапкі.

КАЛАПНІ' *мн.* Каноплі.

КАЛАПНЯ'НІШЧА *н.* Поле, з якога ўбралі каноплі.

КАЛАСАВІ'НЫ *мн.* Абцёртае, адламанае калоссе, якое ў час малацьбы аддзяляецца ад саломы.

КАПЕ'ШКА *ж.* Капа сена. *Склаў сена ў капешкі. Капешкі ў бальшы дож зацяклі.*

КАСАВІ'ЛЬНА *н.* Кассё.

КАСАЎЁ *н.* Кассё.

КА'СЛАВА *н.* Пасма, шматок (сена, лёну, травы). *Аддзяліў ад жмені каслава лёну і апкруціў калі рукі.*

КА'СЛАЎКА *н.* Невялікае *каслава.*

КАСТРА′ *ж.* Кастрыца. *Дайней ільляную кастру на столь сыпалі, каб у хаці цяплей было.*

КАСТРЫ′ВЫ *прым.* 1. З кастрой. *Кастрывая палатно.* 2. З асцём, з мякінай (пра хлеб). *Дайней кастрывы хлеб елі.*

КАШАЛА′ *ж.* Вялікая кашолка. *Цэлую кашалу бульбы накапай.*

КІ′ТА *ж.* Сноп бобу. *З гэтага кусочка пітнаццаць кіт бобу нажала.*

КЛЕ′ВІР *м.* Канюшына.

КЛІВЯРЫ′ШЧА *н.* Поле, з якога ўбралі канюшыну.

КЛУБНІ′К *м.* Клубніка.

КРУГЛО′ВІНА *ж.* Круглы ўчастак, які вылучаецца чым-н. сярод усяго масіва. *Выкасій кругловіну.*

КРУЖАВА′ЦЬ *незак.*, СКРУЖАВА′ЦЬ *зак.* Ачышчаць ад калосся, падсяваючы ў рэшаце. *Скружаваць ячмень.*

КРУК *м.* Прылада для скапвання гною з воза ў выглядзе двух металічных загнутых зубоў, насаджаных на ручку.

КРУ′ТКА *ж.* Перыяд работы на ручной малатарні паміж двума перапынкамі. *Атмалацій дзве круткі.*

КУЗЛА′К *м.* Пасма, шматок (сена, кудзелі, травы).

КУ′КА *ж.* Род драўлянага малатка на доўгай ручцы, якім б'юць глыжы, збіваюць печы.

КУ′ПА *ж.* Сухі здробнены торф. *Нанасіла пат сьцяну купы і пасеіла расаду.*

КУРГА′Н *м.* Купіна. *Ня пожня, адны курганы.*

КУРГА′НЬНЯ *н. зборн.* Курганы. *Па курганьні гэтам чуць ногі ні паламай.*

ЛАБАЗА′ *ж.* Балотнае асакаватае сена; сянчына.

ЛАПА′ЦІЦЬ *незак.*, ПЕРАЛАПА′ЦІЦЬ *зак.* Перамешваць лапатай для прасушвання. *Лапаціць жыта на таку.*

ЛАТО′КА *ж.* Упадзіна, лагчына, нізіна. *У латоцы жыта вымакла.*

ЛЕ′ШКА *ж.* Невялікая, вузенькая ляха. *Пасадзіла лешку цыбулі.*

ЛЕ′ТКА *ж.* Летняя пшаніца.

ЛІСЬЦІНА′ *ж.* Ліст, лісьцінка.

ЛІСЬЦІ′НКА *ж.* Адзін ліст дрэва ці травяной расліны.

ЛО'ПАЎКА *ж.* Надтрэснутае месца на лязе касы. *Ня ўмееш біць касу, нагнаў лопавак.*

ЛУГАВІ'НА *ж.* Нешырокая паласа лугу сярод ніў. *Кароў прагналі лугавінай.*

ЛУ'МІНА *ж.* Невялікая пожня, залітая вадой.

ЛЯХА' *ж.* Шырокая баразна. *Пасадзіла ляху агуркоў, ляху цыбулі.*

ЛЯШЫ'ЦЬ *незак.* Адзначаць тычкамі (пучкамі саломы, галінкамі) мяжу засеянага ўчастка пры ручной сяўбе.

МА'ХАЛА *н.* Тое, чым махаюць, адганяючы каго-н. *Ат шпакоў адбою німа, усе вішні паб'ідалі. Хоць ты махалам махай на іх.*

МАЧУ'ЛІШЧА *н.* Адгароджанае колікамі месца ў возеры або акно сярод плаву, дзе мочаць лён, каноплі.

МЕ'ШАНЬ *ж.* Другая, мяккая ралля. *Мешань нада прыбіць бараной па аднаму разу, а тады і сеіць.*

МІША'ЦЬ *незак.,* УЗМІША'ЦЬ *зак.* Узорваць другі раз забаранаваную глебу.

НА'ЛЬЛЯ *н. зборн.* Пра таго, хто нагла і неадступна лезе ў шкоду. *Акыш, налля, увесь ячмень патапталі.*

НАПАДО'ЙМІШЧА *прысл.* Як падняць. *Ого, насыпаў мех — нападоймішча. Ды йшчэ й ці падыміш?*

НАПІ'ТАВАЦЦА *незак.,* НАПІТА'ЦЦА *зак.* Насычацца, пранімацца вільгаццю. *Дош тры дні ліў, дък зімля напіталася вадой.*

НАРАТО'К *м.* Вераўчаная сетка ў форме мяшка, у якую кладуць сена для каня, адпраўляючыся ў вялікую дарогу.

НАРО'ШЧА *ж.* Спосаб, метад, прыём. *Камінь аказаўся дужа бальшый. Трымя нарошчамі пробаваў вывірнуць наверх — ні палучаіцца.*

НАСЛАННЁ *н. зборн.* Пра таго, хто ў вялікай колькасці паяўляецца дзе-н., наносячы шкоду. *Ат віраб'ёў нядбіцца, як насланнё якое, п'юць калапні і п'юць.*

НАСПАРЫ'ЦЬ *зак.* Нарасці ў вялікай колькасці. *Яблыкаў сёліта наспарыла, аш веткі ломюцца ў садзі.*

НАСТАЯ'ШЧА *прысл.* Значна, вельмі прыкметна. *Пасьля дажджу бульба настаяшча падрасла.*

НІКАРЫ'СНЫ *прым.* Няважны. *Гарох сёліта нікарыснъй, ні каліўя, ні струкоў.*

НІЦЕ'ЦЬ *незак.,* ЗЬНІЦЕ'ЦЬ *зак.* Вырастаць тон-

кай, доўгай (пра націну агародных культур). *Пад яблънай у цяні бульба зьніцела.*

ПАБІРА′ЦЬ *незак.* Падбіраць. *Пабірай ігрушы, што паапсыпаліся.*

ПАДГРО′ПКІ, ПАДГРЭ′БІНЫ *мн.* Сена, якое набіраецца пры паўторным зграбанні. *Падгропкі пакладзі на верх капешкі.*

ПАДАВА′ЛКА *ж.* Прыстасаванне (выструганая палка з суком) для падавання снапоў у друкі, на клад, малацільны стол.

ПАЗА′ДЗЬДЗЯ *н. зборн.* Дрэннае, недаспелае зерне з пустазеллем, якое пры ручным веянні аддзяляецца ад лепшага зерня.

ПАЛО′ЎКА *ж.* Мякіна. *Даўней хлеп с палоўкай елі.*

ПАЛО′ЦЬ *незак.* Палаць. *Палоць крупы.*

ПАЛЮ′К *м.* Ручка на кассі, за якую трымаюцца правай рукой.

ПАМЁТ *м.* Задзірванелая, запушчаная ніва; неўзараная цаліна. *Драць памёт цяшка. Спірша надразаюць пласт разаком, а посьлі піраварачъваюць плугам.*

ПАПА′РАВАЦЬ *незак.* Быць, заставацца пад папарам. *Два гады поля папаравала.*

ПА′РАВАЦЬ *незак.* Тое, што і *папáраваць.*

ПАСО′Р *м.* Марная страта, убытак. *Парылі сьвінні бульбу, столькі дабра пашло ў пасор.*

ПАСЬЦЕ′ЛЯ *ж.* Пэўная колькасць снапоў, разасланых у два рады на таку для абмалочвання цапамі ў адзін заход. *Змалацілі дзьве пасьцелі ячменю.*

ПАТКА′ПАВАЦЬ: *паткáпаваць бýльбу* — не вырываючы каліва, выкопваць пальцамі большыя клубні маладой бульбы, пакідаючы дробную, каб расла.

ПАТРУ′ХА, ПА′ТРУХА *ж.* Пацяруха. *Салома патрухай абярнулася.*

ПАТСА′ДА *ж.* Бакавыя адросткі ад асноўнага сцябла ў злакаў. *Зімля добрая, дък жыта дало патсаду.*

ПАЎПУ′РАК *м.* Пасудзіна з клёпак для адмервання збожжа (змяшчае каля паўтара пуда).

ПАХА′ЦЬ *незак.*, ЗАПАХА′ЦЬ *зак.* 1. Барануючы, закрываць зямлёй засеянае збожжа. *Бацька паехаў пахаць жыта. Запахаў шнур. Дурных ні сеюць, ні пашуць — самі ражаюцца.* 2. *толькі незак.* Увогуле апрацоўваць зямлю, карыстацца зямлёй. *Бацька даўней пахаў дзьве дзісяцціны, адну сваю, адну суседаву.*

ПЕР'Я *н. зборн.* Зялёнае лісце цыбулі. *Нашчыплю пер'я цыбулі і скрышу, са сьмітанай добра.*

ПІ'ЛЬНІЦА *ж.* Пільная патрэба, пільная работа. *Ня йдзі сягоньня касіць, ні такая пільніца, заўтра скосіш.*

ПЛАСКО'НЬНЯ *н.* Маніцы.

ПЛАСТАВА'ЦЬ, ПЛАСЬЦІ'ЦЬ *незак.* Збіваць сена ў пласты. *Ты зграбай у валы, а я буду пласьціць.*

ПО'ЖНЯ *ж.* Сенакоснае ўгоддзе; луг, сенажаць. *Скасіў пожню ў агародзі.*

ПО'ЙСАВАЦЬ *незак.,* СПО'ЙСАВАЦЬ, ПЕРАПО'ЙСАВАЦЬ *зак.* Перамалочваць ячмень другі раз, каб лепш абцёрлася асцё, вымалацілася калоссе.

ПО'ЛІВА *ж.* Праполка. *У агародзі поліва многа.*

ПО'МАК *м.* Цяжкае намоклае палена (выкарыстоўваецца для націскання лёну, канапель у мачулішчах). *Цяжкі як помак. Накідай памакоў на лён.*

ПРО'ГА *ж.* Разгароджанае месца ў плоце для праезду, праходу. *Гані коні ў прогу.*

ПУГУ'РАК *м.* Маленькі ўзгорак, узвышэнне. *На пугурку ў сухій гот нічога ні расьцець.*

ПРУД *м.* Млын, мельніца. *Паехаў у пруд змалоць жыта.*

ПРЫБІВА'ЦЬ *незак.,* ПРЫБІ'ЦЬ *зак.: прыбіва́ць ме́шань* — раўнаваць мешань перад пасевам, праехаўшы па ёй з бараной адзін раз.

ПРЫСЛО'Н *м.* Схіл гары, звернуты к сонцу; сонечны бок. *На прыслоні жыта ўжо зарунела.*

ПУК *м.* Насенны ствол у цыбулі. *Уся цыбуля ў пукі пашла.*

ПУ'РА *ж.* Даўнейшая мера вагі (каля трох пудоў). *С капы снапоў намалаціў болі як пуру жыта.*

ПУХЛЕ'Ц *м.* Пра попельна-шэрую глебу. *Ні зімля, а пухлец. Адзін хвошч на ей і завёўся.*

ПШАНІ'ЧЫШЧА, ПШАНІ'ЧНІШЧА *н.* Поле, з якога сабралі пшаніцу.

ПЯРЭ'ПЛАТ *м.,* ПЯРЭ'ПЛАТЫ *мн.* 1. Прыстасаванне для сушкі бабовых снапоў: жардзіна на калках, увагнаных у зямлю парамі. 2. Тое, што і *друкі.*

ПЯРЭ'ЧКА *ж.* 1. Кароткі папярочны шнур на полі, у які ўпіраюцца доўгія шнуры. *Пярэчку аўсом засеім.* 2. Папярэчная планка, пласцінка ў чым-н.; распорка. *Паміж вобжамі ў сасе ўстаўляецца пярэчка.*

РАЗА'К *м.* Прыстасаванне ў форме нажа на доўгай

тоўстай ручцы, якім надразаюць дзірван пры ўзорванні памёту, ляда.

РАЗО'Р *м.* Неглыбокі равок, які атрымліваецца ў цэнтры загона пры ўзорванні яго ў раскід. *Ня дзелай плугам глыбокій разор, ато вада ў ім будзіць стаяць.* Параўн.: *«Дымяцца чадна разоры-барозны»* (Р. Барадулін).

РАСКІ'Д *м.* Спосаб узорвання глебы, пры якім барозны на загоне адвальваюцца ў розныя бакі; параўн. *ськід.*

РУ'НІЯ *ж.* Рунь.

РЫ'ДЗЕЛЬ *м.* Суцэльнадраўляная лапата з акаванымі жалезам краямі для капання канаў.

РЭ'ДЗЬГІНІ *мн.* Прыстасаванне для носкі сена; рэзгіны.

РЭЗЬ *ж.* Дробна нарэзаная салома на корм. *Як сена канчалася, дък каровам рэзь рэзалі.*

САЛАНЕ'ШНІК *м.* Сланечнік.

СЕ'МІНКА *ж.* Насенная бульба. *Бульбу пірабралі, семінку асобна і емінку асобна.*

СЕНІНА' *ж.* Адно каліва сена.

СПРЫ'ХАДУ *прысл.* На праходзе, блізка каля дзвярэй. *Спрыхаду ня ськідавай снапы, насі ў самый куток такайні.*

ССЫ'ПІШЧА *н.* Пасудзіна, у якую можна насыпаць чаго-н., ссыпаць што-н. *Карабок на ссыпішча прыгадзіцца.*

СТАГУРО'М *прысл.* Горкай, стажком. *Салому ськідаў, ськідаў стагуром.*

СТАЖА'РНЯ *ж.* Насціл з галля і палак, на які кладзецца стог.

СТВО'ЛКА *ж.* Столка. *Зьвіў вяроўку ў тры стволкі.*

СУ'БАР *м.* Куча дробнага камення, сабранага са шнуроў на полі. *У субары, што на мяжы, страначчына гняздо.*

СУКО'Л *м.* Кручаны дубец, якім звязваюць два калы ў плоце і на які кладуць жэрдзь.

СЫ'ПКА *ж.* Колькасць зерня, засыпанага ў млынавы кош, у жорны за адзін раз. *Зробіў дзьве сыпкі.*

СЬВІННУ'ХА *ж.* Жорсткая трава; сівец.

СЬКІ'Д *м.* Спосаб узорвання глебы, пры якім барозны на загоне адвальваюцца адна насустрач другой. *Араць у ськід.*

СЬПЕ'ШКА *ж.* Сорт ранняй бульбы; скараспелка.

СЬПЯЛІ'ЦЬ *незак.* Даваць магчымасць паспець, не зрываць (зжынаць) зялёным. *Сьпяліць яблыкі.*

СЬЦІРА'ЦЬ *незак.*, СЬЦЕ'РЦІ *зак.* Змятаць мятлой каласы са збожжа пасля абмалочвання пасцелі цапамі.

СЬЦЯХ *м.* Рад, шарэнга. *Жыта добра ўрадзіла, дък цэлый сьцях бабак паставіла на шнуры.*

СЯНЧЫ'НА *ж.* Нясмачнае асакаватае сена; лабаза.

ТАКАЎНЯ' *ж.* Нямшоны, халодны канец току, у адрозненне ад імшонай асеці. *Снапы ў такаўні склалі.*

ТА'ХНУЦЬ *незак.*, СТА'ХНУЦЬ, ПАТА'ХНУЦЬ *зак.* Трухлець, бутлець. *Бульбеннік стах за зіму.*

ТРАВЕ'ЦЬ *незак.*, ЗАТРАВЕ'ЦЬ, УТРАВЕ'ЦЬ *зак.* Зарастаць травой, пустазеллем (пра пасевы культурных раслін). *Бульба пачала травець. Агарод затравеў.*

ТРАПА'ЦЬ *незак.*, ПАТРАПА'ЦЬ *зак.* Вастрыць касу трапачкай.

ТРАПА'ЧКА *ж.* Самаробны брусок для вастрэння касы; мянташка. *Патрапаў касу трапачкай і далі пашоў.*

ТРУПЕ'ХНУЦЬ *незак.*, СТРУПЕ'ХНУЦЬ *зак.* Трухлець.

ТЪНЯ'НКА *ж.* Прыбудоўка з тыну ўздоўж сцяны ў гумне; застаронак. *У тънянку вотран насыпалі.*

УВЯ'ЗЬНІК *м.* Вяроўка, якой увязваюць сена, снапы, дровы на возе.

УГАРЫ'НА *ж.* Раменьчык, якім прывязваецца абічоўка да цапаўя. *Падбяры добрую угарыну, каб ні рвалася.*

УКРЫВУ'ЛЬКІ *прысл.* Няроўна, ломанай ці крывой лініяй. *Ня ўмеіш араць, прагнаў баразну ўкрывулькі.*

УМЕ'СНЫ *прым.* Сумесны. *Умесная работа.*

УПАХА'ЦЦА *зак.* Закончыць сяўбу. *Вісна была ранніяя, дък і ўпахалісі рана.*

УПАХА'ЦЬ *зак.* Кончыць пахаць, засеяць. *Упахаць ірыну.*

УПА'ШКІ *мн.* Заканчэнне сяўбы. *Справілі ўпашкі.*

УПРА'ШКА *ж.* Частка рабочага дня паміж двума адпачынкамі, напрыклад паміж сняданнем і абедам, абедам і палуднем, палуднем і вячэрай. *Падрат дзве ўпрашкі араць коні ня выдзержуць. Цэлую упрашку аткасіў, пакуль раса была.*

УРУ'ЧЧА, УРУ'ЧЫШЧА *н.* Зручная і заўсёды па-

трэбная ў гаспадарцы рэч, прылада. *Матыка паламалася. Шкода. Было такоя ўручышча і німа.*

УСХО'ЛЫ *прым.* Усхожы. *Нідасьпелаі зерніты будуць ня ўсхолаі.*

УСЫ'ПІШЧА *н.* Вялікая пасудзіна для ссыпання, захавання збожжа. *Кораб на усыпішча паставілі.*

УХО'ДАЦЦА *зак.* Працуючы, змарыцца, выбіцца з сіл. *Уходаўся за дзень на полі, чуць ногі цігаю.*

ХАЛМА'К *м.* Шматок, жменя, кузлак (сена, травы, саломы). *Воз наклаў вялікі, дък халмакамі сена зваліваіцца.*

ЦАПКІ' *мн.* Тоўстыя жардзіны, прымацаваныя ў асеці ўздоўж сцен пад столлю, на якія расстаўляюць снапы для прасушвання.

ЦАПАВІ'ЛЬНА *н.* Цапаўё, цапільна.

ЦЕ'РНІЦА *ж.* Цёртая, змятая салома на корм жывёле, у адрозненне ад кулявой.

ЦІЛІЗНА' *ж.* Неапрацаванае, прапушчанае ў час ворыва, сяўбы месца на ніве; агрэх. *Дрэнны сь цябе араннік, наробіў цілязён.*

ЧАРНУХІ' *мн.* Тое, што і *пласконьня.*

ША'ПКА *ж.* Сноп з расхінутымі на бакі каласамі, якім накрываюць бабку на ніве.

ШАР *м.* Рад, шарэнга. *Даўней, калі бальшый воз гною накідаіш, то на шнуры доўгі шар кучак палучыцца.*

ШАХА' *ж.* Павець у калгасе для захавання грамадскага інвентару. *Калёсы і бароны ставілі пат шахой.*

ЯЛЮ'ГА *ж.* Балота, зарослае ельнікам і хмызняком. *Коні пайднём ат аваднёў у ялюгу пабеглі.*

ЯЧМЕ'НІШЧА *н.* Поле, з якога сабралі ячмень. *На ячменішча куры высъпалі і пабіраюць зерніты.*

*С. Г. Лобач*

# НАЗВЫ РАБОЧЫХ НА ЛЕСАСПЛАВЕ

У гэтым артыкуле падаецца матэрыял аб беларускіх народных назвах асоб, якія выконвалі розныя віды работ на лесасплаве (на прыстані, дзе лес рыхтавалі і вязалі ў плыты, і на плытах пры сплаве).

Матэрыял сабраны ў трох найбольш значных для сплаву лесу беларускіх рачных басейнах — Дняпроўска-Прыпяцкім, Заходнедзвінскім і Нёманскім. Назвы, якія прыводзяцца ў артыкуле, пашпартызуюцца (указваецца вёска, дзе назва запісана, і раён). Прыняты наступныя скарачэнні раёнаў: Акц.— Акцябрскі, Барыс.— Барысаўскі, Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі, Віл.— Вілейскі, Віц.— Віцебскі, Гайн.— Гайнаўскі павет Беластоцкага ваяводства ПНР, Глус.— Глускі, Докш.— Докшыцкі, Драг.— Драгічынскі, Жытк.— Жыткавіцкі, Ів.— Іванаўскі, Іўеў.— Іўеўскі, Карм.— Кармянскі, Клім.— Клімавіцкі, Кобр.— Кобрынскі, Лун.— Лунінецкі, Лях.— Ляхавіцкі, Маст.— Мастоўскі, Пін.— Пінскі, Рагач.— Рагачоўскі, Рэч.— Рэчыцкі, Сен.— Сенненскі, Чач.— Чачэрскі, Шум.— Шумілінскі.

## Агульныя назвы плытагонаў

*Арэ́ль м.*— Семяноўка (*Ле́скамі кірова́лі от бэ́рэга арэ́лі.*) і Старое Ляўкова Гайн.; *ба́льнік* — Дружылавічы Ів.; *ба́льнык* — Ласіцк Пін.; *ба́льшчык* — Сушыцк Пін.; *гана́к* — Мішневічы Шум.; *ганко́ўшчык* — Курына Віц.; *гано́шнік* — Машканы Сен.; *го́ншчык* — Саланое Віл., *ла́вачнік* — Саланое Віл.; *ла́ўнік* — Беразіно Докш.; *пасовні́к* — Сінкевічы Лун.; *пасовэ́ць м.*— Пяркі Кобр.; *плава́к* — Моталь Ів.; *плыса́к* — Дружылавічы Ів., Пяркі Кобр.; *плытаго́н* — Глівін Барыс., Холмеч Рэч.; *плытаго́ншчык* — Рыбчына Віл.; *плы́тнік* — Масты, Масты Правыя і Галубы Маст., Саланое Віл., Беразіно, Азяра-

ны Рагач., Смычок Б.-Каш. *(Плы́тнікі гокаюць: го-го, на арала!)*, Бярозаўка Глус., Ворнаўка Карм., Залессе Чач.; *сплавшчи́кь м.* — Радастаў Драг.; *сплавшчы́к* — Сушыцк Пін.; *спла́ўшчык* — Саланое Віл., Якубова Рас., Беразіно, Петрыкаў, Хваенск Жытк.; *сплаўшчы́к* — Масты, Тухавічы Лях, Курына Віц., Беразіно, Петрыкаў, Хваенск Жытк.; *сяк* — Курына Віц.

## Назвы старшых плытагонаў

*Атама́н* — адказны за плытагонаў і стан плытоў. Азяраны Рагач., Холмеч Рэч., Смычок Б.-Каш., Хваенск Жытк. *(Атаман камандоваў лабякамі.)*, Ласіцк і Сушыцк Пін.; *дубо́вік* — Палік Барыс., Беразіно *(Дубовік адказваў за цэлы караван плытоў.)*, Смычок Б.-Каш., Лобжа Клім., Залессе Чач., Петрыкаў, Хваенск Жытк.; *ро́тман* — Масты, Масты Правыя Маст. *(Ротман едзе наперот, і як небяспечнае месца, глядзіць, ці пяройдуць плыты, і падае каманды: трымай лево, трымай право!)*; *рэ́тман* — Галубы Маст.; *рэ́цьман* — Галубы Маст.; *рэ́чман* — Масты; *шты́рнік* — Рыбчына Віл., Дружылавічы Ів.

*Карава́ншчык* — адказны за караван плытоў. Мішневічы Шум., Якубова Рас., Курына Віц., Смычок Б.-Каш., Холмеч Рэч.; *кърава́ншчык* — Машканы Сен.; *падра́дчык* — Смычок Б.-Каш.; *падра́дчык* — Курына Віц. *(Што корніку — той за адзін, а падрядчык за двацаць платоў атвечаіць)*.

*Ко́рнік* — адказны за плыт у караване, гонцы. Курына Віц.

## Назвы радавых плытагонаў і рабочых на лесасплаве

*Гала́ўнік* — плытагон, які кіраваў плытом, знаходзячыся ў галаве. Масты Правыя Маст., Галубы Маст., Бакшты Іўеў., Холмеч Рэч.; *головны́к* — Ласіцк Пін.; *галаўно́й* — Масты; *гълаўно́й* — Машканы Сен.; *галаўны́* — Масты, Беразіно (*«Кладзі стрыкі!» — крычыць галаўны, які стаіць уперадзе.)*; *галаўча́сты* — Семяноўка Гайн.; *пірадаво́й* — Валосавічы Акц.; *пірадавы́* — Саланое Віл.; *пірэ́дні* — Курына Віц., Петрыкаў, Хваенск Жытк.; *пірядавы́* — Курына Віц.; *пярэ́дні* — Саланое Віл.

*Задні́к* — плытагон, месца якога было пры заднім рулі. Бакшты Іўеў.; *за́дні* — Курына Віц., Хваенск Жытк.; *за́днік* — Рыбчына Віл.:, *рулёвы* — Беразіно; *рулёвый* — Сушыцк Пін.; *цалаўнік* — Масты Правыя Маст.; *цальнік* — Галубы Маст.; *цалявы́* — Масты (*Кагда плывём, я на цалявога крычу: «Кідай правы шрыг, левы шрыг!» Гэта, як плыту трэба складацца.); цаляўнік* — Масты Правыя Маст.; *хваставо́й* — Машканы Сен.

*Шрыко́вы* — плытагон, які пры дапамозе шрыка (завостранага драўлянага кала) затрымліваў плыт. Семяноўка Гайн. (*У галоўцы галаўчасты стаіць, а каля шрыка — шрыковы.); гартвўльнік* — Масты; *тарно́вы* — Масты.

*Ло́тачнік* — вопытны плытагон, які праводзіў плыты праз небяспечныя месцы — мелі, парогі, *заборы* (лоцман). Бярозаўка Глус.; *ло́ташнік* — Беразіно; *прапусьнік* — Курына Віц.

*Вы́плаўшчык* — плытагон, які ганяў плыты па невялікіх (выплавачных) рэках. Петрыкаў.

*Практыка́нт* — сезонны рабочы на сплаве лесу. Беразіно.

*Прыйма́к* — сезонны рабочы, якога наймалі цягнуць плыты супраць рачной плыні. Ласіцк Пін.

*Цёшчык* — рабочы, які абчэсваў бярвенні, падрыхтаваныя да сплаву. Мішневічы Шум.

*Качаны́ мн.*— рабочыя, якія скочвалі *па лягарах* бярвенні ў раку. Семяноўка Гайн.

*Збіваны мн.*— рабочыя, якія збівалі бярвенні ў плыты. Семяноўка Гайн.

*Вя́зчык* — рабочы, які звязваў бярвенні ў плыты. Петрыкаў, Хваенск Жытк.

*Сплотчык* — рабочы, які з асобных звенняў састаўляў доўгі плыт. Масты, Петрыкаў; *наста́ўчык* — Беразіно.

*Вартаўнік* — рабочы, які вартаваў плыты. Масты Правыя Маст.

*Бу́дачнік* — рабочы, які будаваў буды. Залессе Чач.

*А. К. Усціновіч*

# ЛЕКСІКА ПЛЫТАГОНАЎ ПРЫНЯМОННЯ

Сплаў лесу ў Прынямонні здаўна быў тым заняткам, які разам з земляробствам адыгрываў значную ролю ў жыцці мясцовага насельніцтва. Займаліся сплавам лесу ў мінулым пераважна малазямельныя сяляне, а часам і гаспадары або члены іх сямей, вольныя ад тэрміновай работы па гаспадарцы. Сплаўшчыкі (плытагоны) займаліся лесам цэлы год. Зімой рабочыя секлі віткі, круцілі іх, валілі лес, ачышчалі дрэвы ад сукоў, раскрыжоўвалі (распілоўвалі на часткі патрэбнай даўжыні), а затым вывозілі на рум, часам цягнулі цэлымі хлыстамі, не раскрыжоўваючы. Зараз часцей чыкіруюць лес, г. зн. грузяць і вывозяць трактарамі на рум.

Спецыфіка працы плытагонаў уплывала, зразумела, на іх мову. Шмат цікавага і своеасаблівага назіраецца і ў прафесійнай тэрміналексіцы і фразеалогіі.

У гэтай падборцы пададзены некаторыя спецыяльныя словы і выразы прынямонскіх плытагонаў, запісаныя ад бацькі, Бакуновіча Канстанціна Ільіча, жыхара вёскі Купіск Навагрудскага раёна, які больш чым 40 год да 1968 г. вязаў і ганяў плыты па Нёмане і яго прытоках.

АКАРА́ЦЬ *незак.* Знімаць кару з хваёвых дрэў стругам, скобляй. *На румя акаралі дрэвы, сушылі, а потым вязалі на вадзе.*

АПАЧЫ́НА *ж.* Вялікае вясло, якое служыць рулём на плыце, будучы ўстаноўленым на першай лаўцы (гл.) яго. *Як гоніш плыт ды пападзеш у буру, то аш крывавыя мазалі на руках ат апачыны.*

АПЛАЎЛЯ́ЦЬ *незак.* Змацоўваць некалькі калачоў (гл.) у плыце доўгімі жэрдкамі. *Як будзяш аплаўляць калачы, то іх трэба лажыць упоперак да жэрткі.*

БАЛА́НС *м.* Яловы лес, які ідзе на паперу. *Грузілі мятровы і двухмятровы баланс на машыны.*

БАРБА́РА *ж.* Вяроўка, канат з гардзялёў або дроту з завостранай палкай на канцы для тармажэння плыта.

*Прыпыняюць плыт барбараю, а спыняюць шарыгаю. Барбару запасную трэба ўзяць, а то ў дарозя ўсяляк бывая.*

БАРЫ′ЛКІ *мн.* Кавалак сасны, елкі даўжынёй 2,6 або 2,8 м.

БО′МІЦЬ *незак.* Памагаць плысці дрэву па рацэ, разбураць заторы. *Боміць цяшко, трэба быць увесь час начыку, кап ня зваліцца ў воду.*

БРЫЗЕ′НТ СТА′ВІЦЬ. Перагародка для падтрымання ўзроўню вады ў канаве. *На ноч бўдзям ставіць брызент, бо заўтра гнаць лес павінны, канава саўсём высахла, вады па костачкі.*

ВАРО′ТЫ *мн.* Прасвет паміж канцамі лавак (гл.), які ўтвараецца пры швароўцы. *Пры велькіх варотах лаўка заходзіць за лаўку і швароўка ўся ляціць.*

ВЫПУСКА′ЦЬ (ВЫ′ПУСЦІЦЬ) ЗАБО′МУ. Адвязваць ад берага забому для таго, каб можна было гнаць лес. *Праз Нёман на чайцы ехалі, бо сплаўшчыкі выпусьцілі забому.*

ВЯЗА′ЦЬ ПАД ЦЬВІК. Звязваць лес у лаўкі (гл.), плыты. *Хваёвыя палена збіваюцца ў лаўкі цьвікамі.*

ВЯЗА′ЦЬ ПАД ШВА′ЙКУ. Прывязваць дротам палена да жэрдкі. *Пад швайку вяжуць толькі лісьцёвыя палена.*

ГАК *м.* Мелкае месца ў рэчцы, якое цягнецца ад берага вузкай і доўгай паласой. *На гаку плыт стаіць, вада прыбўдзя і пойдзям гнаць.*

ГАЛАЎНІ′К *м.* Плытагон, што стаіць у галаве плыта, калі ён ідзе самасплавам. *Галаўніку трэба добра ведаць усю дарогу, кожны норт, кап плыт ня пасадзіць дзе на гак.*

ГАРДЗЕ′ЛЬ *м.* Звітая з лазы, маладой бярозы, арэшніку і складзеная ў тры столкі вяроўка. *За цэлы дзень ат гардзялёў рукі гараць агнём.*

ГАРТО′ЛЬ *м.* Завостраны кол, які ўбіваецца ў зямлю для надзейнай затрымкі плыта на месцы. *На адных шарыгах ніхто ня ставіць плыт, бо ўночы вада прыбывая і можа зьнёсьці яго.*

ГНАЦЬ *незак.* Сплаўляць (лес, плыты і інш.). *Гнясічаня цэлы дзень гналі па Нёмні лес.*

ГНЭ′БЯЛЬ *м.* Клін, які заганяюць у парную пятлю, што ахоплівае два бервяны. *Гнэблі робяць з бярозы, дубу, клёну.*

ЗАБО′МА *ж.* Некалькі звязаных бярвенняў, якія пе-

рагароджваюць раку (або адгароджваюць затон) для затрымкі спушчанага на ваду лесу (або молі). *Забому зрабілі сплаўшчыкі цяразь Нёман, цяпер хоць ня трэба пілнавацца чайкі.*

ЗАДА'ВЫ *мн.* Дзве жэрдкі, пакладзеныя на падваліны на плыце, для ўмацавання шарыгі. *Для задáвай жэрткі выбяры доўгія і здаровыя, а то трухлявыя трэснуць у адзін рас пры тормазя.*

ЗА'ДНІК *м.* Плытагон, які стаіць на канцы плыта і адпіхае яго ад берага.

ЗАТО'Р *м.* Нагрувашчванне вялікай колькасці лесу ў час сплаву моллю па канаве, якое вядзе да затрымкі руху. *Пры малявóм сплаве бываюць заторы, бо вада гоніць дрэ́во, а палéно на палёно находзіць.*

ЗГО'НКА *ж.* Лаўка, адно звяно плыта. *Згонкі стаяць каля забомы, сёдня выпускаць іх будзям.*

КАЛА'Ч *м.* Звязаныя дровы, якія пакладзены на дзве жэрдкі зверху і знізу і прымацаваны да іх. *Сёдня рабілі калачы і спускалі па Кроманьскай канавя ў Нёман.*

КАРАВА'Н *м.* Некалькі звязаных плытоў (да 1000 м$^3$), якія цягне кацер. *Караваны пагонім у Гродно, то можа прас тыдзянь бýдзям дома.*

КРЫЖНЫ' СПО'САБ. Спосаб звязвання бярвенняў у плыт, калі кожнае бервяно прывязваецца двума хамутамі (гл.). *Крыжны спосаб патрэбян для крэпасьці, бо лаўкі ідуць прас шлюзы на канавах, дзе могуць паламацца жэрткі і лес рассыпляцца.*

КРЫ'ЖЫЦЬ *незак.* Звязваць лаўкі крыжным спосабам. *Крыжыць трэба добра, а то як будуць ісьці па канавя, то ўсяляк бывáя.*

КУБІКА'ЦЫЯ *ж.* Абмер дзерава на вадзе ў плыце. *За дзень колькі кіламетраў пройдзяш, робячы кубікацыю.*

ЛА'ЎКА *ж.* Звязаныя адно з другім некалькі бярвенняў для сплаву, адно звяно плыта (шырыня лаўкі, г. зн. колькасць бярвенняў у ёй, залежыць ад шырыні ракі, канавы). *Сёдня вяжам лаўкі на Нёмні, а заўтра збіраць будзям плыт.*

ЛІ'НЬКА *ж.* Драцяны трос, пры дапамозе якога трымаецца плыт на месцы.

МО'ЛЬ *ж.* Лес, які сплаўляецца не звязаным у лаўкі (плыты). *На чайцы ня пяраéхаць Нёман, моль плыве.*

НОРТ *м.* Неглыбокае месца ў рэчцы, дно якога ў карчах. *У норця плыт сеў на корч, то ледзьвя сапхнулі.*

ПАДВАЛІ'НЫ *мн.* Чатыры бервяны, пакладзеныя на плыце, якія служаць асновай для ўмацавання шарыгі. *Для падвалін бяруць здаровыя палена, бронь трухлявых кап ня было.*

ПАКЛЁС *м.* 1. Падоўжная жэрдка, пры дапамозе якой замацоўваюцца кожныя дзве лаўкі плыта. 2. Звязванне дзвюх лавак плыта пры дапамозе жэрдкі.

ПАКЛЯСАВА'ЦЬ *зак.* Звязаць лаўкі плыта жэрдкай. *Перш лаўкі паклясуй, а потым крыжыць будзям.*

ПАПЯРО'ЎКА *ж.* Акораны ельнік даўжынёй ад 2 да 10 м, які ідзе на выраб паперы.

ПАРО'ЦЬ *незак.* Памагаць дрэву, якое сплаўляецца моллю, плысці, разбураць заторы. *Сплаўшчыкі паролі дзерава на Шубінскай канаўя, то сянакос ня затапіло вадою.*

ПАС *м.* Плыт з доўгіх бярвенняў, шырынёй каля 4 м. *Па Краманьской канавя будзям гнаць пасы, а потым на Нёмні збіраць у плыты.*

ПІЛО'ВАЧНІК *м.* Лес, які ідзе на дошкі.

ПУСКА'ЦЬ ДЗЕ'РАВО. Сплаўляць лес. *Сплаўшчыкі будуць пускаць дзерава, вада выдзя с канавы і весь сянакос затопіць.*

РАБІ'ЦЬ КУ'ХНЮ. Рыхтаваць месца на плыце для кастра (пакласці дзёран на палены травою, насыпаць на яго пясок і раскласці касцёр). *Рабіць кухню трэба асьцярожна, кап плыт ня запаліць.*

РАСКРЫЖО'ЎВАЦЬ *незак.* Распілоўваць хлыст на часткі патрэбнай даўжыні. *Пасля таго як палена ачышчана ад сукоў, яго раскрыжоўваюць на кавалкі.*

РАЧКІ' *мн.* Дзве невялікія стойкі на галоўцы плыта, куды закладваюць апачыну. *Рачкі вычэсваюць дубовыя, кап добра трымалась апачына.*

РУДАСТО'ЙКА *ж.* Вершаліна ад страявога лесу, выкарыстоўваецца для падпорак. *Рудастойкі ня сплаўлялі па вадзе, а адразу з рума грузілі на вазы і машыны.*

САМАВА'ЦЬ *незак.* Садзіцца на гак, шараваць плытам па гаку. *Правер добра шарыгу, а то на гаку самаваць будзяш, як у час ня паставіш плыт.*

СПЛАЎШЧЫ'К *м.* Плытнік.

СПЛО'ТАЧНЫ *прым.* Звязаны ў лаўкі (пра лес).

ТАПЛЯ'К *м.* Бервяно, якое доўгі час праляжала ў вадзе.

ТАЧКО'ЎКА *ж.* Умоўны знак (кропка), які ставяць

на паперы пры абмеры плыта (адпавядае 10 $м^3$). *Пасля абмеру плыта тачкоўкі пяраводзяць у цыфры.*

ТАБА'ЧНЫ СУК. Першы ад зямлі сухі сук на лісцёвых дрэвах.

ТРАПТАВА'ЦЬ *незак.* Рабіць траптоўку. *Да абеду траптавалі, а пасля выпускалі забому, бо гналі плыты.*

ТРАПТО'ЎКА *ж.* Змацоўка двух, чатырох або шасці калачоў разам. *Пасля гэтай траптоўкі спіш як пшаніцу прадаўшы.*

ТЫ'МБРЫ *звыч. мн.* Тое, што і фляксоны.

ФЛЯКСО'НЫ *звыч. мн.* Дубовыя бярвенні рознай даўжыні і таўшчыні, якія ідуць на пабудову мастоў.

ХАМУ'Т *м.* Пятля; зробленая з вітак, у якую заганяюць клін. *Толькі пры парным вязанні робіцца хамут, які захватвая два палена і ў які заганяюць гнэбяль.*

ЧЫКІРАВА'ЦЬ *незак.* Звязваць палены і грузіць на лесавоз, трактар. *Чыкіруюць заўсёды палена доўгія, якія саньмі цяжка вывясьці на рум.*

ШАРО'Ш *м.* Тое, што і моль. *Пайду цягаць таплякі, што засталісь, як ішоў шарош.*

ШАРЫ'ГА *ж.* Тормаз у галаве і ў хвасце плыта. *Шарыгу закідаць трэба ўмець, а то ты так закіняш, што ў берах плыт угоніш.*

ШВАРАВА'ЦЬ *незак.* Звязваць канцы лаўкі напроста і накрыж, каб лаўкі не зайшлі адна за адну. *Шваравацьплыт трэба ўмела, а то на першым павароця лаўка за лаўку зайдзя.*

ШВАРО'ЎКА *ж.* Змацоўванне канцоў лавак напроста і накрыж для паваротаў. *Як ня будзя швароўкі патрэбнай, то с плытам засядзяш у нартах.*

ШВА'РЫ *мн.* Тое, чым прывязваюць лаўку да лаўкі ў плыце (дрот, гардзялі). *Швары гнілыя былі, то і парвало бурай лаўкі.*

ШВЭ'ЛІ *мн.* Чэсаны хваёвы лес, распілаваны на шпалы.

ШЛАГАВА'ЦЬ *незак.* Змацоўваць плыт тросамі. *Перат тым, як гнаць плыт, яго шлагуюць увесь.*

ШЛАГО'ЎКА *ж.* Змацоўванне плыта тросамі. *Трэба праверыць шлагоўку, а то падымяцца бура і весь плыт разьляціцца па палену.*

*І. І. Крамко*

# МЯСЦОВЫЯ СЛОВЫ АДНОЙ ПРЫНЁМАНСКАЙ ГАВОРКІ

## (Структурныя рэгіяналізмы)

У папярэдніх двух артыкулах[1], якія змяшчаюць рэгіяналізмы гаворкі в. Бе́ражна, была іменная і дзеяслоўная лексіка, якая не зафіксавана «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962). У гэтым артыкуле сабраны мясцовыя словы, якія маюць іншы фанетычны (марфанематычны) або словаўтваральны воблік, чым адпаведныя словы літаратурнай мовы.

АБЗУ'Й *м.* Абза. *Гэта доска бу́дзя завуская. Як зьнімяш абзуй, дак там ма́ло астанецца.*

АБЯЗЬМЕ'Н *м.* Бязмен. *Я помню раней у на́шум сяле чуць ні ў ка́ждаго быў дзяравя́ны абязьмен, іх самі рабілі.*

АГРУСТ *м.* Агрэст. *До́браго агрусту ў нас ніколі ні было, а гэты — толькі мяша́я ў агародзі.*

АЖНІ' *часц.* Аж, ажно. *Гэдак сту́кнуўсё нагою аб корч, ажні ногаць пасінеў.*

АРАТА'Й *м.* Араты. *Які зь яго аратай — ён яшчэ плуга ні памацу́я падняць!*

АСАВЯ'К *м.* Падасінавік. *Чырвоныя асавяке́ можно сушыць, а белыя — разьлезуцца на печы, іх толькі адразу варыць трэба і жарыць.*

АСО'ВЫ *прым.* Асінавы. *Асовыя гонты або струшка самыя лепшыя — яны вельмі до́ўго ні гніюць, і калэ́ ў плоці асовыя даўжэй стаяць.*

АСЯНО'ВЫ *прым.* Ясянёвы. *Палазэ́ ў сані вычэсвалі с крывої бярэзіны, а ў вазок гнулі асяновыя.*

АСЯРО'ДКАВАТЫ *прым.* Асяродачны. *Даўней на хаты дзерава толькі ў Хлапішчыні секлі, бо там хвойнік больш асяроткаваты, як бярштáнскі, зь яго хаты па сто гот стаяць і пажару ні так баяцца.*

---

[1] Гл.: З народнага слоўніка. Мінск, 1975; Народнае слова. Мінск, 1976.

АТВАРО'Г *м.* Тварог. *З жырнаго малака атварох даўжэй ні кісьня.*

АШЧЫ'НА *ж.* Вашчына. *На тых рамках, дзе ашчына пачарнела, трэба замяніць новаю, пчолы ахватней тагды робяць.*

БЛІШЧУ'СТЫ *прым.* Бліскучы. *Ушыў некія блішчустыя гузікі — яны сюды ні патходзяць.*

БРУКАВА'ЦЬ *незак.* Буркаваць. *Дзікія галубэ́ саўсім іначай брукуюць, як свойскія. Свойскія як бы гудуць «б-р-р, б-р-р», а дзікія як бы працяжно гаворацаь: вяснюю — «Кажух прадаў — жонку купіў», а восянью — «Жонку прадаў — кажух купіў».*

БЯРЭ'БЯННЁ *н.* Абярэмак, бярэмя. *Прынясі до́браё бярэбяннё саломы, кап хваціло ўсе загарадзі падаслаць!*

ВО'ЛЬЁ *н.* Валлё, валляк. *Куры до́бро наеліся — вунь як вольё выпіра́я.*

ВЕ'ЛЬКІ *прым.* Вялікі. *Аттуль се́но трэба вывясьці загадзя, бо як пойдуць велькія дажджэ́, дак цярас Сулку ні пяраедзяш.*

ВО'ММЯГ *м.* Вомег. *Воммягам табе гэ́то вылязя!*

ГАБДЗЮ'Р *м.* Кіпцюр. *У куравоткі, каб ні вельмі грабләся ў картоплі, трэба габдзюрэ́ пападразаць або анучкі на іх навязаць.*

ГАЛДУ'Н *м.* Каўтун. *Ты лепш рашчэсвай кажды рас валасэ́, бо ў галдунэ́ паб'юцца!*

ГАЛЯЛЁ'Д *м.* Галалёд. *На ніко́ваный кабылі ў велькую дарогу выбіраццa апа́сно, бо можа быць галялёт — тагды назат ні дабярэсься.*

ГАРА' *ж.* Кара. *Яловаю гарою до́бро вулье́ накрываць ці якую патпаветку.*

ГАРЫ'ЦЬ *незак.* АГАРЫ'ЦЬ *зак.* Карыць. *Вывязанаё зімою дзе́раво трэба агарыць яшчэ ў за́мараскі, бо потым бу́дзя патпа́рвацца на сонцы.*

ГАСА'ЦЬ *незак.* ПАГАСА'ЦЬ *зак.* Гойсаць. *Нашто ты выпусьціў сьвіню? Пагаса́яш цяпер за ёю, пака загоніш у хлеў!*

ГЕЛБ *м.* Келб. *Да вайны ча́сто ў сетку пападаліся марскія гялбэ́, а цяпер іх ужо ніхто ні ведая.*

ГІРАВА'ЦЬ *незак.* ВЫ'ГІРАВАЦЬ *зак.* Кіраваць. *Ты до́бро гіруй, бо як пападзе каляса на корч, дак абе́рняш вос.*

ГО'ЛКА *ж.* Іголка. *Ужо я саўсім сьляпая стала — ніткі ў голку сама ні магу зацягнуць.*

**ГРА'ТЫ** *мн.* Краты. *У маёнтку толькі ў адном будынку былі граты на вокнах, і то на першум атажы.*

**ГРУМЕ'ЦЬ** *незак.* **ЗАГРУМЕЦЬ** *зак.* Грымець. *Усё мацней груміць — мусіць, хмара сюды павернящца. Зьлесь з воза і трымай мацней лейцы, бо як загруміць, дак конь можа спалохацца і панясьці.*

**ГРЭ'СІЦЬ** *незак.* **ВЫ'ГРАСІЦЬ** *зак.* Крэсіць. *Ні выграсіш ты агню, бо порт атсыраў.*

**ГРЭ'СЬВО** *н.* Крэсіва. *Многія курцэ насілі грэсьво нават як запалкі былі.*

**ГУ'ЛА** *ж.* Гуля. *Некая гула на назе выросла, дзе быў падбой.*

**ГЭ'ДАКІ** *займ.* Гэтакі. *Чаму ты гэдакі ніпаваротны? Ужо дзесяць рас можно было гэто зрабіць.*

**ДЗЕРМАЗА'** *ж.* Дзераза. *С песікаў дзермазы, як яны сьпелыя, трэба выбіць пылок — ім добро прысыпаць апрэлаё.*

**ДЗЮ'РЫЦЬ** *незак.* Цурчаць. *Прас шчыліны так пачала вада ў чайку дзюрыць, што чуць усьпелі да берагу даехаць.*

**ДРА'НДЫ** *мн.* Транты. *У людзі трэба трохі лепш адзявацца, а ні ў гэтых драндах іьсці, што каля дому совасься.*

**Е'РБНІЦА** *ж.* Вербніца. *Былі годы, што на ербніцу каровы выганялі на пашу.*

**ЖУРАЎЛІ'НЫ** *мн.* Журавіны. *Тыя журайліны, што пяразімавалі на купіні, вясною вельмі смашныя. Пасучы ў вошмары, мы много знаходзілі іх.*

**ЗАМЫ'ДЗГАНЫ** *прым.* Замэдзганы. *Што ты на гэтуй кнізі рабіў, што гэдакая замыдзганая? Мусіць алаткі на ёй мазаў?.*

**ЗАСЫПО'НЬВАЦЬ** *незак.* **ЗАСЫПО'НІЦЬ** *зак.* Засупоньваць. *Ні забудзься засыпоніць, бо як пацягня конь, дак можа хамут разарвацца!*

**ЗУСЛО'Н** *м.* Заслон, услон. *Раней у вёсцы ніхто крэслаў ні рабіў, толькі лавы і зуслоны, велькія і маленькія.*

**ЙІГЫ'** *выкл.* Ага, але. *Ці хочаш павазіцца на чайцы? Йігы! Але я ні ўмею гіравацъ.*

**ЙІ'МЯЛО** *н.* Амела. *На дарозі ў Дзяраўную растуць старыя бярэзіны, дак там на каждуй есьць йімяло, і ні адно.*

**КАЛДЫБА'Н** *м.* Калдобіна, калдабан. *Гэтаё калясо*

*ўжо слабо́ё, як пападзецца добры калдыбан, дак могуць сьпіцы пасыпацца.*

КА'ЛЬВО *н.* Каліва. *Куры ўбіліся ў агаротчык і выграблі ўсю расаду, да пасьле́дняго кальва.*

КАРК *м.* Карак. *А, які зь яго толк — вот сеў бацько́м на карк і ні ду́мая, як самому жыць.*

КАРКАЖАВА'ТЫ *прым.* Каржакаваты. *Ён хоць малы, але каркажаваты, моцны. Я помню, як ў млі́не на Міранцы ніхто ні мох мяшка пярат сабою занясьці наверх, а ён занёс.*

КАРЭ'МУСЛО *н.* Каромысел. *На карэ́муськлі ляхчэй вёдра нясьці, як у руках, і ногі ні паабліва́яш.*

КАЦАЛА'ПЫ *прым.* Касалапы. *Чаму ты гэдакі кацалапы — усё ў цябе з рук па́дая!*

КАЧАРАНЯ' *н.* Качаня. *Качара́ня ўме́я плаваць адразу як вылупіцца зь яйца.*

КНІ'ГА *ж.* Кнігаўка. *Яе мусі́ць таму назвалі кнігаю, што ўсё крычыць «кі-і-гі!»*

КРЭ'ЙЗАЦЬ *незак.* ПАКРЭ'ЙЗАЦЬ *зак.* Крэмзаць. *Нашто ты пакрэйзаў цятрадь? Яна ж яшчэ трэба бу́дзя.*

КРЫЖАВА'НКА *ж.* Скрыжаванне. *На крыжаванцы раней стоўп стаяў, там было напісано, колькі вёрст да Міра́!*

КУКУ'ЛЬКІ *мн.* Куколь. *Гэты гот у пшаніцы мно́го кукуляк расьце. Іх трэба вырываць, бо муку зачарня́ць.*

КУНДЗЮ'К *м.* Кіндзюк. *Пад'есьці то я ні пад'еў, але кундзюк трохі набіў, да вечара вы́трываю.*

КУ'ПАР *м.* Куфар. *У купар складвалі ні толькі палатно, але і чыстую адзежу, сьвяточную.*

КУРАПА'ТА *ж.* Курапатка. *На курапат рабілі велькія абручэ́ с петлямі, лажылі іх на полі або нават за гумном і засыпалі мякінаю.*

ЛАХАМІ'ДА *ж.* Лахман. *Нашто ты адзеў гэту лахаміду, як бу́тто ле́пшаго німа?*

МАЗУЛЬ *м.* Мазоль. *Трэба до́бро накручваць анучу, каб зборак ні было, бо скóро мазуль натрэш.*

МАЛО'ДЗІВО *н.* Малозіва. *Мало́дзіво абяза́цяльно трэба добро здаіць, бо як пярагарыць, дак вым'ё спорціцца.*

МАЧА'КА *ж.* Мачанка. *На сьвято даўней мы заўсюды рабілі мачаку, ці с атварагу́, ці варылі с пшані́шнаі мукі зь мясам і кілбасою.*

МЕРГАВА'ЦЦА *незак.* ПАМЕРГАВА'ЦЦА *зак.* Мер-

каваццa.— *Гэто ш я забыўсё торбу ўзяць! — Нічо́го, ні варочайся, памяргуямсё як-небудзь, хваціць майго!*

МЕРГАВА′ЦЬ *незак.* Меркаваць. *Як ты ні мяргуй, з гэтых аўчын кажуха ні выдзя.*

МЯ′ЛІСТЫ *прым.* Мялаваты. *На мя́лістум кані ні вельмі пасьпяша́ясься ні ў рабоці, ні ў дарозі.*

НАВО′ТЛЯЎ *прысл.* Наводліў, наводмаш. *Азар як даў яму навотляў па твары, аш кроў з носа пашла.*

НАГАСА′ЦЦА *зак.* Нагойсацца. *Ну вы ўжо нагасаліся, пара і за ўрокі садзіцца!*

НА′МАРАЗЕНЬ *м.* На́марзень. *Па лёдзі такая велькая павотка пашла, што аш да на́маразьняў у санях вада займала.*

НЕ′ГДЗЯ *прысл.* Недзе. *Негдзя завалілася гэта кніга — ніяк знайсьці ні магу.*

НЕ′ДАСАЛЬ *прым.* Недасолены, недасол. *Не́што сённі булён недасаль. Прынясі с кухні солі!*

НЕСПАДЗЯВА′НКА *ж.* Неспадзяванасць. *Вот ніспадзяванка! Я думала, што посьлі нядзелі прые́дзяш, а ні сённі.*

НОЛЕ′, НУЛЕ′ *часц.* Так, але. *А ты ўжо кончыла сваю дзялку палоць? — Ноле! Яшчэ ўчора.*

НУДА′ *часц.* Так, але. *Ты хочаш есьці? — Нуда!*

НУРЭ′Ц *м.* Нырэц. *Як хто до́ўго ў нурцы можа прабыць, дак рукамі ў падрэзах рыбу ловіць.*

ПАВУЦЕ′ННЁ *н.* Павуціннe. *Што ты за гаспадыня — вунь у хаці са столі павуценьнё зьвіса́я!*

ПАДДУВА′ЙЛО *н.* Паддувала. *Прыатчыні ў стаяку паддувайло, ато слабая цяга!*

ПАД′ЗА′ДЗЬЁ *н.* Пазаддзе. *Гэ́то жытняё пад'задзьё зьмяшай з грэцкаю саломаю і пярарэ́ш на сечку!*

ПАДПА′СЫЧ *м.* Падпасак. *Ён яшчэ малаваты на пастуха, хай трохі ў патпасычах паходзіць.*

ПАДСЬЦЁЛ *м.* Подсціл. *Гэта атава ўжо на корм ні гадзіцца, хіба на патсьцёл.*

ПАЛО′ДНАВАЦЬ *незак.* ПАПАЛО′ДНАВАЦЬ *зак.* Палуднаваць. *Я ўжо замарыўсё: давай будзям палоднаваць! А папалоднаваўшы, пачнём с то́го канца.*

ПАНЯВО′ЛЬНО *прысл.* Паняволі. *А што мы маглі зрабіць? Панявольно прышло́сё прадаваць цялуху, бо карміць ужо ні было чым.*

ПАПАЦЁНКУ *прысл.* Папацёмку. *Ты до́ўго там ні ацягайся, бо папацёнку ке́пско бу́дзя патходжвацца.*

ПАПІХА'ЙЛО *м.* Папіхіч. *Які зь яго мужык, так папіхайло нéкаё! Сам ні паварушыцца ні ў чом, пакуль жонка ні пашле.*

ПАРКАНУ'ЦЬ *зак.* Парнуць. *Гэта карова ні любіць дзяцей. Бліско ні падлась, бо паркане рагамі!*

ПА'СА *ж.* Фаса. *У гэтум годзі мáло жыта намалацілі, нават адной пасы ні насыпалі.*

ПАСМІХО'ЎВАЦЦА *незак.* Пасьміхацца. *Мусіць ён схаваў твой брусок, бо нéшто пасьміхóўваяцца.*

ПАСО'ЛЯ *ж.* Фасоля. *Ты пасолю вырві і няхай павісіць у пучкох, а палушчым пазьней, як вячарэ́ будуць свабодныя.*

ПАТРУ'ХА *ж.* Пацяруха. *Ты патрухі разам с сенам ні кладзі ў жолуп, яе лепш у сечку высыпаць!*

ПАЎБУТЫ'ЛАК *м.* Паўбутэлькі. *Налі мне малака с сабою ў той зялёны паўбутылак, больш ні трэба!*

ПІЛО'ВІНЫ *мн.* Пілавінне. *На столь добро пасыпаць сухіх піловін, а потым тонкі тачок з гліны выбіць — цяплей бýдзя.*

ПЛІ'СТАЎКА *ж.* Пліска. *Плістаўкі любяць гнёзда рабіць каля будынку, у дрывах або нават у кучы камянёў.*

ПЛЯВУЦІ'НКА *ж.* Плеўка. *У том месьці лёт тонкі, як плявуцінка, ты ні пярóйдзяш.*

ПЛЯ'ЎКА *ж.* П'яўка. *У самом Нёмні пляўкі рэ́тко бываюць, а ў вазярынах іх хватáя.*

ПО'ДБІЦЬ *ж.* Подбіўка. *Са старóго подбіць давацьні вы́гадно — яна намнóго скарэй парвецца, чым верх, трэба бýдзя другую даваць.*

ПО'ПЫРСКІ *мн.* Пырскі. *Ён так пляснуў вяслом па вадзе, што попырскі аж да мяне дасталі.*

ПРУГМЕ'НЁ *н.* Прыгуменне. *Ты каня ні выпрагай, а толькі разьвяжы сыпоню! Няхай трохі на прýгмені паходзіць, бо скоро ізноў трэба ехаць.*

ПУ'ДАЛО *н.* Пудзіла. *Ну ты і адзéўсё — як пудало, хоць на грады стаў!*

ПУЖАЛЕ'НО *н.* Пугаўё. *У пужалені трэба кап кончык, за які прывя́зваяцца пуга, быў тонкі.*

ПУ'ПІШАК *м.* Пупышка. *Мусіць гэтая яблына засохла, бо нéшто пупішкі дóўго ні раскрываюцца.*

ПУХНЫ'Р *м.* Пухір. *Ты першы рас дóўго на сонцы ні сядзі, бо так спаліш спіну, што аш пыхнырэ́ выступяць.*

РАБЭ'ЙЖА *м.* і *ж. зневаж.* Рабы. *На такую рабэйжу мнóго трэба пудры, кап хоць трохі схаваць рабацéньнё.*

РАЗЯВЯКА *м.* і *ж.* Разявака. *А ты ні буць разявякаю, ато і с-пад носа ў цябе пацягнуць!*

РАКАЧКАВА'ЦЬ *незак.* ПАРАКАЧКАВА'ЦЬ *зак.* Рачкаваць. *Лён маленькі вырас прыдзяцца многа паракачкаваць, пакуль увесь вырвям.*

РАКАЧКО'М *прысл.* Рачком. *Пазавіхайся цэлы дзень ракачком с серпам, дак вечарам чуць адагнесься!*

РАМО'Н *м.* Рамонак. *Гэты пахучы рамон у нас ні ўсюды расьце, а дзікаго хватая.*

РАСЦЯПА'Й *м.* Расцяпа. *Яму трэба добро ўталкаваць, бо ён такі расьцяпай, што ўсё пярапутая.*

РЖА *ж.* Іржа. *Гэтым дротам гарадзіць ні варт, бо яго ржа моцно паела, будзя ламацца.*

РЖЫ'ШЧО *н.* Іржышча. *Ржышчо трэба чым скарэй заворваць, кап зельё ні ўсьпело разрасьціся.*

РУЧЭ'ЙКА *ж.* Ручайка. *Бывало за вечар бяс калаўрота тры ручэйкі напрадзеш.*

САКЕ'РА *ж.* Сякера. *Сакера, як кепско пасаджана, то рукі скоро адарве, ні раўнуючы, як і каса.*

САЛО'ННЫ *прым.* 1. Салёны. *Сёння капуста залішнё салонная, мусіць трэба трохі кіпятку падліць.* 2. У словазлучэнні: *салонная картопля* — бульба ачышчаная, без шалупін. *Вечарам зварым салоннаі картоплі — і хваціць.*

САЎСІ'М *прысл.* Зусім. *Ты зьлесь с саней і прайдзі трохі нагамі, бо саўсім зьмерзьняш, а тагды горш ні атагрэясься!*

СІЛЬЁ *н.* Сіло. *У сільё варона табе ніколі ні пападзецца, гэто сойку можно лёхко абдурыць.*

СКО'ЛЯЗНА *прысл.* Колькі (у знач. многа). *Во сколязна ты грыбоў назьбіраў, а мне ні пашанцавало!*

СЛЕ'ПЕЦЕНЬ *м.* Сляпень. *Як сонцо трохі паднімяцца, ты каровы ад гэтаго балота даляй адгані, бо сьлепятні заядуць.*

СМАЛЯ'Р *м.* Смалакур. *Што ты рабіў, што прапах як смаляр увесь дзёхцям?*

СНІГУ'Р *м.* Снягір. *Калі сьнігур у акно лезя, то будзя скоро велькі марос.*

СПАРКАВА'ЦЦА *зак.* Пасябравацьь. *Яны так спаркаваліся, што і вадою ні разьліеш.*

СПАРЫ'ШНІК *м.* Спарыш. *Гані на Е'вяляву Пасяку! Там много спарышніку расьце і авечкі скоро наядуцца.*

СТРАМЯ'КА *ж.* Стрэмка. *Трэба адразу выняць страмяку, бо нарываць будзя і гнісьці, пакуль сама выдзя.*

СТУ'ДЗЕНЬ *ж.* Студзіна. *Авечыя ногі ні на што больш ні гадзяцца, як толькі на стýдзянь.*

СТУПА'К *м.* Ступня. *Па адбітых на пяску ступакох нох мóжно бачыць, якая гýрасьць.*

СУГНЕ'Д *м.* Сугней. *Пасýнуўсё як сугнéт, ні сказаўшы ні слова.*

СУ'КАРКА *ж.* Сукаратка. *Нітак мóцно усýкваць ні трэба, бо потым сукаркі мяшаюць пры рабоці.*

СУРАВЕ'ЖКА *ж.* Сыраежка. *Суравежак то, здаецца, і мнóго трапляяцца, але ўсё больш чарвівыя.*

СУ'РАМЯТНЫ *прым.* Сырамятны.

СУ'РАМЯЦЬ *ж.* Сырамяць. *Гужэ́ ў хамуце павінны быць толькі сýрамятныя, а сурамяць рабілі самі, абы было ш чаго.*

СЦЯЖА'Р'Ё *н.* Стажар'е. *Сьцяжар'я лажы высакавáто, каб ніякая павотка да сена ні дастала!*

СЫБО'ТА *ж.* Субота. *Заўсюды ў сыботу ранней канчалі работу на полі, каб яшчэ дома што зрабіць, чаго ў нядзелю ні мóжно.*

СЫПО'НЯ *ж.* Супоня. *Сыпоню трэба гэдак завязваць, кап мігам мох разьвязаць, як конь паваліцца ці ўгрáзьня.*

СЯЛЯДЭ'РА *ж.* Сырадэля. *Сялядэру мóжно два разы касіць за лéто, як адна пасеяна, а як па жыці — то толькі рас, вóсяныю.*

ТАЎСТАМА'ТЫ *прым.* Таўставаты, таўсматы. *Да бегу ён ні гадзіцца. Такі таўстаматы, што дзесяць шагоў зробіць — і засапецца.*

УГА'ДЗЬКО *м.* Угадчык. *Дзя́цько-угáцько, угадай колькі ў мяне кароў — аддам абедзьві!*

УДУБЯНЕ'ЦЬ *зак.* Удубець. *Ідзі пагрэйся трохі ў хаці, ато сайсім удубянеў, аж губы пасінелі!*

УЗДАРАЖЭ'ЦЬ *зак.* Падаражэць. *Кажды гот, як садавіна ў людзей ні ўродзіць, дак і на базары ўздаражэ́я.*

ФЛЯ'НЕЦ *м.* Флянс. *Хвойнік трэба садзіць густавáто, бо ні кажды фля́няц прымяцца, лепш потым прарэдзіць, дзе бýдзя загýсто.*

ХВАСЯНУ'ЦЬ *зак.* Хвастануць, хвоснуць. *Што ты ўсё нóкаяш, хвасяні дóбро пугаю, дак пабяжыць!*

ХЛУДЗІ'НА *ж.* Хлуд. *Ад іхняго сабакі ты гэтым дупчыкам ні абаронісься, вазьмі добрую хлудзіну!*

ХУДНЕ'ЦЬ *незак.* СХУДНЕЦЬ *зак.* Худзець, пахудзець. *Нéшто сьвіня раптам пачала худнець, мусіць захварэла.*

ЦАГА'Н *м.* Саган, чыгун. *То́го ве́лькаго цагана́ яшчэ даставаць сь печы ні трэба, няхай до́бро картопля ўпарыцца.*

ЦЯЛЕ'ПКАЛО, ЦЕЛЯПЕЙ *м.* Цяльпук, целяпень. *Трохі шыпчэй ідзі! Ато валачэсься ззаду, як цяле́пкало.*

ЦМАКАЦЬ *незак.* Чмякаць. *Мусіць вельмі сма́шно, што гэдак мо́цно цма́каяш?*

ЦЫРУ'БАЛКА *ж.* Цурбалак. *Караціў, караціў патрохі жэртку, пакуль ні асталася некая цырубалка.*

ЦЯЦІВІ'НА *ж.*, ЦЯЦІ'ЎЁ *зборн. н.* Цяўнік. *Цярэбячы морку, цяціўё ні раскідай, а складай у асобную кучу — карові аддадзім!*

ЧАСНЫ'К *м.* Часнок. *Часныку мы мно́го ні садзім, бо нек ке́пско расьце!*

ЧМЕЛЬ *м.* Шмель. *Там на ґруткў я выкасіў чмялёво гняздо, дак чмяле́ цэлым ро́ям кінуліся на мяне.*

ЧУ'ЦЯЛЬКУ *прысл.* Чутачку, крышачку. *Ты чуцяльку пачакай, я ско́ро зьбяру́сё!*

ШЛЯХЦЮ'К *м.* Шляхтун. *Ты як той засьцянковы шляхцюк — боты наваксаваў, а шыі ні памыў.*

ШЭ'РСЦЯНЬ *м.* Шэршань. *Кажуць, што як шэрсьцянь укусіць, то мо́жно памерці, але я ні помню, кап каго шэрсьтні пакусалі.*

ЯЁРКА *ж.* Вавёрка. *У яёркі гняздо з накрыўкаю, яна сама закрыва́яцца.*

ЯЛАВЕ'Ц *м.* Ядловец. *Ялаўцом вельмі до́бро стаяк паліць, ён вельмі до́бро грэ́я.*

ЯПРУ'К *м.* Вяпрук. *Трэба купіць парку парасят, бо гэ́таго япрука ско́ро мо́жно калоць.*

ЯРАБЕ'Й *м.* Верабей. *Мы, як меншыя былі, ча́сто вячара́мі яраб'ёў пат стрэхамі лавілі. Батарэйкаю пасьвеціш — і бяры.*

ЯРАБІ'НА *ж.* Верабіна. *Ярабіны смашныя, як пабудуць на марозі, зь іх выходзіць гарката́.*

ЯРБА' *ж.* Вярба. *Пастаў вос пад ярбою, як по́йдзя дошч, дак ні змочыць гэдак.*

ЯРБАЛО'ЗІНА *ж.* Вербалоз. *Скварэчнік лепш прыбіць на ярбалозіні: вясною і шпаке́ пяюць, і раней за ўсё цвіце — вот хо́рашо!*

ЯРБЛЮ'Д *м.* Вярблюд. *Стань ты ро́ўно, ато згорбіўсё, як ярблю́т.*

ЯРГІ'НЯ *ж.* Вяргіня. *Трэба ні спазьніцца выкапаць усе карчэ яргіні і ў пограп палажыць да замараскаў.*

*Ю. Ф. Мацкевіч*

# АБ СЕМАНТЫЧНАЙ СТРУКТУРЫ НЕКАТОРЫХ ДЫЯЛЕКТНЫХ СЛОЎ

У слоўніках мы знаходзім два амонімы: *Лунь I* 'бледны водбліск' (В. Фасмер, ЭСРМ, II, 534) і *Лунь II* 'род белага або шэрага сокала, каршун' (там жа). У час экспедыцыі 1971 г. намі занатаваны іншыя значэнні слова *лунь,* што ў пэўнай ступені можа дапамагчы ў выяўленні этымалогіі разглядаемай лексемы [1].

У гаворцы в. Рыбчына Вілейскага р-на Мінскай вобл. *лунь* у форме адз. л. м. роду абазначае 'воблака', 'хмара', у форме множнага ліку — 'кучавыя воблакі': *Бывая ясны лунь і цёмны лунь, з цёмнага — дош, з яснага — пагода. Лунёк найшоў на сонца. Лунь найшоў — будзя дош. Нейкі быў дожджык закапаў з луня. На Жаўніне дош сікануў з луня каплямі бальшымі.* Адпаведна прыметнік *луністы, луністая неба* абазначае 'воблачны, воблачнае неба', неба, пакрытае кучавымі воблакамі: *Сягоння неба луністая, многа лунёў, трэба пасадзіць агуркі, бульбу, каб зарадзіла — такая прыкмета была ў старых людзей.* У іншых раёнах такое значэнне слова *лунь* намі не выяўлена, відаць, яно мае вузкалакальны характар пашырэння.

Больш шырока намі занатавана лексема *лунь* з эмацыянальна-экспрэсіўнай ацэнкай зневажальнасці ці асуджальнасці ў адносінах да людзей і жывёльнага свету: *лунь* 'разумова недаразвіты чалавек', як гэта вынікае з тлумачэння дадзенага слова самімі інфарматарамі: *Лунь — гэта дурнаваты чалавек.* Мярэцкія Глыб. *Калі чалавек ходзіць быта недапечаны, то зовюць лунь.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лунь — гэта ні натта разумны чалавек.* Курaполле Паст. *Ён дурны — хужы як лунь.* Валынцы В.-Дзв. Такое ж значэнне ўласціва і прыметніку *луняваты: быў тут адзін луняваты чалавек.* Саланое Віл. *Луня-*

---

[1] Артыкул пабудаваны на дыялектным матэрыяле, запісаным аўтарам у Вілейскім, Чэрвеньскім р-нах Мінскай вобл., Пастаўскім, Браслаўскім, Глыбоцкім і Верхнядзвінскім р-нах Віцебскай вобл.

*ваты маляц, яго дзеўкі ня любюць.* Мярэцкія Глыб. *Чэм багаты луняваты — лучшэ бедны развітой.* Саланое Віл.

Параўноўваюць з лунём старых людзей: *Стары лунь — гэта стары чалавек, ніякай энергіі ў яго німа, і калі загаварыць да яго — ён як дурны.* Кураполле Паст. *Старыя людзі луняватыя, як ежа бяз солі.* Кураполле Паст. Такое ж параўнанне пашыраецца на жывёл і птушак: *Стары ўжо кот, дык ходзіць, як лунь.* Мярэцкія Глыб. *Гэта старая курыца ходзіць, як лунь.* Мярэцкія Глыб.

*Лунь* мае сэнс прыбітага, зацюканага, прыгнечанага, а дзеяслоў *аблунéць* абазначае пераход у такі стан; дзеепрыслоўе *аблунеўшы* — знаходжанне ў такім стане. Пра гэта пераканаўча сведчыць ілюстрацыйны матэрыял: *І разумнага чалавека зробяць на луня, аблунеіць, калі будуць на яго казаць, што ён ніякі чалавек, зглумяць яго саўсём.* Кураполле Паст. *Як нялюцкая свякроўка — яна нявестку здурніць, зглуміць, і тая будзіць хадзіць, як лунь, будзіць баяцца, што тое не так і тое не так зрабіла.* Кураполле Паст. *Яна ходзіць аблунеўшы.* Ахрэмаўцы Брасл.

З *лунём* параўноўваюць самотных людзей: *Што я буду рабіць адна — сядзі, як лунь.* Мярэцкія Глыб. *Баба біз мушчыны ходзіць, як луніца.* Саланое Віл. І адпаведна ў адносінах да птушак: *Курыца без пітуха ходзіць, як лунь.* Саланое Віл. Прыведзеныя ілюстрацыі пераканаўча сведчаць аб сэнсавым аб'ёме лексемы *лунь* у яе метафарычным ужыванні — комплекс негатыўных адзнак асобы, зніжэнне разумовай і фізічнай актыўнасці, што праяўляецца ў знешнім выглядзе, у паводзінах, у замаруджанасці руху. Паўстае пытанне аб суадносінах ці вытоках гэтай вобразнай сімволікі. Ці па сваёй «унутранай форме» яна ўзыходзіць да *лунь* у значэнні 'род птушкі, сокала, каршуна' ці да амоніма *лунь* у значэнні 'воблака, хмара'? На нашу думку, паводзіны, знешні выгляд драпежнай птушкі не маглі служыць для такога шырокага метафарычнага параўнання. Больш верагодна меркаваць, што экспрэсіўна-ацэначны комплекс лексемы *лунь* суадносіцца з *Луной, лунём* праз прамежкавую ступень *луннік* 'лунацік', адсюль і метафарычнае развіццё выраза 'хадзіць, як лунь', што абазначае 'як лунацік, як ненармальны, як здань, пасоўвацца ў маўчанні, у змярцвеласці'. У гэтых адносінах цікава параўнанне тыпу: *Ты хо-*

*дзіш с кутка ў куток, як лунь.* Мярэцкія Глыб. *Рухаесся ты, як лунь, паварочваесся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лунь ты баракоўскі, ходзіць як сонны.* Кураполле Паст. *Ён ходзя, як лунь па́ небу.* Рыбчына Віл.

Акрамя экспрэсіўна-ацэначнага комплексу, лексема *лунь занатавана ў значэнні* 'здань, прывід': *Я старая і перапалохалася раз, мне здалося, што за мной лунь ішла.* Рыбчына Віл.

У тых жа гаворках у значэнні 'лунацік' ужываецца *лу́ннік: Луннік лазя ўсюды, залезя на крышу.* Рыбчына Віл. *Спіць дзіця — раптам устане і ідзе на двор, у другую хату — ето луннік.* Рудня Астр. Чэрв.

Цікава, што ў значэнні 'мігацення бляску на матэрыяле' занатавана слова *луны́: Дайней палатно выкачаюць, ажны луны ходзюць па палатне — бліщчыць, пераліваецца.* Лісна В.-Дзв.

Такім чынам, дыялектны матэрыял, зафіксаваны кантэкст, у якім ужываецца слова, з'яўляецца важным крытэрыем раскрыцця значэння слова. Разам з тым патрэбна ўлічваць метафарычнае выкарыстанне слова ў народнай мове, выяўляць усю сукупнасць функцыяніравання лексем у іх прамых і пераносных значэннях, што дазволіць больш дакладнаму выяўленню першасных і другасных значэнняў, больш агульных, абстрактных і канкрэтных значэнняў.

*Г. Ф. Юрчанка*

# АДДЗЕЯСЛОЎНЫЯ І ГУКАПЕРАЙМАЛЬНЫЯ ВЫКЛІЧНІКІ З АДНОЙ ВЁСКІ

Пададзены ніжэй матэрыял запісаны ў наш час, у 50—70-х гадах, у в. Кудрычы на Мсціслаўшчыне. Выклічнікі размешчаны ў алфавітным парадку. Тлумачыцца кожнае слова. Калі адназначныя словы стаяць побач, яны, пачынаючы з другога, падаюцца з паметай «тое ж». Адсылкі ў іншыя месцы даюцца з паметай «гл.» («глядзіце»). Паколькі не існуе адзінага погляду на словы тыпу *гоп, прыг, плёсь, топ,* назву аддзеяслоўныя выклічнікі лічым умоўнай.

АЙК. Выражэнне болю. *Ляжы ўжо ціха сы сваімі айк, прінадзі к поду хрісткáмі і пыляхчэіць.*

АЙТ. Выражэнне адмаўлення, радзей згоды. *Айт, нечыга мне там дзелыць, ні пайду я. Айт, што прінёс, то й ладна.*

АМ *жарт.* Пабуджэнне дзіця да яды. *Ам і зьеў. Ам і німа. Січас я зьдзелыю ам.*

АМАЧКІ (амычкі). Тое ж. *Ну-ка, ну, áмычкі. Дам, дам амычкі.*

АМКІ. Тое ж. *А я січас амкі, Томычкі ня будзіць.*

АМЫ. Тое ж. *А я сам áмы і мáлінькыму дам.*

АУ. Вокліч, якім пераклікаюцца, каб не страціць адзін аднаго. *Мы доўга крічалі ім ау, пакуля пыцірялісяѓ.*

АЎ. Пра мяўканне. *Ныхліптáлыся мылыка і йдзі мышэй лавіць, а то дам аў.*

БАБАХ (быбах). 1. Пра выстрал. *Быбáх — раз, быбах — другей, а вуткі і пыляцелі, хвасты пыкызалі.* 2. Пра падзенне. *Быбах сы йгрушы умесьці с сукым.*

БАБЭХ. Пра цяжкае падзенне. *Бабэх на роўным месьці і ляжыць.*

БАДЗЮЛЬ. Пра калупанне вострым прадметам, усоўванне яго з цяжкасцю. *Папробывыў лупáткыю, бадзюль, а ня лезіць. Бадзюль, бадзюль ножыкым, а скарінка зыпіклася, хут тыпаром сякі.*

БАК. Пра кароткае адрывістае бляянне. *Нешта мыркытала айца бак, бак.*

БАМ. Пра кароткі, адрывісты металічны гук. *Адзін раз бам нешта, а большы ня чуць.*

БАЎ. 1. Пра звон. *Баў, баў — во яго й званеньня ўсё.* 2. Пра кароткае, злоснае мычанне быка. *Пірід вайною дужа страшный бык быў, як ідзець цірізь дзярэўню, пачуіш яго баў — уцікай біс палкі.*

БАЎТУНЬ. 1. Пра пялёсканне. *Баўтýнь сыўрыдку, іна плёсь на грудзі.* 2. Пра неабдуманае выказванне. *Сьпірва баўтунь як сыбака із-зы вугла, а посьлі падумыіць.*

БАХ. Пра падзенне, удар, нечаканае рашэнне. *Цягнуў, цягнуў, а ношка бах у пыль. Бах яго ззаду. Бах пірад ёю ны калені. То гатовіўся, шурудзіўся, а тут бах — ні пайду, нешта як атрезыла.*

БАЦ. Пра ўдар, падзенне. *Бац мокрыю рукою яго. Бац пысярёд хаты і ляжыць.*

БЛЁМ. Пра адрывісты металічны гук. *Нечым жалезным блём, блём, доўга ляпылі ны аборку.*

БЛІСЬ. Пра з'яўленне кароткага святла. *Лі гумна нешта бліськ, бліськ, мне ажно кропна стала.*

БЛОМ. Пра няўмелае званенне. *Бувала, тэй залезіць ны званіцу і дывай блом, блом — ня ўмеў.*

БЛОМК. *Гл.* блём. *Нічога б ня ўвідзілі, а чуім зы банію: бломк, дык мы туды.*

БЛУМ. *Гл.* блём. *Нейкім жылізячным блум, блум, доўга ляпылі.*

БЛЯМ. Пра звон, бразгат. *Трохі звонюць: блям, блям. Як пычанўць блям, блям, доўга блямкыюць.*

БОМ. Пра грукат. *Стук-стук-стук. Бом-бом-бом. — Хто там едзіць? — Чорт з гарбом.*

БОЎ. *Гл.* баў 2. *Ого, як ідзець здаровый бык пы дзярэўні: боў, боў, ухадзі з дарогі.*

БОЎК. Пра імгненнае пагружэнне ў ваду. *Нырнуў, боўк і ня відна.*

БОЎЦЬ. 1. Тое ж. *Боўць і пашоў як тапор на дно.* 2. Пра неабдуманае выказванне. *Ні падумыўшы боўць, а ўсё ў рёгыт.*

БРАЗЬ (брязь). 1. Пра рэзкае падзенне. *Ну крюшок пріляпіў лáтку, іна брязь і разьбілысь. Брязь і ляжыць пад вербыю: зымаріўся.* 2. *Гл.* боўць 2. *У яго часта так буваіць: брязь ізыком, а тады думыіць.*

БРАК (бряк). 1. Пра падзенне, часта знарочыстае. *Прішлі, бряк на сена, і ноч спалі, і раньня яшчэ пріхвацілі.* 2. *Гл.* боўць 2. *Ніхто б нічога ні гывaріў, дык ён жа выліз: бряк яры Алёну.*

БРОХ (брёх), *неадабр.* Пра празмернае піццё вады. *Вадзішчу ету халодныю брёх, брёх, як жа прастýда ня будзіць браць.*

БРЫЗЬ. Пра брызганне. *Такей ён дождж: брызь і німá. Нарошня брызь ны яго вадою і пышла.*

БРЫН. Пра брынчэнне. *Брын чым-то жалезным пыд вакном, ці ні сігнал пыдывай.*

БРЫНД. Пра хадзьбу без мэты. *Брынд, брынд пы дзяреўні, як сьвет пыціряўшы.*

БРЫНК. *Гл.* брын. *Нешта редка там брынк, тады яшчэ раз брынк, ні знаю, што там було.*

БУ-БУ. Пра выражэнне незадаволенасці. *Нешта ні пы яго, ходзіць, цэлый дзень бу-бу-бу як борыхыва кіла.*

БУК. Пра бойку бараноў, пра лёгкае стуканне. *Быраны́ ўжо нібальшэя пычынаюць біцца: бук і ацскочуць, бук і ацскочуць.*

БУЛДЫХ. Пра прыжкі, падзенне ў ваду. *С тэя вісычыны́ булды́х, булдых адзін за дным і пуплулі.*

БУР. Пра бурчанне, вуркатанне. *Коцік песьню пяець бур, бур. Гулубец кылы галýбкі бур-р.*

БУРК. Пра бурчанне, невыразны адказ. *Бурк пад нос і пашоў, рызьбярі яго.*

БУСІ. Імітацыя гуку пацалунку. *Пыкажы-ка, як ты ўмеіш дзелыць бýсі.*

БУСІНЬКІ. Тое ж. *Ай-я-яй, даўно рысстряліся — апшчапіліся, бусінькі.*

БУСІЧКІ. Тое ж. *Дай цёці бусічкі, дай, дзетычка.*

БУСЬ. Тое ж. *А я мáлінькыга бусь.*

БУСЬКІ. Тое ж. *Давай-ка буські, дывай.*

БУСЮ. Тое ж. *Бусю раз, бусю два і яшчэ раз бусю.*

БУСЯ. Тое ж. *Буся, Пеця, буся, Манічка.*

БУХ. Пра цяжкае падзенне. *Толька вучыцца хадзіць, два шагі ступіць, бух і ляжыць. С палык бух аб землю, чуць пыдняўся.*

БУХІ. Пра працяглы кашаль. *Бувала, ідзець і ўсё бухі, бухі, у яго лёхкія былі слáбыя.*

БУХУ. Тое ж. *Як выйдзіць урáньні, і пычаў бухý, буху, у яго нешта ў грудзя́х сядзела.*

БЭК. *Гл.* бак. *Ета воўцы так умеюць: бэк, бэк.*

БЭН. Пра звон струны. *Струны ў яго бэн і пырва́ліся.*

БЭХ. *Гл.* бах. *Бэх зь мяшком ны га́нкых, упусьціў і пыўмі́шка́ рассыпыў.*

БЭЦ. Пра ўдар. *Бэц мокрыю тряпкыю.*

ВАЛЬ. Пра павольную валюхастую хаду. *Яго здáліку пызнáіш, усігда ідзець валь, валь.*

ВАРЗЁК. Пра пэцканне. *Ныгамі варзёк бульбу, ымясіў — худзь ба зьмёў.*

ВАРУХ. Пра малапрыкметны рух. *Пат хворыстым, віджу, вару́х, варух, дык я вілкымі — тхорь лазіў.*

ВЕРЦЬ. Пра рэзкі паварот, выражэнне адмаўлення. *Глянула і верць ызад. Я пыдаю: ндзіва́й, а йна верць — ні хачу.*

ВІЛЬ. Пра паддобрыванне. *Кыштан як увідзіць мяса, будзіць віль, віль, чуць ні скажыць: дай. Умеіць вільвіль кылы ычальства.*

ВІСЬ. Пра піск (звыч. свінні). *Бульбу яго сьвіньня рыла, я палкыю, іна вісь і пабегла двору.*

ВОЙ. Выражэнне нечаканасці, здзіўлення. *Вой, што я віджу. Вой, як яны дзелыюць.*

ВОХ *гумар.* Пра вохканне. *Чаго там вох у цябе, што нідылігáіць. Ляжыць на печы і вох, вох — стогніць.*

ВУХ. Пра трывожнае адрывістае рохканне. *Пацьсьвінкі нешта пачулі, вушы нытапы́рілі, адзін другому вух, вух і ўцікáць.*

ВЯХ. Пра падачу сабакам голасу здалёк. *Доўга нейдзі бегыў, а тады чуім: вях, вях, ці ні зайца ўзыгнáў.*

ГА. Пра падачу голасу, каб даць пра сябе знаць; наогул пра крык, гвалт. *Айдзе-то далёка, далёка га-а, га-а— крічаў нехта. Чулі мы тваё га, сядзь.*

ГАК. Пра гук удару. *Сы ўсяго рызмáху пы калодкі гак.*

ГАЛОП. Пра прыжок праз перашкоду. *Цялёнык ціріс прясла галоп і ў клевір.*

ГАЛЭП. Тое ж. *Галэп ціріж жардзіну і там.*

ГАМ. *Гл.* ам. *Гам і зьеў. Гам кусочык.*

ГАМАЧКІ (гамычкі). *Гл.* ам. *Дывай-ка, дзетка, гамычкі.*

ГАМКІ. *Гл.* ам. *Мы зь Мішыю будзім гамкі.*

ГАЎ. Пра брэх. *Гаў, гаў, а з будкі ня лезіць.*

ГАХ. *Гл.* гак. *Гак даўбнёю пу кулу́ну́, во каб міма.*

ГЛОК. Пра шматразовае глытанне вадкасці. *Глок-*

*глок-глок і пыўвідрá сырадою выжлукцію пряма набгом няцэджыныга.*

ГЛЫК. Пра шпаркае глытанне. *Глык і німа. Кусок сала глык і стаіць.*

ГЛЫЦЬ. Тое ж. *Сьпяшыў, глыць кусюгáн, а яно ў глоткі зыстря́ла, дык у яго й вочы нáлыб.*

ГЛЭК. Тое ж. *Кусок зу куском глэк, глэк.*

ГОП. Пра лёгкі прыжок; пра пад'ём. *Рызыгнáўся, гоп і там. Гóп, гоп, гоп, устывай, дзяржыся.*

ГОПА. Тое ж. *Лёгык іщчэ, гопа і ны хаці, я так ня ўзьлезу.*

ГОПАНЬКІ (гопынькі). Тое ж. *Ну, ну, нý, гопынькі, дзяржысь.*

ГОПАЧКІ (гопычкі). Тое ж. *Дывай, гопычкі, відзіш, як лёхка.*

ГОПКІ. Тое ж. *Ну-ка, гопкі, раз і ўсё, пабеглі скарей.*

ГОХ. Пра цяжкі ўдар. *Цягнýлі, цягнулі бірьвяно, а яно гох ызад.*

ҒОЦ. Пра скаканне, свавольства. *Гоц, гоц па сену, патрýць усё, пірігáдзюць.*

ГРАК (гряк). Пра рэзкае падзенне. *Гряк хрісткáмі аб гліну, чуць устаў.*

ГРУК (ґрюк). Пра настойлівае стуканне. *Нехта грюк, грюк у дзьвері, а тады ня чутна.*

ГРЫЗУНЬ. Пра грызенне. *Стыяў, стыяў, а тады грызýнь зы нагу зубамі.*

ГРЫЗЬ. Тое ж. *Грызь, грызь палку, ды нічога ня зьдзелыіць, ня вырьвіцца.*

ГРЫЗЮНЬ. Тое ж. *Жырібяты грызю́нь адзін другога і пынясьліся ўбры́кі.*

ГРЫМ (грім). Пра раптоўнае з'яўленне, падзенне. *Учора госьці ка мне грім атвечыра кучыю. Лез, лез, лесьвіца крэх, я грім на мост.*

ГУК. Пра трывожнае рохканне. *Сьвіньня чаго-то гук, гук у пуні.*

ГУП. Пра лёгкі прыжок. *Гуп ціріз ручаёк і там. Гуппа на тэй бок.*

ГУР. 1. Пра падзенне аднолькавых прадметаў. *Клаў, клаў дровы, а яны гур уніз, пірікладывый цяперь.* 2. Пра раптоўны ўваход. *Гур кучыю у хату, я ж іх саўсім ні ждáла.*

ГУРК. *Гл.* гур 1. *Борт аччыніўся, бульба гурк ны зямлю.*

ГУТА. Пра гушканне. *Гута раз, гута два. Гу-у-ута, гу-у-ута, вісока, вісока.*

ГУТАЧКІ (гутычкі). Тое ж. *Садзіся, гўтычкі будзім дзелыць є табою.*

ГУТКІ. Тое ж. *Гу-уткі, гу-уткі, уверьх — уніз, уверьх — уніз.*

ГУХ. Пра цяжкае, але мяккае падзенне. *Мяшкі зь лёным гух, гух с хаты.*

ГУЦЕНЬКІ (гуцінькі). *Гл.* гута. *Гўцінькі ны вяречычкі.*

ГУЦІ. Тое ж. *Садзіся, гўці зьдзелыім. Гу-у-ці, гу-у-ці.*

ГУЦЬ. 1. *Гл.* гута. *Гуць яшчэ раз, гуць, гуць.* 2. Пра хістанне. *Ідзеш, доскі ны мастў гуць, гуць, як толька ні прывáлюцца.*

ГУЦЬКІ. *Гл.* гута. *Ня бойся, мы гўцькі ціхінька, астарожнінька.*

ГЫ. Пра грубы вокліч. *Ні ш чога ні зь якыга гы-ы ны яго.*

ГЫК. Тое ж. *Усё гык і гык, пы-чылавечыскі ні скажыць.*

ГЫР. Пра гырканне; перан. пра грубае выказванне. *Сыбака гыр к ныгам. Усё гыр і гыр, усё ні як нада.*

ГЫРК. Тое ж. *Іс-пыд ганык гырк, а вылізьць ня лезіць. Ні скажыць як усе, усігда гырк, гырк.*

ГЭК. Пра грукат, удар. *Гэк, гэк, доўга нечым ны дваре стукыў. Гэк яго кійком пы плічáх.*

ГЭП. *Гл.* гоп. *Думылі, ў цянёты жарёбку зловім, а йна гэп цірізь вярёўку і толька была.*

ГЭР. Пра гырканне. *Мáлінькій, а ўедлівый, гэр, гэр к ныгам, глядзі, хвáціць зубамі.*

ГЭХ. Пра размашысты ўдар. *Рызмахнўўся, гэх, сукувáтыя калодка, а зразу рызьляцелыся.*

ДЖВУХ. 1. Пра імклівы бег. *Стыяла ціха, а тады джвух з двыра як мітульга.* 2. Пра моцны ўдар. *Джвух у вуха, то й атляцеў.*

ДЖМУХ. 1. Тое ж. *Ні с таго, ні сь сяго джмух пы грідáх.* 2. Тое ж. *Джмух пы затылку, каб уняўся.*

ДЖМЫХ. 1. Пра гучнае чмыханне. *Карова ныздрямі джмых і кытанўла ў клевір.* 2. *Гл.* джвух 1. *Вырвылыся цёлычка і джмых у ячмень.*

ДЖЫГ. Пра раптоўны апёк, удар. *Крапівыю джыг пы ныгах. Рімушком джыг, ён і ні замеціў хто.*

ДЖЫГУНЬ. Пра раптоўны апёк крапівой. *Крапіва яго джыгу́нь, як пуля выскычыў.*

ДЗВІГ (дзьвіг). Пра перасоўванне. *Кажыцца, ціхінька пріхінўўся, а стол дзьвіг, усё пырызьліва́лыся.*

ДЗВІГУНЬ (дзьвігунь). Тое ж. *Дзьвігу́нь сундук ны нагу яму, пальцы рызыдраў.*

ДЗЁР (дзёрь). Пра ірванне, шморганне. *Морквіну дзёрь, ціціва́ атырва́лыся, а морква сядзіць.*

ДЗЁРГ (дзёрьг). Тое ж. *Нехта аттуль за ручку дзёрьг, дзёрьг. Пывадок дзёрьг і пышла пы ірях.*

ДЗЁЎБ. Пра дзяўбанне. *Курыца дзёўб яго ў паліц. Ціпляты падойдуць, дзёўб, дзёўб мяшок.*

ДЗІНЬ. Пра гук разбітага шкла. *Вадою ды ны лампу, сьцякло дзінь — треснула.*

ДЗОГ. Пра гойсанне, свавольства. *Ды самыя поўнычы тута насіліся дзог, дзог, дзог.*

ДЗУГ. Тое ж. *Адзін за дным дзуг, дзуг, бегыюць, адурюва́юць.*

ДЗЫГ. Пра беганіну з мэтай пажывіцца. *То ў адну хату дзыг, то у другую — во яе зыняція.*

ДЗЫН. Пра гук звону, разбітага шкла. *Званочык там дзын, дзын. Сьцякло ў вакне дзын і рассыпылыся.*

ДЗЫНК. Тое ж. *Тама ўсё урея нешта дзынк, дзынк. Стыкан дзынк і німа.*

ДЗЮБ. Пра дзяўбанне, імітацыю дзяўбання. *Ціплёнык зь ійца́ вылупіўся і ўжо ны ныгах дзюб, дзюб. Носым дзюб ап стол.*

ДЗЯРАБ (дзіряб). Пра піццё спіртнога. *Адзін стыканчык выпіў, а ўсьлед і другея па рюмычкі дзіря́б.*

ДЗЯЎБУНЬ. *Гл.* дзёўб. *Пятух дзяўбунь у нагу, малый у крік.*

ДОРГ (дорьг). Пра шморганне, нарыванне. *Карова дорьг к сабе вярёўку, я і пыляцела. Ныга нырыва́іць дорьг, дорьг.*

ДРАГ (дряг). Пра бег (жывёлы). *Увесь табун дряг у атаву к Пархвеныывым кустам.*

ДРАП. 1. Пра драпанне. *Ета ці ня кошка драп, драп зы дзьвірямі.* 2. Пра ўцёкі, імклівы бег. *Максім топ ныгамі к яму: злаўлю, дык ён драп у бірізьня́к.*

ДРОГ (дрёг). Пра дрыжанне, трасенне. *Ідзець дрёг,*

*дрёг, русплулáся, як дзіжа. Ехылі па грудзі дрёг, дрёг, пы такой дарогі зубы пыціряіш ехыць.*

ДРЫГ. Пра ўздрыгванне. *Стрель над вухым, я дрыг уся чыста.*

ДРЫГ. Пра дрыганне, пра хадзьбу з выкрутасамі. *Нагою пад нос яму дрыг. Ідзець дрыг, дрыг, дужа зыдаецца.*

ДРЫЗЬ. Пра трэск разбітага посуду. *Кўхлік дрызь, на дробныя кусочыкі рассыпыўся.*

ДРЫН. 1. *Гл.* брын. *Дрын, дрын — во і ўсё яго йгрáньня.* 2. *Гл.* брынд. *Па вуліцы с кынца ў канец дрын, дрын.*

ДРЫНК. 1. *Гл.* брын. *Думыў, ціха пірялезіць, а провылку зычапіў — дрынк.* 2. *Гл.* брынд. *Вун твой хвáліный, дрынк, дрынк, туды-нызад.*

ДЫБ. Пра няўмелую хадзьбу. *Ціріс хату дыб-дыб-дыб і ны парог рукамі. Ступáіць дыб, дыб, чуць дзьвігыіцца.*

ДЫР. Пра гук разрыву, дрыжання. *Зычапіўся за гвозд, штаны дыр-р уцэла. Аськялёпкым ны палкі дыр, дыр.*

ЁК. 1. Пра спалох. *Нехта наўстречу тык, у мяне серца ёк.* 2. Пра плёск селязёнкі. *Ляціць наўскыч, сілязёнка ў жырібка ёк, ёк.*

ЁРЗЬ. Пра неспакойныя рухі. *Усё ёрзь і ёрзь, ніяк яму ні сядзіцца.*

ЖАХ. Пра рэзкі ўдар. *Ремнім ціряс плечы жах, дык тэй уцікаць.*

ЖВЕЛЬ. Пра павольную яду. *Сядзіць, жвель, жвель, як ні сваімі зубамі.*

ЖВЯК. Тое ж. *Стаіць і жвяк, жвяк — нейкыю прясн́ушку есьць.*

ЖВЯЛЬ. Тое ж. *Я так і ем: жвяль, жвяль, біз зубоў плыхáя ідá.*

ЖВЯНЬ. Пра надакучлівыя размовы. *Сыбяруцца, жвянь, жвянь, ім каб толька абгывáрівыць каго.*

ЖВЯНЬК. Тое ж. *Адно жвяньк, другоя жвяньк — так і ўремя ў іх ідзець.*

ЖМЫХ. Пра таемнае знікненне. *Цялёнык жмых у кусты і кытанўў двору.*

ЖУХ. Пра выліванне вады. *Зь відра жух ны адзежу, нашто ты етык дзелыіш.*

ЖЫГ. 1. Пра апёк крапівой. *Адзін аднаго жыг кра-*

*півыю.* 2. *Гл.* жмых. *Жыг ат нас і пышла адна пы сваіх мясьціных.*

ЖЫХ. Пра імгненны рух. *Міма нас жых як пуля, зловіш трясцы.*

ЗВЯГ (зьвяг). Пра балбатню, пляткарства. *Прівыкла зьвяг, зьвяг ізыком.*

ЗВЯК (зьвяк). Пра бразгат. *Ныкладзець у кырман жалезьзя, ходзіць, а яно зьвяк, зьвяк.*

ЗІР (зірь). Пра імгненны позірк. *Я зірь — яны капошуцца за стогым.*

ЗІРК (зірьк). Тое ж. *Мы кахі-кахі, ён тады зірьк у наш бок.*

ЗЫБ. Пра хістанне. *Сыха зыб, зыб, дайжа ат ветру хітаіцца, слабка стаіць.*

ЗЮК. Пра таемнае выказванне. *Зюк ёй нешта аньціресныя.*

ЗЯЎ. Пра пазяханне. *Зяў, аж рот рызьдзіраіцца.*

ІК. Пра іканне. *Ну што ж ты ік, ік, худзь ба ат людзей атвярнуўся.*

ІРВУНЬ. Пра вырыванне, ірванне. *Ціхінька ірвўнь зы макўшку, а ўвесь куст вырвыўся.*

КАВЫР (кавырь). Пра парушэнне прывычнага, звычайнага ладу. *Муравейнік прўцікым кавырь, ух мурашкі ўсхадзіліся. Кавырь яго з должнысьці, ніхай у рідавых паходзіць.*

КАЛДЫБ. Пра цяжкую хадзьбу пры хворых нагах. *Цяперя іна лі двыра чуць ходзіць, калдыб, калдыб.*

КАЛУП. Пра калупанне. *Сядзіць і сьцяну калўп, калуп. Прышчычык калуп, а аттуля крой.*

КАЛЫХ. Пра хістанне. *Прігледзься-ка, кукуруза калых, калых, нехта лазіць.*

КАП. Пра капанне, *перан. жарт.* пра смерць. *Дождж як дражніцца: кап, кап і сьціх. Кап, кап, кап і німа, якей ета дождж. Ты зь ім ціхінька, ато ён кап і гатой.*

КАПУНЬ. Пра варушэнне, капанне. *Лісьця капўнь палкыю, а аттуля зьмія. Лупаткыю капунь пат куст.*

КАР. Пра карканне. *Вароны справілі гвалт — кар-р, кар-р, кар-р.*

КАРК. Пра аднаразовае карканне. *Варона карк, а пятух к ёй.*

КАРХ. Пра кашлянне. *Карх айдзе пупала, карх, саўсім нікуратный.*

ҚАРХІ. Пра нездаровы кашаль. *Ён каторый год так жывець: кархі, кархі.*

ҚАТУНЬ. Пра катанне прадметаў. *Қатўнь абрўчыкым адзін другому, доўга так гуляюць.*

ҚАЎ. Пра мяўканне. *Қот ураньні пріходзіць неткуль і просіцца аччыні: каў, каў.*

ҚАХ. *Гл.* гак. *Даўбнёю пы абўху ках, тапор залез, ні туды ні нызад.*

КАХІ. *Гл.* кархі. *Усё ўрёмя ў яго кахі, кахі.*

ҚВОХ. Пра квактанне, *іран.* пра стогн. *Квакуха ціплят хырашо глядзіць, квох, квох, нікуды іх ні пускаіць. На печы квох, квох, нечыга нідылігáіць.*

ҚВЭЦ. Пра мазанне. *Помызым квэц, там, там, во й бяленьня ўсё.*

ҚІВУНЬ. Пра падачу знака кіўком. *Пыдыйшоў, ківўнь Івану, і некуды пыдáліся к лесу.*

ҚІГІ. Пра няясны крык птушкі. *Птушка у кустах қігі, кігі крічыць.*

ҚІГІҚ. Тое ж. *Па-мойму, ета сывá так: кігік у вецьці.*

ҚІДЗЬ. Пра кіданне. *Сьнежкымі кідзь адзін у другога. Қідзь яму мячык.*

ҚІДУНЬ. Тое ж. *Рызмахнўўся, кідўнь у тэй бок, а кіёк пыляцеў у етый.*

ҚІДУХ. Тое ж. *С пліча кідўх ды чуць ні пы ныгах палкыю.*

ҚІЎ. *Гл.*ківунь. *Адзін другому кіў, пынялі, што к чаму.*

ҚЛЁП. Пра кляпанне, лясканне. *Узяўся, клёп, клёп, клёп і ныгнáў лыпатўху.*

ҚЛЁЎ. Тое ж. *Клёў, клёў — ляскыіць нечым.*

ҚЛЫП. Пра павольную, няўклюдную хадзьбу. *Клып, клып, цягніцца ці ні к свытам.*

ҚОҚ. Пра падзыўны або трывожны кліч пеўня. *Пятух нечыга спужáўся, кок крічыць.*

ҚОЛЬ. Пра ўкол, калаццё. *Қоль паліц іголкыю. Нешта коль у бок, ні прадыхыць.*

ҚОП. *Гл.* капунь. *Қоп адзін куст, коп другей, а бульбы саўсім німа.*

ҚОЎ. Пра каванне. *Қоў, коў, ды нічога ні пулучаіцца.*

ҚОЎЗЬ. Пра коўзанне, слізганне. *Лез па лесьвіцы, ныга коўзь, я брязь.*

ҚОХ. Пра квактанне. *Што кох, кох, скарей ны гняздо садзіся.*

КОЦЬ. Пра качэнне. *Коць с крываці на мост.*

КРАК (кряк). Пра краканне.*Вýткі кряк, кряк і ціріз дарогу ў ячмень.*

КРАХ. Пра трэск, ламанне. *Такоя дзеріва крах і макушкыю ў гарод, пацёрла ўсё.*

КРОХ. Тое ж. *Палку на калена крох. Рука яго крох і павісла.*

КРУЦЬ. Пра рэзкі паварот. *Круць ат іх і пышла, чым-то ні ўлáдзілі.*

КРУЦЬ-ВЕРЦЬ. Пра хуткія павароты. *Круць-верць туды-нызад, нійдзе места ні нáйдзіць. Круць-верць, у чыряпочыку сьмерць.*

КРЫЎ (кріў). Пра хадзьбу крываногага. *Ногі нейкія як дугі, кріў, кріў, кріў, чуць ні чыпля́юцца адна за адну.*

КРЭМЗЬ (кремзь). Пра перакрэсліванне, неразборлівае пісьмо. *Хто ж так пішыць: кремзь, кремзь, ніхто ні рызьбярець.*

КРЭХ. *Гл.* крах. *Буря ўсхадзілыся, сук крэх ны прывады́.*

КУГА. Пра плач дзіцяці ў першыя дні нараджэння. *Дужа ніспакойный дзіцёнык, усё куга і куга.*

КУГІК. *Гл.* кігі. *Птушка на борку кугік, кугік.*

КУДАК. Пра кудахтанне. *Кудáк, кудак, зьніслá яйцо ны пітáк.*

КУДАХ. Тое ж. *Кудах, кудах, ідзіця, дзеці, яйцо брацъ.*

КУК. Пра аднаразовае кукаванне. *Кукушка кук і сьціхла.*

КУКАРЭК (кукарек). Пра спяванне пеўня. *Чуіш, якоя красівыя кукарек вядзець.*

КУКАРЭКУ (кукареку). Тое ж. *Кукареку, баба ў реку, дзед за ёю с кычáрьгою.*

КУ-КУ. Пра кукаванне. *Кукушка кукуіць ку-ку, гады шчытаіць.*

КУЛДЫК. Пра кулянне праз галаву. *Бегыюць, прыгыюць, скачуць, а тады кулдык, кулдык ціряз голывы.*

КУЛЬ. Пра падзыванне пеўнем курэй. *Пятух курей завець куль-куль-куль.*

КУП. Пра купанне. *Дывай-ка і мы зьдзелыім куп.*

КУР. Пра папярэджанне пеўнем, квактухай аб небяспецы. *Строгыя квакуха, чуць што, крічыць кур-р. Чуіш, пятух свáріцца ну курей кур-р-р.*

КУРНЯЎ. *Гл.* каў. *Мыш выпусьціла, а цяпер жаліцца курняў, курняў.*

КУСЬ. Пра кусанне. *Дражніў, дражніў, пакуль сыбака кусь яго зу руку.*

КЫЛЬ. Пра ўкол або жартоўны намер укалоць. *Кыль яго пад бок. А я цябе кыль-кыль-кыль.*

КЫР. *Гл.* кар. *Чаго яе там хвытаіць, села і кыр-р, кыр-р.*

КЭХ. *Гл.* ках. *Кэх усім целым аб жардзіну, чуць ны ныгах устоіў.*

ЛА-ЛА-ЛА. Пра балбатню. *Сыйшліся і пычалося ў іх ла-ла-ла.*

ЛАП. Пра мацанне, абмацванне. *Лап, лап у тряпкых, ці ты тут што клаў. Лап зы кырман, а там пуста.*

ЛАХ. 1. Пра беганіну. *Лах, лах з двыра ў двор.* 2. Пра балбатню. *Лах, лах ізыкамі кажный дзень усякыю трілюду.*

ЛЁП. Пра пэцканне, мазанне, абмазванне. *Лёп глінью, а йна ні дзяржыцца.*

ЛЁСЬ. Пра лясканне. *Пугыю лёсь, як стріляіць. Лёсь лучыныю, ажно ў вушах зьвініць.*

ЛІЗЬ. Пра лізанне. *Лізь лупатку, язык і прістаў. Сыбака ўскачыў, чугун лізь, лізь, лізь.*

ЛОП. Пра лопанне. *Кіпятку лінўў, стыкан лоп — німа. Гусі лоп-лоп-лоп крыльлім.*

ЛУЗЬ. Пра лузганне, шчоўканне. *Арехі зубамі лузь, лузь.*

ЛУП. Пра лыпанне. *Вычамі луп і сам сабе ня веріць: няўжэлі ета Кірей.*

ЛУСЬ. *Гл.* лузь. *Струкі ў квасолі самі трескыюцца: лусь, лусь.*

ЛЫК. Пра піццё. *Мылако лык, лык, лык, пряма набгом біш чаркі.*

ЛЫП. *Гл.* луп. *Лып, лып, нічога ня можыць пыняць.*

ЛЫСЬ. Пра ўдар (звыч. па лбу). *Пычаў буўтацца ў міскі, дык бацька ложкыю па лбу лысь.*

ЛЫХ. *Гл.* лах. *Як пыднілася, так і пышла, лых, лых пы двырах.*

ЛЭП. *Гл.* лап. *Лэп у карзінку, тама адна бумага.*

ЛЯП. 1. Пра бразганне. *Клямкыю ляп і аччыняіць дзьвері — во госьць.* 2. Пра недарэчнае выказванне. *Пры Аўдотку ляп, што відзіў яе с Хвідарёнкым.*

ЛЯСЬ. Пра лясканне; паданне; удар. *Лясь-лясь-лясь у*

*вакно. С крышы лясь ап погріб. Патторнуўся зь ізыком, а яго лясь.*

МАЗЁК. Пра няўмелае мазанне. *Дзёхцім восі мазёк троху, мазёк.*

МАЗУНЬ. Пра аднаразовае мазанне. *Ныбра́ў гліны мокрыя і мазунь яго ззаду.*

МАЗЬ. Тое ж. *Мазь, мазь і гатоў гаршчонык, зыма́зыла.*

МАЗЮК. Тое ж. *Ап сьценку плічамі мазю́к, мел астаўся ну пулушу́бку.*

МАЗЮНЬ. Тое ж. *Нейкыю са́льныю тря́пкыю мазю́нь пы сталу, пылыса́ аста́лыся.*

МАРГУНЬ. Пра аднаразовае morганне. *Маргунь, што скарей нада бежч.*

МАРЗЁК. *Гл.* варзёк. *Марзёк, марзёк цестым пы лаўкі, па ўслону.*

МАТУНЬ. 1. Пра матанне. *Мату́нь, матунь, пяць разоў мытану́ў — многа нымытаў.* 2. Пра мільганне. *Матунь туды, а цірізь мінуту нызад.*

МАХ. Пра шпурлянне. *Рызмахнецца, мах, а тэй камінь на дзесіць шагоў ляціць.*

МАХІНЬ. Пра лёгкае шпурлянне. *Махінь па́лычкыю і чуць ні ў балонку.*

МАХУНЬ. Тое ж. *Камлы́жкымі раз зы разым маху́нь ну курей.*

МАЦ. *Гл.* лап. *Ма́ц, мац пы кырма́ных, німа нічога.*

МІГУНЬ. Пра ледзь прыкметнае морганне. *Мігу́нь ціхінька, мігунь, каб ні замецілі.*

МІК. Пра мычанне. *Карова ўжо мік, мік — піць просіць. І цёлычка ўсьлед мі́к.*

МІРГ (мірьг). *Гл.* мігунь. *Аднаму мірьг, тады другому: пыра гатовіцца.*

МІТУНЬ. Пра аднаразовае мільганне. *Нешта міту́нь міма выкна, дайжа ні замеціла што.*

МОРГ (морьг). *Гл.* маргунь. *Ганна пычыла рыска́зывыць, а сьвякрова морьг, морьг: ні нада.*

МУ. Пра мычанне каровы. *Карова мяне як толька ўвідзіць і крічыць му.*

МУК. Пра аднаразовае мычанне каровы. *Карова мук — дай скарей есьць.*

МУР. Пра мурлыканне. *Кошка скруцілыся лі яго, мур, мур, і сьпяць удваіх.*

МУРК. Пра аднаразовае мурлыканне. *Кошку ціхінька затронь, як сьпіць, іна січас мурк.*

МЫ. *Гл.* мік. *Ну чаго, чаго мы, дзелыю піць, січас нясу.*

МЫК. *Гл.* мук. *Ета бычок спрасоньня мык, нешта ці ні ўва сьне ўвідзіў.*

МЫР. Пра падзыўное бляянне авечкі. *Аўца зь ігнятымі мыр, мыр.*

МЫРК. Пра аднаразовае падзыўное бляянне авечкі. *Чуіш, як аўца зь ігнятымі рызгыва́рііць: мырк.*

МЭ. *Гл.* мік. *Цялёнычык мэ-э, а ягнёнычык бэ-э.*

МЭК. *Гл.* мік. *Хва́ціць, хваціць мэк, іду даіць.*

МЭР. *Гл.* мыр. *Мыя аўца дужа глядзіць ігнят, усё мэр і мэр, каб ні пыціряліся.*

МЭРК. *Гл.* мырк. *Нешта аўца ўсё урема мэрк, мэрк, чаго б іна так.*

МЯЎ. *Гл.* каў. *Праціўный кыцянок: толька пад'еў і ўзноў мяў.*

НОК. Пра пануканне каня. *Нехта ехыў позна вечыра пу Углах і ўсё нок, нок ціхінька, як хуваўся.*

НЫК. Пра мільганне. *Нехта зу кустамі нык, нык, ні пызнаў я, хто ета туляўся.*

НЫР (нырь). Пра ныранне, мільганне. *Ён нырь ды пыд мяне, я як зыкрічў. Што б ета такоя нырь, нырь за жы́тым.*

НЮХ. Пра нюханне. *Бегыіць пы саломі і нюх-нюх-нюх, некыга чуіць.*

НЯМ. *Гл.* ам. *Ці хочыш ты ням-ням?*

НЯМАЧКІ (нямычкі). Тое ж. *Ні нада плакыць, я січас дам ня́мычкі малінькыму.*

НЯ́МКІ. Тое ж. *Памыімся і будзім ня́мкі.*

НЯМЫ. Тое ж. *Баба ня́мы, Пеця нямы.*

НЯЎ. *Гл.* каў. *Кот просіцца няў, няў — замёрз.*

НЯХ. *Гл.* вях. *Вёхра зайца пыгна́ла нях, нях.*

ОЙК. Пра войканне. *Ён толька пасьпеў ойк скызаць.*

ОП. Пра лёгкае ўзлязанне, пад'ём. *Наверьх оп і ўскачыў.*

ОПА. Тое ж. *Опа і там. Лезь, оп-па-а.*

ОПАНЬКІ (опынькі). Тое ж. *Опынькі, я пыцсаблю.*

ОПАЧКІ (опычкі). Тое ж. *Ну-ка, ну-ка, опычкі, во і ўзьлез.*

ОПКІ. Тое ж. *Ну, ны калена, опкі, дзяржысь.*

ОПЫ. Тое ж. *Опы, як ты лёхка скачыш.*

ПАЛОСЬ. Пра неакуратнае рэзанне. *Палось нажом ны пасьцілкі ды ўцэла.*

ПІ. Пра падачу гуку машынай. *Абоя сігналюць пі-і. Пі-пі — завуць цябе, бягі скарей.*

ПІҚ. Пра падачу гуку наогул. *У машыну залез — пік-пік. Қаб мне сядзеў ні пік.*

ПІП. *Гл.* пі. *Машына пыд вакном піп.*

ПІПІП. *Гл.* пі. *Чуіш, ета піпіп табе, ныдзівайся.*

ПІСЬ. Пра піск. *Пырысяткі пісь, пісь, ці дывала ты ім мылыка.*

ПІХ. Пра штурханне. *У ямку ўліціцё, тады будзіць вам піх абоім.*

ПІХЕЛЬ. Тое ж. *Пыдыйшоў, піхель яго ў плечы як бальшой.*

ПІХУНЬ. Тое ж. *Етый піхўнь у шўтку, а тэй чуць ні гылавою у са́жылку.*

ПЛЁСЬ. 1. Пра выліванне. *Қружку вады плёсь ны агонь, айдзе ж ты крўжкыю зальлеш.* 2. Пра плясканне. *У ладкі ўсё плёсь, плёсь, дужа рады былí.*

ПЛЁХ. Пра пялёсканне, выліванне. *Нясуць, а выда з відра плёх, плёх. Сальныю ваду плёх ны квасоль.*

ПЛІХ. Пра выстрал. *Ты мне так ныдаеў, што я б цябе пліх і ўлажы́ла.*

ПЛЮСЬ. *Гл.* мігунь. *Пыняў моду, пріві́к: вычамі плюсь, плюсь. Қоля плюсь яму: ні пыднімáйся.*

ПЛЮХ. *Гл.* плёх. *Нясуць — іш шайкі плюх, плюх на мост.*

ПЛЯХ. *Гл.* джвух. 1. *Табун у яго плях па жыту, во пастух. 2. Плях яго сы ўсяе сілы.*

ПОР (порь). Пра порканне. *Порь палкыю ў нору.*

ПРЫГ. Пра скаканне, скокі. *Қонь спўтыный прыг, прыг к калодзіжу. Прыг с крышы і кытанўў пад лес. Ня ўмеў ён скыкаць, прыг, прыг і ўсё.*

ПУҚ. Пра паданне. *Вецір пыдняўся, яблыкі пук, пук. Як мячык, пук с сўка. Пук і сьпіць.*

ПУХ. *Гл.* пліх. *Пух з ружжа, пух, а вутык у памíні там ні було.*

ПЫҚ. Пра няскладную гаворку. *Зь яго такей чытáньнік: пык, пык і ўсё.*

ПЫҚ-МЫҚ. Қалі нечага сказаць. *Пык-мык, што яны скажуць.*

ПЫҚ-ШМЫҚ. Тое ж. *Пык-шмык адно-другоя, а дзела ні гаворіць.*

ПЫР (пырь). *Гл.* пор. *Пырь яго кіёчыкым, а сам атвярнуўся і сядзіць.*

ПЫР-МЫР (пырь-мырь). *Гл.* пык-мык. *Пыцскачыў, я скажу, а стаў гыварiць — пырь-мырь, ні знаіць нічога.*

ПЫРСЬ. Пра пырсканне. *Пырсь вадою с абеіх рук.*

ПЫРХ (пырьх). Пра скаканне. *Пырьх ціріс кынаву, так лёхка.*

ПЫХ. Пра загарванне, пачырваненне. *Смылякі пых і зыгареліся. Пых ўся, пыкрасьнела-пыкрасьнела.*

ПЯЛЁСЬ. Пра паласканне, пялёсканне. *Троху пялёсь, пялёсь тряпкі ды скарей ны вярёўку. Мылако пялёсь ну рубашку.*

ПЯЛЁХ. Пра пялёсканне, наліванне. *Як жа ты льлеш, пялёх і міма міскі.*

ПЯРХЕЛЬ (пярьхель). Пра надрыўнае кашлянне. *Пярьхель, пярьхель, як гадоў дзівяноста.*

ПЯРХІ (пярьхі). Тое ж. *Ходзіць і ўсё пярьхі, пярьхі, аж ныдаеў.*

РАЗ. Пра пачатак дзеяння. *Раз і ўскачыў. У яго раз і гатова. Раз і ліпа ляжыць.*

РОХ (рёх). Пра рохканне. *Сьвіньня дужа жырныя, ляжыць, толька рёх, рёх.*

РУХ (рюх). Пра рохканне, *перан.* пра грубую гаворку. *Пройдзіш лі дзьвярей, сьвіньні січас рюх, рюх. К яму па-людзку, а ён рюх.*

РЫВУНЬ. *Гл.* ірвуць. *Рывўнь неік зразу, аж пыляцеў.*

РЫГ. Пра адрыжку; скрып, плач. *Піряесьць, а посьлі рыг, рыг. Рыг дзьвірямі. Рыг, рыг — нехта абідзіў.*

РЫП (ріп). Пра скрып, няўмелую ігру. *Вароты ріп, тады другей раз, аччыніліся і зычыніліся. Ріп, ріп, як за хвост цягнуць.*

РЫЎ. *Гл.* ірвунь. *Рыў ны сябе, куст і палез с кареньнім.*

САЛЫП. Пра лізанне, даставанне языком. *Стаім, гамонім, а карова ззаду салып ізыком пы кырману.*

САРП. Пра фырканне. *Коні пачулі нешта, сарп, сарп.*

САЎГУНЬ. Пра ссоўванне. *Вузіл Машкін саўгўнь аць сябе. Саўгунь, саўгунь бліжы к ёй.*

СВІСЬ (сьвісь). 1. Пра свіст. *Якея нівасьпітынныя: чылавек ідзець, а яны сьвісь усьлед.* 2. Пра ўдар. *Сьвісь яму пы загріўку. Кабыла сьвісь кыпытамі.*

СЁРБ. Пра сёрбанне. *Адну ложку сёрб і скрівіўся.*

СКОК. *Гл.* прыг. *Я скок і на том баку, а ён брязь чуць ні пысярёд кынавы, а ён жа старей мяне.*

СКРАБ. Пра драпанне. *Ці чуіш ты, ета ж мыш там скраб, скраб, во нада кошка ўдвору.*

СКРОБ. Тое ж. *А я слухыю, хто тама пы дзьвірях скроб, скроб.*

СКРЫГ. Пра рыпенне. *Варотымі скрыг, яны зыржавелі. Жалезым аб жалеза скрыг, скрыг, слухыць ніпріятна.*

СРЫП (скріп). Тое ж. *Я ўжо ні спáла, так, дрімáла, яны скріп у хату.*

СКУБ. Пра з'яданне травы. *Відзіш, і ігняткі ўжо скуб, скуб зы ўцамі.*

СКУБУНЬ. Пра з'яданне травы, пра шморганне. *Што йта зы палоньня — скубýнь, скубунь, тут нада сесьць ды выпылыць як нада. Скубунь мяне зу рукаў пыдыйшоўшы.*

СЛІЗЬ (сьлізь). *Гл.* коўзь. *Тарелка сьлізь пы сьцяклу. Ныга сьлізь, я брязь.*

СМАРГУНЬ. Пра аднаразовае шморганне. *Ён хацеў рыскызаць, а Пятрок смаргýнь ззаду, каб муўчаў.*

СМОРГ (сморьг). Тое ж. *Я сморьг, сморьг, а вярёўка тужэй зыцягнýлыся.*

СОЎ. *Гл.* саўгунь. *Увесь пук вярёвык соў аць сябе.*

СОЎГ. Тое ж. *Пінжачок соўг к сабе, думыіць, ні заміцілі.*

СТРЫК. *Гл.* жыг 1. *Стрык пы ныгах, аж пыцскачыў.*

СТРЫКУНЬ. Тое ж. *Стрыкýнь мяне і ўцікаць, во дыла б, каб дыгнáла, цела аж гаріць.*

СТРЭЛЬ (стрель). *Гл.* пліх. *Стрель над вухым, я дрыг уся чыста.*

СТУК. *Гл.* грук. *Мне пыдалося, што нехта стукыў у вакно: стук, стук — редка.*

СТУП. Пра павольную хаду. *Ступ, ступ ідзець, ногі як дзірівянныя.*

СУК. Зламыснае пажаданне не папасці па мячу пры гульні ў мяч. *Сук, сук.— Ны язык* (адказ).

СУР (сурь). Пра сыпанне смецця. *Сурь зьверьху нейкім сьмяцьцём, у вока што-то пупала.*

СЦЁБ (сьцеб). Пра сцябанне. *Кыня сьцёб, ён спужáўся і нáўскыч.*

СЫП. Пра сыпанне. *Просу сы стыла сып, ды ня ў лубку, а міма.*

СЫПУНЬ. Тое ж. *Якоя ў яе сеіньня, сыпу́нь сьвёклу ні ны гряду́, а айдзе бульба пасеіна.*

ТАЛАЛА (тылыла). *Гл.* лалала. *Тылыла́ ізыкамі ўвесь дзень. Устреціліся і зывялі тылыла.*

ТА-ТА-ТА. Пра трэск, тарахценне; пра балбатню. *С пулямёта лі нас та-та-та. Ізыкамі цэлый дзень та-та-та.*

ТАЎКУНЬ. Пра тоўханне. *Ільля таўку́нь Лявона, а мы збоку дзівімся, што дальшы будзіць.*

ТАЎХУНЬ. Тое ж. *Таўху́нь яго пад локыць. Жырябёнык кабылу таўхунь мордычкыю.*

ТАХ. Пра ўдар, выстрал. *Тах палкыю пы сьцяне. Тах з ру́жжыў, тах, тах.*

ТОП. Пра топанне, няўдалыя скокі. *Аўца сыбаку пужа́іць: топ. Во скачыць: топ, топ, як казёл.*

ТОРК (торьк). Пра нечаканае з'яўленне, падаванне. *Ён торьк із-зы плітня́. Торьк палку́ ў гліну. Торьк яму пад нос быра́к.*

ТОРСЬ. Пра грубае штурханне. *Торсь яго аць сябе.*

ТОЎК. *Гл.* таўкунь. *Тоўк мне пуд руку́, дык я міма тыпаром, чуць ні пы наге.*

ТОЎХ. Тое ж. *Стыяў рызя́віўшы рот, пакуля Андрей тоўх яго: пашлі.*

ТПРУМА. Пра ігру на гармоніку. *Гармонь чыріс плячо і пашоў па вуліцы — тпрума-тпрума.*

ТРАХ. Пра ўдар, трэск, стрэл. *Трах сы ўсяго рызмаху пы даске. Пыця́га трах — пірілами́лыся. Пріцэліўся— трах у сароку.*

ТРАХУНЬ (тряхунь). Пра трасенне. *Тряху́нь яго за́грудкі.*

ТРОП (трёп). Пра ўдар каня задняй нагой. *Стыяў як рызівон, а конь трёп яго ў калена. Кабыла трёп нагою, зы адною ка́піл̆ькыю ні ў вісок — там ба і ліжаў.*

ТРОХ (трёх). Пра язду трушком. *Трёх, трёх, як быба́к сядзіць ны кані.*

ТРУСЬ. *Гл.* сып. *Трусь нейкім сурым наць цестым.*

ТРУХ. Тое ж. *Мяшочык трух ныч шайкыю, крошкі пасыпыліся.*

ТРУХ (трюх). *Гл.* трох. *Ехыў некуды трюх, трюх.*

ТРЭСЬ (тресь). Пра трэск. *Цягнула чугун, вілышнік тресь, усю печ зылілá.*

ТУЗЬ. Пра шморганне. *Тузь зы палу́, каб троху прідзержывыў язык зу зубамі.*

ТУК. Пра ціхі стук. *Як пріходзіць позна, усігда ў шыбку тук-тук-тук.*

ТУМА. *Гл.* тпрума. *Січас выйдзіць з гармоньню, зывядзець сваё тума-тума.*

ТУП. *Гл.* топ. *Усе пашлі, а Сямён туп — дывайця рызьбярёмся.*

ТУР. Пра свіст. *Нейкыя птушычка тур-р, тур-р у лазе.*

ТУХ. *Гл.* тах. *Серца тух, тух, як ня выскычыць.*

ТЫК. Пра торканне. *Палкыю тык сьцяну ў погрібі, зімля пасыпылыся: рўшыныя.*

ТЫЛІ. *Гл.* тпрума. *Завёў сваe тылі-тылі, танцы два, знаць, прілумаўся ріпыць.*

ТЫЛЫЛЫ. *Гл.* лалала. *Сыйшліся — пычалі ны пяць часоў тылылы.*

ТЫР. Пра трэск, свіст. *Палкыю па кольліх тыр-р-р. Дыстаў сьвісток, тыр-р-р.*

ТЫ-ТЫ-ТЫ. Пра топанне, стук. *Пымчаліся ты-ты-ты, ажно зімля трясецца. Ты-ты-ты ў дзьвері, во места мальцу німа.*

ТЫХ. Пра трасенне. *Серца ў трўсіка тых-тых-тых, як ня выскычыць. Стаіць, тых-тых-тых, на ём ўсё пызылідзянела.*

ТЫЦ. Пра нечаканасць з'яўлення, учынкаў. *Сыбралыся зымыкаць, а яны тыц у дзьвері. Тыц носым к носу. Тыц яму ў руку хлеба с салым.*

ТЭП. Пра хаду дзіцяці. *Ну-ка пашлі, дзелый ножкымі тэп, тэп.*

УХ. Пра сапенне. *Наеўся, пуза пыгладжыіць і пыхціць ух, ух.*

ХАК. Пра задыханасць. *Прібег, язык высылыпіўшы, хак, хак, хак.*

ХАП. Пра хапанне. *Хап дзьве пірібіранкі сена, папёр пірiц сабою.*

ХАПУНЬ. Тое ж. *Хапунь усе тряпкі дый у клецьь.*

ХАРК. *Гл.* карх. *Харк на ўвесь двор, а ніхай цябе.*

ХА-ХА. Пра смех. *Абея зылівающца ха-ха-ха.*

ХВАТУНЬ. Пра хватанне. *Хватўнь усё яго шалўп'іцьця і за дзьвері.*

ХВАЦЬ. Тое ж. *Хваць блін сы скыўрады, а ён толька ат полымя.*

ХВОСЬ. *Гл.* сцёб. *Хвось бізўнчыкым кылы хвыста.*

ХВЫР (хвырь). Пра фырканне, адмаўленне. *Звалі разым, а йна хвырь.*

ХВЫРК (хвырьк). Тое ж. *Хвырьк ны яго: чаго ты туды сыбраўся.*

ХЕ-ХЕ. *Гл.* ха-ха. *Нысьмяшыў сымаго сябе, хе-хе дробнінька рыссыпа́іцца.*

ХІСЬ. Пра хістанне. *Ён хацеў на вуха скыза́ць, а йна хісь ат яго. Шост хісь, хісь.*

ХІ-ХІ. *Гл.* ха-ха. *Усё хі-хі адна пірі́да дною, ці ня сьмешныя што зьелі.*

ХІЦЬ. *Гл.* хісь. *Шула хіць-хіць, яно само зываліцца біс твае помычы.*

ХЛЁБ. Пра хлябтанне. *Сыбака с пырысяччыга карыта хлёб, хлёб, а ніхай ты здох.*

ХЛЁП. Пра стук, паданне. *Дзьверы хлёп яму пы пальцых. Мяса хлёп на мост.*

ХЛІП. Пра плач. *Хліп, хліп і зарюмзыў.*

ХЛОП. *Гл.* трах. *Хлоп пы сталу рушніком. Хлоп і ляжыць.*

ХЛЫН. Пра бадзянне. *Хадзіў ба й хадзіў, хлын, хлын.*

ХЛЫНК. Тое ж. *Ходзіць хлынк, хлынк туды-нызад.*

ХЛЫСЬ. Пра ўдар. *Хлысь ложкыю па лбу: еж як нада.*

ХЛЮП. Пра хлюпанне. *Ідзеш, пыд ныгамі хлюп, хлюп.*

ХЛЯП. Пра закрыванне. *Хляп піряд носым і зычыніла дзьверы.*

ХЛЯСЬ. Пра сцябанне, удар. *Хлясь ціріcьсядзельнікым. Хлясь пы ліцу.*

ХНЫК. Пра бадзянне, бязмэтны пошук. *Хнык, хнык па ку́сьцікых, па борку, як сьвет пыціря́ўшы.*

ХОП. 1. Пра хапанне. *Хоп зы вярёўку, січас пыцягніць.* 2. *Гл.* оп. *Хоп і там.*

ХОХ. Пра ўздыханне. *Хох, як ета цяжола біс прівычкі с касою. Хох, зымарі́ўся.*

ХРАП (хряп). Пра трэск, удар. *Чыпілá хряп і зламілыся. Сы сьцяны хряп затылкым.*

ХРАСЬ (хрясь). Пра ўдар. *Хрясь аб зямлю́ ўсім целым, як ён толька пыдняўся.*

ХРОП. Пра трэск. *Бірьвяно коць, ныга хроп, я зра́зу і болі ні пачуў.*

ХРУК (хрюк). *Гл.* рух. *Кыбанчык хрюк, хрюк у пуні.*

ХРУП. *Гл.* хроп. *Цавейца тоніцькыя, хруп і пыпылáм. Пальцымі хруп, хруп. Хруп, хруп быранкі.*

ХРУСЬ. *Гл.* хроп. *Пячэньня хрусь, хрусь, дужа любіць.*

ХУК. Пра дзьмуханне. *Хук, хук на рукі, зыкалелі бізь вязёнык.*

ХУП. *Гл.* оп. *Хуп і ўстаў. Хуп і сядзіць.*

ХУХ. *Гл.* хох. *Хух, як яно цяжола зь вілкымі.*

ХЫР. Пра храп. *Хыр-хыр сьпіць, зы пыўвярсты чутна.*

ХЭП. Пра імгненны рух. *Відзіць, што мы блізка, хэп і кытанýў ціряс поля.*

ХЭРК. *Гл.* харк. *Хэрк айдзе пупала, якей нікуратный.*

ЦАП. *Гл.* хап. *Думыў, уцякець, а яго ззаду цап — дзяржым.*

ЦАП-ЛАП. *Гл.* лап. *Цап-лап зы кашолку, а тамá пуста, ідзе вузялочык — ні знаю.*

ЦАП-ЦАРАП (цап-цырап). *Гл.* хап. *Цап-цырап за хобыт, ідзі-ка сюда.*

ЦАРАП (цырап). Пра царапанне. *Кошка цырап кыкцямі пу руке. Цырап яго к сабе.*

ЦАРЫП (царіп). *Гл.* хап. *Царіп зы яго: нікуды ні ўцякеш.*

ЦЁП. Пра ляпанне, лясканне. *Сідзяць ны палку, рузмундыкывыюць, венікымі цёп, цёп. Цёп гліныю ў шчэрбіну.*

ЦІР (цірь). Пра аднаразовае трэнне. *Адну сьпічку цірь, другую, а ні гыряць: ацсырелі.*

ЦІРУНЬ (цірюнь). Тое ж. *Сьпічку цірюнь — тэй стаіць за кроснымі.*

ЦІСЬ. Пра націсканне. *Бýльбіну цісь — іна тресь: мёрзлыя.*

ЦІСЬК. Тое ж. *Ні знаў, што там бутылка, торбычку ціськ — мылако пыцякло.*

ЦІЎ. Пра ціўканне. *Нейкыя птушычка на верьбі ціў-ціў, так жáлысна ціўкыіць.*

ЦІЎК. Пра аднаразовае ціўканне. *Лыстывіняты ўжо бальшэя, літáюць, а есьць просюць — ціўк, ціўк.*

ЦМАК. Пра пацалунак, выражэнне асалоды. *Цмак яго ў шчаку. Кілбасу зьеў і цмак, цмак, аж аблізыіцца.*

ЦМОК. Пра пацалунак. *Апхваціліся, цмок адна другую.*

ЦМЫГ. Пра беганне. *Цмыг, цмыг пы хатых, гасьцюйця яе.*

ЦОК. *Гл.* цмок. *Цок яго прі маткі: пыкрасьнеў як рак.*

ЦОП. 1. Пра хуткі рух. *Цоп і сядзіць.* 2. Пра пэцканне. *Цоп, цоп па лўжыні.*

ЦОП-ЛОП. *Гл.* лап. *Цоп-лоп, айдзе тэя грошы.*

ЦУП. *Гл.* цоп 1. *Цуп і села, сьмяецца, а што ёй.*

ЦУР. Пра цячэнне вадкасці. *Сыўрыдка цякець ручайком — цур-р. Цур-р каплі с крышы.*

ЦЫГ. 1. Пра ціўканне. *Ціпляты цыг, цыг біс квакухі.* 2. *Гл.* цмыг. *Цыг, цыг, каб айдзе пылытацца.*

ЦЫР. Пра даенне. *Мама каройку доіць цыр-цыр.*

ЦЫР-ДОЙ. Тое ж, *жарт. Цыр-дой — сырадой.*

ЦЫЎ. 1. Пра морганне. *Нядужа ета красіва цыў, цыў.* 2. *Гл.* цыг. 1. *Ціплёнык адбіўся, цыў, цыў ны грідах.*

ЦЫЎК. Пра аднаразовае морганне. *Цыўк ды рукою за вока.*

ЦЫЦ. Загад змоўкнуць, маўчаць. *Цыц, уніміся. Цыц, чаго разрюмзыўся.*

ЦЭП. *Гл.* лап. *Цэп туды-сюды, айдзе ты будзіш іскаць.*

ЦЭП-ЛЭП. *Гл.* лап. *Гаворіць, клаў у пячўрку, цэп-лэп, а німа.*

ЦЮК. Пра ўдар (звыч. вострым прадметам). *Цюк тыпаром лі нагі. Цюк яго дрючком.*

ЦЮП. Пра пэцканне. *Цюп, цюп — ідзець, грязь чуць ні пы калена.*

ЦЯГУНЬ. *Гл.* смаргунь. *Зы зывязку цягўнь, а мяшок брязь і рассыпыўся.*

ЦЯП. *Гл.* цюк. *Тыпаром цяп за пунію. Цяп чуць ні пы пальцых. Сьвіньня цяп зубамі.*

ЧАБУЛДЫХ (чубулдых). *Гл.* булдых. *Чубулдых у сажылку, во табе рытазейнічыць.*

ЧАБУРДЫХ (чубурдых). *Гл.* булдых. *Вядро вады чубурдых у сьвінноя цеста.*

ЧАБУРХ (чабурьх). Пра падзенне ўніз. *Чабўрьх у ямішчу, як ногі ні пывыкрўчывыў.*

ЧАРЭП (череп). Пра чэрпанне. *Череп, череп ложкыю гўшчу сы дна. Череп — цягніць іс-пыды дна кусок мяса.*

ЧАХ. Пра ўдар. *Чах тыпаром, зы адною каплію ні астаўся біз рукі.*

ЧВЯК. Пра рэзкі ўдар. *Чвяк яму між вушэй.*

ЧМОК. *Гл.* цмок. *Бігаць адна к адной, чмок, чмок — дужа салодка.*

ЧМЫХ. Пра чмыханне. *Чмых у шайку і ні блізка піць.*

ЧМЯК. Пра падзенне. *Чмяк і ляжыць. Скользь ны масту і чмяк задым.*

ЧОК. Пра кароткі, адрывісты гук. *Ого, як твае кублукі выдзелывыюць: чок-чок.*

ЧОХ. Пра кашлянне. *Чох, чох лі бані.*

ЧУПЫРСЬ. Пра ўдар. *Тэй акызáўся сьмялейшым, чупы́рсь большыга бічуком.*

ЧУХ. Пра чмыханне, сігнал трывогі. *Пыравоз едзіць чух, чух, чух. Хлопцы, чух, ныстаўнік ідзець.*

ЧЫК. Пра рэзанне. *Ножычкым чык пы вярёўкі.*

ЧЫК-ЧЫРЫК (чык-чырік). 1. Пра рэзанне. *Січас дыганю́ цябе і чы́к-чырік.* 2. Пра шчабятанне. *Ета птушка ўсігда пяець чык-чырік.*

ЧЫРК (чырьк). Пра кароткае трэнне. *Сьпічкыю чырьк — не, нікога німа, а мне пыкызáлыся.*

ЧЫРХ (чырьх). Тое ж. *Чырьх аб загнет рукавом — вымызыўся.*

ЧЫРЫК (чырік). 1. Пра шчабятанне. *Вірябей чырік, чырік і глядзіць у вакно.* 2. *Гл.* чык. *Трі сланешыны чырік, пыт паху і толька быў.*

ЧЫХ. *Гл.* чах. *Вогнівым чых, чых, глядзі, і ў яго ўжо ды́міцца.*

ШАБОЎК. *Гл.* булдых. *Ды сірядзіны дайшоў, а тама шабоўк — і пашоў пад лёд.*

ШАБУЛДЫХ (шубулдых). *Гл.* булдых. *Беріг аб’ехыў, і ён шубулды́х у ваду.*

ШАВЕЛЬ. 1. Пра варушэнне. *Думыла, нікога німа, а ён пыт пасьцілкыю шавель.* 2. Пра спрытную няскладную хаду. *Шавель, шавель, ногі крівы́я — ідзець.* 3. Пра з’яўленне. *Ішчэ цёмнінька було, яны шавель у хату.*

ШАВОЛЬ. *Гл.* шавель 1. *Мыш пыц саломыю шаволь, шаволь.* 2. *Гл.* шавель 2. *Шаволь і пыдаўся ўверьх па вуліцы. Вун відзіш, пыкывіряў нечыга пут кусты — шаволь, шаволь.* 3. *Гл.* шавель 3. *Шаволь госьці цэлыю кучыю.*

ШАВОР (шаворь). Пра адасоблены рух. *Шаворь пы гародых, каб ні замецілі.*

ШАВЫР (шавырь). Тое ж. *У лес разым зайшлі, а яны січас шавы́рь убок.*

ШАМ. 1. *Гл.* шавель 1. *Ціхінька-ціхінька ідзець, шам-шам, а я гляджу, што зь яе будзіць.* 2. Пра правальванне. *Ні замецій і шам у паньцку. Паплецiны гнілэя крэх, ён шам у пуню скрозь крышу.*

ШАРАХ (шырах). 1. *Гл.* чык. *Ац сувоя шыра́х кусок ны анучы.* 2. Пра хуткае вырашэнне. *Шырах — я січас еду ны Дынбас, во гылыва.*

ШАРП. Пра шорганне. *Гыльнікам шарп пы штынах — апчы́сьцій.*

ШАРХ. Тое ж. *Ходзіж жа, то там, то там шарх і шарх, зыма́жысься.*

ШАХ. 1. *Гл.* чык. *Нажом шах уцэла.* 2. *Гл.* шарах 3. *Шах — кончына дзела, большы ён у лес ня пойдзіць. Сьпірва ціха сядзей, а тады рызыйшоўся шах, шах, тоя туды, ета сюды, усё ў яго гатова.*

ШАХ-ШАРАХ (шах-шырах). *Гл.* шарах 2. *Шах-шырах — січас рызваджу́ся.*

ШВЫР (швырь). *Гл.* кідунь. *Швырь ацъ сябе пальто, ні хачу такога.*

ШЛЁП. 1. Пра шлёпанне. *Шлёп, шлёп пы грязі. Шлёп яго пы пля́чу. Хыдзьба ў пуўтыра́ года: шлёп, шлёп і сядзіць.* 2. Пра паданне. *Шлёп зьверьху ў салому.*

ШЛОМ. Пра няўклюдную хадзьбу. *Ва́лінкі бальшу́шчыя, шлом, шлом.*

ШЛОП. Пра паданне, удар, хадзьбу. *Сядзей на прініку, шлоп аттуля на мост і пішчыць. Шлоп яго цавейцым. Шлоп, шлоп атопкымі пы хаці.*

ШЛЫК. Пра пранікненне ў дзірку, шчыліну. *Пырысяткі шлык у дзірьку і пабеглі. Мышка шлык у норку — лаві.*

ШЛЫНД. Пра бадзянне. *Туды шлынд, аттуля цягніцца, ходзіць як сьвет пыціряўшы.*

ШЛЫП. Пра шлопанне. *На боску ныцягну́ў боты, яны бальшэя, шлып, шлып.*

ШЛЭП. Тое ж. *Шлэп, шлэп у нейкіх атопкых.*

ШМОРГ (шморьг). *Гл.* сморг. *Шморьг зы вярёўку, іна пыпыла́м.*

ШМЫГ. Пра знікненне. *Глядзі, ні спускай з вачэй пацьцёлка, січас шмыг і ў ярь.*

ШМЯК. Пра паданне. *Шмяк як мяшок і ляжыць.*

ШПОК. Пра выстрал. *Пріцэліўся, шпок — і міма.*

ШТУРХ (штурьх). Пра штурханне. *Штурьх яго ацъ сябе, тэй пыляцей як сноп.*

ШТУРХЕЛЬ. Тое ж. *Штурхель плячом: пыра атпруў-ляцца.*

ШТУРХУНЬ (штурьхунь). Тое ж. *Штурьхунь кулаком пыд бачыну.*

ШТЫР (штырь). Пра штуршок вострым. *Штырь палкыю, а йна войстрыя, чуць ні прабіў.*

ШТЫРХ (штырьх). *Гл.* штурх. *Былі пычалі ўжо штырьх, штырьх адзін другога, мушчыны іх рызьвялі.*

ШУХ. 1. Пра выліванне. *Шух с кубліка ваду пад ногі.* 2. Пра раптоўны рух. *Шух і пыляцелі.*

ШЧОЎК. Пра шчоўканне. *Што йта зу гульня, шчоўк адзін другога, шчоўк.*

ШЧУП. Пра мацанне. *Шчуп зы кырман, а там кісель: сьліўкі пыдавіліся.*

ШЧЫП. Пра шчыпанне. *Шчып, шчып яго са ўсіх бакоў. Шчып с адной яблыны, з другой.*

ШЧЫПУНЬ. Тое ж. *Шчыпу́нь за бок, тэй аж пыцскачыў.*

ШЫБУНЬ. Пра шпурлянне. *Шыбу́нь у яго, а шыбінь пыцскачыў і чуць ня ў вока.*

ШЫХ. Пра хуткае дзеянне. *Шых — я січас к сястре еду. Шых і гаріць, су́чча сухоя.*

ШЫХ-МЫХ. *Гл.* шарах 2. *Шых-мых, ды нічога ні выходзіць.*

ЭЙК. Пра крык эй. *Нехта крічаў эйк, ці ні зублудзіўся хто.*

ЮРК. Пра імклівае знікненне. *Мыш юрк у норіну, пукурняўкыў кот, панюхыў і пашоў.*

ЯЎ. *Гл.* мяў. *Яў, яў — просіцца кыцянёнык у хату.*

ЯХ. *Гл.* вях. *Сыбака пыгна́ў зайца ях, ях, а заіц круць і ўцёк некуды.*

*Г. М. Малажай*

# АЦЭНАЧНЫЯ НАЗВЫ АСОБЫ З ГАВОРАК БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Бытуе даўняя прыказка «Як пражывеш, так і праслывеш». І сапраўды, людзі хутка прыкмячаюць адметнае ў характары, паводзінах, знешнім выглядзе сваіх родных, суседзяў, знаёмых, нават выпадковых сустрэчных. Прыкмячаюць і, гаворачы пра іх, ужываюць словы, якія выразна характарызуюць чалавека па яго адметных рысах.

Падобныя характарыстычныя словы, або ацэначныя назвы асобы, складаюць значную частку лексічнага багацця народнай мовы. Многа іх і ў гаворках Брэсцкай вобласці. Пра дбайнага, працавітага гаспадара ў в. Моладава Іванаўскага раёна скажуць *тяглі́й*, а ў в. Мачуль, што на Століншчыне, — *цягаві́к*. Хуткую ў працы жанчыну ў першым рэгіёне назавуць *о́гнянка,* непаваротлівага, маруднага чалавека — *мо́няло.* Гаваркіх, балбатлівых людзей называюць на Брэстчыне па-рознаму: *балбо́т, балу́та, бо́лбутэнь, бо́ўтало, вэ́рсала, вырза́, гала́йда́, говору́н, загово́рок, лабайда́, лопоту́н, мыкыля́нка, мэлькотэ́нь, пле́йтух* і інш. Шмат слоў мае жывая народная мова для характарыстыкі неахайных і гультаяватых асоб: *абры́ндала, афе́рма, бры́нда, бараха́нчыха, го́лда, да́нда, драпаста́, забры́нда, залёпанка, зёпа, зёра, кошмо́ла, ле́йба, лёха, байба́к, бэ́йла, ва́люх, вахра́й, зашоло́па, ла́бур, ла́нтух, лётра, лы́нда, ныхлю́я, кошма* і інш.

Гэты тэматычны пласт лексікі ў гаворках Брэсцкай вобласці надзвычай багаты і адметны. Ацэначныя назвы асобы — каштоўны матэрыял для розных лексікалагічных назіранняў. Таму ў нас з'явілася думка сабраць гэтыя словы на Брэстчыне і скласці тэматычны слоўнік экспрэсіўнай лексікі гаворак Брэсцкай вобласці. У гэтым артыкуле ўвазе чытача прапануецца частка зафіксаваных слоў.

Прыняты наступныя скарачэнні раёнаў: Бар.— Баранавіцкі; Брэсц.—Брэсцкі; Бяроз.—Бярозаўскі; Ганц.—Ганцавіцкі; Драг.—Драгічынскі; Жаб.—Жабінкаўскі; Ів.—Іванаўскі; Івац.—Івацэвіцкі; Кобр.—Кобрынскі; Лях.—Ляхавіцкі; Мал.—Маларыцкі; Пін.—Пінскі; Стол.—Столінскі.

АНТАСЕ́Ц *м.* Ілгун; хвалько. *Учора расказвалі, як Сцяпан казаў, што ў лесе воўка бачыў. От антасец, налжэ і ні засьмяецца.* Востраў Ганц.

АПІВО́ША *м.* і *ж. пагардл.* П'яніца. *Божа-божа, што мне з гэтым апівошам рабіць.* Паланечка Бар.

АФЕ́РМА *м.* і *ж. абразл.* Неахайны, нязграбны чалавек. *Ух, аферма, унь са́ло на бородзе блішчыць, а ты так і ходзіш.* Малешава Стол.

АХА́ЛА *м.* і *ж.* Завідны, ненасытны чалавек. *Ахала яго маці, усё ёй мала, увесь сьвет сьцягнула б.* Паланечка Бар.

БАДЗЫГО́Н *м.* Высокі даўганогі мужчына. *Ну і бадзыгон вырос, а ныц ны хочэ робыты.* Рагадоша Ів.

БАЙДУ́МА *м.* і *ж.* Несур'ёзны чалавек. *У байдумы ўжэ трэтяя жінка, а кількы дітэй по сьвіту. І шчо собі думае?* Моладава Ів.

БА́ЙТУС *м.* Пляткар. *Каб тое, што кажа байтус, хоць напалавіну было праўдою, сьвет перавярнуўся бы.* Падлессе Лях.

БАЛАБЭ́НЬКА *м.* і *ж. іран.* Балбатун, балбатуха. *Зноўку балабэнька нагаварыў, што і возам не павязеш.* Задуб'е Ганц.

БЛЭ́НДА *м.* і *ж.* Валацуга. *Шчо за блэнда роста́ть у мына́. Ны ўспію одвырнутыся, ек він ужа́ побіг абэ́кудэ́ і цілы дань ны покажыцца.* Брашэвічы Драг.

БЭ́ЙЛА *м.* і *ж.* 1. Неахайны чалавек. *Бэйла якая, такэі роботы ны понімае—косу набыты.* Карсынь Драг. 2. П'яніца. *Напэўса бэйла до сорому.* Гута Лях.

ВА́ЛЮХ *м.* Нерухавы чалавек. *Валюх, шо б ты поворушывса крохы скорій, а то ў час два шага робыш.* Маладзельчыцы Пін.

ВЫЛЫКДУ́РА *м.* і *ж. зневаж.* Блазень. *Вылыкдура, чы тобі ны стыдно з дытьмы́ возытыса, ліпш кніжку почытай.* Беразляны Ів.

ВІРЛА́Ч *м. абразл.* Лупаты чалавек. *Ныхто і ны кохае того вірлача, бо натто брыткый.* Забалаццe Мал.

ВЫДЗЫГА́РА *м.* і *ж.* Выскачка. *Выдзыгару, мусыть,*

*уся вобласть знае. Пру еі такыі казкы ходять, шо но послухаты.* Дарапеевічы Мал.

ВЫ'РВУС *м.* Распуснік. *Батько такый спокойный, а сын вжэ вырвус настояшчый.* Матыкалы Брэсц.

ВЫ'СКРОБТОК *м.* Паследак. *І трэба ш уродытыся гэтому выскробтку, со сьвіту зусім звыдэ.* Маркавічы Драг.

ГАЛЬДО'БА *ж. абразл.* Высокая худая жанчына. *Ну й выросла гальдоба ў Мані Якімаваі, вэліка і худая.* М. Плотніца Пін.

ГНЁТКА *м.* і *ж.* Скнара. *Это ш умрэ скоро гнётка, шкодуе собе шчо смачнэ купіць.* Малешава Стол.

ГО'ЙМАН *м.* Высокі здаровы чалавек. *Ек жэ вырос ёго́ хлопыць, гойман дый годы.* Карсынь Драг.

ДАЛІКА'ТОР *м. іран.* Далікатны чалавек. *Вэльмы ты у мэнэ́ зробывся далікатор.* Азяты Жаб.

ДА'НДА *ж.* Неахайная жанчына. *Шчо б вытэ́ побачылы, шчо ў еі хаты робыцця — ны ўлізты, дыхаты ныма чым—сушча данда.* Карсынь Драг.

ДОВГОВЬЕ'З *м.* Цыбаты чалавек. *Сцёпын хлопыць настояшчый довговьез.* Корчыцы Кобр.

ДРЫ'НДА *ж.* Жанчына, якая хутка ходзіць, ступаючы дробнымі крокамі. *Пакуль мужык зробіць два шагі, то гэта дрында дзесяць.* Кукава-Бор Ганц.

ДЫВОЧУ'Р *м.* Хлопец, які найбольш бывае сярод дзяўчат. *От і дывочур ідэ́.* Асабовічы Пін.

ЖВОРЫ'ГА *м.* Звяглівы, надакучлівы чалавек. *Жворызы шчо ны зробы, усэ ны так.* Моладава Ів.

ЖЭРЛЮ'К *м. зневаж.* Абжора. *Колы п до йіх нэ прышов у хату, то він усэ йісць, йісць, от жэрлюк.* Маладзельчыцы Пін.

ЗАВОЛО'КА *м.* і *ж.* Валацуга. *Заволоко, докуль будэш волочытыса, пора ўжэ і місцэ собі найты, ожынытыса.* Моладава Ів.

ЗАЗДРО'НІК *м.* Сквапны, зайздросны чалавек. *Заздронік гэты ніколі нічога ні дасць, хоч ты помры, а сам выманціць.* М. Плотніца Пін.

ЗАЛЭ'ПАЧ *м.* Заіка. *Ну і залэпач тэ, слова ны вміеш сказатэ, а шэ лізэш кудэ ны трэба.* Радастава Драг.

ЗАШОЛО'ПА *м.* і *ж.* Дурань. *Такый зашолопа, прайду кажуть, шо пошлы дурного, а за ім другого.* Крамно Драг.

КО′ВЛАК *м.* Звяглівы чалавек. *Мій сусід геть ек той ковлак, зроду сваріця.* Радастава Драг.

КО′ДЫМ *м.* Заядлы курэц. *Гэтой кодым ны можэ і мінуты посыдіты спокойно, зайшэ чвэндыть.* Маркавічы Драг.

КОЗЯ′ЧЫХА *ж. іран.* Жанчына з тонкімі і доўгімі нагамі. *Ну і ногы ў козячыхы, ек шпычкы, тонкы і высокы.* Карсынь Драг.

КО′ПСАВКА *м.* і *ж.* Маруда. *Копсавка прадэ, як мокрое горыть.* Кустын Брэсц.

КУТЫЛЬГА′ *м.* і *ж.* Кульгавы чалавек. *Він маленькым упаў з кровіт і стаў кутыльгою.* Хідры Драг.

КЭ′ЦА *ж. іран.* Няўмека. *От кэца, наварэла, шо чоловік ны зможэ йістэ, ек поросётам.* Ласінцы Драг.

ЛА′БУР *м.* Гультай. *Той лабур ніколі нічого рабіць ні хочэ.* Мачуль Стол.

ЛА′НДА ж. Пляткарка. *Такую ланду шчэ сьвет не бачыў, усіх абшыдзіць* (абгаворыць), *а себе не гледзіць.* В. Малешава Стол.

ЛОГУ′ХА *м.* і *ж.* Лежань. *Я роблю цылый дэнь, а ты шчэ, логуха, крычыш на мынэ. Сам лэжыш, нычого-ны робыш.* Выжлавічы Пін.

ЛЫ′НДА *м.* і *ж.* Абібок, валацуга. *Гэта лында зноў ад хаты да хаты валочыцца, а буракуў іці палоці і ні думае, ніхто за еі праполе, а ена анно лынды біць будзе.* М. Плотніца Пін.

МАМО′ЙЛО *м.* Маўчун. *Хіба геты мамойло калі ажэніцца, ён жа і гаварыць з дзеўкамі не ўмее.* Кукава-Бор Ганц.

МАНТУ′Н *м.* Ілгун. *Але ш і мантун у майго суседа сын, так намане, што ні прыкапаесься.* Задуб'е Ганц.

МАРА′ *ж.* 1. Здань. *Ходыш, як мара, людэй лякаеш.* Кустын Брэсц. 2. *перан.* Неахайная жанчына. *Зроду ў тэбэ спудныця замазана, то ек тая мара.* Радастава Драг. 3. Надакучлівы чалавек. *Отчыпыса од мынэ, мара, ны лізь у вочы, ны дасы за дэнь нычого зробыты.* Выжлавічы Пін.

МЕЛЬНЯ′ *м.* і *ж.* Балбатун. *Ты гэ бы мельня, нэма шчо слухаты.* Лагішын Пін.

НАДУРЭ′Й *м.* Някемлівы чалавек. *Куды ты посылаеш гэтого надурэя. Шчо він зробыть там.* Карсынь Драг.

НЫГА′НЬБНЫЙ *прым.* Памяркоўны, паслухмяны.

*Ыганьбный він був раній, а шчо тэпэр сталося.* Яміца Мал.

НЫГОДЯ'ЙКО *м.* Хілы чалавек. *Ыгодяйко гэты Петько, ны ростом, ны здороўем ны показвае на мужчыну.* Першамайск Стол.

НЭ'ХЛЯ *ж. зневаж.* Неахайная жанчына. *Здаецця і молодая, а ўжэ гэтака нэхля, шо ны одягнэ, всэ вісыть, бы на колку.* Кустын Брэсц.

ОБОДРА'НЭЦ *м.* Абадранец. *На дорозы побачыла някого ободранца да так злякаласа, одны трымпылясы* (лахманы) *на йім вісять.* Моладава Ів.

ОГЛОІ'Д *м. зневаж.* Скупянда. *Муй дід мів колысь вэлыкый наділ, а був страшэнны оглоід.* Азяты Жаб.

О'ГНЯНКА *ж.* Спрытная жанчына. *Огнянка Мар'іна дочка́, тут почынала дялку полоты, тут і кончыла.* Моладава Ів.

ОКЫ'ДЫШЧЭ *н.* Жанчына, якая не выйшла замуж. *Моўчы, окыдышчэ, ты ны вучы другых, раз тыбэ всі окынулы.* Выжлавічы Пін.

ОСЛЫПЭ'ЦЬ *м.* Сляпун. *От чогось появылось бэльмо на оку, боемося, коб ны стала ослыпцём.* Азяты Жаб.

О'ШУСТ *м.* Ашуканец, махляр. *Такый вжэ ошуст його брат, ны обманэ, то ны прожывэ.* Азяты Жаб.

ПАСІЯ'Н *м.* Люты чалавек. *Чы ш гэто так трэба крычаты на малэе дытя, пасіян.* Выжлавічы Пін.

ПАХАДУ'ХА *ж.* Непаседлівая жанчына. *Гэтая пахадуха не затрымаецца доўго ў хаце.* Нарутавічы Бяроз.

ПОЗО'РНЫЙ *прым.* Прыгожы, відны. *Нэ такая позорная дівчына, а шчаслывая.* Азяты Жаб.

ПОСВЫСТЁЛ *м. Гл.* байду́ма. *Дэ вона нашла такого посвыстёла, находылыся ш добрыі люды.* Кустын Брэсц.

ПОТРОНДЭ'ЛЯ *ж.* Балбатуха. *Одного ны кончыла, другэе почала, от потрондэля.* Лагішын Пін.

ПРО'СЫМКА *ж.* Пазычальніца. *Скорій, мамо, ховай, бо ты ны отчыпысса од гэтыі просымкы.* Асабовічы Пін.

ПЫРЫБІ'ЛУХА *ж.* Акуратная жанчына. *Пырыбілуха ны купыть абышчо і ны наложыть, а сама як зробыть шчо, то любо глянуты.* Моладава Ів.

РОБОТЯ'ГА *м.* і *ж.* Працавіты чалавек. *Усёй свуй вік прогоровау гэтой роботяга, а шчо на ёму́ знаты.* Асабовічы Пін.

РАСТРО'ПА *м.* і *ж.* Расцяпа. *У гетае растропы век сукенка чорна. Ой, растропа, кажу ш, пільнуй машыну, то ён у каменьчыкі гуляе з дзецьмі малымі.* Кукава-Бор Ганц.

РО'ЗДУР *м.* Неслух, свавольнік. *Выгодовала маты роздура собі на голову.* Азяты Жаб.

РОСКІ'ДАНКА *ж.* Жанчына, што разышлася з мужам. *Роскіданка наша жывэ ліпій, чым раній, і дітям дала добрый порядок, і хату одбудовала.* Лышчыцы Брэсц.

РЭПЕ'ХА *ж.* Маруда. *Як з рэпехою іті куда-нэбудь, то лучэ совсім нэ іті. Вечно позаду тягнэцца.* Лагішын.

СКЛЮ'НДРА *м.* і *ж.* 1. *Гл.* оглоід. *У гэтыі склюндры і воды холодныйі ны возьмэш, пошкодуе.* Карсынь Драг. 2. Пляткарка. *Склюндры ны знаіш: з тобою говорыть, а одвэрныця — тыбэ обговорыть.* Карсынь Ів.

СТРАХОПУ'Д *м.* 1. Баязлівец. *От боюся йіхаты в поїзду, ныколы ны йіхала, гэтакы я страхопуд.* Выжлавічы Пін. 2. Пудзіла. *Волоссе надэрла, штаны наложыла, настояшчы страхопуд.* Кустын Брэсц.

ТРАПЯТУ'ХА *ж.* Рухавая жанчына. *Чаго ты, трапятуха, спяшаеш. Каб усё акуратненька, памаленьку, то больша польза была б.* Востраў Ганц.

ТРУДОВІ'К *м.* Працаўнік. *Я ўчора бачыў Васіля, то ш трудовік, завшэ за роботою.* Мачуль Стол.

ТЯГЛІ'Й *м. Гл.* трудові́к. *Ныздарма мынэ́ тяглієм зовуть. Оно знаю тягну, а іншыі одпочываують.* Моладава Ів.

У'ХАР *м.* Зух, рызыкант. *Бач які ухар, ныкого ны боіцьця.* Хмелева Жаб.

ФЕСТМЕ'ТР *м.* Здаравяка. *Ты фестметр, у дзверах моіх не пройдзеш, а столю головою достанеш.* В. Малешава Стол.

ХВАНАБЭ'РА *м.* і *ж.* Фанабэрыстая асоба. *Такая стала хванабэра, шо з фігою до носа ны подступысся* Хмелева Жаб.

ХО'МХА *м.* Мямля. *Хомху ны розыбраты, шо кажэ.* Турная Іванц.

ЦЮ'ГА *м.* і *ж. Гл.* заволо́ка. *Куды ужэ поваляклася, цюга, работы хіба дома не стае.* Кукава-Бор Ганц.

ЧЫКІЛДА' *м.* і *ж. Гл.* кутыльга́. *Ты, Мар'я, сама схадзі па яго, а то геты чыкілда пакуль зачыкілдае, той вечар надыдзе.* Кукава-Бор Ганц.

*М. В. Абабурка*

# ЭКСПРЭСІЎНЫЯ НАЗВЫ Ў ГАВОРЦЫ ВЁСКІ МОРАЧ КЛЕЦКАГА РАЁНА

Вёска Морач знаходзіцца ў 35 км ад Клецка на паўднёвы ўсход. Гэта адна з буйнейшых вёсак Мінскай вобласці, вядомая нават за межамі рэспублікі Народным хорам і этнаграфічнымі матэрыяламі[1]. Зараз яна налічвае звыш 500 гаспадарак («двароў») і больш 1500 жыхароў («мараччакоў»).

Гаворка вёскі ўваходзіць у склад гаворак паўднёва-заходняга дыялекту, у прыватнасці яго цэнтральнай часткі, дзе назіраюцца асаблівасці слуцка-мазырскай і гродзенска-баранавіцкай груп народных гаворак. Са спецыфічных асаблівасцей гаворкі найбольш істотнымі з'яўляюцца наступныя:

1. Няпоўнае недысімілятыўнае аканне: *балдто, добраго, карыто, много, ніякаго* і інш.

2. Невыразнасць якання. Пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам гукі *а, о, э* супадаюць з $а^е$ (сярэдні гук паміж гукамі *а* і *э*).

3. Вымаўленне цвёрдага губнога зычнага з наступным *й* (ётам) перад *а: дзяўйаты, жарабйа, мйасо, пйаць*. Такая асаблівасць характэрна і назоўнікам на -мя, якія маюць у гаворцы наступнае гукавое афармленне: *вымйэ, імйэ, семйэ* і інш.

4. Словы *дзяньдобры, няма (нямашака), няхай* вымаўляюцца *дзіньдобры, німа (німашака), ніхай*. Такая ж з'ява і з ненаціскным адмоўем не: *ні было, нівысокі, ніпраўда, ні за таго, ні сьпіцца*.

5. Злучэнні *-ія, -ыя* ў іншамоўных словах перадаюцца пераважна старэйшым пакаленнем адным гукам (сцягнута): *біблятэка, інцілігеньця, міліраца, міліца*.

6. Сцягнутыя формы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў

---

[1] Гл.: М. Алтухоў. На сцэне сталічная вобласць. «Літаратура і мастацтва», 1958, № 94; А. Фоцій. Багатыя скарбы этнографаў. «Літаратура і мастацтва», 1966, № 74.

жаночага роду: *пажа́рна кама́нда, бяру́ча хваро́ба.* Такія ж формы захоўваюцца і пры субстантывацыі: *пасадзілі ў хало́дну* (кутузку), *вяду́шча* (канферанс'е) *спанара́вілася.*

7. Дзеяслоў *быць* у цяперашнім часе выступае ў формах *е (йэ)* і *е́сцека (йэсьцека).*

8. Зваротная часціца ў выглядзе варыянта *-ся* адзначаецца толькі ў формах дзеясловаў прошлага часу жаночага роду: *(па)мылася, прыбра́лася.* Для форм дзеясловаў ніякага роду ўласцівы варыянт *-сё*: *дзіця́ мыласё, прыбра́ласё,* а ва ўсіх астатніх выпадках — *-се: мыу́се, мыюсе, берахчы́се* і г. д.

Шмат арыгінальнага і цікавага з лінгвістычнага пункту погляду захавалася ў слоўнікавым запасе гаворкі. Дарэчы, вельмі цікавая лексічная форма слова *ко́наварат* 'калодзежны журавель'. Утворана яно, відаць, не з асноў *кол-* і *-варот,* а з асноў *конев* 'пасудзіна для чэрпання вадкасці' (параўн. конаўка) і *ворот* 'варочаць'.

Варта адзначыць, што ў разглядаемай гаворцы не толькі захоўваюцца шматлікія старадаўнія, спрадвечныя агульнанародныя словы, але і ўзнікаюць нават у наш час свае, мясцовыя намінацыі прадметаў, з'яў і інш. Так, у 60-я гады ўзніклі кампактныя мясцовыя назвы *рва́лка* і *бі́лка* замест літаратурных *ільноцерабілка і ільномалата́рня.* А ў так званай эмацыянальна-ацэначнай лексіцы своеасаблівых, арыгінальных назваў шматлікая колькасць. У штодзённа-бытавым маўленні мараччакоў экспрэсіўныя назвы выступаюць на першым плане.

## Назвы, звязаныя з асобай

АБАБО'ЕК *м.* 1. Непаслухмяны, раўнадушны чалавек. *Чорт яго ведае, што далей будзе з майго ababойка.* 2. Той, хто абабіты. *От ababоек — усенькі ў шрамох.*

АБГАВО'РШЧЫК *м.* Абгаворлівы мужчына. *Усе абгаворшчыкі на адзін капыл — абы сябе паказаць.*

АБГАВО'РШЧЫЦА *ж.* Абгаворлівая жанчына. *А каб ёй язык атсох, абгаворшчыца гэта.*

АБІБО'ЧЫНА *м.* Абібок, гультай. *Ну й абібочына! Вылехсе — не, каб хоць дроў прынясці.*

АБМО'Л *м.* Абгаворлівы мужчына. *Ну ўжо на ўсенькае сяло абмеле* (абгаворыць) *гэты абмол.*

АВЭ'РА *м. Нямы, нямко. Йон авэра з маленства — колісь спужаўся нечаго.*

АГЛАМА'ЗДАК *м.* Дурань. *Прыехаў некі агламаздак ды мўціць воду.*

БАРБАЖЫ'НЕЦ *м.* Багаты і скупы чалавек. *Узяў бога за бораду, барбажынец, і слухаць ні хочэ: давай яму дзесятку.*

БАРДАДЫ'Н *м.* Адзінокі, беспрыютны чалавек. *Лазіць усюды, аг бардадын, сераўно к* (як) *сям'і свае німашака.*

БО'ЛБАЦЕНЬ *м.* Балабон, пустазвон. *Сьціхні ты ўжэ, болбацень нішчасны. Малоціць сваім языком bездайладу* (без патрэбы).

БРАКУ'С *м.* Чалавек, які мае нейкую загану. *Ды ён жэ ж бракус, таму ў армію ні ўзялі.*

БУХІ'КАЛО *м.* Той, хто кашляе вельмі часта. *Хоць бы на часок перастаў бухікаць гэты бухікало — і так жэ ш кашляе, а шчэ курыць.*

БЯЛЬМА'ТЫ *прым. м.* Лупаты, з вялікімі вачыма. *Прыехаў новы пратсядацель — і такі ж бяльматы.*

БЯЛЬМА'Ч *м.* Гл. Бяльматы.

БЭ'БАХ *м.* Неакуратны чалавек. *Я думаў, хто люцкі, ажно ж бэбах Слуцкі. Ходзець тут бэбахі ўсялякіе — хоць ты махалам махай, дык ні адгоніссе.*

ВЕРУ'Я *ж.* Тоўстая, непаваротлівая жанчына. *Раз'елася, веруя, дык ледзьво паварочваецца.*

ВЫ'ТЛУК *м.* Прайдоха. *Не каб узяў сваю ж, сельскую, дак жэ ш прывалок некаго вытлука з горада, што ты — гарацкая, пане мой.*

ВЫ'ЦІРАК *ж.* Жанчына (дзяўчына) лёгкіх паводзін. *Начорта табе гэты выцірак здаўсе — ты ж, здэцца, хлопец самастаяцельны.*

ГАЛАПУ'ПЕЦ *м.* 1. Галадранец. *Сам жэ галапупец і такую ж узяў.* 2. *(Жарт.)* Дзіця. *Аш п'яць галапупцаў мае.*

ГАРДАБЭ'РДА *ж.* Высокая і тонкая жанчына. *Адно нарадзіла й аг гардабэрда стала — а што калі дзесець?*

ГАРЛА'ТЫ *прым. м.,* ГАРЛА'Ч *м.* Крыклівы, крыкун. *Добра быць гарлатаму — усюды ўсё ўсенькае дастане. Чаго, гарлач, распусціў свае горло — ні глядзіш ні старого ні малого.*

ГРУДЗЯВЕ'КА *м.* Мужчына са здаровай і аб'ёмістай

грудной клеткай. *Ого! Ты, брат ты мой, настаяшчы грудзявека.*

ГРЫЗА′ *м.* Жмінда. *От грыза дак грыза! Грызе й грызе ак іржа жалезо.*

ГУТЫ′РА *ж.* Тоўстая непаваротлівая жанчына. *Здэцца й гутыра, а танцуе лёхко.*

ДЫБА′К *м.* Чалавек з тонкімі і вялікімі нагамі. *Гэтаму дыбаку ложка ні падбярэш, дак спіць на падлозі.*

ЗАДЗІРА′ЙКО *м.* Той, хто задзірае галаву ўверх без патрэбы. *Ля задзірайка так граско, што аш машыны гразнуць.*

ЗАЯ′ДА *м.* Заядлы чалавек. *Калі сашчаміў зубы ды калі рвануў з усяе сілы, дык цэлае прасло выламаў — от заяда!*

ЗІКРА′ТЫ *прым.* Вірлавокі. *Сама зікрата, дак і дзеці зікратые.*

ЗІКРА′Ч *м.* Зіркаты чалавек. *Вылупіў, зікрач, свае бельмы й стрыжэ імі, ну, думаю, капут.*

ЗЛЁПАК *м.* Таўстун. *Навыроджвала* (нарадзіла) *некіх злёпкаў, дык ніхто й глядзець ні хочэ.*

ЗУБА′Ч *м.* Чалавек з ненармальнымі зубамі. *Чаго выскаляессе, зубач?! Думаеш, ні нойдуць на цябе ўправу!*

З'ЯД *м.* Вельмі злосны чалавек. *Такі ж з'ят, аж зубамі скіргічэ — от бо вырадак!*

КАЛМА′Ч *м.* Кудлач. *Ідзі, калмач, зачашысе, а то страшно глядзець.*

КАРА′ВЕЦ *м.* Мурза. *Кап то караўцы камандавалі — ў іх жэ ж бані нават німашака.*

КАРА′КУЛЬ *м.* Няўдаліца. *Куды ж ты пнессе, каракуль? Што табе тут трэбо?*

КАШЛА′Ч *м.* Калашман. *Глядзі, Мар'ё, унянё* (вунь) *кашлач твой цягнецца.*

КАШЛЮ′Н *м.* Той, хто кашляе вельмі. *Дальбог жэ ш, як выходзіла* (замуж), *ну, ні быў такі кашлюн.*

КО′ЛМЫК *м.* Кучаравы чалавек. *Ты з роду колмык ці накручваеш?*

КРАСЛА′Ч *м.* Калашман. *Хопіць табе, краслач, тут аціраца — ідзі лепш патпеража́ысе як трэбо.*

КРЫВЯНДА′ *м.* Крывуля. *Кудэю ты, крывянда, соўваессе, хібо табе лепшай дарогі бох ні даў?*

КРЫКЛІ′ВЕЦ *м.* Крыкун. *І трэбо ж было за такого крыкліўца пайсці замуж — чуць што, дык дзярэ горло.*

КУРДУ′ПЕЛЬ *м.* Малы і тоўсты чалавек. *Колісь ба-*

*гатые й курдуплі за першы сорт ішлі, можэ й цяперака каму за выбірачку дасць бог гарачку.*

ЛАГО'Ш *м.* Чалавек з тонкімі і крывымі нагамі. *Чаго гэто лагош сют-тут спацыруе?*

ЛЕ'ЙБА *м.* Смаркаты, неахайны чалавек. *І жаненье ні памагло — аг быў лейба, так і застаўсе.*

ЛЁПАЛО, ЛЁПАНКА *м.* Балабон, пустазвон. *От, лёпало, лёпало, лепш бы маўчаў, чым лёпаеш ні к сялу ні к гораду. Сціхні, лёпанка, нудно слухаць твае лёпы* (абы-што).

ЛУПА'Ч *м.* Лупаты чалавек. *Ад гэтаго лупача нідзе нічого ні схаваеш — усюды знойдзе.*

ЛЫ'СМАН *м.* Той, у каго лысіна. *Куды яму ўжэ па дзеўках хадзіць — ён жэ ш лысман.*

МАРЦЭ'ЛЯ *ж.* Асоба лёгкіх паводзін (жанчына). *Унадзіўся да гэтай марцэлі, і ніхто яму больш ні на ўме: ні жонка, ні дзеці.*

МАЦЫЯ' *ж.* Задавака. *Брат ты мой, ні чапай ты хоць тае мацыі, а то ўсенькі год ні гаварыцьме.*

МЕРЗЛЯ'К *м.* Той, хто баіцца холаду. *Ну й мерзляк жэ ш Купра Пакамісевых — чуць вецер павее, а ў яго ўжэ з носа пацякло.*

МУРЗЭ'ЛЯ *м.* Мурза. *Ідзі лепш памыйсе, а ні тут законы нам устаўляць. Мурзэля нішчасны!*

МЫ'РМА *м.* Нелюдзень, сугней. *От мырма дак мырма! Хоць бы слоўца за дзень. З гэтаю мырмаю можно сумашэчым стаць.*

НАДУ'ЦЬКО *м.* Надзьмуты чалавек. *Свісьні, надуцько, можэ, засмяессе. Ні чапай гэтаго надуцька, хай яго ліхо ўчэпіць.*

НАЛІВА'ХА, НАЛІ'ВАЧ *м.* Празмерна тлусты чалавек. *Такі ш наліваха, аж блішчыць. Наліў пузо, налівач, дак і нох ні бачыць.*

НАЧВА'Ч *м.* Пузан. *Пачакай, начвач, яшчэ злезуць гэтые ночвы* (пуза), *зноў будзеш скарынкі збіраць.*

НЕ'ЎДАЛЬ *м.* Няўдаліца. *На неўдалі й адзёжа ніўдалая — кругом неўдаль.*

НІСТРО'ПЦЯ *ж.* Няўмека. *А што ш я зраблю са сваею ністропцяй — яна ж ні ў коло ні ў м'яло.*

НЯЗГРЭ'ДА *м.* Няўдаліца. *От пакараў мяне бог гэтаю нязгрэдаю, гэтаю ністропцяю, гэтаю неўдалью.*

ПАДВО'КАННІК *м.* Мужчына, які заглядвае ў чу-

жыя вокны тайна, цішком. *Такому падвоканніку добрэ было п пастку паставіць.*

ПАДВО'КНІЦА *ж.* Жанчына, якая любіць заглядваць без прычыны ў чужыя вокны. *Другі рас я гэтай падвокніцы морды* (шчокі) *павыбіваю, хай ведае, сволач, што трэ й што ні трэбо рабіць.*

ПАД'Е'ЗДАК *м.* Той, хто любіць пад'язджаць (на возе, матацыкле, машыне і інш.). *Панатрыў пад'ездак ездзіць на базар, дык каждую нядзелю ні прамаргае, хай свой матоцык купляе.*

ПАДЦІЛЁПАК *м.* Падлізнік. *Як ні стараецца патцілёпак, сераўно гной накідаць выпраўляюць.*

ПАДЧЭ'ГЛІСТЫ *прым.* Такі, які ходзіць нібы спружынячы. *Патчэглістыя людзі ні могуць бегаць.*

ПАНУ'РКО *м.* Пануры чалавек. *Люблю пануркаў, бо яны ніколі лішняго ні скажуць — праўду ш гавораць: «Маўчанье — золато».*

ПАРШЫ'ВЕЦ *м.* Нягоднік. *Гані паршыўца, каб і духу яго ні было.*

ПАХА'ТНІЦА, ПАХА'ТУХА *ж.* Жанчына, якая любіць бавіць час у суседзяў. *Надаела ж гэта пахатніца: кожны божы дзень меле сваім языком — і ні атсохне ён ёй. За пахатухамі й ні выспіссе, і ні падйясі, як чалавек.*

ПЛЯТНЯ' *м.* Пляткарка. *Маўчы, плятня, ты і не пляці абы-што.*

ПРАЙДА'К *м.* Прайдоха. *Такого прайдака ва ўсём белом свеці ні знойдзеш — што хоч удзярэ, любую штуку.*

ПРАЙДАКАВА'ТЫ *прым.* Пранырлівы. *Браце ты мой, усюды есцека прайдакаватые дзяўчата, але й добрые жонкі з іх часто бываюць.*

ПРО'ЦІВЕНЬ *м.,* ПРАЦІ'ЎНЫ *прым.* Непаслухмяны, упарты чалавек. *Нічога с такім проціўнем я ні даб'юсе, каб вы ведалі, які ён праціўны, просто к асёл.*

ПРЫПРА'ТУХА *ж.* Гаспадыня, якая ўсё хавае кудынебудзь. *Сам ні ведаю, што рабіць са сваею прыпратухай — ак што схавае, голаў скруціш, пакуль нойдзеш.*

ПРЫ'ЦЕЛЕПАК *м.* Невялікі памочнік. *Ні звялісе шчэ такіе, што чуць стане прыцелепкам якім, дак ужэ й нос жэрткай ні дастанеш.*

ПУЗА'Ч *ж.* Пузаты чалавек. *Цяперака развялосё столько пузачоў, што, здэцца, только бочкі з нагамі соўваюцца.*

ПУЗДЭ'РАК *м.* Той, хто малы, але пузаты. *Кожнаму*

*пуздэрку ні вельмо гадзіць хочацца. Хай сабе й пуздэрак, але чалавек.*

ПУСТАЛЬГА′ *м.* Пустадомак. *Дзе ты вечно, пустальга, прападаеш? Хібо табе дому свайго німа, што ты валочыссе?*

ПУЦ *м.* Тугадум. *Такая ш тупіца, такое ш падло, такі ш пуц — прайдзі белы свет, ні знойдзеш.*

РАБЭ′ЙЗА *м.* Чалавек з рабаціннем на твары. *Ты паглядзі нно неку рабэйзу і тую ўсе любець.*

РАСКІДО′ХА, РАСКІ′ДУХА *ж.* Раскідлівая жанчына. *Чорт яго ведае, што рабіць са сваёй раскідохай: ніяк капейка ні задзержваецца — і куды яна ні прэ гэтых нішчасных грошэй.*

РО′ЗДУР, РО′СПУСТ *м.* Раздураны, распушчаны чалавек. *Быў роздур змалку, так і памрэ — усё ўсенькае яму зрабі, а ён только на гатовенькае лапкі паложыць. Лепш даць папругі змалку, чым патом роспустам будзе.*

РЫЛА′Ч *м.* Чалавек з непрыгожым тварам. *А божэ ш мой божэ, а што ж гэто робіцца? Кап то ўсякіе рылачы і то светам чаўплі.*

САБАКАВА′ТЫ *прым.* Збродлівы. *Сабакаватаму й дрэнчыць цягацца.*

СЛІНЬКО′ *м.* Слінявец. *Ну, а за такога слінька нізашто ні пашла п.*

СЛЯПУНДРА′ *м.* Сляпак. *А куды ш ты глядзеў, а сляпундра ш ты!*

СМАРКЕ′ЛЯ *м.* 1. Смаркач. *Ой, гадасць гэта, смаркеля ш гэта, падло гэтае — і ён нешта крычыць.* 2. Дзіця. *Ідзі, смаркеля, нос вытры.*

СМЯРДЗЮХА′ *м.* і *ж.* Неахайны чалавек. *Калі гаспадыня смярдзюха, то й у хаце смярдзіць.*

СМЯЛЕ′Ц, СМЯЛЯ′К *м.* 1. Той, хто хваліцца сваёй смеласцю. *Знайшоўсе сьмялец мне — хібо только з жонкай ваюе.* 2. *Іран.* Баязлівец. *От і смяляк! Ак угледзеў злодзея, дык у кусты схаваўсе.*

СТРАХАПУ′Д, СТРАХАПУ′ДЗІНА *м.* Чалавек, які можа навесці страх сваім выглядам. *Куды ты выбіраессе? Паглядзісе ў вістэрко* (люстэрка), *ты ж страхапут. Ні йдзі, кажу, страхапудзіна! Цябе ш людзі баяцьмуцца.*

СТРЫ′НГЕЛЬ *м.* Худы, тонкі, высокі чалавек. *Мусіць, наш бацько й памрэ стрынгелем.*

СЦЯГА′Ч *м.* Бадзяга, валацуга. *Ці ж добрэ табе сцягачом жыць? Жанісе, дык асядзеш недзека ў адном месці.*

ТРЫБУХА'Ч *м.* Пузан. *Кап перам'яў таго трыбухача, мо трохі п схудней.*

УНУ'РКО *м.* Пануры чалавек. *Ой, браце, чым мяне бох наказаў — такі ўжэ унурко, як унурыцца ў што-небудзь, дык нічого ні чуе й ні бачыць.*

ХТО'КАЛО *м.* Той, хто любіць перапытваць. *«Помніш учора ля сціртаў» — «Хто?» — «Хтокало».*

ХУДЭ'РБА *м.* Вельмі худы чалавек. *Здэцца худэрба, а любого абложыць* (пабора).

ЦЕЛЯПА'ЙЛО, ЦЕЛЯПЕ'Й *м.* Той, хто патрабуе кіравання сабой. *Просто чуць за спадніцу ні дзяржыцца, целяпайло. Хоць целяпей, але ўдваёх ляпей.*

ЦЫ'МБАЛ *м.* Гультай, абібок. *Такая морда, такі цымбал, а ўсё на жончыной спіне едзе.*

ЧАРАВА'ТЫ *прым.* Пузаты. *Чараваты, бо багаты.*

ЧАРАВА'Ч *м.* Трыбухач. *Ходзь бы еў паменьш, а то чаравачом называцьмуць.*

ШАБАЛДА' *м.* Пустазвон. *Ні шабалдзі, шабалда, аж галава круціцца ат твае балбатні.*

ШАВЯРДА' *м.* Пустазвон. *Кінь шавярдзіць. Ну, чаму ты такі шавярда?*

ШАРАМЭ'ТА *м.* Той, хто сноўдаецца без прычыны. *Адыдзісе атсюль, шарамэта, хіба ш ні бачыш, што памыто.*

ШКАДАВЕ'КА *м.* Скупяндзя. *У каго ён удаўсе? Такого шкадавекі яшчэ ўвесь свет ні бачыў.*

ШКРЭ'БА, ШКРЭ'БАЛО *м.* Той, хто ходзіць, шкрэбаючы абцасамі. *Паддымай жэ ш хоць ногі вышэй, а то шкрэбай і памрэш. Ну й шкрэбало — усенькіе апсацы пашкрэбваў.*

ШМО'ЙЛО *м.* Непаваротлівы чалавек. *Чаго тутака топчассе, шмойло? Гэтаму шмойлу й час е тут таптацца.*

ШТО'КАЛО *м.* Той, хто любіць перапытваць. *Ні штокай, штокало, а лепш слухай. Слухай, штокало, ні брухам, а вухам.*

ШТО-ТО-Я'. Задавака. *Ого! Васіль цяперака што-тоя. Жартачкі, учора с сахаром хадзіў, а сёнека механікам паставілі.*

ШЧАРБА'Ч, ШЧАРБЕ'ЛЬ *м.* Бяззубы чалавек. *Перастань сушыць зубы, шчарбач, а то й астальные павысыпаюцца. Здэцца шчарбель, а арэхі толькі падавай — трушчыць ходзь бы што.*

ШЭ'ЙНА *ж.* Нервовая жанчына. *Сціхні, шэйна, вычвараць, а то людзі падумаюць, скруцілася.*

ЯЗУ'САК *м.* 1. Набожны чалавек. *Хоць і язускам называюць, але ён нікого ні аблаяў, ні абакраў, ні абідзіў.* 2. Франт. *Хоць ты яго ў цэркаў пастаў, язуска гэтаго.*

**Назвы частак цела**

АДВЕ'САК *м.* Доўгі нос. *Чалавек нічого сабе, только нос канфузіць: ні нос, браце, а адвесак.*

БЕЛЬМАЧЫ' *мн.* Вочы. *Чаго вытрашчыў свае бельмачы?*

БУ'РКА *ж.* 1. Косць з двума суставамі. *Колі Калодаччынаму атціснула дзве буркі на вяліком пальцы.* 2. Голень. *Адыдзі, а то заробіш па бурках.*

БУ'ТЛЯ *ж.* Нос. *От расквасілі бутлю, дак другі рас ведацьмеш кампаню.*

ГІЛЬ *м.* Дзюбаты нос. *У Пешкура гіль ак мае быць, праўда, ні чырвоны.*

ДЫ'БА *ж.*, ДЫ'БЫ *мн.* Ногі. *Паперабівадзь бы дыбы аднаму да другому, то зналі п с кім пацьвельвацца.*

ЖАЎТКІ' *мн.* Унутраныя органы (ныркі, печань, кішэчнік, страўнік). *Каб адгнёў каму жаўткі, то ні лезлі п у сад.*

ЗІКРАЧЫ' *мн.* Нахабныя вочы. *Ходзьбы зікрачы свае апусціў, дык не: глядзіць ходзь бы што.*

КАРШЭ'ЛЬ *м.* Карак. *О, брат ты мой, і каршэль жэ ш у таго мішпектара — не раўнуючы, як у бугая.*

КАЯНЫ' *мн.* Бессаромныя вочы. *Нібось каяны хаваў, ак стыдзіла.*

КНЮ'ХО *н.* Жывот. *Наеў кнюхо, дак пра другіх і забыўсе.*

КУ'ТНІЦА *ж.* Тоўстая кішка. *Кап табе кутніца забалела, калі ў цябе галава ні па чом ні баліць.*

ЛАБА'СІНА *ж.* Лоб. *Загрэць бы гэтаму гультаіне па лабасіне, кап навек забыў дарогу ў гэту пракляту закусачну.*

ЛЫ'ГА *ж.*, ЛЫ'ГІ *мн.* Тонкія ногі. *От п'ёр, анно лыгі настаўляў, а за кала хапаўсе першы.*

ЛЮ'ШНЯ *ж.*, ЛЮ'ШНІ *мн.* Доўгія рукі. *Куды люшні свае працягваеш, стань, ак усе ў очараць.*

ЛЯ'МЦЫ *мн.* Непрычасаныя валасы. *Прыбяры ў парадак свае лямцы.*

ЛЯ'ПА *ж.* Рот. *От заткні ляпу і не брашы абы-чаго.*

МАЖДЖЫ'РА *ж.* Твар, аблічча; галава. *Мажджыра ўсенька ў крыві, а серайно вырваецца. Падлезь, дак мажджыру растаўку.*

МАКАТЫ'РА *ж.* Галава. *Вечно сваю макатыру патставіць, хай бы ш хто другі, дак абязацельно ён.*

МЫХАЕ'ДЫ, МУХАЕ'ДЫ *мн.* Губы з ротам. *А ты п яму па мы(у)хаедах, хай бы ведаў, ак сляпіцаю лесці.*

НЮ'ХАЎКА *ж.* Нос. *Ад гэтае смярдзюхі* (самагону) *і нюхаўка зрабілася к* (як) *сліва.*

РА'ЖКА *ж.* Галава. *Падымае, чалавечэ, з гразі сваю рашку і просіць расолу — от, браце, карціна!*

СЛУХА'ЎКА *ж.*, СЛУХА'ЎКІ *мн.* Вушы. *Здэцца й галава ак галава, й слухаўкі на месці, а хоць трубі — нічогенько ні чуе.*

ХАБО'ТНЯ *ж.* Рот. *Мусіць, прыдзецца заехаць па хаботні, каб больш і ні бзыкаў навет.*

ХЛЕБАГРЫ'ЗКА, ХЛЕБАРЭ'ЗКА *ж.* Рот з зубамі. *Закрый хлебагрыску і ні рыпайсе. Схапіў, браце, пляшку ў хлебарэску, і добрэ, што ні коўтнуў: гэто ж быў уксус.*

ХРАПАЧЫ' *мн.* Твар. *Куды яму выбіраць с такімі храпачамі — ужэ браў бы, хто йдзе* (замуж).

ШЧАРБЯЛІ' *мн.* Зубы. *Вечно ў яго шчарбялі на версе, ржэ й ржэ бездайладу.*

## Розныя істоты, прадметы і звязаныя з імі паняцці

АПСІ'К *м.* 1. Ненармальнасць псіхікі; нервовасць. *Што гэто за апсік на цябе напаў?* 2. Адганяльны выгук на катоў. *Апсік, кап ты здох!* 3. Састаўны кампанент фразеалагізма *даць апсік* 'адмовіць'. *Падлазіў, падлазіў, насіў цукеркі, а яна серайно дала апсік.*

АСЯНЧУ'К *м.* 1. Прыведзенае восенню цяля, ягня, парася. *Пару асяньчукоў* (кабанчыкаў) *гадую, мо якую капейчыну абаб'ю.* 2. *жарт.* Дзіця, народжанае восенню. *Ён, браце, у мяне асяньчук: акрас на Кастрычнік радзіўсе.*

АХА'ПТУС *м.* 1. Ахапак. *Цэленькі ахаптус каўроў прывалок аднекуль — от ужэ ш і праныра.* 2. Хап (ад хапаць, цапаць). *А ён яго ахаптус за каўнер — і ў сільсавет. Ахаптус мяне на рукі і давай кружыць.*

БЕРЛАГІ′ *мн.* 1. Незасланая пасцель. *Што гэто мне тут за берлагі ляжаць.* 2. Вельмі дрэнная пасцель. *Братко ты мой, просто ў берлагох сьп'яць, каб ты только паглядзеў, аш страшно нек.*

БО′ЛЯ *ж.* Болька (ласкальна, у дзіцяці). *Пакажы, Ванько, болю сваю. Ні бойсе, я ні чапацьму.*

БУ′ЛБА *ж.* 1. Дажджавая бурбалка. *Ну й аишэ будзе даваць дошч — паглядзі колько булбаў на лужах.* 2. Мыльны пухір. *Хваціць табе столько булбаў пускаць, узяўсе п хоць за ўрокі.*

БЭ′МБАЛЬ *м.* 1. Пухір пасля апёку. *Ак палопалі ж бэмблі, дак як стало пячы, ну, думаю, і капцы мне.* 2. Нос бульбінай. *Загрэў па бэмблю з гарачкі, а цяперака чухай патыліцу.*

ВУЗЫ′Р *м.* Вузкі канец бервяна. *От, браце, асілак: бярэ любую хвою за вузыр і кладзе на вос.*

ВАЎЧА′К *м.*, ВАЎЧАКІ′ *мн.* 1. Не прыгодныя для ежы грыбы. *Набраў некіх ваўчакоў — абы поўна каропка.* 2. Ваўчкі. *От бо халерныя ваўчакі: ак прычапіліся, дак ні вадою, ні прасам — ні ададраць.* 3. Злыя людзі. *З'ядуць цябе гэтые ваўчакі, только папусцісе.*

ВЯШНЯ′К *м.* Парася вясенняга прыплоду. *Мусіць, мае вешнякі ні перазімуюць, натто ж яны німудрые.*

ГАВЭ′НДА *ж.* Гаворка, гутарка. *Надаела мне ўжэ твая гавэнда, ідзі ты, чалавечэ, лепш сваею дарогай.*

ГАРО′ДЧЫЧАК *м.* 1. Расаднік. *У нас перад гуліцай ува ўсіх гароччычкі.* 2. Кветнік. *На прадвешанні* (прадвесні) *саджу ў гароччычках расаду, а потым кветкі.*

ДРЭ′БЕЦ *м.* Недагледжаная рэч, прылада. *Ат ні ровар (веласіпед), а дрэбец некі — добры гаспадар і ні паглядзеў бы на яго. Асталісе мне некіе дрэбцы* (калёсы, драбіны), *дак я і каня ні браў.*

ДУБЭ′ЛЬТЫ *мн.* Акуляры. *Ты для форсу дубэльты павесіў ці трэбо яны табе?*

ДУ′НДА *ж.* 1. Соска. *Начорта табе гэта дунда, кінь ты яе, ты ш ужэ вялізазны* (дарослы). 2. Гугнявая жанчына. *Прыдзе, сядзе і дундзіць, дундзіць абы-што, ні разабраць — от дунда дак дунда.*

ДЗЕЛЬ *ж.* 1. Выдзеленая частка. *Дзе ш твая дзель, можэ нідалеко, дак разам рабіцьмем* (сена). 2. Дзяліцьба. *От дзель дак дзель: траха адзін аднаго ні паабязвечвалі.*

ЖЫ′ЖА *ж.* 1. Агонь (ласкальна, да дзіцяці). *Ні лезь, дзіцятко: там жыжа, укусіць.*

ЗЮ′ЗЯ *ж.* Холад (ласкальна, да дзіцяці). *Ні трэбо на двор, там зюзя.*

ЗЯЛЕ′ПУХА *ж.* 1. Зяленіва. *Напруцца ўсялякай зялепухі, а дале жыватамі качаюцца.* 2. Плёткі. *Не пляці ты мне тут розну зялепуху — і так галава трашчыць.*

КАПО′ТА *ж.* 1. Кароткае, самаробнае і падношанае верхняе адзенне. *Ходзь бы капоту якую падаслаў пад бок, а то ш спіць, доўбня, на голой зямлі.* 2. Смерць. *Чуць капота мне ні была, ак папаў у балонку, ледзьво выкарапкаўсе.*

КО′КА *ж.* Бульба (ласкальна, да дзіцяці). *Можэ кокі табе даць. Ідзі сюды, зарэ коку абірацьмем.*

КО′КО *н.* Яйка (ласкальна, да дзіцяці). *Што? Ні лупіцца коко? Ні плач, маленькае мае, я памагу...*

КРЫВУ′ЛІ *мн.* 1. Калёсы для перавозкі доўгага бярвення. *Згнілі і крывулі мае: цяперака ўсе ўсенечкае на машынах прывозім.* 2. Няроўнае пісьмо. *Ну, што ты навыводзіў некіх крывуляў, німа, кап табе хорашо і чысценько напісаў.* 3. Ногі. *Зарабіў па крывулях, дак цяперака поўзай.*

КУДЗЯЛЯ′НКА *ж.* Цёплая фабрычнага вырабу хустка. *На халеру табе гэта кудзялянка, ты ж спарыссе ў ёй.*

ЛА′ХТА, ЛАХТАДРЫ′НА *ж.* 1. Нячыстае і зношанае адзенне. *Скінь гэту лахту, а то людзі папужаюцца. Ну, што ты выкупіла? Лепш бы даражэй аддала п, але была п адзёжа, а так лахтадрына.* 2. Жанчына, якая апранаецца абы-як. *Гэта ш трэба пазычыць ачэй у сабакі, кап так апусціцца — ну й лахта, ну й лахтадрына. А матка насвенча, а гаспот найвышшы, што гэто за неўдаль!*

ЛА′ХІ, ЛА′ХТЫ *мн.* 1. Зношанае, парванае адзенне; скамечанае і бруднае. *Наверсі, здэцца, пальто дарагое, а пад нізом жэ ш просто лахі. Прыбяры гэтые лахты, хай ні атсвечваюць тутака. Схавай лахі пат коўдру, бо зарэ людзі прыйдуць.* 2. Манаткі. *Бяры лахі пад пахі і махай на ўсе чатыры стораны. Кідай гэтые лахты дома, нікому яны ні патрэбны.*

НІМУДРЫ′ *прым.* Нядошлы. *Натто ш німудры мой патсвіначак, і выцінар жэ ш глядзеў.*

НАЦЯ′ГІЧ *м.* 1. Прылада нацягваць абручы, шыны і інш. *Халера яго ведае, дзе той нацягіч дзеўсе. Зламаў галаву шукаючы і серайно німашака.* 2. Моцны, здаровы

мужчына. *Гэты нацягіч, пане мой, як сядзе есці, дык прэ, што вол, ну то й сілу мае.*

ПАМЫ'ЙНІК *м.* 1. Мыцельнік. *Много вады разліваем у памыйніку. Бачыш, аш падлога прагніла.* 2. Самае горшае месца за вясельным сталом. *Пасадзілі, браце, у памыйнік, дак ні піць, ні есці ні хацеласё.*

ПАНАРА'ЎНЫ *прым.* Да спадобы. *От мне, Манё, твой свэтар панараўны. Аг быў малады, то й панараўны быў, як стаў стары, то й што малпа.*

ПА'ПА *м.* Хлеб (ласкальна, да дзіцяці). *Мо табе папы даць? На, я й цукрыкам пасыплю.*

ПАТАЛЬМА'ХА *ж.* 1. Страва з яек, мукі і сквäрак, спечаная на патэльні. *Штодзень есціму патыльмаху, і ніколі яна мне ні прыесца.* 2. Няўдала падрыхтаваны ці густы суп. *Ну, што гэто за крупнік, гэто ш патальмаха, а ні крупнік.*

ПЯРША'К *м.* Вучань першага класа. *Нічого ш сабе назбіраласё гэты гот першакоў. Хоць пяршак, а газеты чытае ходзь бы што.*

РАСХЕ'ДУС *м.* 1. Расход. *Грошы ўсе пашлі ў расхедус, і ні замеціў, куды пацяклі.* 2. Развод. *Месяц пажылі — і расхедус... Нашто было тагды жаніцца?*

ТАРАРА'ЙКА, ТАРЭ'ГУЛЬКА *ж.* Таратайка. *І трэбо ш выкупіць неку тарарайку, дак анно смуродзіць* (дыміць) *кожды дзень. Сабраў бы грошэй ашчэ столько, да й купіў бы нармальну легкавушку, а то ездзіць на гэтай тарэгульцы. Пэўно, зарэ разваліцца...*

ЦІ'ПЦЯ *ж.* Курыца (ласкава, да дзіцяці). *Ні бі ціпцю, ато ні знясе кока.*

ЦЕМРАЧЭ'ЧА *ж.* Цемрадзь. *А тут такая цемрачэча, што хоць ты паўзі.*

ШАСНА'ЦЦАТКА *ж.* 1. Шаснаццаць штук. *Аттопаў шаснаццатку* (16 кіламетраў) *і чын чынаром.* 2. *іран.* Жанчына, якая любіць маладзіцца. *От убіраецца дак убіраецца, серайно к шаснаццатка.*

*М. Н. Крыўко*

# З ЭКСПРЭСІЎНАЙ ДЗЕЯСЛОЎНАЙ ЛЕКСІКІ ГАВОРАК МІЁРСКАГА РАЁНА

У гэтым артыкуле прыводзяцца некаторыя сінанімічныя групы экспрэсіўнай дзеяслоўнай лексікі, якая называе розныя дзеянні чалавека. Лексіка запісана аўтарам у Міёрскім раёне, у яго паўднёва-ўсходняй частцы, на Дзісеншчыне.

Зарэгістраваныя дзеясловы-сінонімы адрозніваюцца адзін ад аднаго рознымі сэнсавымі адценнямі аднаго і таго ж значэння або характарам экспрэсіўнасці. Гэта розніца паказваецца ў артыкуле шляхам тлумачэння.

Кожны сінанімічны рад пачынаецца дамінантай — апорным словам. За дамінанту бярэцца нейтральнае і найбольш ужывальнае слова ў гаворцы. Затым праз працяжнік ідуць экспрэсіўныя дзясловы-сінонімы з больш падрабязным тлумачэннем значэння кожнага з іх ці некалькіх адразу.

Сінанімічныя рады размешчаны па алфавіту дамінант.

Знакам *ъ* у артыкуле абазначаецца рэдукаваны галосны сярэдняга пад'ёму задняга рада (кароткі гук *а*).

АТЛУПЦАВА́ЦЬ — *атсьцібáць, атсьцёбъць* 'адлупцаваць дубцом, пугай злёгку'; *адджгáць, адджгáніць, атпсю́ръць, атксьціць, атсьвінцáць, атсьвяньціць, атспъвідáць, аццубэ́сіць, ацьцьві́чъць, атсямéніць, атсмалі́ць, атпіръзáць, атскаблі́ць, атхвъстáць, атхлістáць, атлупі́ць, атсірбáць, атсёрбъць* 'адлупцаваць дубцом, пугай, дзягай моцна'; *атхвъръсьціць, атву́дзіць, аддубáсіць, аччъхвóсьціць* 'адлупцаваць хварасцінай'; *адбъръбáніць* 'набіць моцна палкай па плячах'; *адбуксувáць, адбуксі́ць, адгрэ́ць, аджáръць, атмълаціць, атпрáтъць, атпя́ръць, атсадзі́ць, атмясі́ць, аткъмя́чъць, аткъмя́къць, атмя́къць, атпáръць, атпу́хлі́ць* 'моцна набіць дубцом, дзягай, кулакамі'; *адгáкъць, адгóкъць, адгрáкъць, адгрóкъць, адзьдзю́гъць, аткляу́шыць* 'надаваць грымакоў па спіне';

*атпо́ўшъць* 'надаваць аплявух'; *атпудры́ць, атпу́цъвъць, атпу́цъць* 'набіць па твары'; *атшлёпъць* 'набіць далонню'.

ГЪВАРЫ'ЦЬ (і ГУКА'ЦЬ) — *бълбъта́ць, бълта́ць* 'гаварыць пустое, весці балбатню';*ба́іць, баю́къць, тръпа́ць, мало́ць, трълу́зіць, цяу́псьці, цяпсьці, цю́пъць, пляву́рзгъць, пляўду́ръць, плю́тъць, тъбаліць, вя́гъць, вя́дзгъць, вядзгу́ліць, гавэ́ньдзіць, ю́дзіць, гърадзіць, ля́пъць* 'гаварыць глупствы, недарэчнасці'; *ръссасу́лівъць, ръздабу́ръвъць, ръспруу́ляць* 'многа гаварыць, разважаць, расказваць'; *ганьдзю́ръць, гъньдзюры́ць* 'гаварыць нада-кучліва'; *пръбабу́ньквъць*, 'прыгаворваць, рабіць невыразныя заўвагі'; *тълкъва́ць* 'размаўляць пра сёе-тое'; *търадэ́ніць, търадэ́іць, ляпе́ньдзіць, ліпяньдзіць, ляме́ньдзіць, лімяньдзі́ць* 'гаварыць шмат, не да месца, надаедліва'; *зулі́ць* 'гаварыць назаляюча'; *ла́хъць* 'гаварыць недазволенае'; *дуду́къць* 'гаварыць упаўголаса'; *лъпъта́ць, лътато́ніць, чачэ́ніць, търато́ръць, трашчэ́ць* 'гаварыць хутка, гучна'; *курдуя́чъць, кулдуя́чъць* 'гаварыць няўмела (пра малых)'; *гъргъта́ць* 'гаварыць на незразумелай мове'.

Е'СЬЦІ — *ліза́ць, лізгъць, ча́ўкъць, чвя́къць, сма́къць, смъкта́ць* 'есці вельмі мала, перабіраючы, вяла'; *га́мъць, ня́мъць* 'есці (пра маленькіх дзяцей)'; *жъра́ць, жраць, жэ́рці, жо́рці, пе́рці, пхаць, пхнуць, піха́ць, трубі́ць, мало́ць, мяць, уміна́ць, уёдъвъць, упіру́дъвъць, апіру́дъвъць, гу́дзіць* 'есці прагна, груба і многа'; *цюры́ць* 'есці з вялікай ахвотай'; *ко́мшъць, камшы́ць, ко́мкъць* 'прагна есці булку, пірог і г. д.'; *ву́рзгъць, вурзго́ліць, хлюба́ць, хлёбъць, сірба́ць, сёрбъць* 'ахвотна есці рэдкую страву'; *булёніць* 'есці суп і іншую рэдкую страву'.

ЗЪТАМІ'ЦЦА (і ЗЪМАРЫ'ЦЦА) — *захо́дъцца, зъхадзіцца, зъдзюўба́цца, зъдзяу́псьціся, задзёўбъцца, зато́пъцца, зътръпа́цца, захлы́мъцца, захлы́ндъцца, зашлы́мъцца, зашлы́ндъцца, зъшля́цца, зъціга́цца, засно́ўдъцца* 'стаміцца ходзячы'; *забе́гъцца, залётъцца* 'стаміцца бегаючы'; *зъпръцъва́цца, зърабо́тъцца* 'стаміцца працуючы'; *заблы́нкъцца* 'стаміцца, займаючыся працяглай аднастайнай работай'; *заву́хъцца, забі́цца, зъдушы́цца, зъдаві́цца, зъпра́тъцца, зъпя́ръцца, зъпя́къцца, запе́къцца, зъпіцъва́цца, зъіша́чъцца* 'стаміцца, вельмі цяжка працуючы'; *зъжа́цца* 'стаміцца жнучы'; *зъкасі́цца* 'стаміцца косячы'; *зърва́цца* 'стаміцца, рвучы лён'; *зъгръцъва́цца* 'стаміцца, апрацоўваючы матыкай грады'.

ІСЬЦІ′ (і ІЦІ′) — *плéсьцісі, плясьціся, сýнъць, сýнъцца, цягнýцца, дзюўбáцца, дзяўпсьціся, дзюўбáць, дзяўпсьці, дзёўбъць, дзёўбъцца, вълачыся, паўсьці, плыць, плъсьці, тръпáць* 'марудна ісці, ледзь рухацца'; *чáпъць, чáпкъць* 'ісці памалу'; *пéрці, пéрцісі, нéсьцісі, нясьціся, ляцéць, смаліць, джгáніць, джгаць, шпáръць, скабліць, жáръць,* 'ісці вельмі хутка'; *штыліць, штъгіляць* 'ісці шпарка, чаканячы крок'; *тыбліць* 'ісці ўпэўнена'; *валіць* 'ісці энергічна, імкліва'; *въляць* 'ісці, адпраўляцца (толькі ў загадах)'; *шъгáць* 'ісці ўпэўнена, чотка'; *валюхъць* 'ісці, перавальваючыся з боку на бок'; *хамыліць* 'ісці шырокімі крокамі, перавальваючыся з нагі на нагу і нахіляючы галаву ўніз'; *тóпъць, тыпъць, дыбъць* 'ісці (пра маленькіх дзяцей)'; *къвіняць, таргікъць, талыхъць, тълалыхъць, куляцца* 'ісці кульгаючы'.

НЕ′СЬЦІ (і НЯСЬЦІ′) — *вълачы, пéрці, цягнýць* 'несці вялікую вязанку сена, дроў і г. д.'; *тъгáніць, търъбáніць, вéсьці, вясьці* 'несці цяжкі груз'.

ПІСА′ЦЬ — *въвадзіць* 'пісаць вельмі старанна, павольна і акуратна'; *кръпáць, крыпъць, куралéсіць, къвірзáць, грэ́мзъць, грамзóліць, гръмзáць* 'пісаць абы-як, неразборліва, абы-што'; *страчыць* 'пісаць хутка'; *чъкрыжъць, шрáйбъць* 'пісаць зацята'.

ПЛА′КЪЦЬ — *хныкъць* 'плакаць нехаця, нягучна, аднатонна'; *хліпъць* 'плакаць усхліпваючы'; *рýмзъць* 'плакаць нудна'; *пішчэ́ць* 'плакаць тонка'; *гъласіць* 'плакаць гучна, голасна, з галашэннем'; *пръчытъвъць* 'плакаць з прычытваннем'; *сьлініцца* 'плакаць, пускаючы сліну'; *раўсьці* 'плакаць надрываючыся'; *выць* 'плакаць голасна, аднастайна, працяжна'; *скавыліць, скугóліць* 'плакаць гучна, са скавытаннем'; *віркътáць, вяркъць* 'плакаць (пра груднае дзіця)'; *сквярціся* 'плакаць (пра хворае малое дзіця)'; *лямэ́ньціць, лімънтъвáць* 'плакаць гучна, нудна'; *зъхадзіцца* 'плакаць да канвульсій'.

ПРЪЦЪВА′ЦЬ — *трудзіцца, піцъвáць, ішáчъць, вýхъць, пякъць, пякъцца, пéкъць, пéкъцца, душыцца, давіцца, біцца, прáтъць, пяръць* 'працаваць празмерна многа, цяжка'; *улігáць* 'увішна, старанна працаваць'.

ПЪДМАНУ′ЦЬ (і АБМАНУ′ЦЬ) — *абдурыць* 'падмануць хітрыкамі'; *абдýць* 'падмануць з разлікам, з прыбыткам'; *надýць* 'падмануць з выгадай'; *апкруціць, атълмáніць, ачмурыць, ачмуціць* 'падмануць затлуміўшы'; *абжýльнічъць, абжýліць* 'падмануць махлярствам';

*абве́сьці, абвясьці* 'падмануць перахітрыўшы'; *акълпа́чъць* 'падмануць, выкарыстаўшы даверлівасць іншага'; *абмъта́ць, абмъталы́жъць* 'падмануць нахабна'.

СПАЦЬ — *храпе́ць* 'спаць глыбокім сном з храпам'; *ту́хнъць, до́хнъць* 'спаць вельмі доўга'.

ХАДЗІ'ЦЬ — *брадзі́ць, бъдзя́цца, бъсьця́цца, ацірá́цца, це́рцісі, слъня́цца, сьцінюга́цца, ціга́цца, шля́цца, сно́ўдъцца, снува́ць, лы́хъць, лы́хтъць, хлы́ндъць , хлы́ндъцца, хлы́мъць, хлы́мъцца, шлы́ндъць, шлы́ндъцца, шлы́мъць, шлы́мъцца, лы́ндъць, блукуня́ць, блы́нкъць, блы́нкъцца, ды́ндъць* 'хадзіць без справы, мэты, занятку'; *ты́птъць, ты́птъцца* 'хадзіць вельмі ціха'; *ла́хъць, ла́хтъць, шны́ръць* 'хадзіць, бегаць, чагосьці шукаючы'; *шкро́мъць* 'хадзіць, шаркаючы нагамі'.

*Д. А. Бейліна*

# З БАТАНІЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ ПАЛЕССЯ

Гэта праца — вынік летняй палескай экспедыцыі 1974 г. пад кіраўніцтвам М. І. Талстога — з'яўляецца працягам «Матэрыялаў для палескага батанічнага слоўніка» (зб. Лексика Полесья. М., 1968). Аўтар уключыў сюды не пададзеныя ў папярэдняй працы назвы раслін. Прыведзеныя раней назвы паўтараюцца ў тым выпадку, калі яны адзначаны з іншым значэннем. Прыняты, як і ў папярэдняй працы, наступныя скарачэнні населеных пунктаў: Кц. — в. Какорыца Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці; Сп.— в. Спорава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці; Ст.— в. Стадолічы Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

БАГО'Н *м.* Ст. Багун балотны. *Багон свіньям параць і людзям параць.*

БА'ПКА *ж.* Сп. Трыпутнік ланцэталісты. *Бапка од нарыву помагае, од жывота іі п'ють.*

БЕЗВЕ'РХА *ж.* Ст. Крынічнік-дуброўка. *Та безверха, што ліхі ішоў од дзеўкі і зорваў верх.*

БЕЛОКОПУ'ТНІК *м.* Ст. Фіялка пахучая.

БЕРО'ЗКА *ж.* Ст. Бярозка палявая.

БЕССМЕ'РТНІК *м.* Ст. Цмін пясчаны.

БІ'ЛА КОНЮШЫ'НА. Кц. Канюшына паўзучая.

БО'ЖАЯ РОСА Ст. Дрыжнік сярэдні. *Божая роса од сэрца, вона росце на такіх поплавáх, вона, як жывая, так і дрожыць.*

БО'ЖЭ ДРЭ'ВО Ст. Палын палявы.

БОЛО'ТНА СУ'ШЭНІЦА Ст. Сушаніца балотная

БОЛУ'ТНІЙ МОЛОЧЭ'Й Сп. Ястрабок парасоністы.

БОРКУ'Н *м.* Сп. Баркун лекавы.

БРАТ-СЁСТРА' Кц. Сп. 1. Фіялка палявая. 2. Фіялка трохколерная. *Як золотуха, мыють з брат-сёстрóю.* Сп. *Брат сёстрý ны познав да за жунку взяв. Вона кажэ: я пойду в чыстэ полэ и россыплюсь брат-сёстрóю, россыплюся момлóю да узойдуся травою.* Сп.

БРА′ЦІКІ *мн.* Ст. Фіялка палявая.

БУ′КВІЦА *ж.* Ст. Белакудранік чорны.

БУРКУ′Н *м.* Ст. Баркун белы.

БУ′СЬНЫКЫ *тольki мн.* Сп. Рагулькі палявыя.

БЫ′ЛЬНІК *м.* Ст. Палын звычайны; чарнобыль.

БЭСМЭ′РТНЫК *м.* Сп. Птарміка звычайная.

ВОВЧКЫ′ *мн.* Кц. Астранцыя вялікая.

ВО′ВЧЫ ГУРКЫ′ Сп. Гусіная цыбуля жоўтая.

ВОРОБЕ′ЙКОЎ ШЧА′ВЕЛЬ Ст. Шчаўлюк палявы. *Воробейкоў шчавель заране росьце на поляне, шчы з ёго варацъ.*

ВЫРЫДОЎНЫ′К Кц. Трыпутнік ланцэталісты.

ГАРЫ′Й *м.* Кц. Аер чарацяны. Akorus kalamus L.

ГЛУХА′ КРОПІ′ВА Ст. 1. Зюзнік еўрапейскі. *Глуха кропіва худобе пользу дае.* 2. Залозніца шышкаватая. Scrophularia nodoşa L. *Глуха кропіва, у ее корэнье вырві да растоўчы с солёным салом і к нарывам.*

ГОЛОВА′ТЫ ІВА′Н Ст. Званочак раскідзісты. *Головаты Іван по дубровах, од голову его парацъ.*

ГОРУПА′ *ж.* Сп. Гарчыца палявая.

ГРЫМУ′ТНІК *м.* Сп. Дуброўка прамастаячая.

ГУЖЫ′ШНІК *м.* Ст. Мальва лясная. *Гужышнікам мўюца і, як помўюца, выліваюць на дарогі на перэхросныя.*

ГУЗА′ЧНІК *м.* Ст. Мальва лясная.

ДЗЕДЫ′ *мн.* Ст. Падарожнік ланцэталісты.

ДЗІВА′ННА *ж.* Ст. Дзіванна скіпетрападобная. *Як трэба дзіванну рваць, то кажэм: «Панна дзіванна, дай мне пóмочы на мое косьці»*

ДЭНДЭ′РА *ж.* Сп. Блёкат чорны.

ЖА′БСКЭ МОЛОКО′ Сп. *Жáбчэ молокó* Кц. Малачай кіпарысавы.

ЖБАНО′ЧКЫ *мн.* Кц. Сп. Гарлачык жоўты.

ЖО′ЎТЫЙ ЛЯД Сп. Гарошак лугавы.

ЖЭ′НСКІ ПОДОРО′ЖНІК Ст. Трупутнік вялікі.

ЗА′ВОРОТ *м.* Сп. Піжма. Заворот дають, як жывўт болыть.

ЗОЗУ′ЛІНЫ ЧЭРЭВЫ′ЧКЫ Сп. Чаравічак звычайны.

ЗУ′БНЫК *м.* Кц. Таемнік лускаваты.

ЗЭ′НЗЭЛЬ *м.* Сп. Таемнік лускаваты.

ІВА′НОВЫЕ ГОЛУ′ЎКІ Ст. Расходнік плюшчападобны. *Івановые голуўкі п'юць вместо чая од простуды.*

КО′ЗЛЫК *м.* Сп. Стрэлкаліст.

КОЛЕ′НДРА *ж.* Сп. Каляндра.

КОМА′РЫКЫ *мн.* Сп. Зязюльчын светнік.

КУ′НЬСКАЯ РОГО′ЖА Ст. Касач жоўты. *Куньску рогожу, ее копаюць ко́рэня і свіньям даюць, як боле́е.*

КО′ТКЫ′, КО′ТЫКЫ *мн.* Сп. Канюшына пашавая. *Як дытына злякалася, то ў воді з настоем тых котыкув выкупаты або да́ты тро́шкы настою выпыты.*

КРЫВА′ВНІК *м.* Ст. Святаяннік звычайны. *Як у жэншчыны больша́ рубашка, крываўнік беруць; вон богато од всего, але боле вон унічтожае гэту рубашку.*

КОКУ′ЛЬ *м.* Сп. Куко́ль звычайны.

КУПЫ′СЬНЯК *м.* Сп. Паўночнік палявы.

ЛЫПЧЫ′ЦА *ж.* Кц. Гладун гладкі.

ЛОКНО′ *н.* Кц. 1. Падалешнік еўрапейскі. 2. Гарлачык чыста-белы.

ЛЯДО′К *м.* Сп. Куравай дацкі.

ЛЯ′СКАЛКА *ж.* Ст. Скрыпень вузкалісты.

МАК-ВІДУ′Н *м.* Ст. Мак-самасей.

МАНДАРЭ′ННЯ *ж.* Ст. Беладонна.

МАР′Ё′НОК *м.* Кц. Рамонак пахучы.

МА′ТКА *ж., ма́ткы, маткы́ мн.* Сп. Клавіцэпс пурпуровая.

МА′ТЫ і МА′ЧОХА Сп. Ма́ці і ма́чоха. Ст. Падбел.

МАТЭРЫ′НКА *ж.* Сп. Мацярдушка звычайная.

МНЯ′ТА *ж.* Сп. Мята палявая.

МОКРЭ′Ц *м.* Ст. Макрыца.

МОРКО′ВНЯК *м.* Сп. 1. Дзікая пятрушка балотная. 2. Сярпок звычайны.

МУЖСКІ′ ПОДОРО′ЖНІК. Ст. Трыпутнік ланцэталісты.

МУЧЭНІ′ЧНІК *м.* Ст. Касандра падвяночкавая. *Як жэншчына родзіць дзіця да цяжко, то мучэнічнік п'юць.*

МЫРУ′Н *м.* Сп. Рамонак пахучы.

МЫ′ШЫЙ ЛЯД. Сп. Гарошак мышыны.

МЭЖЫ′ПЭРСНЫК *м.*, МЫЖЫ′ПЫРСНЫЦА *ж.* Сп. Таемнік лускаваты. *Нашы бабы́ як зробыцца нарыв, прыкладаюсь мэжыпэрсных мыж па́льцамы да і гоять той нарыв.*

ПІ′ВНЫЧКЫ *мн.* Сп. Братаўка дуброўная.

ПУДБЕ′Л ЖЭ′НСКІ Ст. Дуброўнік.

ПУДБЕ′Л МУШЧЫ′НСКІ Ст. Васілёк лугавы. *Подбел мушчынскі с шышкою зверху од пудрыву вон.*

ПУДМАРЭ′ННІК *м.* Ст. Пылюшнік жоўты.

ПОДОРО′ЖНІК ДРУ′БНЫ. Ст. Драсён птушыны.

ПОЛЕВЫ′ БУРАК′. Ст. Ключыкі вясеннія. Primula veris L. *Полевы бурак од хóндзі беруць.*

ПОЎЗУ′Н *м.* Ст. Крынічнік лекавы.

ПЭТРО′ВЫЕ БОТОГІ′. Ст. Нівянік звычайны.

РАК *м.* Сп. Скрыпень балотны.

РОГАКІ′ *мн.* Ст. Клавіцэпс пурпуровая.

РО′ЗОВЫЙ ВАСЫЛЁК Сп. Зязюльчын светнік.

РОСТО′ПША *ж.* Ст. Дуброўка серабрыстая.

РУТА М'Я′ТА. Ст. Піжма звычайная.

СВЫНТЫЯ′Н *м.* Сп. Святаяннік звычайны.

СМОКТУНЫ′ толькі *мн.* Сп. Пакрывец лекавы.

СОН БО′ЖАЯ МА′ЦЕР, СОН-ТРАВА′. Ст. Сон-трава. *Сон божая мацер цвіце, як сьнег згоняе, ёгó трэба у водку настоіваць і націраць болючые места.*

СОРО′КІН ГОРО′Х. Ст. Чына. Lathyrus vernus (L.) Bernh. *Сорокін горох од хýньдзі — хто часом спугаеццa.*

СОРОКОПУ′ТНІК *м.* Ст. Падалешнік еўрапейскі.

СПРАВЕДЛІ′ВА РУ′ТА. Ст. Спаржа лекавая.

СПУ′РНЫК *м.*, СПОРНЯ′К *м.* Сп. Гладун.

СТА′РОБНІК *м.* Ст. Дзядкі. Agrimonia eupatoria L. *Старобнік п'юць од пудрыву.*

СТОТЫ′СЕЧНІК *м.* Ст. Дзеравчка пахучая. *Стотысечнік богато прыменяе.*

СУХОВЕ′РШНІК *м.* Ст. Парушэнец парасоністы. *Як чоловек пудорвéцца да боліць у жывоце, суховершнік пáраць і п'юць.*

СУХОВІ′ЙКА *ж.* Сп. Бурачок камяністы. Alyssum saxatile L.

ТОВА′РАЧЫ БОБО′ЎНІК Ст. Бабок трохлісты. *Товарачы бобоўнік по мхах, по болоту росьце.*

ТО′Я САДО′ВА Ст. Рагулькі высокія.

ТУРЫ′ЦА *ж.* Сп. Шабельнік балотны.

ТУРЭ′ЦКІ РАМО′НАК Ст. Рамонак пахучы.

УРА′ЖНЫК МУШЧЫ′НСКЫЙ Сп. Дмухавец. Taraxacum officinae Web.

УРА′ЗЬНЫК *м.* Кц. Дуброўка гусіная.

ХЛО′ПОВКА *ж.* Сп. Смалёўка ляскаўка.

ХРА'ПА *ж.*, ХРА'ПА ЛЕСОВА'Я Ст. Таемнік лускаваты. *Храпа рано росьце, ее трэба зрываць до празьніка Юрыя, а там вона ховаецца, ето од короў, штоб коро́вы молоко давалі.*

ЦА'РСКА КОРО'НА Кц. Лілея кучаравістая.

ЦВІТ ОД СЭ'РЦА. Сп. Буйміна лугавая.

ЧЭМЭРЫ'ЦА *ж.* Ст. Чамярыца чорная. *Чэмэры́ца труе́зніна, ее вып'еш і здохнеш зара́з.*

*І. І. Лучыц-Федарэц*

# АДМОЎНАЯ ЭКСПРЭСІЎНАЯ ЛЕКСІКА

## Матэрыялы для слоўніка Брэстчыны

Лексіка, разглядаемая ніжэй, ужываецца ў вёсцы Акропна Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. У мове яе жыхароў адсутнічае аканне, яканне, цеканне-дзеканне і іншыя найбольш яркія рысы беларускай мовы. Ёй уласцівы асноўныя рысы брэсцка-пінскіх гаворак. Галоўнае, што адасабляе гаворку вёскі ад суседніх,— гэта наяўнасць дыфтонга $\widehat{{}^{i}э}$, які выступае пад націскам на месцы *а*(*'а*) пасля мяккіх зычных (у тым ліку і шыпячых) і *й* (йот), апрача займенніка *я* [1], а таксама наяўнасць гука *і* ў адпаведнасці з **ě*. У адзначаным дыфтонгу першая частка (элемент $^{i}$) складае па працягласці дзесьці толькі 1/3 другой, націскной часткі.

У нашых запісах у транскрыпцыі матэрыялаў адлюстроўваюцца не ўсе асаблівасці мясцовага вясковага вымаўлення. Не адзначаецца паўмяккае вымаўленне галоснага *э* (паўмяккае вымаўленне *і* передаецца праз *и*), глухасць звонкага зычнага перад глухім (асабліва перад *к;* [лóшка] — у запісах *лóжка,* [тронúшка] — у запісах *тронúжка*), дыфтонг $\widehat{{}^{i}э}$ прадстаўлен літарай *е,* вымаўленне гука *ы* атаясамліваецца з *е,* гук *ы* ў радзе пазіцый вельмі цяжка акрэсліць, бо ён можа набліжацца або да *э,* або да *ы.* У адпаведнасці з гукам *ы* (<**у*) у гаворцы адзначаецца гук *э: мэш* 'мыш', *сэн* 'сын'.

У гэту падборку трапіла пераважна лексіка з адмоўна-эмацыянальнай характарыстыкай, таму што, як вынікае з папярэдняга агляду экспрэсіўнай лексікі в. Акропна, такая эмацыянальная лексіка тут прэваліруе. Гіпакарыстычныя формы з'яўляюцца або агульнавядовымі, або малацікавымі па паходжанні і ўтварэнні.

---

[1] Гл.: Д. С. Целянцюк. Аб дыфтонгу $\widehat{иэ}$ ў гаворках Пінскай вобласці.— Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. 1. Мінск, 1954, стар. 118—120.

Наша апісанне экспрэсіўнай лексікі і слоўнічак не з'яўляюцца поўнымі. У слоўнік не ўключаны абразлівыя словы, мянушкі, словы, якія ўжываюцца ў літаратурнай мове. Тут не падаюцца мясцовыя выклічнікі — чыстыя знакі эмоцый, а таксама словы, якія выклікаюць эмоцыі або пачуцці, адмоўныя па сэнсу: *голосэ́тэ* 'галасіць', *збытковáтэ, стрóітэ збэ́ткэ* 'здзекавацца', *колотнэ́ча* 'бойка, скандал, сварка', *намýлюватэ* 'націраць (нагу)', *набíрасты* 'інфекцыйны'.

Аднак некаторыя нейтральныя словы з літаратурнай мовы, новаўтварэнні і, як правіла, параўнанні і пераносы выражаюць становучае ці адмоўнае меркаванне суб'екта аб тым, што яны называюць: *прохвэ́сор* асудж., *дóхтор* асудж., *лётчык* гумар. 'хлопец, які ўпаў з дрэва, са страхі' і г. д.

Патрэба стварэння параўнання ўзнікае тады, калі неабходна падкрэсліць ці вылучыць якую-небудзь прыкмету, што прамільгнула або кінулася ў вочы пры характарыстыцы пэўнай з'явы ці рысы прадмета (суб'екта). Вось прыклады некаторых распаўсюджаных параўнанняў:

*рукá бы цíўка, рукá бы ў швóраба колíно* 'тонкая рука, як калена вераб'я'; *нис бы пýшка* 'тупы нос з шырокай пераносіцай'; *нóгэ бы палìччэ* 'ногі тонкія, як палачкі'; *рýке холóднэ бы жабэ́; ек вэ́лыжеў зэ́му, то стаў чóрбы бы зымнé* 'счарнеў ад хваробы'; *унáдыўся Коля до нáшыі Мані бы зáіц у капýсту; Анюта роспáслася і стáла шырóка бы клýня, нáвіть у двэ́рэ ны ўлáзыть; мій дéдько чырвóны бы брэ́сь; хóдыть бы мáра* 'распатланая, неахайная'; *глáдка бы пóдушка* 'тоўстая, пульхная, мяккая'; *головá бы рéжка* 'вялікая'; *на грéдцэ голоўкé капýстэ бы зáйцэ; варóна капýста смáшна бы чéй* 'смачная, як чай'.

Асабліва часта параўнанне ўжываецца пры характарыстыцы чалавека, частак яго цела: *а якýю тэ шéпку на ёгó дóбырэ́ш, на гэту мозгоўню́ бы горшóк стоўбунôвáты; головá бы рэ́дька, бы качéн капýстэ; нис бы кýльба зогнёны; тіло білэ бы смытáна; чорны бы нігер, бы цыгáн; бáба дóўга бы хвоіна вынóсна; тóўста бы гарíта; доўга бы жырдэ́на; худáя бы шпэ́рка; тоўчýть ёгó бы гáмана; тóўсты бы барэ́ло; скáчэ ў гóчэ бы гáдына; хóдыть бы згóнко; жывіт бы барабáн; высóкі бы бадзыгін; тобóю бы зáтычкію ўсі дыркé затыкáють; цілы свій вік я тягнý бы кінь*

*на млынì; стоіть бы стылю́га; убырэ́цца і хо́дыть хоро́ша бы ле́лька, а свэ́нэ ў йійі ўсі хлывэ́ поламáлэ; я́ ўжэ, дітэ мої, бы той насінныk — оно́ шо ду́х; він тыбэ́ гаштылэ́ть* ('моцна б'е'), *а тэ́ стоіш бы овэ́чка дурнáя; Нáсця бáло ўбырэ́цца ў бу́дынь і походжée по садко́вэ бы пáва; послá доўгіі зымэ́ стаў не́кі бы помо́рхлы; лыжэ́ть бы порожіль-ля; му́сыть, нáша бáба ху́тко поке́не нас, бо ўжэ́ стáла бы по́рхаўка; ек дáм лу́пня, то підыш по завуго́льлю скавэ́-чучэ бы су́чка; смэ́чыца цілу нич бы сновэ́да; а чого́ тэ бы холе́ра воло́чыся по світэ; абідьвэ нывістке́ ныгоде́ш-чэ: не́ке бы цыбахэ́* 'тонкія, бяскроўныя'; *і трэ́тя нывістка мызэ́рна бы чэ́чынь* 'хваравітая, слабая'; *закрутэ́ла ко́сэ на голові бы шу́ндыль.*

У выпадку адсутнасці фармальнага параўнання нейтральная лексема выступае як звычайны перанос значэння: *анцэ́хрыст* 'нягоднік, кепскі чалавек'; *банду́ра* 'вялікая, груваcтая рэч'; *застылэ́ хоть того́ бырлогá, бо зáрэ го́стэ прэ́дуть* 'ложак'; *попрáвыўся — оне́ якое во́ло ві-сыть* 'падбародак'; *коб тыбэ́ вэ́хлыстаў по хрáпах, то тáк ны казáла б* 'рот з ніжняй часткай твару'; *гастроно́мча надто мо́ндра — усё ў світэ відае; людэ сіно погрыб-лэ́, а вона́ выгáдувала ліпшу пого́ду, дай погноіла такéй груд* 'астраном'; *шо́ ўжэ тыпэ́р за о́буй — дырве́нке не́ке* 'абутак на платформе'; *і кудэ́ тая коцубá старáя замá-хуіцца кеём?; ные́к ны мо́жна мне́са йістэ — однэ́ жымэ́-рынэ* 'цвёрдае нясмачнае мяса'; *ко́лысо крывóе* 'аб дзіцяці, якое з прычыны хваробы плача і перашкаджае дарослым працаваць'; *кудэ́ тэ ўпэ́р свою клышню́? — шэ чырвэ́ка роздырэ́ш* 'шырокая нага'; *дай кро́хэ тэ́ї кáплі нашчосэ́рцэ, бо йіжа зусім ны лізэ ў го́рло* 'гарэлка'; *за гэтым ке́ньдюхом ны про́йдыш* 'брухаты, пузач'; *мáйстыр-клёпка* або *мáйстыр-коцу́бка* 'адмысловы майстар'; *тут не́ка машэ́нка е́сьця, рáз він йійі поке́нуў* 'загвaздка, прычына'; *шэ й гэ́та нáўпа зылёна вэ́пацала собі хрáпу помá-дыю і ду́мае, што хорошэ́* 'малпянё'; *нэ́ндза* 'слабы, заморaны, недарослы'; *обныстэ́* 'самавольна абтрэсці садавіну'; *оду́тыся* 'апухнуць, ацячы ад доўгага сну'; *пáдло* 'хворы, стары'; *поліно ныгоде́шчэ — его́ ныку́дэ ны тэ́ныш* 'павольны, няўмека-гультай'; *порохно́* 'стары чалавек'; *шмáра* 'брудны, запэцканы' і інш.

Характарызуючы лексіку з паніжанай эмацыянальнасцю, уласцівую для гаворкі гэтай вёскі, трэба адзначыць, што па колькасці на першым месцы стаяць дзеясло-

вы (відавочна, таму, што экспрэсія праяўляецца ў бурным руху у перыяд афекту), на другім — назоўнікі (як вынік руху), на трэцім — прыметнікі. Пры складанні слоўніка прымаліся пад увагу толькі спецыфічныя прыметнікі. Аднак пры якаснай характарыстыцы асобы чалавека колькасць іх прыкметна ўзрастае.

Экспрэсіўнай адмоўнай лексіцы ўласцівы пэўныя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці. Так, з боку фанетыкі незвычайнымі ў гэтых словах з'яўляюцца гукі [г], [дз], [ц], гукаспалучэнні [гн], [гн], [нд], [мз], [др], [рг], [хл], [гл], [льг], [льб], [рн], [рх], [рк], [зг], [шл], [шк], [шм], [шн], [чв], [шв]; з боку марфалогіі— прэфіксы *вэ-, з-, за-, у-;* суфіксы *-ас, -ай, -да, -дé, -ско, -цыя, -оваты, -нэна, -эча.* Суфіксы *-ка, -нька, -нькі,* якія па сваёй прыродзе з'яўляюцца ласкальнымі, пры пераносах выражаюць іронію: *дóбрынькі нам знайшóўся — повымáнювай од нас усі грóшэ, а тыпэ́р частýе нас; твоя бэ́цінька* (аб карове) *потрошчэ́ла ўсі нашэ плотэ́* (звычайна *бэ́цінька* — падзыўное слова з адцéннем ласкáльнасці); тое ж адносна імён *Васька, Верочка* і г. д.: звычайна яны называюць людзей (*Вася, Вера*), а з суфіксамі набываюць адмоўную характарыстыку.

Эмацыянальную нагрузку нясуць і фразеалагічныя словазлучэнні, напр. *брáтэ за сэ́рцэ* 'рабіцца дрэнна' *і вухóм ны выдэ́* 'не кранууца нават з месца' і інш.

БА'ДЗЯ *м.* і *ж.* Бадзяга, валацуга. *Ужэ́ коровэ́ выганéлэ, ек тая бáдзя прысýнулася.*

БАЛВА'Н *м.* і БАЛВАНЭ'СКО *н.* абразл. Тупы, абмежаваны чалавек. *А шó він на тэх кýрсах поймэ́? Сыдітымэ балвáн балванóм.*

БАНДУ'РА *ж. перан. зневаж.* Вялікая рэч. *Ны трэ́ба мыні гэта бандýра — онó заварée.*

БАНДУ'РЫСКО *м. абразл.* Вялізны, але тупы, дурны чалавек. *Чы ж гэ́тэ бандýрыско понімáе арыфметіку?*

БАРЭ'ЛО, БАРЭ'ЛЫСКО *н. перан. зневаж.* Малы, тоўсты чалавек, як бочка. *Нап'éцца кáжного днé, качéіца по кáловэ, а тэ́ смэ́ч його, гэ́тэ барэ́лыско, додóму.*

БАХУ'Р *м. жарт., груб.* Дзіцё. *Чыіх тэ бахуріў понавóдый?*

БЛЭ'МАТЭ *незак.* Лупаць вачыма. *Трэ́ба булó ўпырóд дýматэ, а то зáрэ вэ́лупыла гóчэ і блэ́мае.*

БРА'ТЭ ЗА СЭ'РЦЭ. Узрушаць. *Такéй мынэ́ тоді нуд за сэ́рцэ ўзей, шо, думала, зомлію.*

БРЫДЗЭ′НЬКНУТЭ *зак.* Разбіцца, нечакана хутка ўпасці. *Ек брыдзэньнула, зачыпэўшысь за каміня, то, думала, і лёхкэ одоб'ю.* Брыдзэньк! — пра падзенне са звонам.

БУ′РЦЫЯ *ж. іран.* Скандал, сварка. *Ек довідаўся, то такую бурцыю поднеў, шо одразу ўсі забігалэ.*

БУ′ХАТЭ *незак.* Моцна і глуха кашляць. *Нымá ныéкого сну: усю нич бухае.*

БЭ′ЙБАС *м. зневаж.* Вісус, гультай. *Вылікі бэйбас вэрос, а нэц ны ўміе і ны хочэ, оно спэть.*

ВЫГІБА′СЭ *мн. жарт.* Фізкультурныя практыкаванні. *Зося, бы артістка, выроблела ўсеке выгібасэ, аж страшно було дывэтыся.*

ВЫДРА′ЖНЮВАТЭ *незак. асудж.* Дражніць. *Нэц дітэ ны хочуть робэтэ, оно выдражнюють, бы сучку.*

ВЫДРЫГА′НЫЦ *пяшчот.* Непаседа (пра малое дзіця).

ВЫКА′ЗНІК *м.* Здраднік. *Матёнка одразу пытаіца гэтого выказніка, ек мэ тут самэ булэ.*

ВЫПРАЎЛЕ′ТЫСЬ *незак. груб.* Здыхаць, памерці. *Хай тая свыньнé ёму вэправыца! Коб тэ вэправыўся, коб тыбэ прутом поставыло—ек тэ мыні надоіў бы гірка рэдька!*

ВЭ′БРОДЫТЭ *зак.* Знасіць вопратку, абутак, намачыць абутак пры хадзьбе пад дажджом. *Ныгодного грыба ны знайшла, оно чырвэкэ вэбродыла.*

ВЭ′МІРГУВАТЭ *зак.* Адшукаць, разлічыць, меркаваць. *Купэла на ярмарку ўсё, шо хотіла, шэ й дітюм на цукерке вэміргувала.*

ВЭ′РАЧОК *м.* і *ж. зневаж.* Вытарашчак, чалавек з вытарашчанымі вачыма. *Вэрачка некого прывызла з города, ек уторопыца, той ны моргнэ.*

ГАЛА′Й *м. жарт.* Гарэза, свавольнік.

ГАЛАСОВА′ТЭ *незак.* Лемантаваць, крычаць. *Ек чэсом росходыца, то галасуе бы звёзаны, а потом порозганёе ўсіх с хатэ.*

ГА′МТАТЭ *незак. асудж.* Камячыць, мяць. *Ны трэба одэжу так гамтатэ — прышоў, скень йійі і згорнэ хорошэнько.*

ГА′РАХЭ *мн. жарт.* Кучары. *Нашэ дыўчета бало гозьдзём гарахэ понавывають — і побіглэ ў клуб на музыку.*

ГАРГА′РА *ж. зневаж.* Старая злосная жанчына. *Ну кудэ на гэту гаргару шэ некі крыплін? Хай у мышко-*

вэ дэ́рку на го́лову проріжэ да й ходыть, воро́ўчыныю подпараза́ўшыся.

ГАШТЫЛЭ′ТЭ *незак. асудж.* Моцна глуха стукаць, грукаць; *перан.* кашляць. *Так хтось у двэ́рэ гаштылэ́ть, шо аж выдрано́. Ле́жэ спатэ, зогрііца і гаштылэ́ть усю нич бы ў бо́чку.*

ГІЗУ′НТЭ *мн. груб.* Унутранасці. *Ек грэ́мныш с пэ́чэ, той гізу́нтэ повыска́кають.*

ГОЛОПУ′ПЫЦ *м. зневаж.* Бядняк, галадранец.

ГНА′ТЭ *мн. груб.* Доўгія нязграбныя ногі. *Вэ́ставыла свої гна́тэ на стэ́жку, што ныма́ ек пройтэ́.*

ГНЭ′НУТЭ *зак.* Ударыць, грукнуць кулаком. *А то шо́ за розбыше́ка: дэ гле́нэ, там гнэ́нэ — о́т банді́та кава́лок!*

ГНЭ′РАТЫСЯ *незак. асудж.* Корпацца, кешкацца. *До́кіль тэ, мо́няло, бу́дыш каля того́ гу́зіка гнэ́ратыся?*

ГНЭ′ТЭ *незак. перан.* Спаць. *Чы тэ до́ўго шэ будыш гнэ́тэ ў тых кро́ватюх? Ны падлі́й, а ўставай, бо пора карто́плі поло́тэ.*

ГУЛЬТАІ′СКО *н. груб.* Гультай.

ГУ′ХАТЭ *незак.* Грымець, вухкаць, бухаць. *Шось гу́хае, му́сыть, лід ла́мныца.*

ГЭ′ДЫТЭ *незак.* Лаяць, бэсціць. *Гэ́дыла я його́, гэ́дыла, а він стоі́ть і смі́ецца.*

ГЭ′ПНУТЫСЯ *зак. груб.* Грымнуцца, упасці. *Ны лізь на клу́ню, бо ек гэ́пныся, то окалі́чыся об вылкэ́ чы сохорі́.*

ГЭ′РА *ж. груб.* Валасы. *Оно́, знае стое́тэ каля ю́стра і гэ́ру ўго́ру дра́тэ, а про ўро́ке нэц ны ду́мае.*

ГЭ′РГОТ *м. асудж.* Незразумелае вымаўленне. *У його́ ны мо́ва, а гэ́ргот некі: нэ́ц ны розбырэ́ш.*

ГЭ′РШЫТЭ *незак.* Лаяць брыдкімі словамі. *Жінка Хве́дю гэ́ршыть, алэ́ він ро́быть по-сво́ему.*

ДА′ТЭ ЛУ′ПНЯ. Адлупцаваць. *Дай лу́пня тому́ выдрыганцовэ, колэ́ ны слу́хае.*

ДЖА′ЛА *мн. груб.* Ногі. *Сіла собі тая розгірэ́йдыско, джа́ла роске́нула і гріица на со́нцэ.*

ДЖО′РНУТЭ *зак. груб.* Ударыць. *Джо́рнэ-но то́е па́дло старо́е по рэ́брах, хай кро́хэ подбижэ́ть, бо нич у доро́зэ зловіть.*

ДЗЮ′БАТЭ *но́сом.* Дзяўбці носам, спаць. *Шо то ў його́ за наву́ка: се́дэ каля гру́бкэ того́ ве́ршыка вучэ́тэ і дзю́бае но́сом.*

ДЗЮ′БЛЯТЫСЯ *незак.* Марудна і доўга нешта ра-

біць. *І докіль тэ будыш дзюблятыся над тэм пысаньнем: чыркнэ, махнэ, заклей, да хай пісьмо ідэ хучі.*

ДОТУ′РКАТЫСЯ *зак.* Дабіцца, дайсці пасля доўгіх намаганняў. *Мусыть, тэ ўжэ ныколэ ны дотуркаіся до того інсцітуту.*

ДО′ЎБАЛО, ДО′ЎБНІСКО *н. груб.* Тупы чалавек. *Кудэ тое доўбніско поступыть? Нашо воно кому здалося?*

ДОХО′ДЫТЭ *незак.* Вымагаць настойліва. *Шэ од Сплыне* (Успенне) *Ганна доходыла, коб батько йій тёплого кожуха справыў, бо надто зымэ боелася.*

ДРЫПТА′ТЭ *незак. зневаж.* Хадзіць вельмі кароценькімі крокамі. *Ны дрыпчэ, а шэрі шагнэ, бо спізнымося.*

ДУ′НДЫТЭ *незак. груб.* Спаць. *Я до сніданьня ўжэ нароблюся, прыдў ў хату, а моя пані шэ дундыть.*

ДУ′РБАЛО, ДУРЭ′ЛО *н. груб.* Дурань. *Поке тое дурбало докумэкае, шо до чого, то й жэзня ўсе пройдэ.*

ДЫВУ′ЛІСКО *ж. груб.* Дзеўка. *Чы ж тобі, дывуліско, цукёрыке йістэ? Тэ ўжэ выліка.*

ДЫРГОТА′ТЭ *незак.* Тарахцець з грукатам. *Кінь зйіхаў на груду, і віз так дырготаў, што, думала, голова розламныца.*

Е′НДЗА *ж. абразл.* Кепская, злосная жанчына. *От ендза нынавыдна, заўшэ вона свого носа ўткнэ.*

Ё′ЎКНУТЭ *зак.* Ёкнуць. *Ек скочыла чырыз ріў, то аж шось у жыvoті ёўкнуло.*

ЖЫВОТІ′ТЭ *незак. груб.* Існаваць. *А тую гадыну, шо ўсё лізэ, даўно пора зы світу звыстэ, коб ны жывотіла.*

ЖАХА′ТЫСЯ *незак.* Ускрыкваць ад страху, ад нечаканасці, рэзкага ўздзеяння. *Пётя навить жахаіца, ек лізэ ў балію. Ны матальгай у дытэнэ пырыд носом, бачыш, шо малое жахаіца.*

ЗАБАЙДА′ *ж.*, забайдэско *н.* Вялікая груваcткая рэч або вялізны няскладны чалавек. *Ох і забайда! Дэ ны повэрныца, усё шось зачэпыть.*

ЗАБО′КУВАТЫ *прым.* Крывабокі. *Однэ колысо ў вэзовэ забокуватэ.*

ЗАВА′РА *ж. асудж.* Завала, перашкода. *Нашо вытэ гэту завару прынислэ ў хату — вона ўсім заварее оно.*

ЗАВЫНУ′ТЫСЯ *зак.* Пачаць настойліва патрабаваць. *Мардя прытьмом замучыла батька, ек завынулася: оно куплей йік сундука і годэ.*

